# ПОЛЫМЯ

**БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,**
**ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ**

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)



## № 8

## КАСТРЫЧНІК

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК—1928

# НАД АБРЫВАМ *)

*Аповесьць*

**Я. Ліманоўскі**

Зусім яшчэ рана Карпіцкі пайшоў у выканком. У парку, каля панурабязьлюднага старога палацу і ўнутры было ціха. У выканкоме яшчэ нікога ня было, і гучным рэхам адбіваліся крокі Карпіцкага па доўгаму калідору пустога дому. У габінэце пахнула пылам, табачным дымам і яшчэ нейкай затхласьцю. Карпіцкі адчыніў вакно. На траве каля вакна на кустох язьміну яшчэ ня высахлі сьвежыя кроплі расы, бо засень ад будынку закрываў доступ сюды сонечным праменьням. Карпіцкі паспрабаваў знайсьці якія-небудзь паперы для разгляду, але нічога ня было. Сёнешняя пошта яшчэ не атрымана, а ўчарайшую ён усю перагледзеў і перадаў сакратару.

Сьвежае расістае паветра пацягнула Карпіцкага ў парк, дзе пад густа сплеценымі галінкамі дрэў было досыць прахалоды. Шоў паміж дрэў, ня пільнуючы дарожак, узяўшы кірунак на сонца. Парк бліжэй да поля радзеў, і тут буйна расла трава. Раса страсалася на боты, пакідаючы ззаду цёмна-зялёную сьцежку. Сьляды на расе прыпомнілі юнацтва. Як прыгожа было раніцою, пасьля ўзыходу сонца,ісьці з касою ў поле. Шчабечуць птушкі, мітусяцца і гудуць розныя жучкі. Пакуль яшчэ блішчыць на траве раса, пакуль не дакучае гарачыня, так прывольна з размаху вострай касой падразаць зялёную мураву і краскі. Бадзёра замахваеш касой, не адчуваючы цяжкасьці работы. Вышэй паднімаецца сонца, абсыпаюцца і высыхаюць з травы дыямэнтавыя кроплі расы, ужо ня так лёгка ўпіваецца бліскучая каса ў сакавітыя сьцебялькі травы.

Або ў сьвяточны дзень, ці ў будні, як ёсьць вольны час, узяўшы ў рукі стральбіну, з усходам сонейкаісьці на паляваньне. Сонечныя праменьні яшчэ толькі залацяць сенажаці і нівы. Яшчэ ня чутно чалавечага голасу. Нікога няма ў пустым полі. Толькі дзе-ні-дзе выганяюць на паству, пачуеш працяжна-бадзёрае рыканьне кароў ці бязладнае мэканьне авечак, кудахтаньне кур і скрып жорава каля студняў. Высокая, расістая трава акрапляе багата вільгацьцю. З-пад ног узьнімаецца спалоханая птушка. З чаротавых зарасьнікаў узьнімаецца цэлы статак качак, праляціць над хмызьнякамі ўдоўж рэчкі і зноў спусьціцца, каб булькаць у вадзе.

---

*) Гл. „Полымя“ № 5, 6 і 7.

Як прыгожа ўсё—гэтае мілае і разам з тым забытае. Колькі бязрупатлівай цішыні і прывабнай прыгожасьці ў гэтых прыродных малюнках летняе раніцы.

Карпіцкі дайшоў да берагу парку і загледзеўся на разьлеглае поле, на вёскі, над якімі ўзьнімаліся вітыя стаўбкі шыза-чырвонаватага дыму. Ад бяссонай начы ў галаве адчуваўся нейкі цяжар, злучаны з тупым болем. Да гэтага далучаўся яшчэ боль у грудзёх, і Карпіцкі прагна ўдыхаў сьвежае, падагрэтае ўжо сонечнымі праменьнямі паветра. Глядзеў навокал, а думкі неяк блыталіся, абрываліся. Узьбеглі былі ўспаміны аб юнацтве, аб прыгожасьці разьлеглых палёў і гаёў у летнюю раніцу і не ўзварушылі яго, абарваліся. Думка аб Таісе таксама ўзьнікала і абрывалася. Як-бы аглушаны нейкім моцным ударам, глядзеў абыяка навокал. Спусьціўся ў ніжнюю больш цяністую палову парка. Вышаў на нізкі ў гэтым месцы бераг ракі, сеў на камель нахіленага вербалозу і глядзеў, як вада бушуе каля каменьняў.

Не заўважыў сам, як праседзеў ужо доўга. Глянуў на гадзіньнік: была ўжо 12-я гадзіна. Узьняўся з свайго сядзеньня, павольна падняўся ў верхнюю частку парка і пайшоў у выканком. Цяпер тут ужо была звычайная сумятня. Некалькі дзён спакойных на фронце дадалі больш упэўненасьці і бадзёрасьці работнікам, і цяпер яны больш руплівa займаліся сваімі справамі. Ня было ўжо тэй бязмэтнай беганіны, як у першыя дні падрыхтоўкі да эвакуацыі. Ці то прызвычаіліся да становішча, ці ўпэўніліся ў тым, што ня прыдзецца ўжо эвакуавацца, ці мо' таму, што ўжо выканалі галоўную працу па запакаваньні рэчаў. Цяпер у выканкоме праца ішла нібыта нормальна, і толькі зложаныя адна на другую, забітыя дошкамі скрынкі напаміналі аб падрыхтоўцы да эвакуацыі.

Пільных спраў у Карпіцкага не аказалася, і ён накіраваўся ў партыйны камітэт, дзе ў апошнія дні часта адбываліся нарады. Падышоўшы да доміку Таісы, Карпіцкі зноў успомніў ночныя мары. Таісы чамусьці ў выканкоме ня было, і гэта Карпіцкага і цікавіла і дзівіла. Прыглядаўся з воддалі, ці не сядзіць яна на сваім звычайным месцы ў гародчыку. Яе там ня было. Сьцішыў крок, спадзяючыся, што вось-вось яна выйдзе на ганак, як убачыць яго. Глянуў на вокны дому. За імі нічога ня відаць было, ня выказвалася ніякіх адзнак чыёй-небудзь прысутнасьці ў доме. Памкнуўся быў Карпіцкі зайсьці, але перадумаў і пайшоў у партком. „Што гэта магло абазначаць?—падумаў.—Чаму яе няма ў выканкоме ці каля дому? У кожным выпадку, гэта, відаць, ня мае ніякай сувязі з маёй распаленай фантазіяй у мінулую ноч“.

Увагу Карпіцкага прыцягнулі да сябе некалькі вайсковых фурманак, якія стаялі каля партыйнага клюбу. Фурманкі, відаць, толькі што прыбылі, бо чырвонаармейцы выносілі з іх памаляваныя ў зялёны колер скрынкі.

— Што гэта?—спытаўся Карпіцкі тэхнічнага сакратара парткому, спаткаўшыся з ім у дзьвярах памяшканьня.

— Штаб брыгады прыехаў,—адказаў той.—Зараз мы табе званілі. Камандзір брыгады нешта хоча з табой пагутарыць.

— Добра, а дзе ён?

— Сядзіць у Штэйнмана.

Камандзір брыгады, гадоў пад 35, з невялічкай, падстрыжанай пад тупы клінок, разгладжанай, з праборам на дзьве паловы, сьветла-рыжаватай бародкай, у зялёным фрэнчы і чорных, гвардзейскага сукна, штанах, абаперся на столік чырвонага дрэва і курыў люльку з кароткім ценкім гумавым цыбуком. На століку перад ім ляжала вайсковая сумка з паперамі і мапамі. Штэйнман з дабрадушнай усьмешкай, з выразам нейкай простай ветлівасьці і павагі да камандзіра сядзеў побач, адкінуўшыся на мяккую сьпінку абітай жоўтым плюшам канапы і слухаў, відаць, інформацыю камандзіра аб справах на фронце.

Пазнаёміўшыся з камандзірам, Карпіцкі прысунуў крэсла да століку і сеў насупроць.

— Цяпер пачну пра нашы патрабаваньні,—азваўся першы камандзір.— Перш за ўсё, памяшканьне партыйнага камітэту нам прыдзецца заняць пад штаб брыгады, бо ня маем часу і магчымасьці шукаць іншага.

— Займайце, калі ласка, у нас месца хопіць. Нам досыць будзе пакуль што аднаго пакою, там наверсе,—згадзіўся Штэйнмам.

— Вось і добра, што вы хутка згаджаецеся. Цяпер час не такі, каб прасіць. Нават у больш спакойных абставінах нам даводзіцца браць, а не прасіць. Падругое, ваш палявы штаб, пэўна, прыдзецца зьліквідаваць. Увесь парадак і ахова гораду павінны будуць перайсьці да штабу брыгады. Як ваша думка?—спытаўся ў Карпіцкага.

— Вы забываецеся, што ў нас ня скончана эвакуацыя,—супярэчыў Карпіцкі.—Трэба, каб гэтай эвакуацыяй кіравала нейкая адзіная ўстанова, загады якой выконвалі ўсе. Штаб брыгады нават ня ведае, што трэба эвакуаваць і дзе яно знаходзіцца.

— Гэта заўвага слушная, згадзіўся камандзір.—Я і ня думаю, што брыгада будзе мець час і магчымасьць займацца эвакуацыяй. Прыдзецца для гэтай мэты стварыць вам, мусіць, асобную якую-небудзь тройку, якая і будзе кіраваць выключна эвакуацыяй. Для большага выкарыстаньня ўсіх магчымасьцяй абароны вас прыдзецца ўцягнуць у працу штабу брыгады,—дадаў камандзір, выстукаўшы з люлькі попел.—У нас як раз зараз няма ваенкома брыгады. Тыдні два таму яго ранілі, паехаў у тыл лячыцца, а новага дагэтуль ня прыслалі. Можа вам і прыдзецца, як палітычнаму працаўніку, выконваць, больш-менш, яго абавязкі. Я думаю, гэта будзе карысна. Прынамсі ў такіх справах, як абарона і, магчыма, эвакуацыя гораду, я не магу адзін узяць на сябе адказнасьць,— казаў далей камандзір брыгады і на гэты раз у яго голасе ўжо не адчувалася таго вайсковага запалу і настойлівасьці. Ён як-бы і тонам свайго голасу і выразам свайго твару хацеў выказаць: „здарыцца яшчэ

што-небудзь, якая-небудзь памылка і тады бяры на сябе адказнасьць за гэтую кашу“.

— Гэтак будзе зусім правільна,—згадзіўся Штэйнман.

Карпіцкі адказаў не адразу, быццам яму не хацелася з пэўнай часткай прапановы камандзіра брыгады згадзіцца.

— І я думаю,—адказаў нарэшце Карпіцкі,—што наш палявы штаб не павінен займацца вайсковымі справамі асобна ад штабу брыгады. Таму я згаджаюся пакінуць за ім выключна справы эвакуацыі. Наконт маёй працы, як ваенкома брыгады, тут будзе формальная перашкода, паколькі я ня прызначаны ім. Дапамагаць вам, у чым будзе патрэба, я, бязумоўна, буду.

— Цяпер на формальны бок справы, асабліва ў войску, і не заўсёды ёсьць магчымасьць зьвяртаць увагу. Абы на практыцы было добра,— адказаў камандзір, пераконваючы Карпіцкага наконт гэтай часткі прапановы.

— Як становішча на фронце?—спытаўся Карпіцкі, не пярэчачы больш камандзіру.

— З сягонешняй начы палякі аднавілі націск. Паводле некаторых вестак, яны атрымалі падмацаваньне і энэргічна націскаюць на фронце нашае брыгады. Відаць, хочуць захапіць горад і пераправу праз Дзьвіну (мост) раней, чымся другія нашы аддзелы адступяць на лінію Дзьвіны, каб гэтым пазбавіць іх больш нормальнага адыходу, карыстаючыся добрай пераправай, ну і, зразумела, разьбіць іх, прыпёршы да ракі. Калі націск будзе адбывацца і далей з такой моцай (зараз на фронце бойка, пра вынікі якой мы яшчэ ня ведаем), дык мы ня ўтрымаемся.

— Колькі часу ўсё-ткі мы можам утрымацца?—запытаўся Штэйнман.— У нас, бачыце, яшчэ шмат ёсьць працы па эвакуацыі!

— Калі ня будзе нам падмацаваньня, а мне здаецца, што мы раней як за тыдні два не атрымаем падмацаваньня, дык прыдзецца ачысьціць горад не пазьней як праз тры дні, а мо' і заўтра раніцой.

— Таварыш камандзір, куды тэлефон паставіць?—спытаўся чырвонаармеец, відаць, з роты сувязі, бо ў руках яго быў скрутак плеценага тэлефоннага проваду і тэлефонны апарат за плячыма.

— Стаў тут на стале ды хутчэй. Як там лінію працягваюць?

— Лінія, таварыш камандзір, хутка будзе. З гораду мы ўжо працягнулі за могілкі, а там працягваюць ад фронту, хутка спаткаюцца,—адказаў чырвонаармеец і пачаў аглядаць вакно, шукаючы, дзе-б працягнуць провад.

Вестка камандзіра была нечаканай. Апошнія дні на фронце было спакойна і стварылася нейкая ўпэўненасьць, што фронт утрымаецца. А цяпер прапала ўсялякая надзея на гэта.

Пагутарыўшы з камандзірам, Карпіцкі пайшоў у выканком, каб прыняць некаторыя меры ў сэнсе прысьпешаньня эвакуацыі. Падышоўшы да цэнт-

ральнага аптэчнага складу, убачыў, што дзьверы адчынены і ўнутры нехта варушыўся. Зацікавіўся. Па цэмэнтавых сходах падняўся на невялічкі ганак і ўвайшоў у склад. Малады хлапец—фармацэўт даставаў з шуфлядак і палічак розныя рэчы і клаў іх на прылавак, а старэйшая крыху за яго маленькая, хударлявая фармацэўтка нешта завінала ў паперу, перасьцілала саломай ці паперай і ўкладвала ў скрынкі. Некалькі скрынак ужо было наладавана і забіта дошкамі, у куце стаялі яшчэ парожнія скрынкі, па ўсім памяшканьньні валяліся розныя скрыначкі, пляшкі і г. д.

— Запакоўваем, таварыш Карпіцкі,—сказаў замест прывітаньня фармацэўт.—Ёсьць загад усё запакаваць і вывезьці.

— Так, так, ведаю, што такі ёсьць загад, я сам яго падпісваў. А ці хутка вы скончыце?

— Большая частка ўжо запакавана. Так можа заўтра, пасьля заўтра скончым.

— Трэба хутчэй запакоўваць, мо' яшчэ каго-небудзь мобілізаваць?— Падышоў да скрынкі, у якую фармацэўтка ўкладвала невялічкія картонныя каробкі. Расчыніўшы адну з іх, ён убачыў нейкія цёмна-бурыя кулькі, разгароджаныя картоннымі клеткамі.

— Што гэта такое?—спытаўся ў фармацэўткі.

І калі тая не сьпяшалася з адказам, яе выручыў фармацэўт: „гэта сродкі ад цяжарнасьці".

— Кіньце вы траціць час на гэтае глупства. Запакуйце лякарства, якое патрэбна, а іншае барахло пакіньце, бо няма часу і магчымасьці з ім валэндацца. Пазванеце ў больніцу, каб яны прыслалі на склад і атрымалі лякарства для больніцы з разьліку двохтыднёвай патрэбы. Рэшта ўсё карыснае і патрэбнае лякарства запакуйце, ня трацячы часу вось на падобнае.

— Добра, таварыш Карпіцкі, зробім,—адказаў фармацэўт, а фармацэўтка старанна пачала апарожніваць скрынку з картоннымі пудэлкамі.

Адсюль надумаў зайсьці ў адміністрацыйны аддзел і пераканацца, ці прышла на службу Таіса. Падышоў ужо да дзьвярэй аддзелу, хацеў зайсьці, аж адтуль вышла Таіса.

— Чаму цябе ня было раніцой на службе і ня відаць было каля дому? Мо' сталася што?—запытаўся Карпіцкі, прыгледзеўшыся бліжэй да яе бледнага твару.

— Не, нічога ня сталася. Маці адчувала сябе нядобра. Уначы трэба было сядзець каля яе, ня спаць. Днём бегала да доктара, прыходзіў аглядаць маці, потым бегала ў аптэку. А як ты правёў ночку?

— Неспакойна.

— Чаму?

— Ды так, неяк неспакойна, потым раскажу.

— Хіба што-небудзь трывожнае з фронту?

— І тое і іншае,—адказаў Карпіцкі, ухіляючыся ад непасрэднага адказу.—Раскажу потым. Мо' ўвечары зайду да цябе.

— Прыходзь, буду чакаць.

— Яшчэ ня ведаю, ці будзе час. Трэба будзе працаваць у штабе брыгады. Прыдзецца паслаць туды і некалькі тэхнічных працаўнікоў. Ня ведаю, ці будзе вольны час у мяне. Хіба потым паведамлю цябе.

— Дык ты дазволь мне папрацаваць у штабе брыгады! Проста мобілізуй мяне.

— А добра ты раіш. Калі толькі ў цябе ёсьць ахвота, дык абавязкова мобілізую. Там даведаемся і пра апошнія навіны на фронце.

— Я ахвотна прыду.

* * *

У штабе брыгады пагутарыць Карпіцкаму з Таісай перашкаджалі прысутныя. У адным вялікім пакоі тут трашчалі машынкі, хрыпла звычаў палявы тэлефон, лязгалі шпоры пасыльных, якія прывозілі данясеньні або адвозілі загады, гаманілі. Каля 12-й гадзіны ночы тэхнічныя працаўнікі пачалі ўжо разыходзіцца дадому. Таісе таксама ня было чаго рабіць і заставацца было ніякавата, бо ў пакоі нікога, акрамя тэлефоністага, не засталося. Карпіцкі быў у суседнім пакоі разам з камандзірам брыгады і камандзірам роты сувязі. Цішыня ў пакоі напомніла Карпіцкаму, што ўсе разышліся, і ён вышаў пагутарыць з Таісай.

— Ты ўжо, відаць, скончыла сваю працу і магла-б пайсьці дадому. Толькі я ніяк яшчэ не магу пайсьці. Чакаем данясеньня з 55 палка. Там нешта адбываецца паважнае. Хутка выявіцца. Вось бачыш, я павінен тут яшчэ застацца.

— Я таксама хіба пачакаю. Баюся ісьці адна ў такую цемру, а падругое—мне хочацца потым з табой пабыць. Ах, як добра было-б,—дадала яна ціха,—калі-б ня трэба было эвакуавацца.

— Мне толькі шкада цябе, што аднэй табе нудна, і я ня ведаю, як доўга прыдзецца чакаць. Можа лепш я цябе адвяду дадому і сам вярнуся сюды.

— Не, я лепей пачакаю. Толькі скажы ты мне, што на фронце. Я чула, як тэлефоністы прымаў тэлеграму. Здаецца, нешта трывожнае.

— Як толькі дачакаемся паведамленьня ад 55 палка, становішча будзе яснае.

— Ну, добра, ідзі да камандзіра, я пайду хіба пасяджу там на ганку. Толькі не, на ганку так цёмна і няўтульна, ходзяць незнаёмыя, і мне будзе боязна. Тут мне таксама не выпадае сядзець. А можа я пачакаю цябе там на бальконе? Я ня буду там баяцца. Ты потым паклічаш мяне,—казала яна, быццам сьпяшаючыся, каб не адрываць Карпіцкага.

— Вельмі добра будзе на бальконе.

— Ты мяне толькі адвядзі туды, бо я ня траплю.

— Хадзем.

Па кручанай жалезнай лесьвіцы падняліся на другі паверх і апынуліся ў цёмным калідорчыку. Карпіцкі запаліў сярнічку, адшукаў павешаны на цьвічку ключ ад дзьвярэй пакою, адчыніў, і праз цёмны таксама пакой яны вышлі на балькон. Карпіцкі вынес на балькон для Таісы мяккае крэсла. Унізе, з асьветленых вокнаў, ліўся сьвет на запушчаны і парослы крапівой агародчык. Балькон атулялі з двух бакоў зялёныя верхавінкі маладых ліпак. Горад спаў трывожна-чулым сном. На вуліцы ціха, дзесьці далёка-далёка чуліся нейкія гукі, але ці былі гэта стрэлы, ці што іншае, разабраць было немагчыма.

Таіса села на крэсла, адшукала Карпіцкага руку, прыціснула яе да грудзей, мабыць паказаць, як моцна забіла сэрца.

— Ідзі, даражэнькі. Я гатова нямаведама як доўга чакаць, абы толькі былі добрыя весткі.

Калі Карпіцкі вярнуўся ў пакой, камандзір брыгады даваў веставому нейкае даручэньне. У пакоі было накурана, шызыя хмаркі дыму плылі над сталом, кружыліся вакол невялікай газавай лямпы, узьнімаліся вышэй, губляліся ў змрочных кутках. Карпіцкі адчыніў вакно, але яго папярэдзіў камандзір брыгады.

— Прыдзецца пасядзець нам пры зачыненых вокнах. Тут, бачыце, мы вядзем такія гутаркі, якія чужое вуха не павінна пачуць. Праўда, на вуліцы рух спынены, але ўсё-ж ткі на выпадак можа хто пацікавіцца. Ваенная формальнасьць.

— Асьцярожнасьць ніколі ня шкодзіць. Толькі я гляджу на гэта так: калі ня будзе на фронце досыць сіл, дык ніякая таямніца не ўратуе становішча.

Час-ад-часу Карпіцкі або камандзір брыгады ўзьнімалі гутарку, але яна неяк ня клеілася. Тады Карпіцкі сядзеў, заняты сваімі думкамі, а камандзір брыгады праходзіўся па пакоі, сядаў за стол, барабанячы пальцамі па стале, як-бы выстукваючы нейкую мэлёдыю, потым набіваў сваю маленькую люльку і сядзеў, пыхкаючы клубкамі дыму. Пасьля першае гадзіны ночы прыехаў веставы з данясеньнем ад 55 палка, з якім ня было наладжана тэлефоннай сувязі. Камандзір моўчкі адпячатаў пакет і пачаў чытаць уголас данясеньне: „Праціўнік увесь час націскае, асабліва на левае крыло першага батальёну. А 20 гадзіне праціўнік адкрыў моцны кулямётны агонь па вучастку ўсяго першага батальёну, а потым густымі ланцугамі перайшоў у наступ. Калі сьцямнела праціўніку ўдалося прарваць фронт і зайсьці ў тыл другой роце. Сувязь з трэцяй і другой ротамі, а таксама з 54 палком парвана. Ня ведаючы, які па ліку аддзел прарваўся ў тыл і каб унікнуць больш глыбокага абходу з крыла, аддаў загад палку адступіць на лінію вёсак Крывая, Паддуб'е і Карчавікі, што ў 10—12 вярстох на поўдні ад гораду Д. Сытуацыя высьняецца. Новую дысьлякацыю вышлю, як толькі аддзелы займуць патрэбныя пункты Перад пачаткам наступу камандзір аддзелу, які быў прысланы на пад-

мацаваньне, Іваноў, і памоцнік камандзіра Шатур перайшлі да палякаў. Аддзел расформаваны і далучаны да 4-й і 5-й роты".

— Цяпер ужо ўсё ясна,—прамовіў камандзір, ні то разважаючы сам з сабой, ні то тлумачачы Карпіцкаму пра становішча.—Заўтра прыдзецца ачысьціць горад.

— Няўжо няма надзеі ўтрымацца?

— Ня можа быць і гутаркі аб гэтым. Трэба падбаць аб пераправе праз Дзьвіну, бо можа выйсьці так, што большая частка будзе адрэзана. Гэты 55 полк займае цэнтральны вучастак, як бачыце, супроць гораду. Тымчасам сіл мала. Ды дзе гэта бачана, каб аднэй брыгадай можна было бараніць вучастак у 25 вёрст. І то яшчэ, каб была брыгада ў поўным складзе, а то па чалавек 50—60 ёсьць у роце. Адступленьне 55 палка цяпер абазначае адступленьне ўсёй брыгады. Прыдзецца зараз выраўняць фронт і адцягнуць яшчэ далей 54 і 56 палкі, зрабіўшы фронт паўколам. Вось так (тут камандзір павёў алоўкам па карце). Прыдзецца забясьпечыць месца пераправы праз Дзьвіну. Маленькія аддзелы пераправяцца праз Дзьвіну ў лодках ці на паромах. Тут вось вёрст 10 ніжэй гораду адзначана паромная пераправа.

— Калісьці была, цяпер няма,—паінформаваў Карпіцкі.

— Гэта горш. Прыдзецца дастаць лодкі. А ўсе абозы і галоўныя аддзелы прыдзецца правесьці праз мост.

— А як вы думаеце, праз раку палякі здолеюць пераправіцца ў часе наступу? Можа ёсьць яшчэ магчымасьць бараніць хоць горад.

— Няма сэнсу бараніць. На малым вучастку тут, маючы ў тыле раку, мы ня можам трымацца. Могуць бомбардыроўкай зьнішчыць мост, і тады мы апынімся зусім адрэзанымі. Не, становішча яснае, заўтра адцягнем аддзелы за раку і, каб мець магчымасьць з нашымі малымі сіламі ўтрымацца там, прыдзецца спаліць мост.

Камандзір дастаў з сумкі сваю палявую кніжку і сеў пісаць загады. З 56 палком была наладжана тэлефонная сувязь, у іншыя палкі загад мелі везьці конныя веставыя.

Карпіцкі разьвітаўся з камандзірам і пайшоў паклікаць Таісу. Ён ня ведаў, ці можна зараз перадаць ёй вестку, ці адкласьці на потым. Не хацелася так раптоўна разбурыць яе надзею, і таму Карпіцкі пастараўся перамяніць гутарку на іншую тэму.

— Ну, вось мы зноў разам, блізка,—пачаў гутарку Карпіцкі па магчымасьці вясёла, бязрупатлівым тонам.

— А хутка мы будзем надта далёкімі,—адказала Таіса, прадчуваючы нядобрую вестку.—Сёньня цёмная ночка ахутвае нас, але на душы яшчэ весела і сьветла. Разлучымся, будзе сьветлы сонечны дзень, а на душы ў мяне запануе цёмная ночка. Сум ахутае сваёй цемрай, заслоне сьвятло і невядома, калі дачакаешся раніцы. Я сядзела і бачыла, як па небасхіле каціліся і зьнікалі мэтэоры, невядома, куды яны палі. Так у жыцьці

шмат невядомага, палохае нас невядомасьць, палохае магчымасьцямі горшага, і няма чым адагнаць гэта палахлівае.

— Надзеяй адагнаць. Надзеяй на лепшае. Без надзеі ня можна жыць, ня хочацца жыць. З надзеяй мы жывем і чакаем, што за ночкай будзе ясная раніца, за лютай зімой—сьветлая, ласкавая вясна. І цяпер нам патрэбна надзея, што не надоўга наша расставаньне.

Пастаяўшы пару хвілінак на бальконе, яны спусьціліся ўніз і пайшлі па ціхай, ахутанай цемрай вуліцы. Дзяліліся ўспамінамі, прыпаміналі кожны куток гораду, які ім запамятаўся пры тым ці іншым спатканьні.

— Хто ідзе, стой!—пачуўся з цемры гучны воклік. Таіса, спалохаўшыся, прытулілася да Карпіцкага, ня ведаючы чым справа.

— Гэта патруль, які правярае ўсіх прахожых. Зараз я яму пакажу пропуск,—сказаў Карпіцкі і назваў сябе. Вартаўнік павольна падышоў, узяў быў у рукі пропуск, каб праверыць, але немагчымасьць прачытаць яго ў цемры і адсутнасьць сярнічак паставілі яго ў заклапочанае становішча. Хвілінку пакамячыў у руцэ пропуск, потым вярнуў яго Карпіцкаму, дадаўшы: „ладна, ідзі“.

У гародчыку Таісы Карпіцкі расказаў пра апошнія навіны і пра пастанову штабу брыгады эвакуаваць заўтра горад.

— Так хутка!—дакорліва-пытліва прамовіла Таіса, схіліла галаву, закрыла рукамі, змоўкла і толькі па ўздрыгах плеч можна было давядацца, што яна ціха плакала.

Да досьвіткаў сядзеў Карпіцкі ў гародчыку, як мог, супакойваў Таісу, упэўніваў, што расставаньне на кароткі час.

## VI

На другі дзень Карпіцкі некалькі разоў вымераў вуліцу ад выканкому да штабу брыгады, наглядаючы за эвакуацыяй. Адсутнасьць фурманак прымушала забіраць толькі больш патрэбнае. Фурманкі, заказаныя для выканкому, мобілізаваў штаб брыгады для вайсковых патрэб. У горадзе панаваў нязвычайна палахлівы ўзбуджаны рух. З грукатам цягнуліся сялянскія фурманкі, наладаваныя ўсялякай эвакуаванай маемасьцю. Іх заглушалі доўгія істужкі вайсковых абозаў. Каля маста вуліца амаль уся была запруджана фурманкамі, і спэцыяльная варта прапушчала на мост іх так, каб не стварыць бязладзьдзя і ня спыніць рух.

Калі ўжо апошняя фурманка адышла ад старога палацу ў парку, які цяпер зноў апусьцеў і прыняў свой дзіка амшэлы выгляд, Карпіцкі ўспомніў, што ён умовіўся з Таісай спаткацца а 12 гадзіне ў штабе брыгады, каб разьвітацца. Глянуў на гадзіньнік,—палова першай. Абышоў яшчэ ўсе пакоі выканкому, агледзеў, ці не забыліся забраць чаго-небудзь каштоўнага. „Ну, такія рэчы, як незгаральныя шафы, цяпер ужо няма часу вывозіць. Грамаздкія дый ня так ужо патрэбныя, знойдзем дзе хаваць грошы“, заключыў Карпіцкі, калі пераканаўся, што нічога ў будынку,

акрамя незгаральных шафаў ды пары-другой драўляных простых сталоў не засталося.

Вышаў на высокі ганак палацу, глянуў яшчэ раз на вокны свайго габінэту, на кусты язьміну і бэзу каля сьцяны і на роўны зялёны газон перад будынкам. Нейкае прызвычаеньне да гэтай мясьціны, асвоенасьць выклікала шкадаваньне, як чагосьці блізкага, роднага. І хоць ня меў часу і сьпяшаўся, але стаў перад будынкам і пільна прыгледзеўся, быццам жадаючы замацаваць у памяці акаляючае. У гэты момант да яго падышоў даглядальнік будынку, як яго ўсе звалі, „дзядзька Макар“. Жыў ён тут адзін, у ніжнім паверсе, якраз пад пакоямі, што займаў ваенкамат. Жыў тут яшчэ да прыезду выканкому, а пасля залічылі яго на службу апальваць памяшканьне. Зарабляў яшчэ крыху пашыўкай ботаў. Жонка Макара памерла раней, а дзеці павыехалі перад вайной у горад, пакінулі на старасьці бацьку. Быў ён, праўда, яшчэ ня зусім стары, гадоў 55, а з выгляду яшчэ маладзейшы, але адзінота старыла яго шпарчэй звычайнага.

— Добры дзень, таварыш камісар,—прывітаўся, зьняўшы шапку, Макар.—Мусіць, ужо разьвітваецеся з тутэйшай мясьцінай.

— А так, дзядзька Макар, выяжджаем. Вартуйце будыніну, яна нам яшчэ спатрэбіцца.

— Яно-ж невядома, што будзе. Я і сам мо‘ паехаў-бы, што тут, чалавеча, будзеш рабіць, без кавалка хлеба прыдзецца сядзець. Ды старасьць ужо і там невядома,—разважаў урыўкамі думак Макар, і постаць яго, крыху прыгорбленая, бязвольная, нярухомая, адбівала нерашучасьць, ваганьне, пакорлівасьць невядомай бядзе.

Карпіцкі хацеў нешта параіць Макару, але адразу ня ведаў што; яшчэ раз успомніў, што трэба сьпяшацца.

— Ну, заставайцеся здаровы, дзядзька Макар, я мушу сьпяшацца.

— Шчасьлівае дарогі вам,—адкланяўся Макар і глядзеў усьлед, як Карпіцкі напрамкі, праз парк пайшоў да брамы.

Ужо блізка выхаду з парку Карпіцкі спаткаўся з Замкоўскай.

— Сёньня выяжджаеце?—спыталася яна ў Карпіцкага і ў голасе яе пачулася ня зусім выразнае шкадаваньне.—А я іду разьвітацца. Мо‘ каго пабачу ў выканкоме.

— Нікога няма там апроч дзядзькі Макара. Я „апошні з могікан“,— адказаў жартуючы Карпіцкі.

— Мне здаецца, што вы не апошні ў іншым, зразумела, сэнсе. І яшчэ мне здаецца, што такія людзі, як вы, маглі-б быць карысны тут незалежна ад часу.

— Вы памыляецеся. Кожнаму бывае дадзены час і месца для таго, каб ён мог быць карысным. Вось, бачыце, і я. Па незалежных ад мяне прычынах мая карыснасьць для гэтай мясцовасьці канчаецца з сёнешнім

днём. А заўтра ці можа нават сягоньня вечарам хто-небудзь іншы тут, для каго-небудзь, будзе ўжо больш карысным, чымся я.

— А чаму-б і вам не застацца тут?—запыталася Замкоўская і так проста, наіўна, што Карпіцкі замест абразіцца, як гэта зрабіў-бы ён у іншым выпадку, усьміхнуўся і запытаўся:

— Вы жартуеце?

— Не, я зусім не жартую. Чаму-б вам сапраўды не застацца тут? Няўжо вас тут нічога ня цікавіць, ня прыцягвае?—дадала, падкрэсьліўшы апошнія словы, Замкоўская.

Вусны Карпіцкага пры гэтым скрывіліся ў горка - іронічную ўсьмешку.

— А які вы, панна Галіна,—адказаў ён, падкрэсьліваючы кожнае слова,—выбралі-б для мяне сук і на якой з гэтых ліп на выпадак, калі-б я застаўся?

Замкоўская зьдзіўлена глянула на яго, спахмурнела і ціха адказала:

— Вы крыўдзіце мяне. Я зусім ня думаю і не хацела-б для вас такога лёсу. Я кажу зусім шчыра. Вы тут нікому нічога дрэннага не зрабілі, і няма падстаў вам чакаць такога лёсу. Я і нават уся наша сям'я ахвотна прынялі-б усе меры, каб з вамі нічога ня сталася. Я спадзяюся, што нічога ня было-б.

— Не, я не хацеў вас пакрыўдзіць. Толькі скажу і зараз, вы надта наіўна разважаеце. Тыя, што прыдуць сёньня або заўтра сюды, зусім не разважаюць так, зусім ня кіруюцца ў сваіх адносінах да чалавека—зрабіў ён што добрае ці дрэннае. Па іх думках, інакш быць ня можа. Усё тое, што я тут рабіў, было дрэннае, і я заслугоўваю толькі на тое, каб гойдацца вось тут дзе-небудзь на вяроўцы. Я вельмі вам удзячны за вашу рупатлівасьць, але мне ня прыдзецца ёй скарыстацца, бо мой абавязак быць ня тут, а там. Я думаю, што вы ўсё гэта гаварылі шчыра, па сваёй наіўнасьці. Жыцьцё можа і вас навучыць глядзець на сьвет іншымі вачыма. Калісьці вам здавалася, што добрымі адносінамі да сялян і мужыкоў і нават раздачай зямлі, як гэта рабіў ваш бацька, можна залячыць вялізныя раны, балячкі сучаснага ладу. Мы думаем інакш. Самае вялікае, што мы ад вас і вашай сям'і жадаем, гэта—ня губіць, прасьцей кажучы, не выдаваць на згубу тых людзей, якія часам выпадкова, або жыцьцёвымі абставінамі былі прымушаны ісьці з намі, а цяпер застануцца тут.

Замкоўская слухала, хацела пярэчыць Карпіцкаму, але ня ведала, якія іншыя довады прывесьці супроць яго думак. Нарэшце адказала.

— Вы таксама можаце памыляцца. Чаму ў вас так думаюць, што калі—памешчык, нават і не багаты, то ён абавязкова павінен быць вашым ворагам? Чаму, скажам, памешчык, цяпер былы памешчык, ня можа любіць народ, дапамагаць яму?

— Так, магчыма, знойдуцца такія адзінкі, але паміж намі і імі вялізная будзе розьніца. Парознаму мы любім народ, парознаму дбаем аб яго дабрабыце. Можа калі-небудзь, яшчэ ня хутка, і вам гэта будзе відно. Ну, а цяпер бывайце, сьпяшаюся.

Разьвітаўшыся з Замкоўскай, Карпіцкі хуткім крокам накіраваўся ў штаб брыгады. Тут ён таксама ўбачыў ужо пустыя пакоі. Штаб брыгады выехаў. Агледзеў усе пакоі, нават падняўся наверх. Таісы ня было. Вышаў на вуліцу, пастаяў крыху перад клюбам. Цяпер на вуліцы ўжо ішлі выключна вайсковыя абозы. Праедзе некалькі вайсковых фурманак, праз нейкі час пройдзе аддзел чырвонаармейцаў. Карпіцкі ня ведаў, што рабіць. Няўжо ня ўдасца пабачыцца з Таісай. Дадому бегчы далёка,—невядома, як доўга яшчэ будуць адыходзіць свае. Мо ўжо за горадам няма іх. У роспачы Карпіцкі накіраваўся да маста, толькі не пайшоў бліжэйшай вуліцай, дзе ехалі абозы, а крыху вярнуўся, як-бы ідучы ў выканком, павярнуў у завулак, каб потым выйсьці на набярэжную. На набережнай, гразкай, засоранай, ціхай вуліцы, цяпер абсолютна было пуста. Карпіцкі пастаяў яшчэ хвіліну і прыглядаўся ўдоўж набережнай ў напрамку да кляштару. У канцы набережнай нейкая кабета ў белай сукенцы ішла сюды. Карпіцкі рашыў пачакаць, каб пераканацца, хто гэта, і быў радасна зьдзіўлены, убачыўшы Таісу. Яна таксама пазнала, і ня ішла, а проста бегла насустрэч. Вецер зрываў з галавы шаль, гойсаў яго канцы, трапаў белую батыставую сукенку.

— Як добра, што ты зьявілася... я ўжо страціў надзею пабачыцца.

— Я была раней у штабе брыгады. Не дачакалася цябе. Усе пачалі выяжджаць, мне было боязна там застацца, і я пабегла дадому. Так жадала цябе пабачыць, не знаходзіла сабе нідзе месца, надумалася пабегчы туды да маста, мо', спаткаю, думаю. І вось шчасьліва трапіла.

Яны пайшлі па набережнай да самага абрыву, каля кляштарнай сьцяны, потым спусьціліся па сьцежцы ўніз і пайшлі берагам ракі.

Недалёка ад берагу круціліся на вадзе кавалкі дошчак і кары ад пасечанай лодкі. Карпіцкі пазнаў, што гэта была тая самая лодка, у якой яны часта езьдзілі з Таісай на востраў.

— Бачыш, рэшткі нашай лодкі. Пазаўчора яшчэ я даў загад зьнішчыць на рацэ ўсе лодкі, каб пазбавіць магчымасьці палякаў перапраўляцца праз раку, калі зоймуць горад.

Яны селі на прыбярэжным камені, што быў прыблізна на роўнай адлегласьці паміж кляштарам і мастом. З гэтага месца паловы маста ад гораду ня відаць было за завaратам ракі. Па масьце бязупынна цягнуліся фурманкі. Сюды даносіўся грукат колаў. Ціха, супакойна несьліся ў сваім бязупынным руху воды Дзьвіны. Цёмная, глыбокая і негасьцінная, гатовая праглынуць кожнага, хто асьмеліцца прабрацца, тая мяжа, якая хутка ляжа паміж Карпіцкім і Таісай. Тут і там застануцца ўспаміны аб мінулым і мары, надзеі аб будучыні. Яшчэ адчувалася асалода

таго нядаўнага шчасьлівага, што пакінула глыбокі сьлед у памяці. Ужо балюча-трывожнае адчувалася заўтра, сваёй невядомасьцю палохала, агортвала шчамлівым сумам. Так мала часу засталося і так мала ёсьць слоў, каб выказаць усё, што хвалюе думкі і сэрца кожнага.

— Самае страшнае і балючае, калі мы пагубімся, ня знойдзем адзін аднаго,—жалілася Таіса, абапёршыся рукой на плячо Карпіцкага і прыглядаючыся пільна у вочы, як-бы жадала назаўсёды запамятаць яго вобраз.

Карпіцкага таксама палохае і глыбока працінае гэта думка, мучыць адказнасьцю за магчымую памылку, але ён стараецца схаваць, заглушыць, ня выказаць.

— Не, не пагубімся. Мы вернемся хутка сюды,—адказвае ён з упэўненасьцю, хоць і адчувае, што для Таісы радасьць будучай сустрэчы ня супакоіць боль расстаньня.

Насупроць іх, на правым беразе Дзьвіны, чырвонаармейцы насьпех капаюць акопы. На гэтым баку, каля ракі, яны ўдвох і за імі перапалоханы горад. Усе пахаваліся, пахавалі, як маглі, сваю маемасьць і чакаюць чагосьці страшнога. Часам, калі на мосьце нікога ня відаць, калі спыняецца на хвілінку рух, Карпіцкаму здаецца, што ўжо ўсе адступілі, што ён застаўся. І дзіўна. Застацца тут, каля яе, было-б найлепшай радасьцю, а тымчасам пры аднэй думцы толькі не пасьпець на мост, нейкая сьцюжа працінае ўсё цела, як адчуваньне блізкасьці чагосьці гідкага, страшнога. Таіса напамінае, каб ён пайшоў, але хвіліны бягуць за хвілінамі няўцямкі, ня можна адарвацца.

Недалёка ад іх, на самым сяродку ракі, бухнуў знарад, узьняўшы высокі слуп вады. Таіса інстынктыўна спалоханая ўскочыла і, убачыўшы, што Карпіцкі як-бы ў напоўзабыцьці застаўся нярухомым, зноў села.

— Гэта палякі прыстрэльваюцца па мосьце,—растлумачыў ён спакойна.

— А як ты думаеш, бойка ў горадзе будзе?

— Пастанавілі адступіць з гораду бяз бойкі, каб адцягнуць за раку больш сіл. На выпадак, калі палякі паспрабуюць пераправіцца, тады зусім магчыма, што можа дастацца ад бойкі і гораду. Ты, спадзяюся, будзеш шанаваць сябе і ня выходзіць без асьцярожнасьці на вуліцу. Ты гэта павінна рабіць ня толькі для сябе.

— Я ўсё зраблю, што ад мяне будзе залежаць, каб дачакацца цябе.

Блізка, зусім на ўскраіне гораду, затрашчаў кулямёт. Бухнуў яшчэ адзін знарад у ваду, крыху ніжэй першага. З большай шпаркасьцю і бязладзьдзем заварушыліся на мосьце фурманкі і пешаходы.

— Цяпер хіба ўжо час ісьці мне. Бывай, Таіса,—адказаў, цалуючы яе,—бывай, чакай мяне і хавай у памяці.

— Што-б ні сталася, але апошняй маёй думкай будзе думка аб табе,— адказала, стрымліваючы сябе, каб не расплакацца.

Разышліся ў розныя бакі. Карпіцкі спачатку ішоў берагам, потым падняўся на набярэжную і хуткім крокам накіраваўся да маста. Падыхо-

дзячы бліжэй, ён заўважыў, як нейкая постаць, вельмі знаёмая, паказалася з варотцаў каля аднаго дому і потым схавалася. Ахоплены сваімі думкамі, Карпіцкі ня прыдаў гэтаму вялікай увагі і пайшоў далей. Ужо мінуў гэтае месца, як ззаду пачуўся стрэл і адначасна пальцы правай рукі, якой ён махаў на хаду, нешта шарпанула, нібы махаючы трапіў на цьвік. Глянуў на руку, паміж пальцамі шчодрымі кроплямі цякла кроў. Азірнуўся назад—нікога ня відаць. „Гэта Шпідэльскі“, падумаў і, інстынктыўна схапіўшы за рэвольвэр, зрабіў у кірунку варотцаў некалькі крокаў. „Не, ня час яго цяпер шукаць“, абярнуўся і пайшоў хутчэй на мост. Ужо з воддалі бачыў, што тут адбывалася нязвычайная сумяціца. Выпераджаючы адзін аднаго, фурманкі і пешаходы беглі як мага хутчэй. З боку старых могілак даносілася кулямётная траскатня. Узышоўшы на мост, Карпіцкі заўважыў, што высокія парэнчы маста абвязаны саломай, мясцамі абшмараваны каламазьзю, на мосьце таксама шмат саломы, трэсак, гальля. Зрабіўшы некалькі крокаў у гэтым бязладным людзкім струмені, Карпіцкі пачуў, як затрашчала салома і сухое гальлё. Увесь канец маста, высушанага пагоднымі днямі, хутка запалаў полымем. Вецер разьдзьмухваў агонь і гнаў яго хутка ўдоўж маста. Чалавечы струмень паліўся яшчэ хутчэй, захапіў і пацягнуў з сабой і Карпіцкага. Да паловы моста ён бег разам з усімі, потым пайшоў цішэй. Зусім блізка каля мосту бухнуў яшчэ адзін знарад у раку. Вышаўшы на сярэдзіну маста, Карпіцкі ўбачыў абрыў і кляштар. Убачыў, як Таіса цяпер па сьцежцы паднялася на абрыў; яе белая постаць яскравей адбілася на фоне кляшторнай сьцяны і схавалася за дамамі. Ужо ў канцы маста Карпіцкага абагнала некалькі чалавек з апаленымі валасамі, тварам і вопраткай: відаць, хацелі прарвацца праз полымя. Паднімаючыся на высокі бераг за мастом, глянуў на раку. Некалькі чалавек прабавалі пераплыць Дзьвіну, даплывалі хто да сярэдзіны, а хто і далей. Бег вады парываў, нёс пад гарэўшы мост, абсыпаў іскрамі і вугальлем. На вачох усіх тапіліся людзі і ня было магчымасьці іх ратаваць.

— Сволачы, ня ведалі хіба, што дзьве роты засталіся на тым баку,— пачуў Карпіцкі ўрывак лаянкі апаленага чырвонаармейца. Цяпер Карпіцкі зразумеў, што ахопленыя панікай чырвонаармейцы запалілі мост раней, чымся трэба, і некаторыя свае аддзелы засталіся на тым баку. Адзінкі, што імкнуліся пераплыць раку, тапіліся, рэшта, мабыць, бегалі па гораду, па набярэжнай, ня ведаючы, куды дзецца. Кулямёт каля старых могілак пэўны час яшчэ трашчаў, але потым і ён змоўк.

На станцыі каля эшалёну Карпіцкі спаткаў групу супрацоўнікаў выканкому. Яны неяк спахмурнелі і напружана-палахліва чакалі чагосьці. Убачыўшы Карпіцкага, пайшлі яму на спатканьне.

— Куды ты дзеўся?—з нездаваленьнем спытаўся Рагульскі.—Усё ўжо гатова, пагрузка скончана і трэба толькі было адправіць эшалён. Цябе ня было і мы ня ведалі, што рабіць. Быў адзін цягнік і цяпер, бачыш, няма яго.

— А куды дзеўся цягнік?—спытаўся Карпіцкі, прымаючы дакор Рагульскага.—„Сапраўды“, падумаў ён, „я і забыўся, што трэба было тут быць“.

— Ды цягнік захапілі і адправілі з вайсковым эшалёнам і чакай, пакуль яго прышлюць.

— Ну, гэта зусім натуральна,—і Карпіцкі пачуў магчымасьць апраўдацца.—Вайсковая маемасьць, бязумоўна, больш каштоўная, чымся наша, і вайсковы эшалён павінен быў адыйсьці раней. Мая тут прысутнасьць нічога зрабіць не магла-б. Затрымаўся ў горадзе—вось і ўсё.

— Яно можа і так, можа і вайсковы эшалён трэба было раней адправіць. Толькі вось невядома, што будзе: падвязуць палякі батарэю, як сыпнуць, дык і шчэпак не застанецца. Бачыш, усё, як на далоні, відаць.

Супрацоўнікі палахліва паміж сабой пераглянуліся і неяк падаліся бліжэй да вагонаў, быццам жадаючы схавацца за іх.

— Супроць гэтага нічога ня зробіш, што будзе, тое і будзе,—адказаў Карпіцкі, памкнуўшыся ісьці ўдоўж эшалёну, каб агледзець, дзе што ў ім ёсьць. З апошняга вагону эшалёну саскочыла Лапко з нейкай дзяўчынай.

— Нашто ты ўсялякае барахло прывёз сюды?—зьвярнуўся Карпіцкі да Рагульскага.—Хай-бы заставалася там сабе ў горадзе.

— Ну што ты зробіш, калі захацела выяжджаць. Не прагоніш, хай сабе едзе. Добра, калі самі хочуць выяжджаць, хоць-бы і каштоўнасьць з іх малая. А вось бачыш Рэкс, гэты кандыдат у комуністыя, нешта ня відаць яго тут. Як пачалася эвакуацыя, папрасіў камандыраваць яго ў прыфронтавыя раёны для нагляду нібыта за эвакуацыяй саўхозаў. Хлопцы з саўхозаў кажуць, што і ня бачылі яго там. Проста ад'ехаў далей ад вока і чакае, пакуль зайдуць палякі.

— Таварыш Карпіцкі, чаму гэта ў вас кроў на руцэ?—перапыніла гутарку Ніна Лапко.

Карпіцкі падняў руку і бачыў, што кроў густымі соплямі запяклася на пальцах, распэцкалася на руцэ і зьнянацку запэцкала штаны,—кроплі яе праз згусткі яшчэ капалі на зямлю. Ніхто, акрамя Лапко, гэтага не заўважыў.

— Сапраўды цячэ кроў,—адказаў, не жадаючы выказваць пры ўсіх прычыну раны.—Мусіць, дзесьці абдзёр.

— Дайце я вам перавяжу,—запрапанавала рупатлівая Лапко.—Няможна так пакінуць. У мяне ёсьць чыстая хустачка, завяжу хустачкай, а потым адшукаю бінт.

Карпіцкі згадзіўся, глядзеў, як яна асьцярожна, уважліва абцірала кроў і, парваўшы на рызьзё хустачку, абвівала імі параненыя пальцы. Цяпер яму неяк зрабілася шкода Лапко, а ў сувязі з тым, што ён гаварыў Рагульскаму, адчуваў сябе вінаватым перад ёю, маленькай такой, рабой, няцікавай. Прыкра зрабілася, што раней ён адчуў так бяспрычынна нездаваленьне ад яе прысутнасьці.

Група вайсковых стаяла каля станцыі, акружыўшы камандзіра брыгады. Адбывалася кароткая нарада. Атрымаўшы загады, камандзіры конна паехалі да сваіх аддзелаў. Карпіцкі з камандзірам брыгады і яшчэ двума вайсковымі ўзьлезьлі на страху станцыі і разглядалі ваколіцу.

Усё неяк на хвілінку сьціхла, стаілася, схавалася. Прытоеныя ворагі, здаецца, сачылі адзін за адным, каб ухапіцца ў сьмяротную бойку. Ад маста агонь перакінуўся на пасёлак на гэтым беразе Дзьвіны, полымя і хмары шызага дыму, нібы заслонай, закрывалі цяпер частку гораду. Відаць было, як на нашым беразе ракі корпаліся ў зямлі, рыючы акопы, чырвонаармейцы. Ад станцыі аддзялілася група чырвонаармейцаў, рассыпалася шырокім ланцугом і, падышоўшы бліжэй да пасёлку, залегла на роўным полі. Хутка за імі выкаціліся на поле тры гарматы брыгаднай палявой батарэі. Адны чырвонаармейцы адпрэглі коняй, адвялі іх у хутар за станцыяй, другія падрыхтавалі да страляніны гарматы. Батарэя да бою была гатова і чакала загаду. У горадзе быццам яшчэ палякоў ня было. Трашчаў наш кулямёт недзе каля пасёлку, заціхаў, зноў адбіваў сваю трэль, але па кім ён страляў—ня відаць было. На горцы, каля могілак, за горадам паказаўся польскі вэлёцыпэдысты. Затрашчаў зноў кулямёт, і відаць было, як кулі ўзьнімалі маленькія дымкі пяску на дарозе. Вэлёцыпэдысты, апынуўшыся нечакана пад абстрэлам. раптам кінуў вэлёцыпэд на дарозе, а сам сагнуўся, хутка перакуліўся праз агарожу могілак і схаваўся ў іх гушчары. З саўхозу, крыху далей ад станцыі, дзе разьмясьцілася наша кавалерыя, выдзеліўся аддзел кавалерыстых і паскакаў уверх па рацэ, трымаючыся заўсёды пэўнай адлегласьці ад ракі, каб ня трапіць пад абстрэл. Ім быў дадзены загад трымаць пад аглядам вучастак ракі, дзе ня было пяхоты, каб папярэдзіць пераправу палякаў.

Карпіцкі першы заўважыў, што на кляшторнае вежы ў няшырокіх яе ваконцах заварушылася нешта цёмнае. Паказаў камандзіру.

— Паставілі, відаць, наглядальніка,—заключыў камандзір брыгады.— Добры наглядальны пункт—відаць усё, што ў нас робіцца. Можа абстраляць яго з батарэі?—дадаў камандзір брыгады праз нейкі час, зьвяртаючыся да Карпіцкага, як камісара брыгады.

Карпіцкі ня думкамі, не развагай, а хутчэй інстынктыўна, нутром адчуў, што ня трэба гэтага рабіць.

— Як вы думаеце?—запытаўся зноў камандзір брыгады, не дачакаўшыся ад Карпіцкага адказу.

— Мне здаецца, што ня варта абстрэльваць кляштар. Насельніцтва вытлумачыць гэта так, што мы проста абстрэльваем яго, каб нібы-та зьнішчыць рэлігію. Будзе нездаволеньне сярод насельніцтва. Мы ўсё-ткі хутка вернемся ў горад, трэба з тым лічыцца.

— Законы вайны—суровыя законы,—адказаў камандзір брыгады.— Тут цяжка не закрануць часам інтарэсы таго, хто не ваюе. Зрэшты, як сабе ведаеце.

Карпіцкі ўзяў ад камандзіра бінокль і пачаў пільней аглядаць ваколіцу. Праз бінокль ён выразна ўбачыў, што на кляшторнай вежы ёсьць чалавек. Ня было ніякага сумненьня, што прыватная асоба ў гэткі час туды не палезе. Карпіцкі адшукаў сярод шэрагу прагнілых гонтавых стрэх і страху таго доміку, у якім ён сам жыў. Адсюль ён накіраваў бінокль, шукаючы доміку, дзе жыла Таіса. Ня відаць было з гэтага месца, засланяла яго нешта. Мусіць ён якраз проста за кляштарам, за старымі ліпамі цьвінтару. За гэтым кутом гораду нізіна. У самым нізкім месцы кусты і сенажаці цягнуцца паласой, пэўна, тут цячэ маленькая рэчка. А там, яшчэ далей нівы, мясьціна павышаецца, на горцы раскінуліся дзьве-тры вёскі, а за імі вярсты са дзьве пачынаецца лес. У адным з прамежкаў паміж вёскамі Карпіцкі заўважыў, як з лесу паказаліся і варушыліся ўжо на полі далёка адна ад аднэй нейкія цёмна-шэрыя кропкі. Відаць, з лесу, рассыпаўшыся ланцугом, наступалі палякі.

— Чаму ня чутно польскай батарэі?—запытаўся Карпіцкі ў камандзіра брыгады, зьдзіўлены тым, што, ня гледзячы на чаканьне бамбадыроўкі з боку палякаў, яе ня было.—У часе адступленьня з гораду яны якразжа абстрэльвалі мост.

— Дзіўна неяк, я і сам не разумею,—адказаў камандзір брыгады.— Можа перакінулі на другі вучастак або перавозяць у іншае, больш выгоднае месца. У кожным разе, становішча наша не зайздроснае.

Карпіцкі далей разглядаў у бінокль. Праз нейкі час з боку кляштару пачуўся трэск кулямёту і некалькі, выпадковых мусіць, куль ценка прарэзіста прасьвісталі над іх галовамі.

— Кулямёт на вежы, нашы аддзелы яшчэ не акапаліся, у тым ліку і прыкрыцьцё батарэі,—як-бы з сабой разважаў камандзір і, зьвярнуўшыся да Карпіцкага, спытаўся:—Цяпер хіба вы згодзіцеся, што трэба абстраляць кляштарную вежу, бо інакш мажліва пераправа палякаў праз раку.

„Але-ж я магу хіба не дазволіць“, працінае Карпіцкага думка. Хоча запярэчыць і адчувае, што гэтага ня можа зрабіць. Думкі адбеглі, цяжка зьвязаць іх, няма слоў. Як скамянелы, знадворна спакойны, не знаходзячы слоў, адказвае кіўком галавы, не адрываючы бінокля ад вачэй. Чуў, як камандзір брыгады загадаў камандзіру батарэі, які стаяў у доле, абстраляць кляштар. Праз некалькі хвілін пачуў нават ужо больш воддальна каманду камандзіра батарэі бомбардзірам-наводчыкам. Яшчэ праз хвіліну ў перадвячэрняй цішыні грымнуў гучна першы стрэл блізка пастаўленай гарматы. Карпіцкага гэты гук быццам аглушыў, быццам моцна стукнуў у грудзі чымсьці тупым, магутным, цяжкім так, што ўсё там абарвалася і па ўсяму целу працяла балюча-няпрыемная дрыгота. Яшчэ з большай моцай грымнуў другі стрэл гарматы. Адначасова з тылу данёсься працяжна-дзікі гудок цягніка. Карпіцкі, быццам абуджаны ім, апусьціў бінокль і падаў яго камандзіру брыгады.

— Ну, бывайце здаровы. Трымайцеся моцна. Мне трэба ўжо давесьці да канца ліквідацыю нашых спраў. Магчыма, яшчэ спаткаемся.

— Бывайце, бывайце. Калі што, дык прыяжджайце ў нашу брыгаду, будзем ваяваць.

Адмернымі рытмічнымі тактамі стукалі колы вагонаў, ускараючы тэмп па меры большага аддаленьня ад станцыі. З рухам цягніка ўзрастала шкадаваньне пакінутага гораду, яскравей адчувалася, што цяпер ён у мінулым і з кожнай хвілінай застаецца далей і далей. Карпіцкі забіўся ў кут вагону, прымасьціўся на нейкай скрынцы і хацеў моўчкі застацца са сваімі думкамі, бязладна нявыразнымі, зблытанымі і балючымі. Сядзеў у задуменьні доўга, не адчуваючы, што дзеецца навокал, ня чуючы гутаркі таварышоў. Дый у вагоне ўсё нейк сьціхла, толькі грукат колаў напамінаў, што адбываецца рух, і, штурхаючы, калыхаўся недагружаны вагон.

— Што, браце, аб чым задумаўся, засумаваў?—раздалося над вухам, і адначасна нехта крануў за плячо. Карпіцкі ўзьняў галаву і ўбачыў Глебава. Той прыладжваўся на суседняй, больш высокай, пастаўленай канцом, скрынцы. У голасе яго адчувалася спачуваньне і таварыская рупатлівасьць.—Ёсьць чаго шкадаваць, я ведаю, але што-ж ты зробіш. Я разумею, што пры тваім характары ты прымеш гэта больш блізка да сэрца. Акрамя сваіх асабістых мотываў, пачуцьцяў, перажываньняў,—ёсьць чым засмуціцца. Як ні як, працавалі, дабіваліся чагосьці, за вошта змагаліся і раптам уступаем сваім ворагам. Цяпер ужо можам падвесьці нейкія вынікі нашай працы, нашых дапаможнікаў у ёй, прыхільнікаў і выпадковых падарожнікаў.

— Што вынікі,—адказаў уздыхнуўшы, Карпіцкі.—Едзем вось з некалькімі каровамі ды іншым барахлом, вось табе і ўсе вынікі. Сэрца толькі баліць. Асабліва крыўдна, што ты вось біўся з усіх сіл, стараўся, а другі так сабе, нібыта дапамагаў, а потым пайшоў чорт ведае куды, шукаць ветру ў полі.

— Вось ты праўду кажаш, што пайшоў хто куды. Чалавека можна пазнаць, толькі выпрабаваўшы яго ва ўсіх абставінах жыцьця, прапусьціўшы праз усе падзеі яго. Вось і мы цяпер аглянемся назад, прыгледзімся да людзей, дык шмат што стане ўжо ясным. Мала, браце, такіх моцных, загартаваных у сваіх пераконаньнях людзей. Мала ёсьць такіх, якія так шырока разумелі-б зьявы ва ўсім іх абхваце. Адзін, напрыклад, утаропіцца ў што-небудзь адно і ўпарта пільнуецца гэтага, забываючы пра іншыя важныя моманты. Адзін, скажам, пераносіць усю сваю ўвагу, усю сваю энэргію на варожыя адзінкі і думае, што перамагчы іх абазначае перамагчы ворага. Яму, бачыш, няможна стрымаць нянавісьць да аднаго ворага, і ён, замест карысьці ў барацьбе, робіць толькі шкоду. Другі бачыць ворага ў паасобных зьявах, скажам, усалопіў сабе, што галоўны вораг—гэта рэлігія, і рабі з імі што хочаш. А як спаткаўся з сапраўдным

ворагам, тады наш ваяка пасабачаму падціскае хвост і лашчыцца. Іншы гаворыць гучныя словы, каб толькі абдурыць, адагнаць ад сябе западозранасьць, а тымчасам дбае аб сваёй кішэні, аб сваёй глотцы. Іншы гатоў служыць каму заўгодна, абы толькі дастаць цёплае месьцейка. Іншы проста лезе ў такое месьцейка, каб ратаваць шкуру ад чагосьці для яго горшага, скажам, ад фронту.

Карпіцкі моўчкі слухаў і час-ад-часу ківаў галавой у знак згоды са словамі Глебава, а таксама і для таго, каб пацьвердзіць, што ён слухае, а ня думае аб чымсьці іншым. Глебаў на хвілінку змоўк, дастаў з кішэні пакамечаны пачак з папяросамі, выцягнуў адну зламаную, адарваў кавалачак паперы, пасьлюніў, наклеіў на зламанае месца, прыкурыў, запаліўшы сярнічку, пацягнуў са смакам разы са два і пачаў казаць гутарку.

— Так, так, толькі ў жыцьці і ў розных падзеях можна зазнаць чалавека. У кожнага знойдуцца недахопы. Толькі ў аднаго яны будуць нязначныя, такія, што можна выправіць, у іншага такія, якія ўжо нічым не паправіш. А недахопы ёсьць у кожнага. Нават у таго, у каго багата і добрых парываньняў і добрых імкненьняў. Я буду казаць адкрыта. Мне вельмі падабаецца, скажам, шмат што ў тваёй натуры. У цябе ёсьць шчырае захапленьне рэволюцыяй, адданасьць ёй, гатоўнасьць афяраваць і сваё жыцьцё. Усё гэта добрыя адзнакі, так патрэбныя ў наш час. Такі чалавек і свой абавязак выканае добра, і іншым дасьць прыклад, заахвоціць іх да героізму, да парываньняў у адпаведны момант. Але-ж гэтага замала. Патрэбна цьвёрдасьць і рашучасьць як тады, калі хутка трэба выбіраць адно з двух, калі хутка трэба вырашаць вялікія супярэчнасьці, так і ў штодзеннай, малой, часам няцікавай працы. Рашучасьць і халодная развага ў нашы часы ня менш патрэбна, чымся захапленьне, адданасьць, героізм. Чалавек без рашучасьці можа нарабіць у жыцьці, у барацьбе шмат памылак. Спаткаў ён на шляху нечаканую перашкоду, апынуўся, скажам, над бяздоньнем, над стромкім абрывам. Тут няма часу разважаць, няма часу думаць над тым, што выбраць: рынуцца з абрыву проста на дол ці шукаць яшчэ іншых сьцежак. Рынуўся ўдол— галаву разьбіў. Будзеш шукаць невядомых сьцежак—вораг захопіць і згінеш. Або проста будзеш стаяць над абрывам і ня ведаць, што рабіць: наперадзе бяздоньне, а ззаду вораг.

— Ну, дык як-жа зрабіць, як шукаць выхаду?—спытаўся з горкім пачуцьцём сапраўды бязвыходнага становішча Карпіцкі.

— Тут гатовага адказу для ўсіх выпадкаў немагчыма даць. У кожным паасобным трэба выбіраць што-небудзь адно. Трэба ведаць жыцьцё, загартаваць сябе. Трэба мець рашучасьць і цьвёрдасьць, каб у такіх выпадках ня хістацца, а хутка і станоўча абіраць адно, нават страшнае, балючае. Тут з жалем і спачуваньнем нічога ня зробіш, нічога не дапаможаш. Доктар-хірург робіць опэрацыю, не зважаючы на тое, што хво-

раму гэта нязьмерна баліць. Ён выходзіць з пераконаньня, што опэрацыя і нязьмерны боль патрэбны для выратаваньня жыцьця самога хворага.

— А калі часам хірург не адрозьніць хворага месца ад здаровага і рэжа здаровае, ад чаго ня толькі не ратуе, але губіць хворага?

— Трэба вывучыць організм, каб ведаць, што хворае і што здаровае. Каб быць хірургам жыцьця, трэба вывучаць жыцьцё. Магчымы памылкі, але іх будзе менш праўдзівых выпадкаў. Баяцца памылак ня трэба, бо большай памылкай будзе не зрабіць тое, што трэба было зрабіць, чымся зрабіць тое, што ня трэба было зрабіць. Мне спачатку таксама здавалася, што ў жыцьці некаторыя людзі тое ці іншае робяць занадта крута, занадта рашуча і сурова. Потым, калі я пазнаў больш жыцьцё, пабываў шмат дзе, шмат нацярпеўся, папакутваў, шмат убачыў, шмат што зразумеў, тады я пачаў глядзець на жыцьцё больш цьвяроза і рэальна.

Глебава захапіла нейкая шчырая гаварлівасьць. Ён разважаў-бы мусіць, яшчэ доўга, але гутарка спынілася з прыходам эшалёну на станцыю. На двары ўжо расьсьцілаўся шэры змрок, на шыза-блакітным небасхіле дзе-ні-дзе міргалі зоркі і далёка шырокай сьветлай паласой адбівалася пажарышча пасёлку.

* * *

Глухая, загубленая паміж лясоў, станцыя. У часе вайны тут была інтэндацкая база. Разбудаваная шырока, на шмат запасных калей чыгунка, шмат пабудаваных вялізных драўляных баракаў-складаў ды доўгія шэрагі паравозаў і вагонаў стваралі, на першы выгляд, уражаньне вялікай рухлівай станцыі. Але гэтае ўражаньне стваралася толькі пры аглядзе зводдаль.

Пустыя, дзе-ні-дзе разваленыя баракі, высокі бытьняк і крапіва паміж іх, паржавелыя, нядатныя да руху паравозы, аблезлыя, абламаныя, з дзіравымі сьценамі і стрэхамі вагоны, сьмяцьцёвая трава на самай чыгунцы, пустэч і нярухомасьць—усё гэты веяла ад сябе тухлай цьвільлю і руінай. Нібыта ў казцы, спыніліся ў сваім бегу цягнікі, здранцьвела ў сваім руху ўсё жывое, паснула нярухома на сваіх мясцох і чакае абуджэньня: ціха, санліва, як быццам дарогі і сьцежкі ў гэты закутак зарасьлі і зьніклі. У ціхія, бязьветраныя дні маўчыць і лес, што насунуўся блізка абапал станцыі.

Эшалён выканкому ў першыя дні ўнёс пэўнае ажыўленьне на станцыі і зажыў сваім асобным сьветам. І то не надоўга. Ліквідацыя набліжалася да канца. Быдла здалі ў бліжэйшы саўхоз, маемасьць прынялі прадстаўнікі губэрні, частку адаслалі ў губэрню, частку пакінулі тут валяцца на складах. Супрацоўнікі ў большасьці паехалі ў губэрскія ўстановы шукаць пасад,—меншая частка была занята яшчэ падрыхтоўкай да здачы спраў сваіх аддзелаў.

Карпіцкі скончыў ужо ліквідацыю спраў ваенкамату, хацеў таксама паехаць у губэрскі цэнтр, а адтуль атрымаць прызначэньне, толькі

застаўся па просьбе Глебава дапамагаць яму. Занудзіўся, паддаўся сумнаму настрою, нецярпліва чакаў, калі скончыцца ліквідацыя і можна будзе выбрацца адсюль, аддацца працы, забыцца пра сум і шчамлівы боль, што дакучалі на адзіноте. Пакуль жылі ў вагонах, было неяк весялей,—усе трымаліся грамадой, у купе, больш часта гутарылі, стараліся правесьці час. Пасьля, калі, спаражнілі ад маемасьці вагоны, каб можна было адагнаць іх па прызначэньні, перасяліліся ў адзінотна-раскіданыя каля станцыі домікі мясцовых жыхароў.

Усяго некалькі дзён як прыехалі сюды, а стамілі яны больш, чымся год цяжкага жыцьця. Карпіцкі асабліва востра адчуваў новыя абставіны, новае акружэньне пасьля выезду. Так часта ўспаміналася Таіса, так неспадзявана моцна, дакучліва, балюча адчуваў расстаньне з ёй. „Хутчэй толькі выбрацца адсюль, а там за працай няпрыкметна прабяжыць час, вернемся назад...“ карціла на думцы Карпіцкага.

І ў гэты дзень думка аб хутчэйшым ад‘езьдзе працінала мацней звычайнага. Сабраўся падвечар пайсьці да Глебава, пагутарыць наконт прыспешаньня ліквідацыі. Ішоў па кручанай, ламанай дарожцы, што абягала каля хат, каля невялічкіх гародаў з гарбузамі, сланэчнікам ды фасолямі, зьяўляючыся нібы вуліцай у пасёлку. Абмінаючы лужыну, пралез праз нявысокі жэрдзяны плот, пайшоў разоркам паміж град да ганку доміка, каб адтуль зноў выйсьці на вулачку. Пачуў, як у сенцах ляснулі дзьвярыма. „Пэўне, гаспадыня аблае, што хажу па гародзе“—падумаў і глянуў на дзьверы з сенцаў, яны неяк нязручна адчыніліся, і на парозе паказаўся Кац. Карпіцкі прыпомніў, што яго ў эшалёне ня было.

— Ты адкуль узяўся, мы лічылі, што ты застаўся ў горадзе, непакоіліся за цябе.

— Застаўся, каб на іх хвароба, амаль капут ня быў. Ледзь удалося выратаваць галаву,—адказаў Кац з пачуцьцём сапраўднай радасьці дзеля шчасьлівага ўцёку.

— Ну, як там было, раскажы, што сталася ў горадзе,—распытваў Карпіцкі, спадзяючыся пачуць што-небудзь аб Таісе.

— Чаму не расказаць, можна. Зусім і не спадзяваўся, што так выйдзе. Пайшоў я дадому,—забыўся ўзяць паліто,—спатрэбіцца ў дарозе, новага замест яго не дадуць. Надумаўся яшчэ забегчы разьвітацца да стрыечнай сястры. А жыве яна туды пад могілкі. Зайшоў у хату, сястра адна сядзіць спалоханая, муж кудысьці пайшоў. Яна і кажа: „Чаму-б табе не застацца тут? Што, цябе там шчасьце чакае?“

— Ты мне раскажы, як ты ўцёк і што бачыў у горадзе,—перапыніў Карпіцкі.

— Я-ж табе і расказваю, як я уцёк, а не як я застаўся. Сястра, значыцца, угаварвае, а я не згаджаюся. Раптам як затрашчыць дзесьці блізка за вакном кулямёт. Я бягом з хаты. Бягу і бачу,—нешта ў горадзе гарыць. Прыбягаю да маста, аж ён гарыць. Што было ў горадзе?

Горад як горад, толькі мост гарыць і няма куды ўцячы. Усе пахаваліся, пазачынялі вакеньніцы і дзьверы, нават у хату ня пусьцяць. Куды дзецца? Бягу каля ракі, як няпрытомны. Успомніў, што насупроць парку паміж паркам і востравам адтока ракі ў некаторых мясцох няглыбокая: калісьці, як быў яшчэ хлапчуком, хадзілі туды купацца. Бягу туды. З абрыву каля кляштара бяжыць некалькі чырвонаармейцаў. „Таварыш, крычаць, куды тут схавацца можна?“. „І я ўцякаю, кажу, хадзем шукаць, дзе няглыбока“. Пашлі, мне сьмялей стала. А дзе няглыбока і сам добра ня ведаю. Кінуліся ў брод, вада быстрая зьбівае з ног, сьпяшаемся, вада ня пушчае. З парку некалькі цывільных угледзелі нас і давай за намі брысьці. Выбрылі, лезем на бераг вострава, а з абрыву каля кляштара ўбачылі нас ужо палякі, пачалі страляць. Мы паўзком у гушчары вострава. Ляжым у гушчары, чырвонаармейцы страляюць,—як толькі пакажуцца палякі ў парку, дык яны і паляць па іх. Заўважылі свае. Каля маста стаяў кулямёт, дык ён наўкасяк сыпе ўдоўж ракі. Тут ужо бачым, палякам за намі на востраў ня так лёгка пагнацца.

Бяжым на другі бок вострава. Тут рака шырокая і глыбокая. Плыць нельга, бо не пераплывем, і палякі страляюць. Свае нас бачаць, а ратаваць ня могуць, лодак няма. Каб і былі лодкі, то што зробіш, калі выехаць на раку нельга, засыпяць з кулямёту. Сядзім так паміж сваіх і чужых і ня можам нікуды ўцячы. Пайшлі зноў на той бок вострава сачыць, каб палякі за намі не перабраліся на востраў. Потым свае пачалі з гармат страляць. Ляцяць знарады над нашымі галовамі, бухаюць дзесьці каля кляштару. Загарэліся дамы.

— Ты ня ўцяміў, на якой вуліцы загарэліся?

— Не, ніяк ня можна было пазнаць, ня відаць адсюль з нізіны. Пасядзелі мы так да начы. Потым свае адшукалі лодку і ў цемры перавезьлі нас на свой бок. Пайшлі ў штаб брыгады, адтуль на вузлавую станцыю. Эшалёну тут ужо няма і на станцыі добра ня ведаюць, куды канчаткова ён накіруецца. Некалькі дзён пыталі, шукалі. Сёньня толькі прыехалі.

Кац, скончыўшы апавядаць, зморшчыў лоб, прыпамінаючы, ці не забыўся яшчэ чаго расказаць са сваіх прыгод.

— І ўсё гэта сталася праз маё паліто. Каб ведаў, што так будзе, дык няхай яно прападзе там, не пайшоў-бы за ім. Усё роўна згубіў, не данёс: трапіў у рацэ на глыбокае месца, ды кінуў паліто, паплыло па вадзе.

— Ты кажаш, што з табою былі яшчэ ўцекачы. Яны ўсе ў адзін час уцяклі, ці мо' хто пазьней?

— Добра ня памятаю, здаецца, усе днём уцяклі. А можа хто і ўвечары. Так, прыпомніў, здаецца, сторож выканкому ўцёк, калі мы ўжо былі на востраве. Прабіраецца ўначы праз гушчар, думалі паляк, хацелі страляць. Потым, як убачылі яго ў штабе брыгады—проста на чорта падобны. Увесь абмызганы, забруджаны сажай, гразьзю—не пазнаць.

— Відаць, ён на пажары быў. Тав. Кац, табе ня цяжка будзе яго адшукаць? Прышлі яго да мяне пагутарыць, хачу даведацца, што там рабілася ў горадзе. Я жыву вунь там, дзе круглы чорны комін на хаце.

— Чаму ня прыслаць,—згадзіўся з такой-жа шчырай ахвотай Кац, з якой апавядаў свае прыгоды. Ён тут дзесьці швэндаўся каля хат.

Пасьля гутаркі з Кацам Карпіцкі абнадзеіўся, супакоіўся і зусім аптымістычна чакаў вестак Макара. Кац ня бачыў, дзе быў пажар. Домік Таісы ня мог загарэцца, бо стаяў асобна, воддаль ад іншых. „Можа Макар нават прынёс вестку ад Таісы", узьбегла на думку Карпіцкаму. „Не, у такой сумятні немагчыма пабачыцца. Толькі нешта доўга няма Макара", падумаў Карпіцкі, чакаючы яго нецярпліва.

— Дзядзя, дайце мне рамень, я хачу быць салдатам,—прасіў шасьцігадовы хлопчык гаспадыні. Ён асвоіўся да Карпіцкага і прыставаў, калі хацеў атрымаць тыя ці іншыя вайсковыя прылады, каб усчапіць на сябе. Карпіцкі даў яму рамень, потым шапку, пачаў з ім бавіцца.

— Дзе тут камісар жыве?—пачулася з вуліцы. Карпіцкі падышоў да вакна, хацеў паклікаць, але ўбачыў, што Макару паказала, як зайсьці, гаспадыня.

— І вы ўцяклі, дзядзька Макар?—спытаўся Карпіцкі пасьля прывітаньня.—Ну, і добра зрабілі. Сядайце, раскажэце, як вам удалося ўцякаць. Чаму вы ўсё-ткі ўцяклі, вы, здаецца, меліся застацца?

Макар павольна, нясьмела сеў на край зэдліка, разгладзіў жорсткай рукой свае пасівелыя вусы і пачаў апавядаць, сьпяшаючыся, мусіць, каб не заняць шмат часу ў Карпіцкага.

— Ня сьцерпеў, надумаўся ўцячы. Толькі палякі прышлі ў горад, як пачалі таварышы з гармат страляць. Каля кляштару ўсё бух, ды бух. Часам і ў парку бухне. Залез я ў склеп пад будынкам, боязна вылезьці, каб ня трапіць пад гармату. Сяджу і думаю,—знойдуць мяне тут палякі, заарыштуюць.

— Што вы, дзядзька Макар, завошта яны маюць вас заарыштоўваць?

— Як завошта? Знойдуць у выканкоме, даведаюцца, што служыў, за бальшавіка палічаць. Страляніна сьціхла. Вылез са склепу, пайшоў асьцярожна ў горад. У горадзе пажар. Некаторыя яшчэ тушаць агонь, іншыя спалохаліся, паўцякалі. Туляюся, дзе больш людзей, распытваю. Кажуць, палякі ў горадзе робяць вобыск і арыштоўваюць. І боязна стала, а падумаў, дык і жыць тут няма за што. Лепш уцякаць. Увечары, калі пачало цямнець, узяў вядро і іду да ракі, нібыта па ваду. Загадзя выпэцкаўся сажай, абліўся вадой на пажары, каб сапраўды падумалі, што працую. Страляніны няма. Таварышы перасталі страляць, як толькі загарэлася, каб не забіваць, хто тушыць будзе агонь. Спусьціўся па сьцежцы з абрыву каля кляштару. Тут зусім цёмна і нікога няма. Пажар ужо канчаецца. Падзьме вецер, выбухне агонь, зробіцца сьвятлей, зноў сьцямнее. Падаўся берагам ракі да парку. Дайшоў да плыткага месца,

паброў. А ў самога паджылкі дрыжаць,—так боязна. Броў, броў, зачапіўся нагой за камень, бултыхнуў у ваду. Пачулі ў парку, пачалі страляць. Сполах ахапіў, што аж не магу рушыцца. Куды дзецца, назад ісьці—усё роўна застрэляць. Паброў хутчэй да востраву—не пападуць мо' ў цемры. Ня памятаю, як дабраўся. Знайшоў там сваіх. Пайшлі ў штаб брыгады.

— Так вы на пажары былі? Бачылі дзе што згарэла, — перапыняе Карпіцкі Макара.

— Як ня бачыць? Увесь гэты кут, дзе вы жылі, ад кляштару да сталоўкі начыста выгараў. Нават друкарня згарэла.

— А там на вуліцы проці кляштара?—пытае Карпіцкі.

— Там згарэў толькі адзін дом, у якім жыў гэты барадаты супрацоўнік выканкому.

— Можа ведаеце, куды гэты супрацоўнік выселіўся з сям'ёй пасьля пажару?—пытаў Карпіцкі далей з трывогай. Макар, як на экзамене, даваў адказы хутка, каб паказаць, што ўсё добра ведае. І цяпер доўга чакаць адказу ня трэба было.

— Не пасьпеў выехаць. Знарад трапіў у дом. Самога кантузіла. Дачка спалоханая выбегла з хаты; каля варотцаў гародчыку на вуліцы бухнуў пад ногі другі знарад і забіў на месцы. Дом загарэўся. Сам ён сяк-так выпаўз, адвезьлі пасьля ў больніцу. А жонка, мусіць, абамлела са страху, згарэла ў доме. Я сам бачыў толькі забітую дачку. Адшчэпкі знараду разарвалі...

— Дзядзька Макар... досыць.., не кажэце... ня трэба...—перапыніў яго Карпіцкі, і ў голасе яго гучэла просьба, скіраваная быццам да кагосьці ўсяўладнага, магутнага.

Макар ад нечаканасьці зьдзівіўся, змоўк.

— Заўтра хіба... прыходзьце... пагутарым можа калі... пазьней. Сёньня не магу...—тлумачыў Карпіцкі нявыразна, як-бы не хапала голасу, зацяла штосьці ў глотцы.

Макар пільней прыгледзеўся да Карпіцкага і яшчэ большае зьдзіўленьне ахапіла яго. Твар Карпіцкага пабляднеў, рукі задрыжэлі, постаць прыгорбілася, а вочы ўтаропіліся ў адным кірунку нярухома. Пры апошніх словах сьціснуў зубамі ніжнюю губу, нібы жадаючы болем заглушыць нейкую страшэнную муку, так, што аж кроплі крыві адна за аднэй пакаціліся па барадзе.

— Добра, добра зайду ўжо пасьля,—мармытаў зьбянтэжаны Макар, адыходзячы задам да дзьвярэй.—Вам, пэўне, нездаровіцца, зайду, бывайце.

Хлопчык, угледзеўшы, што стары адыходзіць, падбег да Карпіцкага.

— Дзядзя, куды ты рамень схаваў? Дай мне рамень, я хачу быць салдатам. Дзядзя, дай рамень.

Макар паціху закрыў дзьверы, ціха на пальцах вышаў з сенцаў і пайшоў па вуліцы.

„Ці спалохаўся, ці мо' нездаровіцца", думаў Макар. „І хлапец, здаецца, адважны, а спалохаўся, хоць і ня бачыў сваімі вачыма. Які цяпер народ кволы. Малюнак сапраўды жудасны. Успомніш, аж сэрца заварушыць. Шкада, што не пасьпеў пра працу нічога сказаць, дакараў сябе Макар. „Яму што, ён і тут будзе камісарам. Трэба папрасіць, каб прыстроіў дзенебудзь на працу. Заўтра зайду. Не, хіба пасьлязаўтра,—калі яму нездаровіцца, ня варта турбаваць, яшчэ пасьпею".

# „НЕ ЗА БЕЛЫХ ЛЕБЕДЗЯЎ“?..

*Апавяданьне*

**Ф. Вайскопф**

„І той ніколі ня жыў і нічога ня ведае аб жыцьці, хто не ўявіў сабе, што сьвет прыгожы, бясконца прыгожы. Што старое зламана, і што жыцьцё голымі рукамі змагаецца за неабвяргальную праўду, за белых лебедзяў свайго ўваскрасеньня, за нешта непараўнальна большае ды лепшае, як гэты кавалак зорыстага неба—за будучыню ўсяго чалавецтва.

*Ларыса Рэйснэр*—„Фронт“.

Як мог адразу так пабольшаць пакой: пакой, які—заўважце—раней заўсёды быў занадта вузкі ды малы.

Войт Пулкрабэк ніколі ня лічыў-бы магчымым, што падобнае магло-б здарыцца з пакоем: пачаць раптоўна расьці некаторым чынам пад рукамі.

Напэўна раней было тут шмат мэблі, і займала яна вялікую частку пакою: тоўстапузая жоўтая камода з асаблівымі архітэктурнымі аздобамі, якія прынамсі раз у год адламваліся і якія трэ' было зноў старанна прыклейваць; адзёжная шафа з чырвонымі ды сінімі кветкамі на верхняй лаце; абодва старыя дубовыя куфры; канапа і „лепшыя“ крэслы.

... І цяпер стаялі тут яшчэ толькі тры расхістаныя „звычайныя“ крэслы, стол ды адзін з двох ложак. Усё другое было прадана. Таксама і сьвяточныя адзеньні з шафы і бялізна з камоды і куфра. Так гэта і робіць пакой парожнім: хворая жонка і шосты тыдзень без работы.

Шосты ўжо немагчыма!

І ён пачынае падлічаць:

„Гэта было..? Калі-ж гэта было? Ах вось, у суботу пасьля „сарака мучальнікаў“. Так, так, зусім правільна: у суботу пасьля „сарака мучальнікаў“.

Прайшло ўжо трыццаць восемь дзён з таго часу, але ён памятае гэтую суботу яшчэ зусім дакладна.

„Быццам гэта было сёньня“.

Пачалося ў панядзелак на пільні, унізе, на краі сяла, дзе шлях ідзе цераз рэчку, а ў суботу папрацавалі ў апошні раз на цагельні, на гары ля лесу ў глінішчы.

Рабочыя цагельні далучыліся да забастоўкі, бо дырэктар хацеў ім зьменшыць зарплату. Дырэктар быў немец, гаварыў пачэску карава ды

цяжка і з відочнай агідай. „Вы там"—звычайна клікаў ён рабочых, ці „чалавек", бо ён не даваў сабе работы ўспамінаць чужыя імёны. Дзеля таго ніхто і не падзівіўся, калі ён аднойчы загадаў коратка абвесьціць: „З наступнага тыдню зарплата зьмяншаецца на столькі і столькі крон. Каму гэта не падыходзіць, хай шукае сабе работы ў другім месцы.

Сярод рабочых пільні ня было нікога, хто-б не ненавідзеў яго. Але і сяляне вёскі ня любілі яго:

„Пільня—добрая рэч, але там сядзіць ня наш"—чуваць было ўсё зноў ды зноў. А яшчэ: „гною нюхаць ён ня хоча, высока трымае свой нос. Ён занадта „далікатны" для нас—сялян".

Дэлегацыі, якую паслалі да яго рабочыя для перамаўленьня, паказаў ён на дзьверы:

Дык вы дэлегаты? Так? Ад каго-ж? Ад арганізацыі? Хіба вы ня ведаеце, што я ніякіх арганізацый не прызнаю? Гэ? Арганізацыя? Гэта было-б зусім ня дрэнна, калі-б хто ўмешваўся ў яго справу і правы. Ого! На пільні будзе рабіцца тое, што ён лічыць за добрае і правільнае. Толькі тое! зразумелі? Ён ня дапусьціць супраціўленьня проці сваіх загадаў. Ніякіх паўстаньняў, ніякіх змоў! А калі хто ня слухаецца бесьпярэчна яго загадам... калі ласка: даволі беспрацоўных, якія з прыемнасьцю будуць працаваць яшчэ і за меншую плату. Плата зьменшана, бо яна ў параўнаньні з вырабам была завысокая. Калі-б яны хацелі больш зарабіць, трэ' было-б больш вырабляць. І усё: кропка! Аб гэтым няма чаго весьці перамаўленьні і ня было чаго ім клапаціцца. Бывайце здаровы!

Яны кінулі машыны і пакінулі цагельню. Усе, апрача двох майстраў. „Кропка?—охо!"

Калі натаўп дайшоў да невялічкага, белага дому дырэктара, вароты саду былі загароджаны, а замест дзьвярэй дому і вакон знайшлі шэрыя жалезныя заслоны.

„Што гэта"? Хіба-ж мы зладзеі?"

Другую дэлегацыю нават і ня пусьцілі.

Яны пабылі яшчэ хвілінку каля забарыкадаванага дому і абурана пагутарылі адзін з адным. Мо' і крыкнулі штось да жалезных заслонаў. Хто-ж учуваецца ў крык у такі момант?—Потым яны адышлі і хутка расьсеяліся, бо стала ўжо позна. Пусьціць зноў машыны ніхто ўжо не згаджаўся.

Наступнай раніцай яны затрымаліся ля зачыненай брамы заводу. Над клямкай запіска з чырвонымі літарамі:

Усе рабочыя распушчаны з учарашняга дня. Хто хоча працаваць, хай заявіцца да майстраў, але будзе прыняты толькі ў тым выпадку, калі будзе выясьнена, што ён не належыць да пачынальнікаў учарашняга „эксцэсу". З кожным іншым рабочым, хто просіць работы, будзе зроблена так, нібы ён уступае нанова.

Ніхто з іх не разумеў, што значыць „эксцэс“, але ўсе зразумелі, што ў некаторых з іх справа ідзе аб жыцьці, а ва ўсіх аб зарплаце і правох. Яны засталіся ў пазадворку.

Ніхто не запісаўся ў майстраў.

Забастоўка.

Гэта было, як сказана, у панядзелак і аўторак, два дні пасьля „сарака мучальнікаў“. А ў суботу ў зусім нязвычайны час перад поўднем зьявіўся да іх на пільню стары Котрэйх—буйны селянін і ўласьнік цагельні. Пулкрабэк не заўважыў яго прыходу: ён быў заняты дзень у кутку, наладжваў паламаную цагельную форму, але мы ўсё-ж-ткі ведаем, што гэта, калі прадпрыемца нечакана вынырне сярод сваіх рабочых: адразу кожны заўважвае, што ён тут, хоць і ня бачыць яго. (Жанчыны глыбей нахіляюцца над работай і гучней працуюць пад жмякаючымі цёмнымі кавалкамі гліны, падзёньнікі хутчэй возяць свае цяжары па хісткіх дошках на рабочыя сталы і з нязвычайна рэзкім рухам валяць каламажкі,—і ўся праца ідзе цьвёрда ды каротка, і з працяглых пявучых воклікаў паміж ёй раздаюцца адрыўчастыя, вострыя загады).

І вось ён адразу заўважыў, што прышоў Котрэйх, кінуў формы і пайшоў яму насустрач. Пры гэтым яшчэ здалёк убачыў, што нешта нядобра.

Яны зьніклі пад сычачы шэпт рабочых у канцэлярыю (у пахілую каморку, дзе стары выдаваў ім звычайна плату: кульгавы стол і два кульгавыя крэслы—больш нічога) і зараз пачалося. Кулаком па сталу, так, што спробныя цэглы і каламарніцы заскакалі ў гучным танку:

„Праклятая сволач, баяцца работы! Ніколі нездаволеныя, непаслухмяныя—але пачакайце толькі!“

І не даючы зьбянтэжанаму Пулкрабэку і слова сказаць, Котрэйх грымеў далей.

Свалата! Але на гэты раз яны памыліліся. Яны адчуюць гэта на ўласным целе. Так, так, так! Забастоўка? Добра! Не працаваць?—Вельмі добра! Але тады хай ніхто не працуе! Ніхто! Цьвёрда і непарушна—хоць галаву там кінь! Урэшце ён вытрымае канчаткова, калі цагельня спыніцца на два тыдні. Ці на цэлы месяц. Ён вытрымае. Але яны..?

І так далей адным махам, пакуль не хапіла больш дыханьня і Пулкрабэк, ашалелы і збаламучаны, зайкаючыся, ня вымавіў сваіх першых слоў.

Што-ж ім, урэшце, да ўсяго гэтага? Ім тут на цагельні? да забастоўкі на пільні ўнізе і агулам? Што ім да гэтага?

Так? Нічога бадай? Нічога?

І зараз пасьля гэтага чэрства, суха і бязуважна—але з захаванай за нібыта супакоем ярасьцю:

„З панядзелка—канец рабоце. Лёкаут! Без работы на пільні—няма дошчак, бяз дошчак—няма будаваньня, без будаваньня—няма патрэбы на цэглы—зразумела?“

Аднак, калі-б ад іх залежала, каб зноў пачаць працу, ім трэ' было-б толькі растлумачыць тым пустагаловым дурням там унізе на пільні... Так, яны ведалі ўжо!

Лёкаут.

Гэта здараецца так:

Устаеш рана ў звычайны час, хоць гэта і ня трэба, ёсьць час, каб спаць далей, ідзеш на цагельню. Шлях—той самы, даўнейшы, і сьлівы, што растуць там, і глінішча там на тым баку зусім не зьмяніліся. Ї цагельня, якая паважна расьце ўгару на грабяні ўзгоркаў, стаіць таксама тут, як і раней, і калі, дасягнуўшы вышыні, затрымаць на хвіліну свой зрок на ёй, дык здаецца, нібы ўнізе за сталамі працуюць шаснаццаць жанчын звычайным парадкам на гліне з драўлянымі формамі (спачатку добра месяць і рашчыняюць яны цёмныя камякі гліны, потым высыпаюць пяском падвойныя драўляныя формы, уціскаюць у формы гліну і гладка раўняюць яе,—калі глядзіш на іх здалёк, здаецца, нібы ў іх цеста пад рукамі, ці яны, як дзеці, гуляюць з пяском, пякуць з пяску пірагі). Урэшце, усё, як раней, і, здаецца, нібы адчуваеш бляшанку каля сьцягна... пакуль адразу не зразумееш бязладзіцу, якая зруйнавала будынак ахайна лежачых адзін на адным пластоў сырых цэглаў; пакуль не напаткаеш хаосу заваленых каламажак ды зацягнутыя павуцінай формы і на пакрытых брудам сталах знойдзеш апошнія астачы заснуўшай працы—шэрыя (закамянелыя) камякі гліны, дзе па шчылінах поўзаюць мурашкі і невялічкія павукі.

Цьфу, чорт, як могілкі і гніцьцё.

Хвілінку ходзіш, спатыкаючыся, ля сталоў, абыходзіш глінішча. Потым выносішся адтуль. Ідзеш па шашы ўніз да пільні, якая мае той самы, здранцьвелы і амярцьвелы выгляд, як і цагельня. Дарогай сустракаеш пару таварышоў, якія пахмурна ідуць у лес—гальлё зьбіраць. На вёсцы пройдзеш міма другіх, якія ўжо дваццаты раз нешта рапаруюць ля сваіх хат, ці міма іншых (а тут ужо апошнія хаты), якія сядзяць на пляскатым адхоне берагу і вудзяць рыбу,—гэта тыя нямногія шчасьліўцы, што маюць дазвол лавіць рыбу. А рэшту сустракаеш пэўна пад паўднёвай сьценкай пільні ў забастовачных пастоў. Тут ляжаць яны на старых мяхох, кураць бульбяную траву і гуляюць у „Ferbl“.

Усе яны трохі панурыя і бурчлівыя, запаляюцца без паважнай прычыны і ўжо не такія, як у першыя дні забастоўкі. Сьвяткаваньне цягнецца ўжо затроху доўга, і калі голад не бярэ іх яшчэ за горла (кожны мае кавалачак картапляніку, парачку курак і напэўна нават і казу), дык крыху запасу ўжо ашчадна выходзіць, а да ўраджаю яшчэ доўгі час.

Ї маладых хлапцоў няма ўжо сярод іх. Нахабных з гарэзна нацягнутымі на вуха шырокабрылымі кепкамі і ярка разьвіваючымі канцамі гальштукаў. Яны знайшлі сабе работу дзесь у другім месцы. Тут засталіся толькі старэйшыя, якім няма куды ісьці, бо тут іх хаты, іх жонкі ды дзеці.

Жонкі—гэта таксама прадмет.

Праўда—яны ня хныкаюць ды зыкаюць, але даволі паглядзець на іх, як яны згорбленыя падкрадаюцца па-хаце, як яны рэжуць хлеб ці важаць муку. Чорт пабяры! Тады стараешся як мага менш заставацца ў пакоі.

На дварэ раньняя вясна. Ясная і палахлівая. Праўдзівая раньняя вясна, поўная паветраных пахаў і вадзяных фарбаў: белай, бледна-блакітнай, квола-зялёнай.—Пах з зямлі, паветра з ракі, пах смалы.

Прыгожа! Так!

Але ўсё-ж-ткі ня тое, што ў першыя дні.

Ці ўспамінаеш ты яшчэ пра тых жартаўнікоў?

„Як ляжыць ён, глядзеце толькі! Як грап! Гэта пасуе табе, таўстун, што? Ад доўгага гультаяваньня ты здорава таўсьцееш. Тваёй старой трэ' будзе менш бульбы варыць.. “

Ці жарты, калі смажаць рыбу:

„Ну і малая-ж рыбіна!“

„А ты даў ёй расьці!“

Цьфу!

Аднак вернемся зноў да вядомага пакою, які раптам пачаў расьці:

Жонка, значыць, хворая.

Чорт ведае, як гэта прышло. Ніколі раней жонка не хварэла. Праўда, лішку сала ў яе ніколі ня было і заўсёды можна было ў яе пералічыць рэбры, як дошчачкі курасадні... адным словам, як гаворыцца, сапраўдны хорт! А ў руках больш сілы, як у іншага ад'еўшагася мужыка, і жылы, поўныя жывога срэбра. Такая бадзёрая, жывая, як рэдка хто, і вось раптам...

Дый хто разьбярэцца ў гэтых хваробах!

І вось ляжыць яна ўжо колькі месяцаў у ложку: твар жоўты, зморшчаны, як вялы ліст—толькі на касьцях шчок чырвоныя плямы, а ля вачэй сінія цені,—і калі хто ўваходзіць у дзьверы, яна нават і галавы не паверне. І кожную раніцу твар усё крыху больш зьнясілены, а цела больш схудалае і змарнелае, як учора. Чыста, быццам, яно растае! Але, але—растае! Цікавая, праўда, думка, але яна так і гнязьдзіцца ў чэрапе, асабліва, калі так сядзіш і глядзіш на жоўты твар, які займае толькі невялічкі, са сподак, кавалачак чырвона-белай у клетачкі наўлечкі. Яна растае, Мілада, ніякага сумненьня. Як кавалак цукру, які трапіў у макроцьце: ціха, няпрыметна, але няўпынна.

Даволі жудасна робіцца каму хочаш пры гэтых думках. Цьфу, чорт!

Хоць-бы яна прынамсі вохкала ці стагнала, ці крычала, ці кідалася, ці кашляла. Але не—нічога. Ціха і нярухома ляжыць яна, слова не гаворыць і глядзіць перад сабой напалову заплюшчанымі вачыма, быццам кожны момант хоча перанесьціся ў яшчэ больш глухі, жудасны сон.

Толькі адзін раз за ўвесь час яна сапраўды прачнулася. Тады, калі ўрач хацеў зьмясьціць яе ў больніцу.

У больніцу яна ня пойдзе. Туды ніякім чынам яе не даставіць, нават гвалтам! Хай і не прабуюць зусім, а то яна, як ёсьць, у кашулі ўцячэ. У лес, ці... ці проста ў ваду.

„Але, у ваду, лепш у ваду, чымся туды“.

Яна так узварушылася, што яе, праўда, нехаця, паслухаліся, і яна тут засталася.

Хварэць—каштуе грошы. Гэта старая праўда. Чым больш грошы, тым даўжэй хвароба цягнецца. Гэта так ужо даўно вядома і само сабой зразумела, што аб тым нечага было-б і гаварыць, калі-б тут якраз ня быў, так кажучы, „закопаны сабака“.

А гэта значыць:

За гэтыя пяць тыдняў, ты, міленькі, ня рэдка ўжо галадаваў; і калі забастоўка ды лёкаут яшчэ далей працягнуцца (а гэта ідзе да таго!), ты пагаладаеш яшчэ больш, чымся да таго, але з голаду ты не памрэш. Нават, калі апошні запас у цябе выйдзе. Бо паесьці табе і тваёй жонцы яшчэ штось знойдзецца. Нават і кропля малака для жонкі. Ёсьць яшчэ добрыя таварышы. Малайцы хлопцы, не дадуць загінуць. І пакуль у іх ёсьць яшчэ кавалак хлеба, знойдзецца ён і для цябе. Такім чынам, ты не памрэш з голаду. Але грошай... грошай ты не дастанеш, нават у найлепшых таварышоў. Бо і ў іх няма грошы.

З „манэтай“ справа вельмі няпэўная—і якраз іх вось і трэба. Урач, бадай, пачакае, пакуль зноў будзе работа, і заплоціш яму, але лякарства—не. Яно хоча чыстыя манэты на стойку. А аб тым, каб папрасіць у аптэкара ў крэдыт, як, прынамсі, у шаўца ці пекара, і ня думаеш, калі глядзіш на поўнаважную павагу малочных вакенных шыб і цёмнаафарбаванай драўлянай разьбы і цёмную прыгожасьць рубінава-чырвоных, блакітных ды жоўтых фіёляў, на пабожную няцямкасьць вычварных літар на белай парцалянавай шыльдзе... на раскошную ўрачыстую пышнасьць (у Круцы нават і нос поўны патройных пахаў: царквы, службовага месца і больніцы), якая прыдушае, калі пасьля шматгадзіннае падарожы па сонечным, гарачым шляху ўваходзіш у чыстую прахалоду невялічкай сялянскай аптэкі (яшчэ ля дзьвярэй здымаючы, па прывычцы з маленства, шапку).

І пры тым—хм—праўду кажучы—хм—лякарства да гэтага часу зусім не дапамагло.

Мілада ўвесь час глытае пігулькі і кроплі, а ўсё-ж ткі на вочах растае... ну, як кавалачак цукру. Так! і аднойчы...

Тут зьяўляецца новая думка і на момант разьбівае ланцужок папярэдніх: „Калі лякарства ні да чога, дык навошта яго яшчэ купляць?“

На момант толькі, потым ён зноў спалоханы. Але ня жахам ці сорамам, ці любоўю. Не.

Пулкрабэк гэтага не палохаецца, бо ўжо ня першы раз, калі ён думае пра жончыну хваробу (як яго прывычка—паважна і аглядчыва,

быццам цэглы кладзе ў печы пластамі: кожную цагліну спачатку паверне, агледзіць, абмацае, спрабуе, у руцэ ўзважыць і тады ўжо паложыць на месца) і ня першы раз, што ён дойдзе да вываду—хвароба гэтая, напэўна, дрэнна скончыцца.

Ён і не сароміцца, бо чаго яму саромецца адзнаньня, якое ўціснула яму ў галаву само жыцьцё, нязграбнае, вуглаватае, беднае, скупое жыцьцё цагляра, саромецца таго, што яго адзнаньні, праўда, грубыя, нязграбныя, але затое зразумелыя. Так, напрыклад:

„Пакуль ты здаровы, усё добра. Калі-ж ты ўжо сам ня свой і няма вялікай надзеі, што зноў станеш на ногі, дык і табе і другім лепш, каб ты раней, а не пазьней лёг у зямлю“.

Такім чынам, сполах і сорам тут ня пры чым. А што да каханьня... дык, божа-ж ты мой, калі Пулкрабэк глядзіць так проста на сваю Міладу, ён ніяк не разумее, як магла яна замарочыць яму галаву. Праўда—прыгожыя, роўныя зубы і густыя цёмныя валасы ўсё яшчэ пры ёй, але, як кажуць,—каханьне.

Яно не палохае новую думку.

Ї ўсё-ж ткі застаецца адно: справа ідзе аб таварышу і нельга пакінуць яго.

Ї другое, ня менш глыбака прышчэпленае ў крыві ды няменшая праява і пабудка жыцьця, што б'ешся ўсё жыцьцё: сёньня, як і раней,—пакуль дыхаеш. У спакойным самаразуменьні і бяз шмат якіх слоў: скрыта, бязумоўна, цягуча. За ўсё і з усім. За кавалак хлеба і за ноч з жонкай, са старым Котрэйхам і з халоднай зімой.—Ї з гэтай зрадлівай хваробай, напэўна, само сабой зразумела.

Таварыша не пакідаюць.

Гэта-ж так ясна, ці няпраўда? Тут няма чаго і тлумачыць, хіба няпраўда? Гэта-ж зусім, зусім зразумела і проста:

...Хто мог падумаць? га?

Хто мог паверыць?

Сапраўды-ж справа не такая простая, як здаецца. Сапраўды яна больш вычварная. Нават зусім надзвычайна вычварная.

З аднаго боку ясна, што лякарства купіць трэба. Бо жонка—таварыш, і гэтага таварыша нельга ў бядзе пакідаць. А з другога боку—нельга пакідаць і таварышоў з цагельні ды пільні, і гэта робіш напэўна, калі слухаешся тэй праклятай карткі, якая ўжо даўно жаўцее на дошцы валаснога будынку.

Шукаючыя працы

(таксама і нявучаныя)

Прымаюцца кіраўніцтвам пільні безадкладна. Плата па згодзе. Задатак 20 крон зараз пры падпісаньні ўмовы. Заявы штодня да 5 гадзін у канцэлярыі кіраўніцтва.

Што-ж застаецца рабіць, урэшце, калі ў таварышоў і сьцёртага крэйцэра ўжо больш ня дастанеш, і хутчэй выцісьнеш вады з каменю, як пару зэксэраў з селяніна?.. Што-ж застаецца, як ня шлях да канцэлярыі прадпрыемства, калі на хочаш пакінуць жонку зусім без дапамогі? (Так, так: лякарства, мусіць, нічога ня варта, але Мілада верыць у яго. Глытае яго з гэткай верай, што ты павінен ёй дастаць. Чуеш? павінен!—хіба ты мізэрны злыдзень).

Хм... а калі пойдеш і запішася... хіба ты тады не падлюга?

Але, гэтак чартоўску заблытана справа. Круці, паварачвай яе, як хочаш,—а ўсё-ж такі застаешся падлюгай, які пакідае сваіх таварышоў у бядзе. Так, ці гэтак—усё роўна. Смажана ці скварана, скачаш ці гойцаеш, засела ў мельніцы і нікуды!

Торгай сабе, колькі хочаш, свой нос-бульбу, перашаруй свой бліскучы жоўты чэрап-яйкам (якія дурныя рэчы напамінае гэта галава і якая галодная яна з пагляду), усе разьлікі і сьвідраваньне не дапамагаюць. Не ажыцьцяўляецца прыказка аб воўку, які наеўся досыта, а каза засталася.

Праклятая гісторыя!

Няма карысьці гаварыць сабе:

Той і гэты тады вельмі мала клапаціліся аб сваіх таварышох.

А сам зараз пярэчыш сабе:

А калі ён зрабіў гэта ўжо, дык няўжо-ж ты таксама зробіш, стары?—бачыш:

Няма карысьці, калі, напрыклад, так мяркуеш:

Нарэшце, кожнаму свая кашуля бліжэй да цела.

І тут-жа сам пярэчыш сабе:

Так, але Мілада ёсьць толькі паасобны чалавек, а тыя там—цэлы вялікі натаўп—і хіба можна з-за аднаго, які ўжо, да таго, гасьне, і ўсё-ж-ткі ён гэта, ці не?

Ці..?

Але ў тым выпадку...

Ну, і што-ж?

Ну, і што, уласна? Што-ж, к чорту?

На шчасьце якраз у гэты момант найвялікшага заблытваньня ўсплывае старая пэўная, мілая думка і нясе спакой:

„Хіба ты забыўся? Перабудаваць! Трымацца разам!“

Але гэта трэба растлумачыць.

Нарэшце:

На працягу доўгіх гадоў працаваў ты ўсё пры цагельнай печы, на сталох з формамі, на сухіх мясцох, меў справу толькі з правільнымі цэгламі: дапасоўваў іх, гладзіў, раўнаваў, складаў пластамі—будаваў, як кажуць.

Гэта ўвайшло ў тваё цела ды кроў. Гэту думку, яшчэ значна раней, як цябе ў першы раз чулі, табе даверылі яснымі словамі і зрабілі мілай

табе (дзе гэта было? у поўнай людзей шынковай салі, ці ў перапынку сярод працы? і калі?):

„Вось будуюць і будуюць: дамы і фабрыкі і яшчэ штось. А ці ня трэ' было-б сьпярша перабудаваць гэты запаскуджаны сьвет? Ён нягожы такі, які ён ёсьць. Паразыты занялі найлепшыя месцы, а мы—маем дрэнь... Зруйнаваць, а пасьля перабудаваць. Грунтоўна і ахайна, як належыць, пабудаваць зусім новы будынак, дзе кожны, хто прыстойна працуе, атрымлівае і прыстойную пасаду. Таксама добрую і таксама вялікую, як другія! Так! Гэта, натуральна, ня лёгка і аднаму гэтага не зрабіць, але, калі ўсе разам (сапраўды-ж: нас большасьць!), калі ўсе добра разам, справа павінна пайсьці".

Трымацца разам.

Трымацца разам.

Гэтая думка—і ўцеха і прытулак. І поўнае радаснай надзеі таменьне мізэрнай сучаснасьці, якая з нязрушнай верай чакае сьветлай і багатай будучыні.

Хіба ня ясна, што павінна здарыцца?

Пасьля выходзіць усё-ж-ткі ня так. Вінаваты ў гэтым ночы. Калі-б іх ня было на працягу апошніх трох сутак, дык справа вышла-б ня гэтак, напэўна—ня гэтак.

А ўдзень, калі наўпрэкі ўсім беспарадным думкам і добрым падставам заблытанасьць пагражае нарэшце вырасьці вышэй галавы, маеш, прынамсі, тое, што цябе прыгнятае, рачаісна і зразумела перад сабой, запіску, напрыклад, ці парожнюю бутэльку з-пад лякарства. Тут бачыш ясна, што і задатак (дваццаць крон—не малая сума) маюць свой поўны сэнс і справядлівасьць; але і даведваешся, што шлях да канцэлярыі прадпрыемства ёсьць нішто іншае, як лютая дарога праз шпіцрутэны (міма ўсіх вакон), занадта доўгая, каб дайсьці па ёй да канца. Тады фактычна назіраеш, як твар жонкі за гэты дзень схуднеў хутчэй, чым да сёньня, але заўважаеш таксама, што таварышы пачынаюць рабіцца ўсё больш недаверлівымі, калі затрымаешся перад пажоўклай карткай.

Уначы ўсё інакш. Тады няма гэтых рачаістых, зразумелых, сапраўдных рэчаў, якія дапамагаюць табе ўдзень. Тут ты застаешся адзін, зусім адзін з гэткім ціхім і ўсё-ж ткі гучным дыханьням хворай, якое ты чуеш, быццам безнадзейнае тупаньне зморaных, якія заблудзіліся, дзяцей ці тыханьне шашаля ў старым дрэве. З гэтым дыханьнем, якое робіцца ўсё часьцейшым ды пераходзіць у марш, бясконца доўгі шлях да канцэлярыі прадпрыемства робіцца адным малюсенькім крокам, а твар Мілады—невялічкім белым пэрламутравым гузікам.

Тры ночы бароніцца ён.

Змагаецца.

Борыцца.

Кашляе, вохкае, стогне. Зашамыліўся. Вочы сухія. Мокрыя скроні. Пры надыходзе чацьвертага дня ён складае зброю.

Інакш нельга.

А потым здарэньні разгортваюцца ў наступным хронолёгічным парадку:

Раніцай таго чацьвертага дня прападае Пульграбэк раней усходу сонца з хаты і сяла невядома куды.

На працягу раніцы таварышы, сабраўшыся на раду ў шынок „Сьвяточны панядзелак“, дарэмна яго чакаюць (што ў яго сёньня? раней ён быў самы спраўны ад усіх), тры разы пасылаюць за ім хлопца на Верхняе сяло, два разы ў яго хату, і раз нават на цагельню. (Хто ведае: мо' ён швэндаецца там на гарэ. У апошнія дні з ім робіцца нешта дзіўнае) тры разы—і дарэмна.

Каля поўдня, калі ўсе ўжо ведаюць, што з Войтам Пулкрабэкам „нешта здарылася“, зьяўляецца нехта з весткай, што жонцы вельмі дрэнна... Хоць Пулкрабэка яшчэ няма. (Стой, вось што! Натуральна: ён пайшоў за дохтарам).

У самы поўдзень вестка, што, як толькі Мілада памерла, адразу зьяўляецца і Пулкрабэк, моральна зморaны і расстроены: боты белыя ад дарожнага пылу, твар потны і вельмі брудны.

Калі ён ідзе з Верхняга Сяла да воласьці, ясна, што ён ідзе паведаміць урад ад сьмерці жонкі.

Ён паважна рушыць уперад, крокі яго быццам някывыя і цяжкія, цела схілілася, як пад цяжарам. На пару заклікаў (Дай яму спакой, ня кліч. Жонка...) не зьвяртае ён увагі.

Перад воласьцю ён спыніўся, але толькі на той час, каб упэўніцца, што вядомая картка яшчэ тут; тады тупае ён зноў далей па шляху да пільні. Ля ракі бочыць ён з вялікага шляху на сьцежку, якая недалёчка ад ракі вядзе да маленькага белага дамка дырэктара.

Пыкаючы ад замяшаньня, з шырока адкрытымі вачамі ўставіліся на яго забастовачныя пасты, якія цягаліся ля варот прадпрыемства паводле звычаю, ці таму, што больш ня было чаго рабіць.

„Алё!“

А ён зьнік ужо ў белым доме.

Поўгадзіны пазьней, якраз пакуль малады ахвотнік у найглыбейшым замяшаньні зразумеў, чаго хоча ад яго чалавек,—калі Пулграбэк, сударжна сьціснуўшы хрусьцячую 20-кронавую асыгнацыю ў кулаку, зноў вышаў з змроку канцэлярыі на яркі дзенны сьвет, там сабралося ўжо поўсяла.

Убачыўшы яго, узбуджаная маса анямела. Ён стаіць хвілінку на парозе, рукі млява апушчаны, шэры твар глядзіць коса ўперад, як

асьлепшы сабака, які шукае зьнікшага сьвятла. Потым раптоўным рухам ідзе ён дзіўна няжывымі ды цяжкімі крокамі на чалавечы натаўп, які разьдзяляецца і дае яму вузкую дарогу.

Цішыня.

Чуваць толькі тупат і шарханьне цьвікоў ды падкоў на ботах Пулкрабэка.

І як гэты тупат ды шарханьне адно парушае цішыню, так і зморaная, каменная хада Пулкрабэка жыве як адзіны рух сярод вялікай прыгнятаючай нярухомасьці.

Паважна зьнікае ён за першымі хатамі сяла.

На поўдарозе да сваёй хаты якраз супраць воласьці яго затрымлівае старая Мар'янка і пытаецца ў яго сваім громкім траскучым, як у глухіх, голасам, ці праведна і лёгка памерла Мілада. (Яна, бедная, варта, дальбог, лёгкай сьмерці).

„Што—?"

Бяз сэнсу глядзіць ён на яе, зьбіты з панталыку.

Яна паўтарае сваё пытаньне.

„Што-о?!"

Раптам твар яго прачынаецца, такі жудасны, поўны жаху, што Мар'янка, сакочучы і жагнаючыся, адскочылася:

„Езус-Марыя і Восіп!"

„Сусмар'янд Восіп! З ім дрэнна!"

І ўцякае, скавычучы, ад яго; а ён хістаецца, як п'яны, і потым цяжка валіцца на зямлю.

Калі яна з многімі другімі вярнулася, Пулкрабэка больш ня відаць. Ляжыць толькі брудная старая скураная шапка і чырвона-блакітны банкнот, скамечаны ў невялічкую кулю.

У той-жа самы час у гары ў сваёй хаце Войта Пулкрабэк (жонка на пасьцелі глядзіць ашклянеўшымі вачыма, жоўтая, як воск, з завостраным носам) бярэ з цьвіка доўгую тонкую папругу і робіць пятлю.

Але не для таго, каб павесіцца, а толькі—падцягнуць свае майткі.

Падцягнуць моцна на доўгую падарож. Па шмат вёсак ад цагельні да цагельні.

Яму трэба сыйсьці. Не дзеля таго, каб змыць пляму—праўда—рука яшчэ гарыць ад дотыку чырвона-блакітнага банкнота, але ён ведае, што, ня гледзячы на тое, што здарылася, ён не падлюга. Ён ідзе, бо трэба сваё новае адзнаньне нясьці далей. Яно найшло на яго пасьля першага тлумнага віхру жаху, ярасьці ды роспачы, калі ногі пасьля таго, як ён быў упаў, спатыкаючыся і хістаючыся, шукалі дарогі дамоў.

Ня мы вінаватыя. Ні таварышы, з-за якіх жонка, ні жонка, з-за якой таварышы, ні Пулкрабэк, які зрадзіў абоім (і яшчэ млявай мары аб лепшай будучыні).

Ніхто з нас.

Другія:

Котрэйхі і тыя з белага дырэктарскага дамка.

Усе тыя, хто зачыняе свае пільні ды цагельні, каб нас захапіць, усе тыя, хто піша карткі, каб зрабіць нас жабракамі.

Усе разам, хто сядзіць у цяпле і каму падабаецца гэты запаскуджаны, несправядлівы сьвет... і каго трэба спусьціць, раней, як мы пачнем.

А з перабудаваньнем—адбудаваць трэ' станоўча і чыста, як належыць, новы сьвет, дзе ні Мілада не застанецца без лякарства, ні Пулкрабэку ня выпадзе з-за гэтага стаць падлюгай.

Так, а ня інакш як, ідзе справа.

Пер. з нямецкае мовы **Ю. Зэмель.**

# НЯМАЯ БАРАЦЬБА

*(З жыцьця Зах. Беларусі)*

**Л. Радзевіч**

Рабочы квартал. Субота. Акружком партыі—Мірэк, Ігнат, Жэня, Абраша і Тодэк—сабраўся ў памяшканьні Ходаша. Гэта было адзінае памяшканьне, дзе можна было яшчэ сабрацца,—усе іншыя былі раскансьпіраваны, і за імі сачылі шпікі.

Дэфэнзыва напружыла ўсе сілы, каб паралізаваць дзейнасьць арганізацыі компартыі, якая, з свайго боку, мобілізавала ўсе сілы, выкарыстала ўсе магчымасьці для разгарненьня аднэй з сваіх важнейшых кампаній. Белы тэрор бушаваў ва ўсю. Павальныяператраскі, масавыя арышты, за найменшае падазрэньне арышт, а там катаваньне, калецтва, нялюдзкі зьдзек, патайнае забойства, якія на афіцыяльнай мове называюцца „самагубствам", ці „забойства пры ўцёках".

Трэба было мець надзвычайна разьвітую асьцярожнасьць і консьпірацыйнасьць, трэба было ўжываць увесь спрыт, развагу і стойкасьць, каб ня ўскочыць на зуб дэфэнзыве, каб не пахіснуцца пад ударамі белага тэрору.

Кожны падпольны работнік, нясучы страшэнна цяжкую і трудную, але радасна-бадзёрую адказнасьць за рэволюцыйную справу, жыў у гэтыя часы ўсёй сваёй нэрвовай сыстэмай, жыў надзвычайна напружаным трывожным жыцьцём. Мусіў пільна сачыць за ўсім вакольным, за кожным сваім рухам, сваім словам, кожны момант быць гатовым прыняць удар дэфэнзывы. У такім жыцьці тая ці іншая нэрва, нацягнутая да апошняй меры, ня вытрымлівала і рвалася незаўважана і бяз болю. І толькі пасьля, калі спадала гарачковасьць і ўлягалася ўздыбленая энэргія, парваная нэрва напамінала аб сабе і парушала гармонію організму.

Падпольнік у фашыцкай Польшчы рызыкуе сваім жыцьцём, ён жыве як-бы ў ваеннай абстаноўцы. Аднак, нельга раўняць перажываньні падпольнага работніка з перажываньнямі ў часе вайны. Там адвага, страх і мэта фізычнага зьніштажэньня ворага ў адкрытым баі. Тут усе гэтыя пачуцьці таксама ёсьць, толькі значна больш складаныя. У падпольнага работніка пераважае барацьба самай тонкай і вострай зброяй—думкай ці, так сказаць, барацьба душэўная, барацьба за ідэолёгію, за настрой мас, за ўплыў над імі, ідзе змаганьне нутром, моцай розуму, трываласьцю нэрваў. Кожны крок падпольніка павінен быць асьцярожны, як кошкі, і сьмелы, як ільва. Кожны падпольнік нясе ў сабе найкаштоўнейшае зерне,

узятае з рэволюцыйнай сусьветнай скарбніцы, і мусіць яго пасеяць сярод шырокіх мас ды так, каб многавокі і многавушны вораг загадзя не адабраў. Не аддаць гэтае зерне, хоць-бы вораг хацеў разам з жыцьцём яго вырваць, бо ворагу ня сьмерць твая патрэбна, а іменна тое чарадзейскае зерне бальшавізму. І мэта дэфэнзывы паляваць, вылоўліваць, настаўляць сеткі і пасткі, жудаснымі нялюдзкімі мукамі з кроўю, з енкам вырываць гэтае зерне з нутра рэволюцыянэраў.

Пры такіх абставінах паседжаньне АК павінна было мець шпаркі тэмп і праходзіць пры найбольшай асьцярожнасьці. Бяз лішняй траты часу прыступілі комуністыя да абгаварэньня спраў. Праца адбывалася організавана і паводле строгага пляну. Кожны разгортваў думкі толькі па чарговым пытаньні дня. Думкі ўсіх працавалі гармонічна і разьвіваліся ў адным пэўным кірунку. Кожная думка ўзважана, адмерана. Словы, як цэгліны, прымяркоўваліся адно да аднаго, старанна кляліся ў парадак і зацэмантоўваліся пастановай. Нягодныя словы адкідаліся, як брак. Ішла пільная, але організацыйна вытрыманая будова рэволюцыйнай барацьбы, вырастала зграбная сыстэма мэтодаў працы на бліжэйшы час.

Але давясьці паседжаньне да канца не ўдалося.

У пакой увайшоў узброены паліцыянт-пшодовнік.

Гэта было так нечакана і раптоўна.

Уся плянавасьць і гармонія паседжаньня, як бомбай, узарваны. Нібы цягнік у сваім шалёным імпэце раптам згубіў рэйкі пад коламі.

Гэты гвалтоўны перабой плыні думак комуністых выявіўся ў гарачковых чырвоных плямах, альбо ў суцэльнай бледнасьці на іх тварах.

Аб тым, як трымацца, што далей рабіць, кожны бліскавічна рашаў пасвойму, адкідаў адзін проект за другім і хоць не глядзеў на паліцыянта, каб ня выдаць сябе, аднак украдкай сачыў за найменшым яго рухам.

Паплылі, замітусіліся крывавыя вобразы дэфэнзывы.

Ні адзін з іх носіць сьляды яе лап.

Інстынктыўна кожны шукаў вокам пазьдзіраныя пазногці і ад гэтага прыкра-гідкія пальцы Мірэка. На зьмену жудасьці і разладу думкі выступала трывога,—усё больш балюча ўдаралі пытаньні.

А што будзе з працай? Як з організацыяй?? А сувязі???

І мімаволі ўзрокі комуністых сустрэліся. На гэтыя пытаньні ў іх вачох быў настойлівы адказ пытаньнем.

Дык што цяпер рабіць?

Жэня, прыгнуўшы кучаравую галаву ў цені каштанавых валасоў, давала бліскучыя знакі вачмі, каб скочыць на паліцыянта і пакончыць з ім, а дрыготкія яе пальцы нэрвова выяўлялі бязвыходнасьць становішча і сваю гатоўнасьць. Яе заклік у гэтую часіну быў вельмі актуальны і прывабны—ён сярод мінутнай дэзорыентацыі і няпэўнасьці комуністых пачаў заваёўваць прыхільнасьць. Першы далучыўся Ігнат. Гэты вясковы гэркулес сьціснуў сківіцы, разьдзьмуў ноздры і, як раздражнены

бык, глянуў спадылба на Абрашу, у якога непаслухмяныя дрыготкія рукі даволі неконсьпірацыйна згортвалі запісаныя карталюшкі са стала.

Аднак пшодовнік трымаўся так, што большасьць комуністых пераканалася ў тым, што нападаць на яго заўчасна, што ёсьць маленькая надзея на іншы выхад, у якім менш рызыкі і менш для іх страты.

Паліцыянт, увайшоўшы, адразу ня скеміў, што трапіў на паседжаньне комуністых. Ня было яму прычын так думаць. Стукаўся, дзьверы былі адчынены; субота, прышоў у хату яўрэя, магчыма, што госьці... сьвяткуюць...

Увайшоўшы, адразу запытаўся, хто тут гаспадар Ходаш, якому ён прынёс ад палітычнай паліцыі нейкую паперыну. Ходаш вышаў з суседняга пакою. Гм, а чаму ён не з гасьцьмі, цюкнула паліцыянту. Тут кінуўся яму ў вочы і зьбянтэжаны Абраша. Прыглядзеўся да грамады. Ёсьць ня толькі хрысьціяне, але нават і вясковы тып. Даўжэй затрымаў узрок на Ігнату. Лішня панурай выдалася яму фігура Жэні. Усе чамусьці сядзяць за пустым сталом, а той паперкі хавае. І ўсё гэта дзеецца ў Ходаша, які замешаны ў палітыцы. І вось тут наляцела пшодовніку шматабяцаючая думка: комуністыя. Пагладзіў вусы, штучна непатрэбна адкашляўся, патупаў на месцы.

— Дык якую вы мне паперку хочаце даць,—запытаў Ходаш галасам, які выяўляў душэўны непакой, хоць ён намагаўся надаць яму натуральнасьць.

Пшодовнік не адказаў, сеў з павагай за стол, палажыў на каленях портфэль і пачаў у ім капацца. Відавочна было, што, перабіраючы паперкі, ён адначасна наглядаў за прысутнымі, што шукае ён не паперы да Ходаша, а адказу, што яму тут рабіць.

Першай яго пастановай было спытаць ува ўсіх дакуманты і перапісаць іх.

Але гэтага мала; ад начальства ня толькі будзе падзяка, а можа нават уляціць, што ў такі „гарачы“ час выпусьціў такіх важных птушак. А птушкі, відаць, не абы якія, важныя.

І рашыў: арыштаваць!

У зьвязку з гэтым пшодовнік, зрабіўшы міну на твары, быццам нешта пільнае ўспамінае, падняў галаву і пачаў нібы ад няма чаго рабіць аглядаць прысутных, каб ацаніць іх „важнасьць“ і адпорнасьць пры арышце. Маючы набітае вока ў так званых вывротовых справах, ён ня мыляўся ў характарыстыцы кожнага. Верхаводам вызначыў ён Мірэка, а Тодэк, Ходаш, Абраша таксама „фігуры“ і ад Мірэка не адстануць— пойдуць і гатовы на ўсё. Не спадабаўся паліцыянту і вялізны кулак Ігната, што так дэмонстрацыйна красаваўся на стале. Жэня, відаць, запальчывая і можа нарабіць шмат клопату.

Наогул, самахоць яны не здадуцца, гэта зусім ясна, і рызыка тут немалая.

Агледзеў і памяшканьне, як стратэг поле бойкі. Другі паверх, адно вакно, але двое дзьвярэй—месца нявыгоднае, шмат можа ўцячы.

Усе перажываньні прысутных мерыліся сэкундамі. Думка бліскавічна зьмянялася думкай, выраслалі новыя пляны і проекты, перарашаліся пастановы — ішла зацятая, не на жыцьцё, а на сьмерць, нямая барацьба паміж паліцыянтам і комуністымі. У кожнай мазгавой каморачцы паліцыянта ішло змаганьне паміж зьвярыным страхам перад сьмерцю і павабамі тых нагарод і кар'еры, якія чакалі за ўдалы арышт. Кожны комуністы стараўся, наколькі ўмеў, манэўраваць у барацьбе і трымацца грамады... Комуністыя былі вельмі раззлаваны апошнімі бесьперастаннымі ўдарамі па іх організацыі і ў даным выпадку кожны цьвёрда наважыў ужыць усе меры і сродкі, каб выратаваць хоць частку акружкому.

Калі паліцыянт шукаў паперыну, комуністыя ня ведалі, дагадваецца ён пра што-небудзь ці не, і ўсе стараліся выглядаць спакойнымі і незацікаўленымі, што каля іх адбываецца. Тодэк зрабіў рух нібы пазяхае, Абраша калупаў пад пазногцем, толькі Жэня выразна выяўляла свой штурмовы настрой і гэтым рабіла ня мала клопату таварышом, якія баяліся яе самастойнага выступленьня. Доўгі, калючы, загадываючы ўзрок Мірэка крыху яе ўціхаміры́ў. Але Мірэку гэтае напружаньне волі, гэты радыё-загад ня мала каштаваў — ён намерыўся ацерці пот, але тут-жа пасьпяшыў схаваць скалечаную дэфэнзывай руку, бо ў гэты момант на яго глянуў паліцыянт, які не прапускаў ніводнага руху комуністых.

Пшодовнік перадаў Ходашу паперыну і сказаў расьпісацца ў атрыманьні, а сам, расьпёршыся на стале і, нагла гледзячы ў вочы Мірэка, Ігната і Тодэка, сказаў, крывячы рот іроніяй.

— Ну што-ж, шабасуеце разам з жыдамі?

Гэты зварот, які выразна казаў, аб чым думае вораг, прымусіў усіх комуністых схамянуцца і быць напагатове, што выклікала паміж імі маленькае замяшаньне і што не прайшло міма вока паліцыянта.

Пан пшодовнік набіраўся рашучасьці, ён усё больш нахабна стараўся злавіць узрок прысутных, провокуючы іх на гэта рознымі спосабамі, асабліва пільна ўглядаўся на Тодэка. Мірэк заўважыў, што паліцыянт пазнаў яго таварыша, што ён ня раз памыкаўся пачаць гутарку з Тодэкам, але, відаць, баяўся выдаць перад комуністымі свае думкі, баяўся іх нападу. Тодэк, відаць, таксама ўспомніў сваё знаёмства з паліцыянтам, бо яго рухі зрабіліся кантаватымі і неспакойнымі—ён грыз пазногці, рашпільваў то зноў зашпільваў жакетку, урэшце нагнуўся і пачаў правіць шнуркі ў камашах.

Хутка ўсе комуністыя ясна ўбачылі, што паліцыянт апазнаў іх таварыша, усе яны разумелі, што, мабыць, цяпер не абойдзецца бяз гвалту, а можа і сьмерці...

Зноў Жэня памыкаецца яднаць каля сябе на наступленьне, але тут яе конкурэнтам выступіў Ігнат, які нядвузначна даваў зразумець тава-

рышом, што ўжо час пачынаць. Кроў яму ўдарыла ў твар, зачырванеўся па вушы, вочы палыхалі, набраклі жылы, усёй сваёй паставай ён быў гатоў да скоку.

Мірэк і Ходаш былі яўна процiў такога несваячаснага паўстаньня.

Тодэк здэзорыентаваны.

Абраша выразна трусіў.

Паліцыянт заўважыў рознабой у комуністых, наважыўся выкарыстаць спагадны яму момант і пачаць наступленьне. У яго ўжо гатоў і плян нападу: адойдзе да выхадных дзьвярэй, накіруе рэвольвэр і кожнага, хто памкнецца ўцякаць ці напасьці на яго,—класьці трупам. Трывожыла толькі няпэўнасьць, што рэвольвэр можа хібіць, альбо кульня хопіць.

Ён схаваў расьпіску Ходаша, многазначна крэкнуў, адышоў ад стала і меркаваў так стаць, каб усіх мецъ перад сабой. Зноў прамацаў поглядам мускулы і здольнасьць да барацьбы кожнага комуністага. Эх, будзе зараз жніво,—радаваўся ў душы пшодовнік,—толькі, каб усё абмазгаваць і не спудлаваць у чым, бо справа вельмі сур'ёзная і небясьпечная. Для большай пэўнасьці і для пострaху на другіх можна, а то нават і трэба, застрэліць каго-небудзь, хоць-бы гэтага чырвонамордага вяскоўца. Забойства надасьць нават больш гэройства і важнасьці ўсяму выпадку, скажа, што бараніўся, ратуючы інтарэсы Рэчыпосполітай. Пасьля выстраліць у паветра раз-другі, гэтым стэрорызуе іншых, а тут і паліцыя падбяжыць, і ўсё будзе ў парадку.

Позыцыя, занятая паліцыянтам і яго нахабнае абыходжаньне набліжала момант разьвязкі. У хаце запанавала жудаснае маўчаньне. Усе тасядзелі нярухомыя, кожнаму здавалася, што чуў стукат сэрца сваіх таварышоў, чуў рух яго думак. Кожны сьпешна мобілізаваў усю сваю сілу і рашучасьць. Ішоў маўклівы падзел роляй. Мірэк павінен быў першы даць знак пачынаць. Кожны адзін аднаго ў момант зразумелі, усе зрабіліся аднадумцамі, зрабіліся організаванай сілай.

Парушыў адзінства толькі Абраша. Страх, які ён нядаўна перажываў, як у прорву зьнік, але ён ня жыў трывожнымі перажываньнямі таварышоў, не запальваўся іх вагністымі думкамі. Абраша адчуваў сябе ўжо арыштаваным і заняўся сваімі клопатамі, стараўся лучыць момант, каб зьнішчыць запіскі, дзе было некалькі прозьвішч і адрасы. Абраша стаў цяжарам і перашкодай комуністым у шалёным імпэце іх перажываньняў.

— Так! — адазваўся паліцыянт сярод глыбокага маўчаньня. Гэта быў як-бы ўдар каменя па ваконнай раме — шкло зазьвінела, але ня трэснула.

Зазьвінелі, ускалыхнуліся думкі комуністых, усіх узрокі перасякліся ў вачох Мірэка. Мобілізаваная энэргія прабівалася наверх—кожны рух, кожны подых, пастава, узрок—усё крычала: трэба пачынаць, час ужо!

— Так! — нечакана для сябе бахнуў Ігнат, нібы рэха паліцыянту. Усе ледзь зварухнуліся з месца, нібы пачуўшы кароткі ўдар электрычнага току.

Пшодовнік крутым рухам хапіўся за месца, дзе вісеў рэвольвэр.

Напружаньне сярод прысутных дайшло да кульмінацыйнага пункту.

Пшодовнік адразу адчуў на сабе ўзрокі ўсіх комуністых. Вочы комуністых залпам стралялі перапоўненымі пачуцьцямі. Ні то няпэўнасьць, ні то млоснасьць пачала данімаць пшодовніка—яго рука застыгла на ручцы рэвольвэра.

Мірэк, ледзь-ледзь захоўваючы спакой, пайшоў паволі да печкі і, такім чынам, апынуўся ззаду паліцыянта.

Вочы Ігната перабягалі з чорнага кабура рэвольвера на вазоны і вагі ад насьценнага гадзіньніка; на яго чале сіняватымі вузельчыкамі выступілі жылы.

Тодэк устаў, залажыў глыбока рукі ў кішэні і ўпарта глядзеў на ворага. Уся яго пастава выклікала на схватку, а моцна сьціснутыя скіўіцы выяўлялі цьвёрдую рашучасьць.

Жэня злоснай усьмешкай як-бы провоцыравала паліцыянта, каб пачынаў.

Абраша штосьь насьвістваў, каб заглушыць шастаньне паперак, якія ён у кішэні рваў і мянтусіў.

Ходаш абапёрся аб вушак дзьвярэй і запытаў звонка:

— А што яшчэ ад мяне трэба?

Паліцыянт зразумеў, што ўсё ўжо прапала, ён пачуў, як яго халадком пачаў абвяваць страх, а за плячыма зрабілася так прыкра, несамавіта, што на гвалт хацелася іх куды схіліць, прытуліць. Парыўчае наступленьне комуністых прымусіла яго да абароны, якую ён стараўся прыкрыць густой скорагаворкай.

— Ой, час мне ўжо, панове, ісьці. Якая гэта гадзіна: палова дзесятай. У мяне яшчэ некалькі спраў. Вы, здаецца, у мяне нешта пыталіся?—зьвярнуўся ён да Ходаша.

— А нічога важнага,—адказаў той флегматычна і адышоў ад дзьвярэй, як-бы кажучы: каціся ты ўжо кілбасой.

— Трэба сьпяшацца. Давідзэньня, панове! — і жвава панырнуў у дзьверы.

Усе ўздыхнулі з палёгкай. Пасьля колькіх хвілін напружанай душэўнай барацьбы чулі сябе ўшчэнт змучанымі.

Нехта сказаў: „Ну, хлопцы, шпарчэй вымятайцеся, а то аблава на нас нямінуча“.

Праз колькі хвілін пакой апусьцеў.

Пасьля аказалася, што Ходаш, не прычыніўшы шчыльна дзьверы ў калідоры, запёр замок, ад чаго і здарыўся перабой у паседжаньні АК.

## ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МАЯ ПЛЯНЭТА...

### Ал. Дудар

Люблю цябе, мая плянэта,
Твой строгі профіль, роўны ход,
Твой сьмелы рэйс ў эфірных нетрах
Між неабмераных высот.

Люблю цябе, мой сьветлы гені—
Парода гордая мая,
Род, што ў мільёнах пакаленьняў
Ўзьняў чалавечае імя.

Люблю мой край—у гэтым слове
Так многа праўды і сьвятла.
Усё так радасна і нова,
Чым дыша родная зямля.

Надходзіць час апошняй варты...
Заружавела, зацьвіло!..
Пячаці ленінскага гарту
Ляглі на строгае чало.

Ад канцавосься к канцавосьсю,
Па сухазем'ях з краю ў край
Ганцы наступнага галосяць:
— Апошні бой! Пара! Ўставай!..

І вось ўстаюць, з магільных нетраў
Ўстаюць няволькікі, рабы
Цябе вянчаць, мая плянэта,
Вянком апошняй барацьбы.

# ЗА ЧУЖОЕ ШЧАСЬЦЕ І ЛЮБОЎ...

**Валеры Маракоў**

За чужое шчасьце і любоў,
За чужую радасьць маладую
Ня сумуй, мой дружа,
Ня сумуй,
Ня хіліся гордай галавою...

Гасьне дзень таемных пачуцьцёў.
Ах,
Як ўсё вакол зазелянела...
Мы з табой стаміліся вясной
Ад залікаў,
Дружбы
І імкненьняў.

Глянь сюды на жоўтыя лісточкі.
Хто-ж іх, хто
Бяз часу абарваў?
Ах, то сам я песьні
І юнацтва
Кінуў ціха ў падарунак дням.

Ах, мой ліст,
Ня жыўшы, пажаўцеў,
І яго панесьлі, нібы зраду...
Дождж яго,
Як брата, абласкаў,
Вецер ўзяў і кінуў яго з саду...

# АПОШНЮЮ ПЕСЬНЮ ПЯЮ...

**Ул. Хадыка**

Апошнюю песьню пяю
Пра сіня туманныя травы.
Далёкую сьцежку маю
Схавалі чужыя дубравы.

Бяз дум і бяз жадных навін
Вандруюць ад зорак да зорак
Патокі гарачай крыві
І нэрваў аслаблены морак.

Спакою лісты не дадуць,
З балота ня выведуць вершы...
Напэўна такую бяду
І я спатыкаю ня першы.

Напэўна нам слава адна:
Гарэць да апошняй хвіліны.
Пясок акіянскага дна
Ў сваім абурэньні адзіны.

Аднэй падуладны сяўбе,
Мы носім глыбокія раны—
Таму пераходзіць к журбе
Пяро і аловак скусаны.

Так рана, як фарбавы дым
Ўлісьці, неразважна мы гінем,
Каб вечна званілі гады
Аб залатакудрай краіне.

# АДЫГЕЙСКІ ПЯСЬНЯР[1])

**В. Палішчук**

*Поэма*

Маё сэрца—труба для іх гор,
Гукі цела ўзрываюць пад неба.
А яны—
Прахам валяцца ўніз,
Чарапы разьбіваюць
Аб камень глухі.
Мае стогны пра волю
Ня чуюць адважныя горцы,
І ня зыйдуцца ў гурт,
Каб станіцы зьніштожыць,
Дзе гадзіна нашых дзён
Абкружыла аулы
І гноем прыкрыла
Зьнявагу і крыўду.
Ня пойдуць і ня выб'юць
Чыноўнікаў праклятых
І ўсіх сваіх прадажнікаў,
Што служаць цару.
— „Галаву разьбіў,
Якая гадзіна?“ спытала,
І вочы не маглі адказу тут знайсьці.
А потым і сілы аслаблі,
Ён сеў каля Зурны.
Яна—хвалі вачэй.
Толькі ноздры біліся, як птушка,
А чорны вугаль з-пад вачэй,
Што сьляза змачыла,
Блішчаў над белым, як туман.
І палкасьць вось была гатова
Сарвацца, якваўчыца,
І каб загрызьці,

1) Гл. „Полымя“ № 7.

Навалай ашалелай,
І спапяліць іх вогнішчам жаданьняў.
Але халодным мохам ён ляжаў
На гарачых каленях Зурны,
І сьмяротная боль заснула
На твары каля вуснаў і чала.
І валасы яна яго ласкала
І аб тым ня ведала нічога,
Што пад ім гарэла.

* * *

Вось загрымелі цягнікі,
Б'юцца пульсы эшалёнаў.
Чырвонымі драконамі паўзьлі
Між скал на горах цягнікі.
А ў іх дзесяткі тысяч едуць
На Поўдзень, у Турэччыну
З аружжам і гарматамі—
Праз увесь Каўказ.
І везьлі іх ужо назад
Ў турэцкіх фэсках, як палонных.
(Чырвоны перац на гары...
І зьвісла чорная рука,
Мёртвай сілаю—
Рана ў грудзёх).
— Вайна.

* * *

Ня заяц задрамаў на сонечным цяпле—
Схіліўся твар заморани на камень...
Аднойчы, йшоўшы горнымі лясамі,
Спаткаў Іскандзер чужака.
Той спаў,
Ад шораху падняўся.
— „Адкуль ты?"—спытаў яго Іскандзер.
— „Я ў Турэччыне жыву"...
— „Ты хто?"
— „Бацька—адыге зваўся".
І вочы вось бліснулі сьветам.
Ён зразумеў.
— „Я на зямлі дзядоў?
Скажы, гэта праўда?"
— „Праўда".

— „Тады чаму ня йду ў аул?“
— „Я палонны“.
Чуў з акопаў гоман слоў
Родных мне адыге.
Ды быў загад, каб кулямі спаткаць
Кожнага, хто вылезе з акопаў.
А сябе кідаць на сьмерць,
Калі ідуць на нас ў атаку.
Хто-б там ні быў: браты,
Ці рускія, няверныя Ісламу.
Тады якраз былі браты.
А потым паваліўся я,
Зьвіхнуў калена ад удару,
Каб забралі ў палон.
Адтуль я ўцек, і зараз вось“...
Іскандзер задрыжэў:
— „Брат, родны мой,
Мы доўга будзем так яшчэ цярпець
Ці скінем паганятых,
Што ў бой прымусамі ідуць?
І да якіх-жа пор мы будземо аднымі,
Калі браты ўсе тут?“

* * *

Чуткі, як гул вясьняных вод,
Прышлі з Паўночы неўзабаве:
Зламалі трон і скінулі цара
І сам народ сабою правіць.
Яшчэ трашчэла дзесьці,
Гудзела ледаходам.
Го-гоў!..
Паўстань, пракляцьцем катаваны!
Праменьнем дзённым (у пяшчэру) залятали
Ў глухі Каўказ пра волю чуткі.
Салодкім подыхам далін
Вясьняны пах сачыўся.
І фронт найбольш кідаў са жмені
На горы сінія ў даліны
Заўзяты сьмех
Салдат.
І ў край адыге з радасьцю прышлі—
І кліч і думкі: воля ўсім братом!

* *
*

З самога Петраграду
Далёкага й нязнанага для простых,
Чужога горным багацеям,
Вандроўнікі ў госьці прыбывалі,
Студэнтаў некалькі з чаркесаў
Заблыталіся ў космах лесу,
Што на зямлі адыге вырастаў.
Гудзеў Каўказ і сьціх.
І гаварылі: трэба аб'яднацца;
Хай адыгейцы волю сваю скажуць,
Зьбяруцца на нараду.
Найбольш было такіх нарад:
Сабраць усе аулы,
І бедных і багатых,
Старых і маладых,
Хтось загадаў жанок пазваць.
І доўга ўсе над ім сьмяяліся і кпілі:
„Ў прысутнасьці мужэй, ці-ж можна жонкам быць?—
Эх, ты"...

* *
*

Сабраліся аулы аж тады,
Калі пачуўся гэткі кліч:
Каўказ—каўказцам, горы—горцам!
Зямля адыге—адыгейцам.
І прэч усіх чужынцаў!
— А як-жа з тымі быць, што з дробнымі дзяцьмі,
Ну хоць-бы з рускіх незаможных?
— Хай едуць у Маскву,
Прэч на Поўнач,
Яны ўціскалі нас!
— Не, бедныя не прыгняталі.
Цары й жандары
Вось хто—аднальковы!
Найболей гэтую варожасьць
Між людам кідалі дашнакі.
Яна разбухла, як сухое зельле,
І расьце на камені зьдзічэла.
Іскандзер голас надрываў,
Што бедны люд—браты заўсёды...
Але ня ўпэўніў ён,

Бо цьвіль ужо гніла.
Старыя й багацеі—яго за ворага прымалі.
Тады кідаўся ў моладзь ён,
Але яна, як стада, ўжо пайшла
За старымі і багатымі адыге.
Іскандзер быў, здавалася, адзін
І вырывалася: гора, гора,—
Ты, нібы цень, усюды сьледам ходзіш.
Ступіла воля паміж нас,
А тут яшчэ і горстачка багатых,
Што ўмела рускія газэты прачытаць
Ды з афіцэрамі сяброўства мела,
Пасеяла ў спакойныя йшчэ душы
Слова хворае, гнілое.
І бедната зноў ззаду...
— „Дружа салдат,
Хоць ты ім растлумач і працягні руку!“
Ня слухалі, сьпяшаліся праз горы
І на прасторах рускіх—
Раскідаліся.

* * *

Пачалі Іскандзера багатыя цкаваць,
Сваіх падручных з гушчы беднаты
Кідалі на ўздагон.
Казалі:
„Гляньце, як народ ён адурманіў.
Калісьці быў за нас, за адыгейцаў,
Цяпер круціць пачаў,
Пачаў ён ворагаў любіць.
І гэтак вучыць Вас,
Тады на бой вадзіў,
Цяпер заве на мір!..“
І ўсе казалі: „Праўда!“
Ён да вайны на рускіх нападаў.
Відаць, цяпер зьвіхнуўся, падкупілі“.
— Канечна так,—шапталі багачы:—
Тады ён быў пясьняр,
І непатрэбным стаў цяпер.
І слова яго кволае
Не далятае к нам...
Але між тым на сходкі запрашалі,
Каб асьмяяць і зьдзеквацца яшчэ

І над мысьлямі яго, і над самім таксама.
Тады ён не хадзіў,
Блукаў па горах, нібы як чужынец.
Казалі ворагі:
„Нам воля, радасьць,
А ён, як няпрыкаяны, блукае сам, бо здрадзіў.
Ня хоча разам з намі быць,—
Адрокся ад адыге"...
Якая боль, о, горкая атрута,
З усьмешкай тэй прайшлася праз душу.
І ў горле іскрамі пякла,
Душыла вохкім клубам воўны,
Ды так, што праглынуць яе ня стала сіл,
Ня тое, каб абараніцца словам.

* * *

Няўжо вы, сьлёзы, ня стрымаеце мяне?
Няўжо вы ляжаце вуглём гарачым
На душы цёмныя маіх адыге?
Варочаўся яшчэ... і зноў адзін.
Аулы гаманілі,
Жанкі ля вогнішчаў драмалі,
А тыя, што ўсё знаві па газэтах,
Вучылі мірным ладам працаваць.
А потым раюцца з казакамі
(Дзе афіцэры і пагоны)
І зноў фронт,—
Ды толькі ўжо на Поўначы.
Чуткі йшлі, што скінуты Керэнскі,
Што беднata паўстала там.
Тут Цэрэтэлі бліснуў праз аулы,
Як вугалёк закінуты...
Ды кліч уласны, вольны кліч
Анучай задушылі весткі:
„Каўказ—каўказцам, горы—горцам,
Зямля адыге—адыгейцам".
Ужо грымела блізка, блізка.
Уся Кубань чырвоным бляскам
Наногі бунту ўстала.
Няхай ніхто бядноту ня ўціскае!
Ў той час Іскандзер думаў уцякаць,
Каб тут ня згінуць, не прапасьці.
Ды раптам радасьць стала ласкатаць,

Бо воля набліжаецца для бедных,
І што зямлю падзеляць роўна ўсім.
І загудзеў вялікі гнеўны гром...

* * *

І вось так з ранку змоўкнулі аулы.
Як быццам-бы
Глухую боль глынулі
Сваім адважным чулым сэрцам.
І разьбегліся салдаты па гарах,
Тыя, што на Поўначы былі.
Вярнуліся па саклях новабранцы.
І раптам коньнікі—іх дзесяць.
Патроны пасам на плячы.
У руках наганы.
А потым 'шчэ—
Узбурыліся хвалі...
Ах—ах!..
Што будзе: радасьць, жах?
У гэты самы час
Ішоў дамоў Іскандзер—
Там багатыя ўцяклі.
Страху ня меў,
Адно захапленьне
Сустрэць і... ах!
Там у зарасьлях заселі:
Тах-тарах-тах—
І закіпелі кулямёты.
Але аул заціх,
Чакаў ён граду й навальніцы.
Напружна йшлі часы.
І сьціснута скрыпела сонца ў небе.
Сабакі змоўклі...
Чакалі ўсе...
І раптам крык узьняўся:
Ужо па саклях цёмныя салдаты
Пачалі грабаваць, зьнішчаць.
Астатні хлеб, авечак, зброю
Сабе пазабіралі.
Вочы дзецям выпарвалі драцянкай,
Старым—шаблю, штык.
А маладую матку
За косы і—у хлеў,
І што было там—

О, божа!
Там стогны і пракляцьці
І цела белае
Бліскучае—пад брудными рукамі.
Дзесяткамі праходзілі дзяўчаты,
І грудзі біліся, дрыжэлі, боль сьціскала,
І кроў лілася,
І стогны лётам расплывалі,
І люд валіўся,
Хто мог—кідаўся ў горы!
О, гора, гора!

* *

Вось пранеслася бура.
І жоўта-буры пыл
Капыты даганяў.
А там на высі, на гары
Вуглём іскрыстым зьзяў—
І на захад сонца паглядаў
Крывёй заліты сьцяг,—
Гэта кроў рабочая была.

* *

Іскандзер зьбіты, як зямля, стагнаў.
Час-ад-часу твар яго крывіўся,
Пачарнеў ад ран.
Вочы расчыніліся,
Ня было ўжо сьлёз.
А ўсё стагнаў.
О, праклядьце вырадкам бандытаў!
Ты провокатарскай гадзюкай
Горы атруціла;
Ты сьцяг чырвоны наш схіліла
Ў запёкшыя пальцы злачынства.
Ты звар'яцеламу дала свой нож.
Не, не, ён сам, ён выхваціў і рэзаў,
Але Іскандзер гэтага ня знаў.
Ён знаў адно—яго надзеям сьмерць.
Ён бачыў роспач—і сьмерць аулам.
Бяда тады нікога ня мінула.

* *

О, бедны мой народ!
Калі-ж надыйдзе час
І ўздыхне свабодаю адыге?

İскандзер, гнаны роспаччу і сьмерцю,
İшоў назад у горы, ў лес.
Празірства йшло за ім усьлед,
İ самым блізкім, даражэйшым
Быў лёс адзін.
Яны чакалі сьмерць
İ ціха праклінали.

* * *

Ў гарах гарэў İскандзер,
Дыміўся сэрцам, цярпеў
İ за сваіх ён мучыўся адыге.
Хіба ён знаў,
Што дзесьці там аул
Ня выдаў зброі
İ з таго вось бойка наплыла?
Хіба ён верыць мог яшчэ ў людзей.

* * *

О, чаму ня згінуў я тады,
Калі скрываўленыя гінулі браты!
Чаго жывёлінная рупнасьць—жыць
Мяне з аулу вынесла да скал?
Позна ўжо цяпер!
Як быццам пекла вогнішчам зьвівала,
Ўжо цяжка дышаць грудзі.
Сухі, балючы хрып
У горле бітым шклом вісіць,
İ галава баліць.

* * *

Сабака бешаная так
Ўгрызаецца ў сьпіну гаспадара,
Параніць лапу—дый бяжыць,
Бяжыць у лес і блудзіць там,
Свае, сьлюной атручаныя раны,
Там вынюханым зельлем лечыць,
А потым, як шкілет, прыходзіць
Праз тыдняў пяць назад у двор.
Такім İскандзер наш вярнуўся
Да Зурны ў аул.
Ў вачох яго адна пагроза зьзяла.
— „А што, як мілая праклянцямі спаткае,
Як іншыя і родныя й чужыя?
Ня можа быць, не!

Калі ня зможа зразумець,
Даруе так.
Бо там, дзе ёсьць каханьне,
Там ўсё даруецца і да злачынства нават,
А я гарую сам:
О, як-жа мне баліць!
Вось тут бывала выскальзьне з дзьвярэй,
Як зьмейка з шчыліны, Зурна.
Стары ня чуе і ня знае...
Тут так знаёмае,
Так роднае мне ўсё,
Цяпер чамусьці быццам і чужое?“
Сьпяшыць ён праз парог
І чуе лёгкі стогн.
Кальнула: „што такое?“
Дух забіўся рыбінай у сетцы,
Адразу кінуўся
На ложак...
Крык.
І вось пасьля цярновых жал,
Што успамінамі завуцца,
Пасьля гарачае смалы расчараваньня,
Адна надзея—мо' яна залечыць.
— „Дзе-ж бацька твой, Зурна?
Што з табой, скажы?“
— „Забілі тыя“...
— „Ты... даруеш мне?“
— „Хіба цябе змагу я асудзіць?
Але, Іскандзер, я больш не твая...
Я для цябе загінула навекі“...
І штосьці ўрэзалася ў вушы нейкім звонам...
І нейдзе бубен біў...
— „Але астатняе слова мне, Зурна!“
Аж крыкнуў да маленьня.
— „Я згвалчана“...
Ціша...
А потым зноў
(Распалена жалеза каля сэрца):
— „Калі-б ты знаў,
Як бацька бараніў
Тваю Зурну сваім нядужым целам,
Мабыць, табе аберагаў.
Але багнэт сьпіхнуў яго з дарогі...

І цела белае маё
Забілася ў чужых руках.
А там, ты знаеш сам,
Двое йшчэ ўзялі мяне.
Яшчэ і зараз чую боль ад ран,
Хоць я жывая, але ўжо гнію.
І ўсё-ткі я цябе судзіць ня буду
За тое, што чакаў ты іх"...
Крык абарваўся ў горле.
Нібы ў бяздоньне кінула яго—
На зьбітую пасьцель.
Іскандзер цалаваць пачаў
Шкілет ды гніль.
Так 'шчэ не цалаваў ніколі,
У першы раз...
А потым кінуўся шалёным бегам
Калі здавалася, што гоняцца за ім,—
Твар заплаканы адзінай любай Зурны:
— „Спыніся! Люблю!"
Разьбіў ён пальцы на нагах,
Прыліплі чырвані кускі
Крывавым сьледам да каменьняў.
Ён бег з аулу ад людзей
І да бяздоньня зmoраны дабраўся.
І кінуў ён туды савіны свой пагляд,
А потым—
Кулак падняў і ў роспачы
Крыкам бешанага ў неба
Такое кінуў ён праклацьце,
Што хмары раптам
Сталі на хвіліну.
Пасьля ўжо ўніз
Ён кінуўся.
Са скал
Зваліўся—
Ком
Крывавы.

* * *

Гады праз два
Рабочая дзяржава
Дапамагла адыге верным
Сваю рэспубліку стварыць,

Дзе праца зьвілася
Вянком барвістых нацый
Ў адно яднаньне:
Рабочы люд.

* * *

Мінуць вякі над нашым пакаленьнем.
Растопча дробныя народы
Братэрскі крок глухім сумленьнем.
Любоў гаручая пальлецца
Адным зярном, адным насеньнем,
І шорах-гоман будучых вякоў
Спакойна пойдзе даліною.
Але, ой, доўга будуць знаць
Як лепшыя былі прымушаны цярпець,
Пакуль іх ноч зьвіла туманам
Ціхавейным.

З украінскае мовы пераклаў
**Андрэй Александровіч.**

# ЯК ПАШЧЫ КАМЕННАЙ ЦЯСЬНІНА...

**Ал. Салагуб**

Як пашчы каменнай цясьніна,
Як дошкі жоўтыя труны,—
Чатыры вузкія сьцяны
Вастрожнай камары бліснулі.
Як увайшоў, ў вушшу грымнулі
З ляскотам дзьверы на запор—
Бывай, каханьне і прастор,
Бывайце, радасьць, сонца, гульні!

Злацешна краты пазіраюць,
Няволі песьню запяваюць
Для госьця новага свайго,
А госьць ня цяміць аднаго:
Нашто трывожаць вязьням сон,
Абцасы найміта салдата,
Нашто і краты ля вакон,
Калі ўвесь край сядзіць за кратай?

Зах. Беларусь.
Лукішкі. 30-VI—1927 г.

# СЯМ'Я І ШЛЮБ ПРЫ КАПІТАЛІЗЬМЕ [1])

## Проф. С. Вольфсон

Моногамія—suprema lex буржуазных слоў аб сям'і і шлюбе, полігамія—стрыжань буржуазнай сямейна-шлюбнай рачаіснасьці. Выплачваючы даніну моногамічнаму фанатызму, капіталістычнае панаваньне адмаўляецца юрыдычна прызнаць усіх тых людзей, якія зьяўляюцца па-за межамі моногаміі. Народжанага па-за моногаміяй капіталістычная дзяржава абвяшчае „незаконным“.

На дзіця, якое асьмелілася выйсьці з чэрава маткі без санкцыі буржуазнага кодексу, ад самага моманту яго нараджэньня ставіцца кляймо адшчапенца. Яго не прызнае буржуазная мараль і прасьледуе яе закон...

> ... У вочы крычаць мне ўсе:
> „Пабочны“ сын. Завуць мяне нічым:
> Пустым лахмоцьцем, дрэньню...
>
> (Шэксьпір).

Капіталістычны лад ня толькі адкрывае шырокія магчымасьці для па-зашлюбных палавых адносін, але іх усякім спосабам провокуе. Тым ня менш яго мараль і яго права цяжарам навальваецца на таго, хто сваю маемасьць пераносіць—на па-зашлюбную матку і па-зашлюбнае дзіця. Сучасны нямецкі дасьледца проблемы па-зашлюбнасьці Гуго Шрэдэр тужліва адзначае, што шмат якія грамадзкія пласты не выяўляюць у адносінах па-зашлюбнай маткі патрэбнага далікатцтва і ганьбяць яе, як парыя. „Прыходзіцца, — гаворыць, ён,—на жаль, зазначыць, што часта акты роспачы незамужніх матак—самагубства, забойства дзяцей, шуканьне тых, хто робіць анёлачкаў—павінны быць запісаны на рахунак грамадзкіх забабонаў. Гэтыя адносіны грамадзтва пераносяцца, вядома, і на незаконнае дзіця, і яшчэ цяпер шмат хто разглядае яго як дзіця пагані, якое, строга кажучы, ня мае ніякага права на існаваньне, яму самому, дзякуючы гэтаму, убіваецца думка, што ён—вынік недазволеных адносін, вынік памылкі...“ [2])

На досьвітку свайго прыходу да ўлады буржуазія рабіла яшчэ нерашучыя спробы да юрыдычнага параўнаньня шлюбных і па-зашлюбных

---

1) Гл. „Полымя“ № 7.

2) Hugo Schröder. Das Problem der Unehilichen. Verlag von Curt. Kabitsch. Leipzig. 1924 г. S. 7.

дзяцей. Яе прадстаўнікі асьмельваліся тады заяўляць, што „кожнае пазашлюбнае дзіця, па нядбайнасьці ці барбарствах закону... пазбаўленае права свайго нараджэньня, гэта значыць свайго грамадзянскага становішча, ці спосабаў яго раскрыцьця, зьяўляецца ахвярай грамадзянскага забойства". (З прамовы трыбуна Дзювейр'е пры абгаварэньні проекту кодэксу ў 1793 г.). Але зацікаўленая ў максымальным замацаваньні монагаміі, буржуазія адпаведнымі артыкуламі ўсіх амаль эўропэйскіх кодэксаў легалізавала „грамадзянскае забойства" і не прызнала па-зашлюбнае дзіця. Наполеонаў кодэкс забараніў па-зашлюбным дзецям шукаць сваіх бацькоў. (За выключэньнем выпадкаў згвалтаваньня ці крадзежу). І гэты прынцып зрабіўся об'ектам стараннага пераймань ня з боку амаль усіх капіталістычных дзяржаў. Прыкрую славу набыў параграф 1589 (BGB) (Нямецкага грамадзянскага статуту), які абвясьціў, што па-зашлюбнае дзіця і яго бацька ня лічацца сваякамі". У Аргентыне закон дагаварыўся да таго, што „дзеці ад мяшанай крыві ці ад паблуднай сувязі ня маюць ні бацькі, ні маткі, ім забараняецца шукаць бацьку ці матку, яны ня могуць быць прызнаны ні бацькам, ні нават маткаю"...

Гэтыя прынцыпы заставаліся ў сямейным праве буржуазных дзяржаў непарушнымі амаль да самай вайны, калі не гаварыць аб некаторых нязначных корэктывах, накшталт дaданых напярэдадні вайны ў француcкае сямейнае права [1]).

Так буржуазія кідала ad majorem monogamiae glorians на грамадзянскую сьмерць сотні тысяч „пачатых у граху". Па пятах грамадзянскай сьмерці часта ішла і фізычная... Вось некаторыя даныя, якія да гэтага адносяцца.

Табліца дзіцячай сьмяротнасьці ў Нямеччыне на 100 народжаных [2]).

| Гады | Сярод шлюбных | Сярод па-зашлюбных |
|---|---|---|
| 1912 | 13,9 | 23,2 |
| 1913 | 14,2 | 23,7 |
| 1914 | 15,4 | 25,3 |
| 1915 | 14,4 | 23,3 |
| 1916 | 12,6 | 21,6 |
| 1917 | 14,3 | 25,7 |
| 1918 | 14,1 | 23,9 |
| 1919 | 13,0 | 25,0 |
| 1920 | 11,9 | 23,0 |

[1]) Закон 16 лістапада 1912 г. дазволіў устанаўляць бацькоўства, апрача гвалтоўніцтва і крадзежу, і ў выпадках спакушэньня, наяўнага сужыцьця і калі бацька прызнае дзіця сваім.

[2]) У мясцовасьцях з насельніцтвам больш як 15.000.

Суадносіны паміж катэгорыямі шлюбных і па-зашлюбных дзяцей, якія паміраюць, зьяўляюцца амаль стабілізаванымі. Паводле даных Шрэдэра, з шлюбных дзяцей груднога ўзросту памірае кожны сёмы, а з па-зашлюбных—кожны чацьверты [1]).

З павялічэньнем узросту розьніца паміж сьмяротнасьцю гэтых дзьвюх катэгорый ня можа быць настолькі рэзкай, але ўсё-ж яна ў далейшым застаецца даволі наяўнай. Аб тым, у якія ўмовы ставіць буржуазнае права „незаконнароджаных“, можа сьведчыць хоць-бы адзін, але найдзіўнейшы па сваёй значнасьці акт. Рынзберг паведаміў, на падставе спэцыяльнага дакладна зробленага ім досьледу па-зашлюбных нараджэньняў у Шпандау, што з 751 народжаных там дзяцей мужчынскага полу 78,96 проц. памерла, не дасягнуўшы прызыўнога ўзросту [2]).

Становішча, у якое трапляе ў капіталістычнай дзяржаве па-зашлюбнае дзіця, такое, што яно ці астаецца бяспрытульнным, ці, у лепшым выпадку, жыве на ўтрыманьні маткі, закляймаванай вулічнай мяшчанскай моральлю, якая ў пераважнай большасьці выпадкаў жыве ў надзвычайна цяжкіх матэрыяльных умовах. Тут будзе дарэчы адзначыць, што вялізарны процант незамужных матак належыць да незаможных кляс, якім часта не пад сілу заключыць тую шлюбную зьдзелку, адну якую буржуазная дзяржава згодна прызнаваць „сьвятою таямніцаю“ шлюбу. Так, напрыклад, сярод матак 94.776 народжаных у 1906 годзе ў Прусіі па-зашлюбных дзяцей належалі: 42 проц. да хатніх служак, 10 проц. да сельска-гаспадарчых наймітак і 21 проц.—да прамысловых работніц [3]). З па-зашлюбных матак, якія радзілі ў 1911 годзе ў Дрэздэне, 71 проц. належаў да работніц і 21 проц.—да рамесьніцкага асяродзьдзя [4]).

Праводзячы „грамадзянскае забойства“ мільёнаў па-зашлюбных дзяцей, якое часткa цягне за сабою і іх фізычную сьмерць, капіталістычная дзяржава павінна „абгрунтаваць“ правільнасьць сваёй дзейнасьці, даць яму маральную санкцыю. Тут ёй дапамагаюць вучоныя сікофанты, якія ствараюць на манэр Зэльтэра ці Рэйтэра—тэорыйкі аб „невыстарчальнай поўнацэннасьці“ дзяцей, народжаных па-за шлюбам, наконт іх фізычнай дэгенэратыўнасьці, разумовай адсталасьці і маральнай дэфэктыўнасьці [5]).

Па-зашлюбныя дзеці абвяшчаюцца „няпоўнацэннымі элемэнтамі чалавецтва“, „выкідкамі, якія выплеснуты з мора жыцьця“ і г. д. Наколькі пашыраны такія сэрвілітычныя тэорыйкі, відаць з таго, што сумленныя

1) Hugo Schröder. Op. Cit. S. 14.

2) Riensberg. Die unehilichen Geburten in Spandau. Berlin. 1915 г.

3) Hugo Schröder. Op. Cit. S. 30.

4) Statistisches Jahrbücher der Stadt Dresden.

5) Seltaz. Die Ursache der Säuglingssterblichkeit unter Berücksichtigung der Jahreszeit und der sozialen Lage. Ztachr. für Hyg. und Infektionskrankheiten. 1919 г. Band 88 Heft 2. Reiter Hans. Ein weiterer Beitrag zum Problem des unehilichen Kindes. Offentliche Gesundheitspflege. 1922 г. Heft 5.

з навуковага боку буржуазныя вучоныя, прымушаны весьці энэргічную дыскусію з такім скажэньнем рачаіснасці, з боку сваіх колег. Гуго Шрэдэр, які вышэй ужо ўспамінаўся мною, зрабіў у сваёй монографіі „Проблема па-зашлюбных“ падрабязны аналіз тых довадаў, якія прыводзяцца звычайна, каб давесьці біолёгічныя, моральныя і інтэлектуальныя хібы па-зашлюбных. У выніку ён прышоў да вываду, які і формуляваў наступным чынам:... пераважная частка незаконнароджаных дзяцей па сваёй духоўнай жыцьцёвай значнасьці (angeistiger Lebenswertigkeit) раўнацэнна законным, і сьцьвярджэньне, што яны даюць вялікі процант дэфэктыўных, псыхопатаў і з цяжкою душэўнай хваробаю... павінна разглядацца, як не даведзенае... Увогуле незаконнароджаныя „абсталяваны“ прыродаю таксама, як і законныя [1]).

Для таго, каб паказаць, наколькі абгрунтаваны аргумэнты аб дэфэктыўнай констытуцыі па-зашлюбных, адзначу яшчэ, што ў апошні час у спэцыяльнай літаратуры пачынаюць выказвацца зусім супроцьлеглыя думкі. Так, напрыклад, вядомы гігіеністы профэсор Дрэзэль заяўляе, што „часта па-зашлюбныя дзеці нараджаюцца нават з лепшымі фізычнымі і духоўнымі жыцьцёвымі прадпасылкамі, чым народжаныя ў шлюбе, але яны гінуць з прычыны дрэннага догляду і харчаваньня, неахайнасьці і запушчанасьці“... [2]) Робэрт Міхэльс таксама згодзен з гэтым і піша „прыродныя дзеці, ці дзеці каханьня, як іх называюць народныя вусны, зьяўляюцца вынікамі натуральнай сувязі бацькоў па іх уласнаму выбару; іх зьяўленьне бывае вельмі часта абумоўлена сэксуальна-палкім імкненьнем двух маладых цел. Наадварот, законныя дзеці, благаславёных царквою і зарэгістраваных грамадзянскаю ўладаю шлюбаў, пры якіх каханьне ці зусім ня было, ці, прынамсі, вельмі часта займала апошняе месца, бываюць народжаны ад зблізкэньня—у нудзе і пры пазяханьнях—ужо пастарэлага мужчыны з кдырлівай і роўнадушнай жанчынай“ [3]). Яшчэ адно пасьведчаньне такога-ж зьместу. Яно належыць аднаму з буйнейшых сучасных пэдагогаў Отто Рюле, які піша: „Паміж па-зашлюбнымі дзецьмі напэўна ёсьць такія, якія псыхічна і фізычна адміраюць, але іх ня больш, чым сярод народжаных у шлюбе. Наадварот, жыцьцёвая сіла па-зашлюбных амаль што заўсёды мацнейшая, чым шлюбных дзяцей, бо яны часьцей за ўсё паходзяць ад адносін сапраўднага каханьня і іх бацькі знаходзяцца ў росквіце сіл і маладосьці“ [4]). Такім чынам навука апраўдвае тыя поўныя абурэньня словы, якія кідае сваім прасьледавальнікам незаконнароджаны Эдмунд з Шэксьпіравага „Караля Ліра“:

— ...Так дзе-ж прычына
Папракаць мяне? У вочы крычаць мне усе

[1]) Hugo Schröder. Op. cit. S. 24 und 26.
[2]) Dresel. Sociale Hygiene. 2 Aufl. Berlin, 1922 г.
[3]) Prof. Robert Michels. Op. cit. S. 458.
[4]) Otto Rühle. Das proletarische Kind. Vere. Langen. München. 1911 г. S. 68.

„Пабочны сын“! Завуць мяне нічым.
Пустым рызьзём і дрэньню. А ўсё-ж калі
Пайшло на тое, дык спытаю: ці ня больш даных,
Каб вышла розумам і целам
Дзіця гарачага каханьня ад бурнай палкасьці,—
Чым род нікчэмны тых кволых беднякоў,
Што зачаты спрасонку, па прывычцы
З пазявотаю на твары...

Прычына, па якой капіталістычная дзяржава пазбаўляе па-зашлюбных „вады і агню“, зразумела ня ў іх біолёгічнай малакаштоўнасьці, а ў тым, што яны сваім зьяўленьнем разбураюць моногамію, гэтую, па словах Жуль Гэда, бастылію буржуазнага шлюбу. „Не ў інтарэсах дзяржавы“,—пісаў у свой час Юстус Мэзэр,—„раўняць блудных дзяцей з законнароджанымі, бо пры гэтым адпала-б галоўная прычына да заключэньня шлюбу... Не ў інтарэсах дзяржавы даваць бясшлюбнаму жыцьцю ў дзяржаве тыя-ж правы, што і шлюбнаму, бо сямейнае становішча больш карысна і больш дае дзяржаве, чым становішча вольных і халастых“. Вось сэнс філёзофіі ўсёй...

Але, зразумела, ніякімі юрыдычнымі скорпіёнамі гэтага процэсу зьяўленьня мільёнаў па-зашлюбных ня ўтрымаць. Гэты процэс—няўхільны вынік тых умоў, у якія капіталізм ставіць сям‘ю і шлюб. Наколькі далёка ён зайшоў, няхай пакажуць хоць некалькі наступных лічбаў.

У пэрыод 1896—1905 г. г. па-зашлюбныя нараджэньні складалі ў сярэднім: у Голяндыі 2,5 проц., у Англіі 4 проц., у Швэйцарыі 4,4 проц., у Італіі 5,9 проц., у Норвэгіі 7,3 проц., у Францыі 8,8 проц., у Нямеччыне 9,6 проц., Аўстра-Вэнгрыі 13,5 проц. Вайна дала рэзкае павялічэньне гэтага проценту. Так, для 1915 году ён вызначаецца па Гэрманіі ў 11,19 проц.; для 1916 году—11,08 проц.; для 1917 году—11,53 проц.; для 1918 году—13,10 проц.; для 1919 году—11,19 проц.; для 1920 году—10,11 проц. [1]). Лічба па-зашлюбных дзяцей за апошнія 25 гадоў павялічыліся ў Нямеччыне амаль на 40 проц. [2]). Наяўнасьць мільёну па-зашлюбных дзяцей (іх у аднэй сучаснай Нямеччыне 2.500.000) азначае сур‘ёзную прабоіну ў моногамічнай цьвярдыні капіталістычнага грамадзтва, але гэтыя мільёны далёка невычарпальны паказальнік таго размаху, які пад эгідай сьвятога моноганізму набывае паўлегальнае па-зашлюбства. Нездарма аўтар аднэй з апошніх работ, прысьвечаных па-зашлюбству, катэгорычна сьцьвярджае, што ў сучасным грамадзтве „шлюбу ўжо больш ня існуе [3]).

Прымусовая пажыцьцёвасьць моногаміі, яе непарыўнасьць зьяўляецца рысай, якая найбольш характарызуе тую форму шлюбных адносін, якую

[1]) Hugo Schröder. Op. cit. S. 11.

[2]) Schmidt-Lamberg. Mutterschaft und Erwezbstätigkeit. Ztschr. für Sexualwissenschaft. 1928 г. B. XIV. S. 205.

[3]) Andreac König. Schutz für die ausserehilicheh Verhälnisse. Verl. C. W. Stern. Wien—Leipzig. 1927.

капіталістычная дзяржава бароніць усімі тымі сродкамі „пераконаньня і прымусу“, якім толькі яна ўладае.

Шлюб, як гэта мы гаварылі вышэй, заключаецца ў капіталістычным грамадзтве, як камэрцыйная зьдзелка. Моц, доўгачаснасьць і эфэктыўнасьць гэтай зьдзелкі ня могуць быць пастаўлены ў залежнасьць ад такіх ненадзейных фактараў, як асабістая прыхільнасьць, сымпатыя, антыпатыя, каханьне, агіднасьць. Буржуазія ня можа ўзводзіць будынак сям'і на грунце такіх няцьвёрдых суб'ектыўных катэгорый. Ёй патрэбна моцна-зьбітая, доўгавечная звонку, хоць-бы ў сярэдзіне і гнілая, сям'я, якая на соцыяльных верхавінах прыздабывае багацьці, а на соцыяльных нізох павялічвае эксплёатаваныя кадры, і падрыхтоўвае чым больш фабрычнага і гарматнага мяса. Цьвярозы буржуазны разрахунак вымагае з гэтай прычыны прымусовага пажыцьцёвага аднашлюбства. І капіталістычная дзяржава ідзе за гэтым вымаганьнем „бяз лішніх сантымэнтаў“. Іншы раз яна робіць спробу пры гэтым накінуць на свой гандлярскі рэалізм вэлюм высокай ідэолёгіі і этычнай аргумэнтацыі. Але гэта ўдаецца кепска...

Отто Маркс, сучасны нямецкі юрыст, піша: „шлюб нашага закону гэта ня вольны саюз, які злучае ў гармонічным таварыстве дзьве асобы, а гэта—сярэднявяковы замак, вокны якога запёрты кратамі строгіх параграфаў“...[1]) Для паўнаты малюнку трэба дадаць, што ў гэты „сярэднявяковы замак“ буржуазія пускае тых, хто прагне туды ўвайсьці, але выхад адтуль трымае на моцных завалах. Яна пяшчотна ахоўвае эвангельскае выслоўе, якое красуе на браме „замку“, аб тым, што ня можа чалавек разлучыць таго, што бог злучыў... Адносіны буржуазіі да магчымасьці абарваць няўдалы шлюб, які стаў нязносным, мае сваю даволі доўгую і цікавую гісторыю. Гэта гісторыя, таксама, як і адносіны буржуазіі да проблемы па-зашлюбства, добра адбівае эволюцыю буржуазіі. У пэрыод вялікай рэволюцыі буржуазія абараняла права разводу, як адзін з найважнейшых элемэнтаў індывідуальнай свабоды. Гэты свой пункт погляду яна занатавала ў прынятым 20 верасьня 1792 году францускім нацыянальным зборам законе.

Гэты закон быў амаль што скасаваны Наполеонавым кодэксам. Усё законадаўства, якое датыкалася сям'і, у эпоху прамысловага і фінансавага капіталу пабудавана на конкуруючай з канонічным правам забароне разводу. Тут ёсьць між асобнымі дзяржавамі некаторая разьбегласьць, розьніца ў катэгорычнасьці забароны, большы ці меншы лік выключэньняў з асноўнага правіла, але само правіла застаецца нязрушным і ўсеагульным.

Сучасныя Італія, Гішпанія, шмат якія паўднёва-амэрыканскія рэспублікі зусім ня ведаюць права разводу. Ангельскае законадаўства і па

[1]) Otto Marx. Das Selbstbestimmungsrecht in Ehe und Liebe. Marcus und Webers Verlag. Bonn. 1920. S. 15.

сёнешні дзень забараняе развод па ўзаемнай згодзе мужа і жонкі. Сямейнае права другіх дзяржаў, як, напрыклад, Бэльгіі, дэклярацыйна дапускае ў гэтым выпадку развод, але абстаўляе яго такою колькасьцю фармальных перашкод, што ўзяць развод амаль што немагчыма. У Нямеччыне і мностве іншых краін вымагаюць для разводу наяўнасьці пэўнай, занатаванай у законе і ўстаноўленай судом, віны. Уся гэта забаронная палітыка, у тых ці іншых выяўленьнях, тлумачыцца звычайна прычынамі, якія ў „мотывах“, Нямецкага Грамадзянскага Статуту (BGB) выкладзены так: „адпавядаючы хрысьціянскаму сьветагляду нямецкага народу, проект выходзіць з таго, што ў шлюбным праве,...павінен панаваць ня прынцып індывідуальнай свабоды, а што шлюб павінен разглядацца, як незалежнае ад волі тых, хто жэніцца, моральнае і праўнае ўстанаўленьне“. Cui boro? неўразуменна пытае з поваду гэтага буржуазны юрысты. „Каму на карысьць?“[1]) Мы над гэтым пытаньнем, ва ўсякім выпадку, думаць доўга ня будзем. Занадта ясна, каму карысна ўсё сямейнае права капіталістычнага грамадзтва з яго „моральным і праўным устанаўленьнем“ шлюбу.

Злачынная недарэчнасьць буржуазнай моногаміі заключаецца ў тым, што яна адзіная пажыцьцёвая непарыўная ўмова, якую прызнае грамадзянскае права капіталістычнай дзяржавы.

Яна—умова пажыцьцёвага заняволеньня асобы, умова, якую касуюць сьмерць ці (не заўсёды) злачынства аднаго з бакоў. Вось чаму ў нетрах буржуазнага грамадзтва выяўляецца з боку яго лібэральных і дэмократычных элемэнтаў усё большая опозыцыя моногамічнаму прынцыпу. Гэтай опозыцыі іншы раз удаецца дабіцца частковых уступак, але далей малазначных рэформ справа звычайна ня ідзе.

„Калі я заключаю“,—разважае адзін з такіх опозыцыянэраў,—„якую-небудзь умову, праз якую я павінен забясьпечыць майму суседу да 1 лістапада гэтага году 100 цэнтнэраў бульбы, дык гэта такая ўмова, адносна якой мне павінна быць дана воля разважаць, ці магу я ўзяць за яе адказнасьць. Калі я, аднак, сёньня абяцаю, што праз дваццаць год буду яшчэ кахаць тую ці іншую жанчыну і нікога апрача яе, дык я абяцаю нешта такое, за што не магу паручыцца“...[2]) Яшчэ больш катэгорычны ў такога роду разважаньнях Карпэнтэр, ранейшы ангельскі пастор і адзін з ідэолёгаў шлюбнай рэформы. Ён маляўніча выяўляе той узьняты настрой, з якім бяруць звычайна маладыя людзі шлюб. „Аднак, праз некаторы час і пры больш спакойнай думцы яны пераконваюцца ў тым, што іхны шлюб аказаўся цяжкім пажыцьцёвым прысудам... Прысудам, які ніякім чынам ня можа быць палегчаны нават 20-цігадовым тэрмінам, як гэта бывае ў звычайных злачынцаў. За кароткачасовым выбухам пер-

[1]) Jbidem. S. 4.

[2]) Otto Marx. Op. cit. S. 3.

шай радасьці надыходзіць фізычная прыкрасьць, пасьля пачуцьцё пустоты замест каханьня, пасьля нуда і нават агіднасьць“...

Протэсты лібэральных дэмократаў не зачапляюць, аднак, таго, што буржуазны шлюб ад самага свайго пачатку ўзьнікае не як саюз па ўзаемнай прыхільнасьці, а як гандлёвая зьдзелка. І для тых, хто заключае такую зьдзелку, яе пажыцьцёвасьць, зразумела, менш цяжка, чым для тых, каго злучыла сапраўднае пачуцьцё. Там, дзе, паводле трапнай заўвагі Фэлікса Зэрнау, заключэньне шлюбу адбываецца на аснове вывучэньня цесьцем гандлёвых кніг таго, хто мае быць яго зяцем і з боку зяця—выясьненьня біржавой сытуацыі таго, хто мерыцца быць цесьцем,—там няма паміж тымі, хто бярэ шлюб, ілюзій аб характары іх саюзу. Няма месца для расчараваньня там, дзе ад самага пачатку пануе адзін толькі цьвярозы разрахунак. Хіба толькі калі разрахунак акажацца недакладным... Там, дзе ў наяўнасьці ўмова пажыцьцёвага простытуяваньня,—бакі выконваюць умову, выконваюць тое, што вымагае закон—„абавязкі мужа і жонкі“ і шукаюць на баку „іншых магчымасьцяй“... Добра, што пры ўсёй суровасьці свайго моногамічнага закону капіталізм забясьпечыў моногамію патрэбнай колькасьцю полігамічных клапанаў—ад адэльцюра да простытуцыі.

Але там, дзе шлюб зьявіўся вынікам глыбокага ўнутранага пачуцьця, дзе людзей зьвязала каханьне, там ланцуг пажыцьцёвай моногаміі хутка ператварае саюз сэрцаў у катаргу прымусовай супольнасьці. Прымусовасьць моногаміі, яе пажыцьцёвасьць робяць тое, аб чым гаварыў яшчэ Байрон: „Так з салодкага віна ствараецца кіслы воцат, так каханьне ператвараецца ў шлюб“... Бо няма больш пэўнага спосабу зьнішчыць каханьне, як зрабіць яго абавязковым, абараніць кодэксамі і судовымі прыгаворамі. Але як-бы ня імкнулася буржуазнае права ахоўваць „об'ектыўныя каштоўнасьці, якія ўзвышаюцца над воляй мужа і жонкі“ (BGB), яму гэта што раз, то ўсё больш цяжка. Усё больш пашыраецца пралом, які прабіваецца ў „сярэдневяковым замку“ пажыцьцёвай моногаміі ня толькі па-зашлюбствам, ня толькі ўсякімі наўколшлюбнымі інстытутамі, але і крывой разводаў, якая ўсё падымаецца ўверх.

Вось лічбы, якія характарызуюць гэтую крывую на працягу апошняй чвэрці сталецьця. У сярэднім на 100.000 насельніцтва прыпадала разводаў[1]):

| Краіны | 1900-1901 | 1913 | 1920 | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Англія . . . . . | 2 | 3,1 | 16,6 | 18,6 | 13,6 | 13,9 | 11,8 |
| Бэльгія . . . . . | 11 | 15,8 | 29,3 | 49,0 | 49,3 | 42,8 | 38,4 |
| Нямеччына . . . | 15 | 26,6 | 69,1 | 62,9 | 59,6 | 55,0 | 57,8 |

[1]) Даныя па дакладу Wieth-Knuden. Die Frauenfrage der Gegenwart Verhandlungen des I. Jnternationalen Kongresses für Sexualforschung. Berlin. 1928. Band III. S. 201.

| Краіны | 1900-1901 | 1913 | 1920 | 1921 | 1922 | 1923 | 19242 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Голяндыя . . . | — | 18,3 | 28,7 | 29,0 | 27,8 | 28,3 | 29.8 |
| Данія . . . . | 17 | 28,3 | 38,9 | 42,3 | 39,4 | 55,9 | 51,0 |
| Норвэгія . . . | — | 20,3 | 24,9 | 22,7 | 23,2 | 22,9 | 23,3 |
| Швэдзія . . . | 8 | 13,7 | 22,3 | 21,3 | 24,4 | 25,5 | 27,1 |
| Швэйцарыя . . . | 32 | 41,8 | 57,9 | 51,2 | 54,4 | 51,4 | 54,1 |
| Злуч. Штаты Амэрыкі . | 73 | — | — | — | 135,4 | 149,0 | 151,0 |
| Францыя . . . | 23 | 37,3 | 74,4 | 42,8 | 70,4 | 59,0 | 53,0 |

У сярэднім колькасьць разводаў па названых краінах за пэрыод з 1900 па 1924 год павялічылася на 160%. У шэрагу фактараў, якія абумовілі гэтую зьяву, найбольш значным зьяўляецца рост самастойнае жаночае працы, чаго мы ўжо датыкаліся вышэй.

Мы ўжо казалі аб тым, што процэс раскладу буржуазнай сям'і мае характар грамадзка-рэакцыйны, расклад-жа пролетарскай сям'і зьяўляецца гістарычна-прогрэсыўнай зьявай. У першым выпадку мы маем справу з раскладам соцыяльнай формы, якая ўжо аджыла і якая абумоўлена немагчымасьцю спалучыць заключэньне сталага саюзу двух асоб рознага полу з вымаганьнямі, якія прад'яўляе сям'і капіталістычны рынак. У другім выпадку ў наяўнасьці процэс, які характарызуе сабою пераход ад застарэлых форм шлюбна-сямейнай організацыі, пабудаваных на экономічным і соцыяльным прыорытэце мужчыны, да новых форм, абумоўленых экономічнай і соцыяльнай роўнасьцю, і ўзаемнай незалежнасьці шлюбных партнёраў.

Гаспадарчы момант пачаў у такой ступені дыктатарстваваць у буржуазнай сям'і, што элемэнты асабістай прыхільнасьці мужа і жонкі і іх пачуцьці зусім вытруіліся з сямейнага жыцьця. Стрыжань каханьня, наўкола якога і можа толькі разьвівацца сям'я, зламаўся. Шлюб і каханьне зрабіліся разуменьнямі, якія выключаюць адно аднаго. І для таго, каб цэнтраадбежныя сілы, якія зьяўляюцца і разьвіваюцца на глебе гэтага конфлікту не разарвалі сям'і дзяржава палічыла сябе прымушанай скаваць яе моногамічным ланцугом. Але гэты ланцуг аказаўся ня больш дзейсным спосабам для ратунку буржуазнай сям'і, чым для сям'і фэўдальнай тыя паясы цноты, якія знатныя сіньёры надзявалі на сваіх жонак...

Буржуазная жанчына, яшчэ будучы падросткам, адчувае сябе ўжо своеасаблівым таварам, які жыцьцё расцэньвае на шлюбным рынку. З павялічэньнем даросласьці яна выключна аддаецца асноўнай жыцьцёвай задачы—зрабіць „выгодную партыю". У моманты, калі суадносіны палоў і становішча гаспадарчага жыцьця, ускладняе гэту задачу, на шлюбным

рынку капіталізму пачынаецца рэзкае перавышэньне жаночай прапановы над попытам. Зьяўляецца новы тып жанчыны, якая з мэтаю выйсьці замуж „палюе" на мужчыну. Поль Эрнст так маляўніча выяўляе гэты процэс „мужчыны імчацца міма іх і дзяўчаты на іх палююць. Усе тыя якасьці, якія прырода дае жанчыне для таго, каб прывабіць да сябе мужчыну, штучна падкрэсьліваюцца; мода пераймае выдумкі простытутак; характар дзяўчат пагаршаецца, бо ён прыстасоўваецца да таго, каб на кароткі час асьляпіць мужчыну, як гэта адбываецца і з таварам на магазыннай вітрыне"... [1]) Калі „паляваньне" прыводзіць да пажаданага выніку, і шлюб адбыўся, жанчына экономічна дасягла свае мэты: яна робіцца ўтрыманкай свайго мужа. Але неўзабаве набывае права пачуцьцё, і ланцуг прымусовай моногаміі пачынае разьядацца іржою ўнутрышлюбнага конфлікту. Самазапраданая жанчына пачынае часьцей у думках, а зрэдку і голасна вымагаць права на каханьня, як гэта робіць адна з гeроінь Фрэнгэна, якая з гневам гаворыць: „Мудрацы кажуць, што гэта лёгка прыдушыць... Гэта прыдушыць! Можа я павінна таксама ўцiснуць свае вочы і свае грудзі... Калі я кахала каго-небудзь да яго, якая справа яму да гэтага. Каму я павінна даваць справаздачу аб тым, што я раблю са сваім целам. Я—вольны, здаровы чалавек. Я зьняважыла сваё цела. Я яго забрудніла. Хіба я зрабіла што-небудзь ненатуральнае і нячыстае. Душа мая зусім спакойна"... [2])

Усіх тых прадпасылак, якія абумоўліваюць падлеглае становішча жанчыны ў буржуазнай сям'і, якія выклікаюць да жыцьця прымусовую моногамію, якія аддзяляюць непраходнаю нетраю адно ад другога—каханьне і шлюб,—адным словам, такіх фактараў, якія характарызуюць сабою сямейна-шлюбную організацыю капіталізму,—няма ў сям'і пролетарскай. Увесь комплекс матэрыяльных умоў існаваньня, увесь яго штодзенны быт, прымушаюць пролетара вырашаць проблемы сям'і і шлюбу зусім інакш, чым гэта адбываецца ў яго соцыяльных антагоністых. Нават праканаными клясавыя ворагі пролетарыяту прымушаны гэта прызнаць. Найбольш разумныя з іх ня лічаць патрэбным таіць, што „капіталістычнае грамадзтва стварыла клясу, для якое шлюб зрабіўся вар'яцтвам... Хатняй гаспадаркі ў пролетарыяту няма, бо яго „дом" зьяўляецца толькі сурагатам. Муж і жонка працуюць аднолькава, але розначэнна на фабрыцы, і выхаваньне дзяцей становіцца немагчымым" [3])...

Момант комэрцыйнай зьдзелкі, які вісіць над буржуазнай сям'ёй на ўсім працягу яе існаваньня, выкінуты з сям'і пролетарскай. Тыя клопаты аб лёсе сямейнай маемасьці, аб яе спадчыннай перадачы, аб павялічэньні багацьця, якія прымушаюць капіталістычную дзяржаву ўсімі сродкамі, якія толькі яна мае, сьцьвярджаць і ахоўваць моногамію, зусім не ўласьцівы пролетарскай сям'і. Вось чаму ў сям'і пролетарыяту можа

[1]) Paul Ernst. Die Zerstörung der Ehe Falken—Verl. Darmstadt. 1917. S. 68.

[2]) Прыводжу на кнізе Мюллер-Ліэра „Фазы любви".

[3]) Paul Ernst. Op. cit. S. 43.

выяўляцца і тое пачуцьцё асабістай прыхільнасьці і ўзаемнага каханьня, якія ў буржуазнай сям'і зьнішчаюцца галоўным момантам „разрахунку". Вось чаму шлюбныя адносіны ў гэтай сям'і могуць спыняцца, калі зьнікае гэтае пачуцьцё. Агульныя прынцыпы капіталістычнага ладу з яго ўсебаковым соцыяльным прыгнечаньнем жанчыны іншы раз кідаюць свой водблеск і на пролетарскую сям'ю. І тут іншы раз зьвіваюць сабе гнязьдзечка „домастроеўскія" традыцыі. Але ўсё гэта сустракае энэргічнае процідзеяньне ў самым ладзе пролетарскай сям'і, у яе ўнутрысямейных адносінах. У гэтым сэнсе Энгельс і сьцьвярджаў, што „пролетарскі шлюб моногамны ў этымолёгічным, але зусім не ў гістарычным сэнсе слова" [1]).

Ня гледзячы на тое, што гаспадарча-бытавыя ўмовы, у якіх прыходзіцца існаваць пролетарскай сям'і, робяць на яе раскладальны ўплыў, аб якім мы ўжо гаварылі, датыкаючыся профэсыяналізацыі жаночай працы,—сям'я гэта ў сваёй аснове зьяўляецца больш здаровай, чым сям'я буржуазная. Ускосным довадам гэтага зьяўляецца факт непараўнальна меншага ліку вэнэрычных занядужаньняў сярод пролетарыяту, чым сярод буржуазіі. Так, паводле даных доктара Бляшко, якія прыводзяцца ў Mitteilungen für Geschlechts-Krankhliten у Бэрліне хварэла штогод: 4,5 проц. салдат, 8 проц. рабочых, 16,5 проц. купцоў, 25 проц. студэнтаў, 13,5 процантаў кельнерш, 30 проц. патаемных проститутак. 41 проц. хворых на соцыяльных вярхох (купцы і студэнты), проці 8 проц. хворых сярод рабочых—вось паказальнік таго, наколькі здаравейшая сямейна-шлюбная організацыя пролетарыяту, чым буржуазіі.

Хэйк, Гаўштэйн, Паўль Гэрэ, Кампфмэйер і шэраг другіх дасьледцаў аднагалосна сьцьвярджаюць, што процант вэнэрычных занядужаньняў сярод рабочых непараўнальна меншы, чым такі самы процант сярод буржуазіі. Тыя-ж дасьледцы паказваюць, што карыстаньне проституткамі сярод пролетараў у многа раз менш, чым гэта бывае сярод пануючых кляс.

Рабочыя і работніцы ўжо замалада ўступаюць паміж сабой у сувязь, якая не легалізавана нотарыусам і не благаславёна сьвяшчэньнікам, але вельмі часта бывае шмат мацнейшай, даўжэйшай і ў кожным разе больш чыстай, чым „законны" шлюб, які ахоўваецца ўсімі сіламі капіталістычнага сьвету...

Буржуазія-ж шлюб ператварыла ў зьдзелку, а каханьне — у спосаб забавы і казытаньня нэрваў. У выніку — тое, аб чым нядаўна пісаў аб капіталістычным драпежніку Максім Горкі: „яму, тоўстаму, жанчына непатрэбна, як прыяцель і чалавек, яна для яго толькі забава, калі яна не такая-ж драпежніца, як ён сам. Непатрэбна яму жанчына ні як матка, з прычыны таго, што ён хоць і любіць уладу, але дзеці ўжо замінаюць яму... Каханьне для яго распуста і робіцца ўсё больш распустаю выбражэньня, а ня буянствам распуснага цела, чым была раней" [2])...

---

[1]) Энгельс. Происхождение семьи, частной собственности и государства, стр. 48.

[2]) Максім Горкі. „О музыке толстых". 1928 г.

І таму, шчыра абараняючы нязрушнасьць шлюбных падстаў, капіталісты адначасна стварае дзеля свае асалоды многа прытулкаў, то нагла выяўленай, то фальшыва завэлюмаванай простытуцыі.

Простытуцыя шмат старэйшая за капіталізм. Але капіталізм надаў ёй новы размах і адкрыў перад ёй новыя магчымасьці. Капіталізм ператварыў жаночае цела ў адзін з найважнейшых тавараў рынку, падпарадкаваў яго ўсім тым законам, якія кіруюць зваротам марганцу, гумы, шоўку... Капіталізм усебакова стымуляваў пашырэньне простытуцыі. Яго эксплёататарскі „авангард“ выступіў як наступнік усяго таго эротычнага спажываньня, якое зьдзяйсьняла фэўдальнае магнацтва. Капіталістычная соцыяльная верхавіна, аднак, больш многагалова, ніж фэўдальная. І таму гэта спажываньне пачало павялічвацца, пачаў расьці попыт на прадажнае жаночае цела. На гэта цела знайшліся новыя кадры пакупцоў і ў асобе тых, каго капіталізм пазбавіў магчымасьці стварыць на абумоўленай ім аснове сям'ю, каго ён пазбаўляе магчымасьці іншы раз да вельмі позьняго веку ажаніцца. Капіталізм сэксуалізаваў мастацтва, прасякнуў элемэнтамі сэксуальнасьці ўсё грамадзкае жыцьцё. Ён ужывае спосабы, каб наркотыка эротызаваньня мас дзейнічала і з тэй-жа мэтаю, з якой яна атручвае масы і другімі наркотыкамі, як рэлігіяй, патрыотызмам, нацыяналізмам, з мэтаю адцягненьня іх ад барацьбы з эксплёататарамі. Усё гэта стварыла пры капіталізьме нячуваны попыт на жаночае цела. З другога боку—мільёны пролетарызаваных капіталізмам жанчын пэрыодычна захватваюцца беспрацоўем, папаўняюць сабою рэзэрвную армію працы. Туды-ж трапляе і тое лішняе жаночае насельніцтва, якое выкідаецца вёскай і ня можа быць увабрана горадам. Нікчэмная зарплата цэлага шэрагу спэцыфічна „жаночых“ профэсій. Юрыдычныя скарпіёны, якія накідаюцца на па-зашлюбнае нараджэньне, адсутнасьць мінімальнай дзяржаўнай увагі да лёсу матэрыяльна незабясьпечнай маткі ды яе дзіцяці—гэта толькі найважнейшыя з фактараў, якія абумоўліваюць у капіталістычным грамадзтве вялікую прапанову прадаваць жаночае цела.

Простытуцыя пачала набываць невядомыя папярэднім гаспадарчым эпохам „організацыйныя формы“. „Масавая патрэба ў рафінаваным „пачастунку каханьнем“ натуральна павяла і ў гэтай галіне да зьяўленьня буйных капіталістычных прадпрыемстваў, якія маглі-б задаволіць найбольш шырокі попыт“,—гаворыць профэсар Зоргэ. „Задаваленьне асаблівых эротычных смакаў не павінна быць зьвязана з якімі-небудзь перашкодамі... Хочуць, каб была магчымасьць заўсёды жадаць і па жаданьні заўсёды атрымліваць пэўныя задаваленьні ў працягу тыдню, двух дзён, пры пэўных акалічнасьцях—пары гадзін—у найбольш комфортабельнай форме і з патрэбнаю пекнатою... І, такім чынам, гандлююць каханьнем таксама, як бавоўнай, і забесьпячэньне ім ідзе таксама акуратна як і апошняй“ [1]).

[1]) Wolfgang Sorge. Geschichte der Prostitution. Verl. Pothof. Berlin. 1920 S. 363.

Капіталізм набірае ў армію простытуцыі такія вялізарныя кадры жанчын, што сур'ёзна гаварыць аб больш-менш дакладным статыстычным падліку тут не выпадае. Офіцыяльная статыстыка капіталістычных дзяржаў карыстаецца тут лічбамі, якія датычаць толькі так званых легальных (падконтрольных) простытутак. Але гэтыя лічбы, як гэта пачынаюць прызнаваць аўторытэтныя спэцыялістыя, зусім непаказальныя [1]) для некаторага хоць-бы набліжэньня да рачаіснасьці, яны патрабуюць шматразовага павялічэньня—у столькі разоў, у колькі перавышае лік простытуючых па-за паліцэйскім наглядам жанчын, колькасьць падконтрольных простытутак. І ўсё-ж нават офіцыяльная статыстыка дае вялізарныя лічбы. У 1882 годзе ў Парыжы лічылася 30.000 легальных простытутак (femme-sen carte); за той-жа год 17.000 простытутак прайшло цераз вастрог Сон-Лазар. Колькасьць па-за контрольных простытутак к гэтаму-ж году вызначалася некаторымі дасьледцамі, як Максім Дзюкан ды інш., у 120.000 [2]). Для Бэрліна Дзюфур даваў у 1896 г. лічбу ў 50.000 простытутак. У Кёльне офіцыяльныя крыніцы налічвалі ў перадваенныя гады 7.000, у Мюнхэне—8.000 простытутак. Агульную лічбу простытутак для ўсяе Нямеччыны такі асьцярожны дасьледца, як Альбэрт Моль, вызначае ў паўтара мільёны чалавек [3]). У Вене лічба простытутак да вайны паводле статыстычных вестак дасягала 30.000, у Глазго—17.000, у Пецярбурзе іх было 40.000 [4]). Я ня буду далей рабіць гэтых выкладак. Яны могуць даць даволі пэўнае ўражаньне аб тым, які размах набыла простытуцыя пры капіталізьме. Нават малады расійскі капіталізм не адставаў ад сваіх братоў. „Густою сеткаю патаемных прытонаў і замаскаваных дамоў распусты пакрыты Пецярбург“,—гаварыў дакладчык на першым усерасійскім зьезьдзе па барацьбе з гандлем жанчынамі (1910 г.),—„і калі-б на адну хвіліну ўдалося сарваць пакрыўку з патаемнай простытуцыі сталіцы, дык мы ўбачылі-б надзіва страшны малюнак,—шмат добрасумленных жонак ды чэсных жанчын зьявіліся-б перад намі ў зусім іншым выглядзе...“ [5]).

Надта вялікі і яе соцыяльны размах. Капіталістычная простытуцыя прыстасоўваецца да абслугоўваньня „спажыўцоў“ усіх без выключэньня соцыяльных слаёў. Яна дастаўляе „тавар“ ва ўсе клясавыя напластаваньні, і таму настолькі розныя яе опэрацыйныя базы: тэатры—вар'етэ, танц-лёкалі, дзённыя і ночныя кафэ. Ангельскія Leicester Skuare ды нямецкія Animier Kneipen готэлі і „габінэты масажу“; бордэлі шумных прыморскіх гарадоў і дамы распусты ціхіх унівэрсытэцкіх гарадкоў, публіч-

[1]) Гл., напр., артыкул Робэрта Міхельса Altes und Neues zum Problem der Moralstatistik. Op. cit.

[2]) Ibidem.

[3]) Zeitschrift für Bekämptung der Geschichts-Krankheiten. Bd. IV. S. 183.

[4]) Працы першага Ўсерасійскага зьезду па барацьбе з гандлем жанчынамі. СПБ. 1910, т. I, стар. 93.

[5]) Ibidem. Даклад Р. А. Шыхмана „О тайной проституции в Петербурге и ее причинах“.

ныя дамы, у якіх напалову разьдзетыя людзі вабяць кліентаў, і арыстократычныя maisons de passe—за кратамі тамбаковых загарадак і з цяжкімі фіранкамі на вокнах; „сямейныя“ бані і „дамы спатканьня“, рабочыя карчомкі, institut ole beaute: „хатнія“ пансыоны і шантанныя „Tingel-Tangel“, канторы для найму служак ды мастацкія атэльe. Усё гэта апорныя пункты простытуцыі, месцы, дзе вядзецца гандаль, адбываецца, а ў большасьці з іх і „рэалізуецца“ на месцы ўмова.

Наколькі рознастайныя гэтыя пункты куплі і продажу чалавечага цела, настолькі розная іх кліентура ды іх пэрсонал. Апошні ахапляе жанчын паўсьвету, якія ў пекных аўто пад'яжджаюць да maisons de passe, і змучаных жанчын, прымушаных „па ўмове“ прымаць у нумары бардэлю да 60 гасьцей у дзень; 16-гадовых дзяўчатак, як пажаданую дзіч, пакідаюць для знаўцаў, і агідных старых баб, якія хапаюць за рукавы прахожых, „масажыстак“, „натуршчыц“ ці „манікюрш“, якія рэклямуюць аб сабе газэтнымі абвесткамі, і дзяўчын, якія вартуюць на рагох вуліц, прадаўшчыц унівэрсальных магазынаў, якія асьцярожна ўкладаюць пакупцом свае хатнія адрасы, і профэсыяналак „вулічных“ бірж, якія з надзвычайнай вольнасьцю заклікаюць кліентаў; популярных сьпявачак, „дасгупіцца“ да якіх можна толькі праз асобных комісыянэраў, і кэльнэрш, якія нецярпліва чакаюць адпаведнага падміргіваньня з боку „гасьця“, „хірамантак“, якія прадракаюць будучыню, і тых, што шукаюць месца „слугі да адзінокага“,— усё гэта строга па таксе, усё мае свой тарыф, усё гэта зьвязана паміж сабою „профэсыянальнай солідарнасьцю“. Вольфганх Зоргэ дае ў сваёй „Гісторыі простытуцыі“ своеасабістую „топографію“ найважнейшых капіталістычных асяродкаў, паказваючы залежнасьць паміж раёнам гораду і абслугоўваючымі яго простытуткамі ды платаю, якую яны атрымліваюць. Солідарнасьць простытутак не абмяжоўваецца тэрыторыяльным разьмежаваньнем між імі „сфэр уплыву“ і згодаю наконт „цэн“,—яны нават робяць іншы раз спробы да „організацыйных“ аб'яднаньняў. Характэрны ў гэтым стасунку дакумэнт, паданы ў Зоргэ. Ён быў надрукаваны ў студзені 1914 году і пашыраўся сярод бэрлінскіх простытутак:

„Увага! Важна для простытутак. Саюз простытутак знаходзіцца ў Бэрліне 0,34. Вуліца Е... Рэсторан... Саюз робіць усім простытуткам, якія зьяўляюцца яго членамі і церпяць недахваткі, дапамогу да 20 марак у тыдзень, уступны ўзнос 1,5 марак, штотыднёвы—1 марка. Бюро функцыянуе заўсёды—кіраўнік справамі Рудольф Кіндт“ [1]). Але ў той-жа час паміж простытуткамі розных рангаў ёсьць вялізарная розьніца. Дыстанцыя паміж пышнай дэмімондэнкай і „вулічнай дзеўкай“ такая-ж, як і між іх кліентамі—банкірам і дробным служачым. Міхэльс паведамляе, што нават на самых ніжэйшых ступенях простытуцыі выяўляецца „клясавая розьніца“. Больш прыгожыя, лепш адзетыя, больш дарагія ставяцца да сваіх

[1]) Wolfgang sorge. Op. cit. S. 398.

больш бедных і горш адзетых таварышак з відавочнай зьнявагай [1]). Простытуткі ва Францыі карыстаюцца, каб адрозьніць сябе ад другіх, назвамі па „кошту“, як „femme d'un frank, femme de cing frank“ („аднафранкавая жанчына“, „паціфранкавая жанчына“). „Ты аднафранкавая жанчына“—зьяўляецца вялікай крыўдай [2]).

Простытутка—найбольш дзейная (ці лепш і больш дакладней сказаць найбольш зьняважаная) асоба ў промысьле матэрыяльнай эксплёатацыі жаночага цела. Наўкола яе концэнтруюцца цэлыя зграі чужаедаў, якія багацеюць каля гэтага промыслу. Сюды належаць усякага гатунку гандляры жывым таварам. Гэтыя найбольш агідныя адкіды эксплёататарскай пароды, утрыманцы дамоў распусты і вялікі штат адміністрацыі падобных установ, сутэнэры, альфонсы, зводнікі, комісыянэры готэляў і дамоў спатканьня, уласьнікі танц-лёкаляй, шантанаў ды інш. аналёгічных установ. Кватэрныя гаспадары простытутак, фактаршы, агенты звычаёвай паліцыі. Уся гэта прагавітая зграя моцна трымае ў сваіх руках простытутку, высмоктваючы з яе кішэняй усё, што да яе прышло з кішэні кліента. „З ганьбы ды няшчасьця жанчын, якіх напаткаў жыцьцёвы злом,—заўважае Пауль Кампфмэйер,—вырастае вялізарная расьліна капіталістычнага ліхвярства. Каля простытуцыі нажываюцца багацьці, як каля золата. І колькі рук цягнецца за гэтымі багацьцямі?...“ [3])

Гандаль жывым таварам займае паважнае месца на капіталістычным рынку. Ён зьяўляецца крыніцай існаваньня многіх мільёнаў чужаедаў. Аб ім напісаны дзесяткі спэцыяльных дасьледваньняў [4]).

Яна абслугоўваецца шырока пастаўленай інтэрнацыянальнай організацыяй, які мае свой асяродак у Буэнос-Айрэсе [5]). Аб размаху гэтай організацыі можа даць уяўленьне хоць-бы адна лічба—20.000 гандляроў жывым таварам, якія налічваюцца ў сучасным Нью-Ёрку [6]). Кожны з гэтых паначоў мае дапаможны штат маладых людзей, так званых кадэтаў, на абавязку якіх ляжыць адшуканьне дзяўчат. Профэсар А. Флекэнэр, які па даручэньні амэрыканскага бюро соцыяльнай гігіены, у працягу некалькіх гадоў напярэдадні вайны аб'ехаў усю Эўропу і напісаў у выніку каштоўную працу аб эўропэйскай простытуцыі, паказваючы шляхі, па якіх большай часткай ідзе экспорт жывога тавару. Жанчыны вывозяцца

1) Robert Michels. Op. cit.

2) Cesare Lombroso et Guclielms Ferre-o. La femme criminelle et le Prostituce. Paris, 1896. Alcan, p. 566.

3) П. Кампфмейер. Проституция как общественно-классовое явление. Гиз. 1923 г стр. 35.

4) Шпрангорда, Баумана, Шранка, Диэра, Блоха и др.

5) Iwan Bloch. Das Sexualleben unserer Zeit, 10—12 Aufl. Berlin, 1919. S. 359.

6) Ibidem. S. 360.

пераважна з Вэнгрыі, Галіцыі, Польшчы ды Румыніі, іх цязуць у Бразылію, Аргэнтыну, Паўднёвую Афрыку і Малую Азію[1]).

Ён-жа падае цікавыя весткі а капіталістычным характары эўропэйскіх дамоў распусты. Каб адчыніць новы бордэль у Будапэшце, патрэбна было 500.000 крон асноўнага капіталу. Прыбытак другараднага прадпрыемства ў Парыжы дасягае 70.000 франкаў у год. А адна з найноўшых берлінскіх установ мае асноўны капітал у мільён марак і выплачвала (1912 г.) 20 проц. дывідэнду[2]). У 1926 годзе асобная камісія Лігі Нацый дасьледвала стан проституцыі ў 28 краінах Эўропы ды Амэрыкі, а таксама ў Эгіпце. Яна ўстанавіла наяўнасьць апарату для гандлю проституткамі, які плянава функцыянаваў і быў організаваны з вялікай дакладнасьцю і перакідаў кадры проститутак у тыя месцы, дзе на іх ёсьць большы попыт[3]).

Капіталістычна-рацыяналізаваўшы справу проституцыі, накіраваўшы яе па шырокім камэрцыйным рэчышчы, дадаўшы да яе новыя організацыйныя формы, ператварыўшы яе ў адзін з найважнейшых промыслаў, буржуазія ў той-жа час імкнецца давесьці сваю гістарычную „недатычнасьць“ да гэтай справы. Яна стараецца давесьці, што жанчыны, якіх капіталізм робіць проституткамі, такімі... нараджаюцца.

Чэзарэ Ламброзе мае ганебны гонар навуковага афармленьня гэтай думкі. Турынскі вучоны пусьціў у ход хутка падхопленую буржуазіяй гіпотэзу аб „Donna prostituta“, гіпотэзу—„прыроджанай проституткі“; згодна гэтае гіпотэзы проститутка нараджаецца моральна-дэфэктыўнаю істотаю, пазбаўленаю жадных моральных асноў. Сьцьвярджэньне, нібы проституцыя абумоўлена скалечанай псыхо-фізычнай конституцыяй тых жанчын, якія выраджаюцца, павінна было давесьці, што проституцыя зьяўляецца гістарычна-няўхільнай, незалежнай ад якога-б там ні было соцыяльнага ўкладу зьявай. І сапраўды, пасьлядоўцы Ламброзо казалі, як і пецярбурскі профэсар Тарноўскі: „зьнішчыце пролетарыят, распусьцеце армію, зрабеце асьвету даступнай у больш кароткі тэрмін, дайце магчымасьць усім пажаніцца, забясьпечце ім спакойнае сямейнае жыцьцё і тады... І тады ўсё-ткі проституцыя будзе існаваць“... А ў друку і на спэцыяльных зьездах прыхільнікі тэорыі „Donna prostituta“ выступалі з довадамі таго, што проституцыя ёсьць перш за ўсё разуменьне, якое азначае амаральны стан грамадзтва, а не яго экономічныя ўмовы[4]).

Гэта прымітыўная тэорыя знаходзіцца ніжэй таго ўзроўню, на якім магчыма яшчэ навуковая крытыка. Мы аб ёй успамянулі толькі, як

[1]) Паводле вестак Вульфэна. Проф. Флекснэр. Проституция в Европе. Выд. НКЗ РСФСР. М. 1926 г., стар. 62.

[2]) Ibidem, стар. 27.

[3]) Аб гэтым было зьмешчана паведамленьне Алісона Нейланса, сакратара ангельскага таварыства этычнай і соцыолёгічнай гігіены ў „Forian Affairs“. Май, 1927 г.

[4]) Даклад Н. А. Захарова на першым Усерасійскім зьезьдзе па барацьбе з гандлем жанчынамі. Працы зьезду. Том I, стар. 206.

а прыкладзе ганебнага дапасаваньня навукі да інтарэсаў капіталістычнага грамадзтва. Некапіталістычны лад спарадзіў простытуцыю—пра гэта мы гаварылі. Але гэты лад дае найлепшую глебу для таго, каб яе ўзгадаваць. Ён стварае аж занадта ўсе тыя соцыяльна-экономічныя ўмовы, сувязь якіх з простытуцыяй усебакова вызначана працамі Адольфа Бляшко, Парэн Дзюшатэле, Фіо, Івана Блоха, Прэйфэра, Оганье, Кампфэйера і другіх дасьлядоўцаў.

Вось чаму ўсякая барацьба з простытуцыяй ва ўмовах капіталізму—гэта паядынак з ветракамі. У грамадзтве ўсёахапляючай эксплёатацыі, у грамадзтве ўсёпранікаючай куплі-продажу нельга выкінуць задаваленьня сэксуальнай патрэбы з-пад улады таваразвароту. Капіталізм—лад, які ўсім сваім сямейным укладам, усімі сваімі шлюбнымі адносінамі дэтэрмінуе зьяву мільёнаў пакупцоў жаночага цела і мільёнаў яго прадаўшчыц. Толькі Манілавы могуць думаць аб тым, што пры захаваньні капіталізму зьнікне простытуцыя. Простытуцыя—няўхільны продукт грамадзтва, які складаецца з дармаедзкіх, эксплёататарскіх і эксплёатуемых кляс. Тысячу раз, з гэтай прычыны, меў рацыю Кампфмэйер, калі пісаў, што „калі-б мы захацелі прапанаваць тут поўную програму вытручваньня з соцыяльнага організму простытуцыі, дык нам прышлося-б, па істоце, сьпісаць програму рабочай клясы, якая змагаецца за соцыялізм... Толькі разам са зьнішчэньнем клясавых супярэчнасьцяй ды ўстанаўленьнем усеагульнага дабрабыту зьнікне і простытуцыя, як грамадзка-клясавая зьява“ [1]).

„Сярэднявяковы палац“ буржуазнай монагаміі трымаецца на экономічным прывілёваным становішчы мужчыны, якое вынікае з яго эксплёатацыі жанчыны. Мужчына выкарыстаў соцыяльную спадчыну сталецьцяў, якая вісіць над жанчынай, выкарыстаў тыя біолёгічныя ўласьцівасьці жанчыны, якія перашкаджаюць ёй прымаць удзел у некаторых галінах соцыяльна-экономічнага жыцьця, для таго, каб узлажыць увесь цяжар монагамічнай організацыі капіталізму на жанчыну.

Жанчына, натуральна, шукае дарогі да свайго вызваленьня, шукае выхаду з „сярэднявяковага палацу“. Але зусім як па-рознаму зьдзяйсьняюцца гэтыя пошукі жанчынай буржуазнай і жанчынай пролетарскай!

Жанчына буржуазная стараецца палегчыць сабе цяжар монагаміі, пераймаючы ад мужа, а часта і выпярэджваючы яго ў „забавах на старане“. Сям'я для яе—крыніца сродкаў і забясьпечаньня „становішча ў грамадзтве“. Задаваленьне сваіх пачуцьцяў, палу, каханьня яна шукае і знаходзіць па-за межамі сямейнага кола. Тут у яе, ва ўмовах капіталістычнага ладу, калі не настолькі вялікія, як у мужчыны, то ўсё-ж ткі здавальняючыя магчымасьці...

Буржуазная жанчына, асабліва тая, што мае асьвету і адукацыю, пачынае энэргічна змагацца супроць таго юрыдычнага прыняволеньня,

[1]) П. Кампфмэйер. Op. cit. стар. 152—3.

якое зьдзяйсьняе капіталістычная дзяржава. Ужо ў эпоху вялікай француской рэволюцыі першазакладальніца фэмініцкага руху Мэры Уоллтонкрафт выдала свой вядомы твор „Ратунак праў жанчыны“ (1792), у якім былі вызначаны прынцыпы, кіраваўшыя пасьля ўсім рухам буржуазнай жанчыны за эмансіпацыю. Гэты рух набыў шырокі размах пасьля рэволюцыі 1848 году. У першай палове XIX сталецьця ён разгарнуўся пад лёзунгам барацьбы за адукацыю жанчын, за тое, каб былі расчынены дзьверы сярэдняй і вышэйшай школы, якія так моцна запёрты былі для яе капіталістычнай дзяржавай. Пашырыўшыся, фэмініцкі рух увабраў у сваё рэчышча і барацьбу за жаночае права на працу, і за палітычнае ўраўнаньне жанчыны ў правох з мужчынай. Буржуазная жанчына, натуральна, імкнулася дабіцца аднолькавых праў з мужчынамі—членамі яе клясы, але, верная сваёй клясавай прыродзе, заяўляла, што „імкнецца дасягнуць гэтай мэты для жанчын усіх клясаў і партый“[1]). У гэтай сваёй барацьбе яна ўжывала ўсялякія спосабы—ад шырокай агітацыі да суфражыцкіх эксцэсаў. Не абыходзілася тут і без комэдыйных спроб змагацца ня толькі за роўнапраўе жанчыны з мужчынай, але і за яе ўладу над ім. Характарна, што падобныя спробы абапіраліся на довады, якія зусім супадалі—mutatis mutandis—з тымі, якімі карыстаюцца ідэолёгі буржуазіі для апраўданьня паднявольнага становішча жанчыны ў сям'і ды грамадзкасьці капіталістычнай дзяржавы. Так, напрыклад, Эліза Фарнгэм, закладальніца „школы бунтаваньня жанчын“, якая зьявілася ў Паўночнай Амэрыцы ў сярэдзіне мінулага сталецьця, абвяшчала: „мы вымагаем няроўнасьці ня ўлады, не эмансыпацыі, але панаваньня. Мы лепш, разумней, мацней за мужчын; вось эвангельле, якое павінна выратаваць сьвет“. Фарнгэм спасылалася на тое, што ў мужчын тканкі грубейшыя, нэрвы менш чулыя, дух тупейшы, чым у жанчыны, якая ва ўсім настолькі вышэй за яго, наколькі ён вышэй оранг-утанга, наколькі кожная жывёла-самка вышэй ад самца[2]).

Цікава, што такога роду аргумэнтацыя мела месца нават у Расіі. Ужо ў часе імпэрыялістычнай вайны зьявілася тут кніга „Адміраньне мужчынскага роду сярод расьлін, жывёл і людзей“, якая абвяшчала ў напышліва-ўрачыстай форме аб надыходзе новага грамадзкага ладу. Гэты лад будучыны стварае магчымасьць гарманічнага і супольнага жыцьця ўсяго чалавецтва; „мужчынскі род—гэта дзіця матэрыяльных патрэб, якое зьяўляецца і ўзгадоўваецца імі, ня знойдзе пры адноўленым соцыяльным ладзе грунту для свайго існаваньня. Выміраньне мужчын у перадавых народаў давядзе спачатку да перамяшэньня рас усіх старон сьвету і да ўстанаўленьня на зямлі больш аднароднага тыпу чалавецтва, а пасьля мужчынскі род згасьне зусім і разам з ім згасьне апошняя крыніца ня-

---

[1]) З програмы Ўсеагульнага Нямецкага Жаночага Саюзу.

[2]) Гл. Шашкоў. Op. cit., стар. 288—9.

роўнасьці, спрэчак і адчужэньня пэміж людзьмі“ [1]). Пролетарская жанчына ніколі не рысавалася ў настолькі сумных для мужчынскай палавіны чалавецтва малюнках. Яна змагалася за сваё роўнапраўе не дэклярацыямі а праве на працу, а тым, што, уцягнутая ў вір капіталістычнай эксплёатацыі, знаходзіла і патрэбы, і сілы разам з пролетарамі-мужчынамі змагацца за зьнішчэньне ладу эксплёатацыі клясы—клясаю, чалавека—чалавекам. Праца-ж стала для яе ня правам, а найцяжэйшым, ва ўмовах капіталістычнага ладу, абявязкам яе, які калечыў яе яшчэ задоўга да таго часу, калі яго лёзунг напісалі на сваіх фэмініцкіх сьцягох найбольш прогрэсыўныя буржуазныя жанчыны.

Мы ўжо казалі вышэй, што для захаваньня монагаміі капіталістычная дзяржава карысталася, поруч з прыладамі прымусу, і довадамі пераконаньня. Ей мала было зачыніць перад жанчынай дзьверы навучальных устаноў, адарваць яе ад удзелу ў політычным жыцьці, аддаць ва ўладу пажыцьцёва-купіўшага яе мужа, зрабіць бяспраўнымі яе „незаконных“ дзяцей і г. д., і г. д.,—трэ‘ было ўсю гэтую чыннасьць належным чынам угрунтаваць, паказаць, што яны знаходзяцца ў адпаведнасьці з розумам, з вымаганьнямі моралі, з аўторытэтам навукі. У тым, чаго не маглі зрабіць пастары, нотарыусы, судзьдзі ды паліцыянты, павінны былі дапамагчы капіталістычнай дзяржаве філёзофы, політыка-экономы, пісьменьнікі. І яны дапамаглі... Я не хачу гэтым сказаць, што найбуйнейшыя буржуазныя вучоныя, якія санкцыянавалі аўторытэтам навуковай мысьлі сямейна-шлюбную організацыю капіталізму, сьвядома падганялі свае погляды да інтарэсаў буржуазіі. Але іх думкі аб сям‘і, шлюбе, жанчыне ішлі на патрэбу пануючых кляс капіталізму, дапамагалі ім цэмантаваць „сярэднявяковы палац“ буржуазнай монагаміі.

Погляды Канта, Шопэнгауэра Ніцшэ на пытаньні сям‘і ды шлюбу наскрозь прасякнуты вузка-клясавым буржуазным зьместам, хоць нікога з гэтых мысьліцеляй нельга ўпікнуць у сэрвілізьме. Кожны з іх быў выяўнікам ідэолёгіі пэўных буржуазных груповак, і яго агульны сьветапогляд адбіваўся ў стасунку да жанчыны, у трактоўцы праблемы сям‘і ды шлюбу.

Погляды Канта зьяўляюцца ўсеахапляючым сінтэзам дробна-буржуазнай аполёгіі „законнага“ шлюбу і самазадаволена-крамніцкай пагарды і непраштэмпаляваных дзяржаваю адносін палоў. Кант абвяшчае, што калі мужчына і жанчына жадаюць узаемна карыстацца родавымі ўласьцівасьцямі адзін аднаго, дык яны бязумоўна павінны пажаніцца,—і гэта канечна патрэбна з праўных законаў чыстага розуму. Усякая пазашлюбная сувязь, на думку Канта, вядзе да страты чалавечай годнасьці—„entmenscht“; паводле яго выразу, філёзоф разглядае яе выключна, як „злучэньне жывёл“. Характарна аргумэнтацыя, якую Кант пры гэтым

[1]) Л. П. Кочеткова. Вымирание мужскога пола в мире растений, животных и людей. Москва, 1915 г., стар. 242.

разьвівае. Ён сьцьвярджае, што пры „шлюбных адносінах чалавек ператварае сябе ў рэч, бо набытае адным членам зьяўляецца таксама здабыткам усёй асобы, таму што апошняя ёсьць ня больш, як рэч, і толькі дзякуючы таму, што калі адна асоба набываецца другою, як рэч, дык тое самае адбываецца з другой асобаю, яна аднаўляе сваю асабістую годнасьць“ [1]).

Кант ня ведае ніякіх іншых магчымасьцяй для захаваньня асобаю пры родавым злучэньні сваёй годнасьці, апрача жаненьня. Шлюб—адзіная забясьпека захаваньня родавымі партнёрамі іх асобы: „ні мужчына ня можа жадаць жанчыны, каб адразу-ж карыстацца ёю, як прыладаю, г. зн. адчуваць непасрэдную асалоду ў выключна фізычнай сувязі з ёй, ні жанчына аддацца яму з гэтай мэтаю, без таго, каб яны абодвы ня страцілі сваёй асобы (фізычнае ці жывёльнае злучэньне),—г. зн. без папярэдняй умовы шлюбу, які павінен быць раней утвораны, як узаемнае адданьне асобы ва ўладаньне другой; гэта патрэбна, каб фізычнае карыстаньне, да якога адзін імкнецца ў стасунку да другога, не пацягнула-б да страты чалавечага аблічча“.

Кант сьцьвярджаў, што кожная пазашлюбная сувязь вядзе да ператварэньня асобы ў рэч, хоць ён ведаў, што якраз буржуазны шлюб зьяўляецца актам куплі-продажу чалавечай асобы, г. зн. самага грубага ператварэньня яе ў рэчы. І само кантава азначэньне шлюбу, як юрыдычнай умовы аб узаемным карыстаньні родавымі органамі, аддае тым крамніцкім духам, які імкнецца „абтаварыць“ усе соцыяльныя каштоўнасьці. Яшчэ больш навучальныя адносіны Канта да пазашлюбных дзяцей. Верны свайму крамніцкаму падыходу да шлюбу, ён разглядае пазашлюбных дзяцей, як своеасабістую контрабанду, бо „дзіця, якое зьявілася на сьвет ня ў шлюбе, не ў законе, тым самым яно ім не абараняецца. Яно як-бы ўкралася ў агульнае быцьцё (як забаронены тавар), з прычыны чаго закон можа ігнараваць яго існаваньне, а таксама яго зьнішчэньне, і ніякі загад ня можа скасаваць ганьбы для маткі, калі яе пазашлюбныя радзіны робяцца вядомымі“. Пазашлюбнае дзіця для аполёгета сьвятой монагаміі—гэта нейкая „штучная рэч“ (Machwerk, res arteficialis).

Кант адбіў у найбольш шчырай форме прасякнуты прадстаўленьнямі аб куплі-продажу буржуазны падыход да монагаміі. Яго радкі аб законным шлюбе і пазашлюбным дзіцяці прадыктаваны мяшчанскай тупасьцю, якая ў Канта, як ні ў кога іншага з філёзофаў, ужывалася поруч з гэніяльнымі ўзьлётамі тэорэтычнай мысьлі. Як кажа адзін з сучасных шукальнікаў новай соцыяльнай этыкі „Гэрман Ролёдэр“, нічога больш барбарскага, больш бесчалавечнага, ці, кажучы моваю самога Канта, больш каньнібальскага наогул яшчэ ніколі ня было ўзвалена на галаву

[1]) Metaphisik der Sitten.

гэтай беднай істоты [1])—пазашлюбнага дзіцяці. Дробная буржуазія ў сваіх меркаваньнях аб шлюбе асабліва фальшывая. І гэта клясавая рыса зазначана ў адносінах да шлюбу яе вялікага ідэолёга,—на фоне паданых вышэй поглядаў Канта на шлюб зьяўляецца вельмі пікантным наступная заўвага Франца Мерынга: ён адмовіўся ад шлюбу і лічыў яго чымсьці падобным да мілай богу ўстановы; ён раіў нават сваім вучням папраўляць свае матэрыяльныя справы пры дапамозе багацьця жанчын,—і ў гэтых адносінах, як справядліва апавядаюць яго біографы, ён некалькі разоў адыграў ролю зводніка [2]).

Мы ўжо казалі вышэй, што буржуазная монагамія можа трымацца толькі да таго часу, пакуль мужчына захавае сваё прывеліёванае, эксплёататарскае становішча. Фактычная роўнасьць родаў зрабіла-б немагчымым пажыцьцёвае прымусовае аднашлюбства, г. зн. тую форму шлюбных адносін, якая найбольш адпавядае інтарэсам пануючых пры капіталізьме кляс. Вельмі зацікаўленая ў тым, каб захаваць пажыцьцёвую монагамію, буржуазія павінна ня толькі экономічна ды юрыдычна абмяжоўваць жанчыну, яна павінна даць гэтаму абмежаваньню прынцыповае ідэолёгічнае ўгрунтаваньне. Гэтую місыю філёзофскага ўгрунтаваньня, замацаваньня жанчыны лепш за другіх выканаў (выконваў яе шмат хто) буйнейшы з вучняў Канта—Артур Шопэнгауэр.

Шопэнгауэр стараўся паказаць, што жанчына—другі род, які ва ўсіх адносінах стаіць ніжэй. Жанчына для Шопэнгауэра — род прамежнай ступені паміж дзіцем і мужчынай, які і ёсьць уласна чалавек. Шопэнгауэраўскі ідэал жанчыны ня выходзіць па-за межы салдацкай мудрасьці Наполеона. „Жанчына тым вышэй, чым больш нарадзіла яна дзяцей“,—казаў Наполеон. Наш філёзоф таксама лічыць, што жанчыны існуюць выключна толькі для пашырэньня чалавечага роду і гэтым вычэрпваецца іх прызначэньне. Таксама, як рабочы існуе для капіталістага толькі для таго, каб узбагаціць яго кішэню, жанчына існуе, каб даваць асалоду яму і забясьпечыць няўмірушчасьць калі не яму самому, дык хоць-бы яго капіталу. Рабочы павінен прыносіць багацьце, жанчына павінна прыносіць патомства, якому можна будзе перадаць яго,—і гэтым вычэрпваецца іх прызначэньне...

Тут, як і ў іншых сваіх разважаньнях аб жанчыне ды шлюбе, Шопэнгауэр больш шчыры, чым Кант. Калі ў Канта выяўляецца яшчэ філістэрская фальшывасьць, дык у Шопэнгауэра наяўна ўжо рэзкая шчырасьць самаўпэўненага эксплёататара. Ён бяз лішніх акалічнасьцяй упікае жанчыну ў тым, што яна па прыродзе—непраўдзівая, падлыжна, марнатраўца, малакаштоўная, недасяжна ўплыву культуры... Ці варта пасьля

[1]) Hermann Rohleder. Sexualphilosophie und Sexualethik. Erst Oldenburg. Verl. Leipzig. 1924. S. 17.

[2]) Франц Мерынг. На философские и литературные темы. Сборник под ред. С. Я. Вольфсона. Минск. 1923, стр. 15.

гэтага дзівіцца, што Шопэнгауэр заядлы абаронца таго нявольніцкага становішча, у якое ставіць жанчыну іслам, які паставіў яе на ролю рэчы, што філёзоф шукае свой ідэал грамадзкага жыцьця жанчыны на ўсходзе, і знаходзіць яго ў... гарэмах?.. „Месца жанчыны—хата, а не грамадзкасьць; яны павінны быць добра выхаваны, рэлігійны, ня іх справа політыка ды поэзія,—давайце ім кнігі толькі рэлігійныя і кухонныя; навучэце іх музыцы, маляваньню, танцам, а таксама зямляробству ды садоўніцтву",—такая мэтафізычная філёзофія Шопэнгауэра, якая становіць сабой апалёгію капіталістычнаму прыняволеньню жанчыны, зыходзіць на самую прастацкую домастроеўшчыну. У ліку тых „прыродных уласьцівасьцяй, якія Шопэнгауэр адшуквае ў жанчыны,—яе марнатраўства. Марнатраўства—адна з самых небясьпечных у вачох буржуа чалавечых заган. Наяўнасьць у жанчыны гэтай заганы прымушае філёзофа вымагаць ад дзяржавы пазбаўленьня яе права ўладаць матэрыяльнымі каштоўнасьцямі, адмаўленьня ёй у экономічнай самастойнасьці. „Што ўласнасьць,—піша ён,—якую набывае мужчына вялікай і доўгай нясупыннай працай, трапляе пасьля ў рукі жанчын, якія ў працягу кароткага часу яе распансорваюць,—гэта ёсьць настолькі-ж вялікая, наколькі і штодзенная звычайная несправядлівасьць, зьнішчыць якую трэба, абмежаваўшы спадчынныя ды маемасныя правы жанчыны... Жанчыны ніколі не павінны вольна карыстацца ўласнай маемасьцю, г. зн. капіталамі, дамамі, маёнткамі. Ёй заўсёды патрэбен які-небудзь апякун". На такой выразнай буржуазнай мове гаворыць вельмі мала хто з філёзофаў.

З асаблівай шчырасьцю выступіў Шопэнгауэр аб монагаміі. Мы гаварылі ўжо, што лязо буржуазнай монагаміі накіравана супроць жанчыны. Мужчыне-ж капіталізм дае шырокія полігамічныя магчымасьці. Але „для прыстойнасьці" гэтыя магчымасьці ён выкарыстоўвае крадучыся, цішком. Шопэнгауэр зрабіў пробу вывесьці мужчынскую полігамію з „падпольля", даць ёй прынцыповыя ўгрунтаваньні. Ён пабудаваў філёзофскую сыстэму падвойнасьці родавай моралі, абернутую сваім монагамічным тварам да жанчыны, полігамічным да мужчыны. Шопэнгауэр вымагае спыніць гульню ў жмуркі, узаконіць тое, што ёсьць у жыцьці, даць мужчыне тое права полігаміі (многажонства), якім ён фактычна карыстаецца. Жанчыну-ж ён падначальвае закону моноандрыі (аднамуства), захаваньнем якога настойна вымагаюць інтарэсы капіталістычнага грамадзтва. „Адносна полігаміі няма чаго спрачацца—яе трэба прызнаць усеагульным фактам; задача ёсьць выключна ў тым толькі, каб рэгуляваць яе. Дзе можна знайсьці сапраўдных монагамістых? Усе мы жывём, прынамсі, у працягу пэўнага часу, але ў большасьці заўсёды ў полігаміі. Бо калі кожны мужчына карыстаецца многімі жанчынамі, дык няма нічога больш справядлівага, як даць яму свабоду, ці-ж прымусіць яго клапаціцца аб многіх жанчынах. Дзякуючы гэтаму і жанчына вернецца ў сваё сапраўднае і натуральнае становішча залежнай істоты, і дама—гэтае страшылішча эўро-

пэйскай цывілізацыі ды хрысьціянска-нямецкага глупства з яе сьмешнымі дамаганьнямі павагі—зьнікне з твару зямлі, і застануцца адны толькі жанчыны... Шлюбная вернасьць мужчыны штучная, у жанчыны-ж натуральная. Блудніцтва жонкі—як об'ектыўна з-за вынікаў, так суб'ектыўна з-за ненатуральнасьці—ня можа заставацца бяз кары, чым такое-ж з боку мужчыны" [1]).

Трэці і апошні з буржуазных ідэолёгаў, погляды якога на шлюб і сям'ю мы хочам закрануць,—Фрыдрых Ніцшэ.

І для Ніцшэ пунктам, ад якога ён выходзіць, ёсьць усебаковая перавага мужчыны над жанчынай. І ён сьцьвярджае, што „мужчына фізычна і разумова мацней ад жанчыны"... Жанчына лютая („яна ня можа адмовіцца ад задавальненьня з трыумфам прыдушыць нагой шыю пераможанага"). Жанчына—небясьпечная і зрадлівая драпежніца ўласьцівасьці яе— „хітрая гібкасьць... тыгровыя пазуры пад пальчаткай... наіўнасьць у эгоізьме... няўспрыймальнасьць ды ўнутраная дзікасьць"... Жанчына хлусьлівая („яе вялікае мастацтва—гэта мана, яе найвышэйшая справа—гэта няшчырасьць і пекната"). Жанчына пераважна нікчэмная і пустагаловая. („Каму я павінна дзякаваць за сваё шчасьце? Богу і маёй краўчысе"). Рысы, заўважаныя ім у „пасьцельных лялек" соцыяльных вяршкоў, якія весяляцца і бесклапотна сакочуць, Ніцшэ абярнуў ва ўласьцівыя элемэнта жаночага „я", абвясьціў іх рысамі жаночай „натуры". Страх і агіда ўласьніка нявольнікаў да свайго заняволенага кіравалі рукою Ніцшэ, калі ён пісаў аб жанчыне, страх перад бунтоўным нявольнікам і агіда да чалавека-рэчы. Ён абвяшчаў жанчыну „небясьпечнай і пекнай кошкай". Яго-ж ідэал абыходжаньня з гэтай „кошкай" быў задоўга да творцы „Заратустры" зьдейсьнены султанамі ды пашамі: „мужчына, які ўладае глыбінёю розуму і палу, павінен мысьліць і можа мысьліць аб жанчыне заўсёды толькі па ўсходняму: разумець жанчыну, як рэч аўладаньня, як уласьнасьць, якую выгадна трымаць, як нешта прызначанае для мужчыны". У гэтых словах можна было-б убачыць мазахіскае скажэньне, калі-б яны не адбівалі ў сабе таго погляду на жанчыну, які ўласьцівы для вяршкоў фінансавай алігархіі, чые затоеныя думкі іншы раз з цынічнай шчырасьцю выказваў Ніцшэ [1]).

Для капіталістычнага эксплёататара найноўшай формацыі тыпова, што ён не здавальняецца адным фактам зьдзейсьнянай ім эксплёатацыі. Ён імкнецца яшчэ „ўгрунтаваць" сваё панаваньне, намагаецца давесьці, што яно ў пляне „сусьветнай гармоніі" і вынікае з няўхільных „натуральных законаў". Гэта—„натуральныя законы" таго парадку, аб якіх Гейнэ казаў, што з іх пункту погляду ўсё на сьвеце гармонічна прызначана. Створаны быкі для таго, каб з іх гатаваць булён, створаны аслы для таго, каб на іх класьці цяжары. І створаны людзі для таго, каб есьці

[1]) О. Ницше как идеолог финансовой олигархии. См. М. Т. Лейтейзен.—Ницше и финансовый капитал. ГИЗ. М. 1928 г.

булён і ня быць падобнымі да аслоў. Так вось з пункту погляду гэтага самага „натуральнага закону“ Ніцшэ і рабіў спробу ўгрунтаваць права мужчыны на панаваньне над жанчынай.

Гэтае права—у розных адносінах родаў да каханьня. „Мужчына і жанчына разумее пад словам „каханьне“ нешта рознае... Ня цяжка дадумацца, якія ўяўленьні зьвязваюцца ў жанчыны з словам каханьне: любіць для яе абазначае поўнасьцю аддацца і душой і целам, без агаворкі, без аглядкі... Жанчына жадае, каб яе прымалі за об'ект уладаньня, яна хоча уваходзіць складанаю часткаю ў разуменьне „ўладаньня“, гэта значыць, што яна жадае такога чалавека, які бярэ, які не аддае самога сябе, а наадварот—павінен яшчэ ўзбагаціць свой унутраны сьвет яе сілай, шчасьцем, верай. Гэтага толькі яна і хоча. Жанчына аддае сябе. Мужчына прымае яе падарунак,—і гэты натуральны контраст, мне думаецца, нельга адхіліць ні соцыяльнай умовай, ні самымі шчырымі пажаданьнямі справядлівасьці“[1]). Угрунтаваўшы „натуральны закон“, згодна якому „мастацтва мужчыны—воля, мастацтва жанчыны—гатоўнасьць аддацца“, і зазначыўшы, што „мужчына стварае сабе вобраз жанчыны, а жанчына стварае сябе паводле гэтага вобразу“, Ніцшэ вымагаў ад чалавецтва, каб яно не парушала гэтага натуральнага закону.

Апостал „звышчалавечага“ індывідуалізму вельмі добра разумеў, што пэўныя соцыяльныя ўмовы могуць скасаваць яго нязрушны „натуральны закон“. І таму ён стараўся давесьці, што аднымі нормальнымі ўмовамі жаночага жыцьця зьяўляецца жыцьцё за калючай загарадкай трох уславёных „к“ (Kinder Küche, Kleider). З якою злосьцю гаворыць ён аб дурнаватых прыяцелях ды згубцах жанчын, якія хочуць разбурыць гэтую калючую загародку: „яны жадалі-б паставіць жанчыну на роўнапраўе, давесьці яе да агульнай адукацыі, нават да чытаньня газэт і заняткаў палітыкай“... Усе гэтыя вольнасьці могуць зрабіць жанчыну, баіцца Ніцшэ, няздольнай „да выкананьня свайго галоўнага прызначэньня—нараджэньня здаровых дзяцей“. А ў тым, што дзетанараджэньне—адзінае прызначэньне жанчыны, Ніцшэ ніколі ня быў няўпэўнены. „Усё ў жанчыне загадка, і ўсё ў жанчыне мае адну разгадку: і гэта разгадка завецца цяжарнасьць“[2]). Так гаварыў Заратустра... Але Ніцшэ ўласнымі вачыма бачыў, як рачаіснасьць „прыводзіла“ жанчыну ня толькі да чытаньня газэт, але і да актыўнага ўдзелу ў працы, грамадзкасьці, навуцы, і тады ён сказаў свой вядомы афорым: „калі жанчына мае навуковыя нахілы, дык звычайна ў яе родавай сфэры што-небудзь не ў парадку“[3]), Уласьнік нявольнікаў, які бачыць, што яго ўласнасьць перастае быць рэчаю. і робіцца чалавекам, лічыць, што адбылося хваравітае адхіленьне ад нормы

[1]) Фридрих Ницше. Собрание сочин., т. VII. Веселая Наука, пер. Николаева. Изд. Кмокина. М. 1900, стр. 253.

[2]) Фридрих Ницше. Так говорил Заратустра, пер. В. Изразцова, 1913, стр. 87.

[3]) Фридрих Ницше. По ту сторону добра и зла.

Пад ідэолёгічным прыкрыцьцем „звышчалавечага“ індывідуалізму Ніцшэ выступаў апалёгэтам усебаковага капіталістычнага нерабаўласьніцтва, улады ўсемагутнага эксплёататара над усімі, хто слабейшы ад яго,—у ліку гэтых слабых была і жанчына. Таму „мужчына павінен быць выхаваны для вайны, жанчына—для адпачынку ваякі: усё іншае глупства“. Так гаварыў Заратустра. І гэта было залатымі словамі для ўсіх „ваяк“ капіталістычнага рынку,—для мужных рыцараў імпэрыялістычнага грабежніцтва, банкавых магнатаў, каралёў нафты ды вугалю...

Шлюб Ніцшэ церпіць пастолькі, паколькі ён гаспадарча патрэбен мужчыне—гаспадару і ўладару. Ён сьцьвярджае таму, што „шлюб угрунтоўваюць на інстынкце роду, на інстынкце ўласнасьці (жонка і дзіця, як уласнасьць), *на інстынкце панаваньня,* які організуе найдрабнейшую ячэйку панаваньня, сям'ю, які *мае патрэбу* ў дзецях і спадкаемцах, каб фізыолёгічна замацаваць дасягнутую ступень улады, уплыву, багацьця“...[1]) Гэтыя радкі Ніцшэ зьяўляюцца самай яснай формулёўкай мэт, якія ставяцца буржуазным шлюбам. Не выпадае гаварыць,—мы гэта ўжо даволі закраналі вышэй, — што гэтыя мэты выключаюць асабістую прыхільнасьць, інтымнае пачуцьцё, каханьне, як элемэнты шлюбу. Вось чаму Ніцшэ зьнішчае каханьне ў якасьці папярэдняй умовы шлюбу. На яго думку, у шлюбаў, якія бяруцца закаханымі, „бацькам—бывае памылка, а маткаю—патрэба „і таму“ трэ' было-б забараніць прымаць пастановы на ўсё жыцьцё ў стане закаханасьці... Трэ' было-б афіцыяльна абвясьціць клятву закаханых нядзейнай і адмаўляць ім у шлюбе“...[2]) Ніцшэ праганяе каханьне з шлюбу,—ён не дае яму месца ні пры ўтварэньні шлюбу, ні пры яго існаваньні. Для задаволеньня патрэбы мужчыны ў каханьні поруч з шлюбам павінен існанаць конкубінат — узаконенае сужыцьцё мужчыны з жанчынай, якая дае яму радасьць і каханьне. Ад гэтай апошняй функцыі Ніцшэ вызваляе абцяжараную многалікімі абавязкамі дзетанараджэньня і хатняй гаспадаркі жонку. „Ахвярная жывёла“ шлюбу, жонка, сама павінна падшукаць свайму мужу палюбоўніц. Мы бачым, што Ніцшэ далучыўся да шопэнгауэравага вымаганьня полігаміі для мужчын, абставіўшы гэтае вымаганьне адпаведнай яму цынічнасьцю. „Ты ідзеш да жанчыны. Не забудзься ўзяць бізун“, — так казаў Заратустра[3]). Ідэолёг клясы, які ідзе да рабочага і да колёніяльнага тубыльца з бізуном у руках, вымагаў бізуна і ў стасунку да жанчыны...

Мы пабежна ахарактарызавалі адносіны да шлюбу і сям'і трох найбуйнейшых мысьліцеляй, чые разважаньні ярка адбіваюць буржуазную ідэолёгію па тым пытаньні, што нас цікавіць. У Канта знайшлі свой адбітак погляду дробнага буржуа, філістэра з яго піэтэтам да законнага

---

[1]) Сумерки божков.

[2]) Утренние зори.

[3]) Нищие. Так говорил Зарарустра, стр. 89.

шлюбу і жудасьцю абурэньня да ўсялякіх адносін родаў, якія выходзяць па-за межы гэтага багамі ды ўладаю акрэсьленага кола.

Шопэнгауэр выяўляў настрой грубага і самаўпэўненага ўласьніка, які ставіць сябе ў шлюбе, як і ўсюды, у прывіліёванае ды пануючае становішча; Ніцше даў сымболь веры драпежніка-эксплёататара, які знаходзіцца на той бок „дабра і зла“ і ў сваім звышчалавечым самазахапленьні ўпэўнена ідзе да вызначанай мэты.

Знаходзячыся пад большым ці меншым уплывам пэўных унутры-клясавых груповак буржуазіі, філёзофы, пра якіх мы гаварылі вышэй, адбівалі пераважна ідэолёгію гэтых груп. Далучаючыся адзін да аднаго і адзін аднаго дапаўняючы, яны ўвогуле далі больш-менш вычэрпываючае ўяўленьне аб тым, чым зьяўляецца для буржуазіі шлюб, для чаго ёй патрэбна сям'я і як выгодна для буржуазіі будаваць адносіны родаў. У іх сыстэмах мы маем ідэолёгічную інтэрпрэтацыю тэй сямейна-шлюбнай організацыі, якая патрэбна капіталізму і якая ім культывуецца.

З поглядамі буржуазных ідэолёгаў на пытаньні сям'і ды шлюбу цікава параўнаць некаторыя хаця-б думкі ідэолёгаў рабочай клясы. Ідэолёгі клясы, якая пастаўлена гісторыяй перад канечнасьцю рэволюцыйнай перабудовы ўсяго грамадзкага жыцьця, таксама не маглі, зразумела, пакінуць бяз увагі важныя організацыйныя формы гэтага жыцьця, як шлюб і сям'я. Мы казалі вышэй, што сямейна-шлюбную організацыю капіталізму бязьлітасна крытыкавалі ўжо соцыялістыя-утопістыя. Фур'е і Оуэн, вымагаючы поўнага ўраўнаньня мужчыны з жанчынай, добра разумелі ўвесь соцыяльны сэнс прыняволеньня жанчыны пры капіталізьме. Яны абвесьцілі, што „пашырэньне праў жанчыны зьяўляецца галоўнай падставай асноўнага соцыяльнага прогрэсу. Соцыялістыя-утопістыя бязьлітасна выкрывалі прыгнечаньне жанчыны пад ярмом капіталістычнай цывілізацыі, разьвенчвалі фальшывую сямейную добрачыннасьць буржуазіі, ганьбілі яе дваістую родавую мараль, паказвалі, як „усхваленае філёзофамі ды поэтамі каханьне ва ўмовах цывілізацыі ператвараецца ў пастку—шлюб, спосаб для нараджэньня дзяцей і гвалту“. Яны проціставілі рачаіснасьці малюнак адносін родаў у будучыні, які рысавалі, кіруючыся утопічнай асновай абстрактных „вымаганьняў прыроды і загадаў маралі“.

Асновазакладальнікі навуковага соцыялізму і ў далейшым не пакідалі гэтай крытыкі, падводзячы яе пад канечна патрэбны навуковы аналіз, зьдзяйсьняючы яе ў сьвятле агульных прынцыпаў мэтафізычнага разуменьня гісторыі і ператварыўшы яе з матэрыялістычнай у дыялектычную.

Нямногае напісанае Марксам і Энгельсам аб сям'і ды шлюбе ў капіталістычным грамадзтве зьяўляецца лепшымі старонкамі ўсяго таго, што ёсьць у міжнароднай літаратуры пытаньня. Гэтыя старонкі зьяўляюцца соцыолёгічнай характарыстыкай, кожная рыса якой знаходзіла сабе грунтоўнае пацьвярджэньне ў лёсе сямейна-шлюбнай організацыі капіталізму

на працягу апошніх 80 год. Гэтыя старонкі зьяўляюцца найлепшым прыкладам дыялектыка-матэрыялістычнага падыходу да пытаньняў сям'і і шлюбу. Пераказваць іх нельга—іх можна толькі паўтараць. Я і дазволю сабе, канчаючы гэты нарыс, паўтарыць з гэтых старонак хоць колькі радкоў, якія маюцца ў „Комуністычным Маніфэсьце".

На чым трымаецца сучасная буржуазная сям'я? На капітале, на прыватнай нажыве. У зусім разьвітым выглядзе яна існуе толькі для буржуазіі, але яна знаходзіць сваё дапаўненьне ў вымушанай бесьсямейнасьці пролетараў і ў адкрытай простытуцыі... Буржуазная балбатня аб сям'і і аб выхаваньні, аб задушэўных адносінах бацькоў да дзяцей выклікаюць тым большую агіднасьць, чым больш разбураюцца ўсе сямейныя сувязі сярод пролетарыяту, дзякуючы буйнай прамысловасьці, і чым больш дзеці рабочых абарачаюцца ў простыя рэчы гандлю ды рабочыя інструманты.

Але вы, комуністыя, хочаце завесьці супольнасьць жонак,—крычыць нам хорам буржуазія. Буржуа глядзіць на сваю жонку, як на простую прыладу вытворчасьці. Ён чуе, што прылады вытворчасьці павінны быць адданы ў агульнае карыстаньне, і, натуральна, прыходзіць да таго заключэньня, што і жанчын чакае такі-ж лёс. Ён і ня думае, што гутарка ідзе аб зьнішчэньні таго становішча жанчыны, у якім яна зьяўляецца простаю прыладаю вытворчасьці. Аднак, няма нічога больш сьмешнага высокамаральнай жудасьці нашага буржуа, з прычыны выабражальнай офіцыяльнай супольнасьці жонак комуністых. Комуністым ня трэба заводзіць супольнасьці жонак, яна амаль заўсёды існавала...

Сапраўды буржуазны шлюб зьяўляецца супольнасьцю жонак. Комуністых можна было-б упікнуць мо' толькі ў тым, што яны хочуць паставіць офіцыяльную, адкрытую супольнасьць жонак на месца фальшыва схаванай. Але само сабою разумеецца, што са зьнішчэньнем сучасных умоў вытворчасьці зьнікне і створаная імі супольнасьць жонак, г. зн. офіцыяльная і неофіцыяльная простытуцыя.

Уся далейшая крытыка буржуазнай сям'і, якая была разгорнута ідэолёгамі рабочай клясы, вялася зброяй, узятай у арсэнале Маркса і Энгельса. Усе яны,—я тут у першую чаргу называю Аўгуста Бэбеля, Поля Ляфарга і Кляру Цэткін,—паглыбляючы аргумэнты творцаў навуковага соцыялізму, сямейна-шлюбную організацыю капіталістычнага грамадзтва, падточаную ў самых сваіх асновах, заганілі сьмяртэльна-компромэтуючай крытыкай.

# РЭВОЛЮЦЫЙНАЯ БАРАЦЬБА Ў МЭКСЫЦЫ

**Л. Каган**

„Ня было аніводнай смуты ў Мэксыцы на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя бяз удзелу Амэрыкі: амэрыканцы дапамагалі Мадэро супроць Хуэрты, Хуэрце супроць Мадэро, Каранцу супроць Хуэрты, Вільле і Сапаце супроць Каранцы..."

Дэвэнпорт. „Нафтавыя трэсты".

Тэлеграф прынёс нам 17 ліпеня б. г. вестку аб забойстве нядаўна абранага мэксыканскага прэзыдэнта Обрэгона. Нам яшчэ невядома дасканала, хто забойцы, але кожнаму, хто хоць крыху ведае палітыку Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі да краін Амэрыкі Лацінскай, зразумее адразу, чыя рука накіравала рэвольвэр забойцы. Амэрыка добра ведала, што робіць. „Пасьля забойства, бязумоўна, павялічацца нязгоды ў дробна-буржуазным блёку, на чале якога раней стаяў Кайэс, а потым Обрэгон. Скарыстаюць момант і паны, нездаволеныя ўступкамі Обрэгона, і, як гэта заўсёды бывае ў выпадках ускладненьняў у Мэксыцы, на сцэну прыдуць амэрыканскія імпэрыялістыя",—піша Рафаэль Карыльо, дэлегат ад Мэксыкі на VI Конгрэсе Комінтэрну, у сувязі з апошнімі навінамі ў Мэксыцы [1]).

Якая-ж гэта дробна-буржуазная ўлада ў Мэксыцы, правадыра якой патрэбна было забіць амэрыканскаму імпэрыялізму?

Чаму наогул да Мэксыкі больш, чымся да іншых краін Лацінскай Амэрыкі, працягвае свае кіпці гэты імпэрыялізм?

Як дайшла Мэксыка, былая колёнія Гішпаніі, да самастойнага існаваньня з больш-менш рэволюцыйным урадам на чале?

Мэта гэтага кароткага нарысу пазнаёміць з асноўнымі этапамі рэволюцыйнай барацьбы ў Мэксыцы, паказаць, што, ня гледзячы на ўсялякія перашкоды з боку самага магутнага на сьвеце амэрыканскага імпэрыялізму, рэволюцыя ў Мэксыцы расьце, паглыбляецца і прывядзе да канчатковай перамогі рабочых і сялян гэтай багатай краіны.

## I

Крыху географіі.

Мэксыка мае форму трохкутніка, аснова якога зьліваецца са *Злучанымі Штатамі Амэрыкі* [2]), вяршыня-ж — з рэспублікай Гватэмалай.

---

1) „Праўда" № 168 ад 21 ліп. 1928 г.

2) Пад „Амэрыкай" умовімся разумець Злуч. Штаты Паўночнай Амэрыкі.

З усходняга боку яе абмывае Мэксыканская затока (частка Атлянтыцкага акіяну), з захаду—Вялікі акіян. Плошча Мэксыкі—амаль што 2 мільёны кв. кілёмэтраў—прыблізна палова эўропэйскай часткі СССР. Колькасьць насельніцтва 16 мільёнаў чалавек[1]).

Мэксыка падзяляецца на тры часткі: 1) „Гарачая Зямля"—узьбярэжжы акіянаў, паўвостраў Юкатан і Паўднёвая Даліна. „Гарачая Зямля" мае вышыню ў 800 мэтраў над роўнем акіяну. 2) „Цёплая Зямля"—ад гарачай паласы да вышыні ў 1400—1600 мэтраў над роўнем акіяну. 3) „Халодная Зямля"—вышэй 1600 мэтраў над роўнем акіяну. Назвы гэтыя ня трэба разумець ў літаральным сэнсе: гэтак званая „Халодная Зямля", напрыклад, мае сярэднюю гадавую тэмпэратуру ў +15° С. і сьнег выпадае там раз у 2—3 гады, а марозы бываюць ня больш—5° С. Вось чаму Мэксыка мае вельмі багатую фауну і флёру. Вельмі багатая Мэксыка і на карысныя выкапні, асабліва на нафту, срэбра, волава, медзь, золата.

Так, у 1924 г. ў Мэксыцы здабыта 14 проц. усяе сусьветнае колькасьці здабыванай нафты.

І гэта найбагатшая краіна амаль што ня мае ўласнай буржуазіі, тубыльнага капіталізму і зьяўляецца падколёніяй замежных імпэрыялістых, пераважна амэрыканскіх. Так, у 1926 г. разьмеры амэрыканскіх укладаньняў ў Мэксыцы ў тысячах доляраў былі наступныя:

| | |
|---|---|
| Нафта | 368.708[2]) |
| Горная справа | 317.427 |
| Чыгуначныя шляхі | 248.158 |
| Зямельныя ўладаньні | 166.047 |
| Лясная гаспадарка | 10.935 |
| Гэрадзкая нярухомая маемасьць | 35.771 |
| Мэталюргія | 25.180 |
| Іншыя фабрыкі | 27.746 |
| Грамадзкія прадпрыемствы | 30 799 |
| Гандаль | 26.140 |
| Розныя прадпрыемствы | 125.242 |
| Усяго | 1 млрд. 382 млн. 153 тыс. дол. |

Вось дзе прычына вялікай зацікаўленасьці Амэрыкі ў мэксыканскіх справах, экономічная яе база. Але аб гэтым дакладна пазьней.

## II

Пераходзім да сьціслага агляду рэволюцыйнай барацьбы ў Мэксыцы ў яе гістарычным разрэзе. Папярэдняя заўвага: паколькі Мэксыка краіна з слаба разьвітай прамысловасьцю—гісторыя вызваленчага руху ў гэтай краіне—гісторыя пераважна сялянскага, а не пролетарскага руху.

[1]) М. Танин—„Америка на мировой арене", стар. 140.

[2]) Лічбы бярэм з кнігі Дыего Ортэга—„Аграрный вопрос и крестьянское движение в Мексике".

Паўднёвая Мэксыка была арэнай барацьбы паміж рознымі індыйскімі плямёнамі ўжо ў XI—XII стагодзьдзях. Вандроўныя плямёны падначальвалі сабе аселыя зямляробскія плямёны і самі рабіліся пануючай ваеннай групай. Гэтая група звычайна дзялілася на ваякоў і духавенства, якія жылі за кошт зямляробаў. У пачатку XIV стагодзьдзя магутнае племя ацтэкаў падпарадкавала сабе амаль што ўсе дробныя дзяржавы Цэнтральнай Мэксыкі і дало новай аб'яднанай Ацтэкскай дзяржаве назву „Месіка", бо так называлася самае моцнае з ацтэкскіх пляменьняў. Соцыяльнай асновай новай дзяржавы была сялянская абшчына, якую эксплётавалі жрацы, ваякі і гандляры—усе пераважна выхадцы з парамажнікаў-ацтэкаў.

Уся зямля, якая формальна лічылася ўласнасьцю імпэратара, падзялялася на 5 частак: 1) частку, якая знаходзілася ў карыстаньні імпэратарскай сям'і; 2) частку, якая належала ваеннай арыстократыі, 3) частку, якая была ўласнасьцю царквы; 4) частку зямляробаў і 5) зямлю сядзібаў (усадзебную). Першыя тры часткі апрацоўваліся сялянамі або нявольнікамі, якіх давалі войны. Нявольнікамі рабіліся таксама і неаплатныя даўжнікі—сяляне. Сяляне ўладалі зямлёй грамадаўска-радавым парадкам і толькі сялібы лічыліся сямейнай уласнасьцю. Пад канец існаваньня Ацтэкскай імпэрыі мы ўжо наглядаем распад радавога строю: начальнікі родаў рабіліся гэтак званымі кацыкамі, г. зн. упаўнаважанымі дзяржаўнай уладай асобамі па збору падаткаў з сялянства, і ўлада кацыкаў пачала пераходзіць ад бацькі да сына, зрабілася спадчыннай. Ацтэкская імпэрыя практыкавала крывавы тэрор, які меў у яе форму масавых афяраваньняў ацтэкскім багам,—такім чынам дасягалася паслухмянасьць сялянскіх мас пануючым групам ваякоў і духавенства.

* * *

У пачатку XVI стагодзьдзя Мэксыку наведваюць гішпанскія колёнізатары. Чаму фэодальная Гішпанія шукала колёніі? Бо ў XVI стагодзьдзі там была ўжо перавытворчасьць духавенства і панства (шляхты) і патрэбны былі новыя землі, каб пракарміць „служак багавых" ды „шаноўных рыцараў". Шукалі яны шчасьця за морам, і да іх звычайна далучаліся ў якасьці наймітаў і матросаў злачынцы—уцекачы, авантурыстыя і іншая „чыстая публіка". З канца XV стагодзьдзя гэтая эміграцыя накіравалася і ў Амэрыку. Некалькі сот такіх авантурыстых высадзілася ў Мэксыцы. З імі ўпарта на працягу некалькі гадоў змагаліся ацтэкі. Нарэшце, гішпанцы з Фэрдынандам Кортэцам на чале заваявалі горад Мэксіко ў 1519 г. і выразалі амаль што ўсё яго насельніцтва. Для Мэксыкі пачынаецца пэрыод гішпанскага кіраўніцтва.

Гішпанская эксплёатацыя аказалася для тубыльцаў яшчэ цяжэй ацтэкскай. Гішпанцы ўсе землі абвясьцілі ўласнасьцю кароны. Кожны індзеец, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту, павінен быў плаціць ад 4,5 да 6 пэзо

ў год падатку [1]). Гэта апрача „дзесяціны“ на карысьць каталіцкага духавенства, ацтэкскага падатку натурай з першага збору ўраджаю, які захавалі і гішпанцы, і прымусовага дармовага будаўніцтва каталіцкіх кляштароў сялянскім насельніцтвам. А зямлі сялянам-індзейцам пакінулі прыблізна чвэрць—рэшту захапілі ў свае рукі пераможнікі-гішпанцы. Яны ўзялі сабе ня толькі зямлю ацтэкскага імпэратара, яго духавенства і ваеннай знаці, але яшчэ, апрача таго, і значную частку сялянскай зямлі. Увялі „прыгоннае права“ для сялян-тубыльцаў: прымацавалі кожнага індзейца да тае ці іншае вёскі і забаранілі ім пераходзіць з месца на месца. Па вёсках пасадзілі для „апекі“ сялян паноў-гішпанцаў. Які тамака быў зьдзек над сялянствам і з боку паноў і з боку каталіцкай царквы—гаварыць ня прыходзіцца: відаць і так. Вось некалькі характэрных „правіл“: дазваляецца скарыстоўваць прымусовую працу індзейцаў у капальнях, для пераносу тавараў у мясцовасьцях, дзе няма добрых шляхоў, для будаўніцтва кляштароў. „Я бачыў дзьве такія працы,—піша мэксыканскі біскуп Монтуфар,—якія выканалі за адзін толькі год на грошы і дармовую працу бедакоў... Шмат хто з будаўнікоў-індзейцаў памерлі ад голаду на гэтым будаўніцтве кляштароў“ [2]).

Так жылі сялянскія масы Мэксыкі (а іншых, апрача малой колькасна праслойкі колёнізатараў, ня было ў Мэксыцы наогул) пад патройным прыгнечаньнем ураду, царквы і дваранства.

* * *

Пакуль Гішпанія была магутнай дзяржавай, шырокія колы тубыльнага насельніцтва Мэксыкі цярпелі яе панаваньне. Але ў 1809 г. Напалеон заняў большую частку тэрыторыі Гішпаніі і даў краіне лібэральную констытуцыю Тады і ў Мэксыцы загаварылі аб незалежнасьці. Зьявіліся дзьве партыі: консэрватараў і лібэралаў. Першыя былі партыяй паноў і духавенства. Яны былі за самастойную Мэксыку з захаваньнем усіх ранейшых парадкаў, за захаваньне фэодалізму ў Мэксыцы. Зусім іншай была програма лібэралаў—партыі тубыльнай дробнай буржуазіі. На чале гэтай партыі стаяла мэксыканская інтэлігенцыя, якая імкнулася захапіць уладу ў свае рукі. Лібэралы жадалі для Мэксыкі фэдэрацыйнага ладу і парлямэнтарызму, бо такі парадак забясьпечваў для інтэлігенцыі кіраўнічую ролю ў дзяржаве. Палепшаньнем стану сялянства лібэралы цікавіліся мала.

Але сярод лібэралаў была і адна больш радыкальная група, якая складалася з вясковых сьвяшчэньнікаў-рэволюцыянэраў, зьвязаных з сялянскімі масамі. Правадыры гэтае групы—сьвяшчэньнікі Мануэль Ідальго і Хозэ Марыя Морэлос. Яны сталі на чале магутнага сялянскага паўстаньня з лёзунгамі: „Сьмерць гішпанцам! (чытай эксплёататарам, бо

[1]) Пэзо—97 кап. прыблізна.
[2]) „La poblacion del valle de st. Juan Testihuacan“, т. I, p. 45. Цыт. па Ортэга, p. 17.

ўсе паны, вясковыя гандляры, квотнікі, аканомы маёнткаў былі гішпанцамі). Зямлю—індыйцам, якіх абабралі 300 год назад“ [1]). Паўстаньне выбухла ў ноч з 15 на 16 верасьня 1810 году ў вёсцы Долёрэс (сучасны штат Ідальго) і хутка перакінулася на значную частку тэрыторыі краіны. Сяляне далучаліся да яго цэлымі вёскамі. Колькасьць паўстанцаў вырасла да ста тысяч чалавек і, па выразу мэксыканскага гісторыка Бульнеса, „паходзіла на азіяцкія горды Чынгіс-Хана“. Рэволюцыйны ўздым гэтых неорганізаваных і кепска ўзброеных мас быў такі вялікі, што яны лёгка заваявалі горад Гуанахата, дзе была артылерыя і добра ўзброены гарнізон у некалькі тысяч чалавек. Пасьля Гуанахата цэлы шэраг іншых гарадоў здаўся Ідальго бяз бою. Цяпер Ідальго ўжо мае магчымасьць раздаць паўстанцам зброю, скарыстаць захопленыя друкарні ў організацыйных мэтах. Усюды, дзе перамаглі паўстанцы, паны выганяліся і зямля аддавалася парабком—пэонам.

Здавалася, паўстанцы мелі шансы на поўны посьпех. Але з пашырэньнем яго пачынаюць выяўляцца адмоўныя бакі паўстаньня: слабая дысцыпліна сярод сялян, політычная і агульная несьвядомасьць паўстанцаў, благі ўплыў дробнай буржуазіі, пераважна інтэлігенцыі, на Ідальго і іншых правадыроў. Так, у сваёй газэце „Эль Дэспэртадор Амэрыкано“ Ідальго піша: „Мэта паўстаньня—склікаць конгрэс з прадстаўнікоў гарадоў, вёсак і іншых месцаў дзяржавы, які, маючы на мэце захаваньне сьвятой рэлігіі, будзе дыктаваць законы мяккія і справядлівыя...“ Гэта ўжо туманная інтэлігенцкая брахня, а ня тыя яркія сталёвыя лёзунгі, з якімі распачалося паўстаньне! Яшчэ цікавая дэталь—дробная буржуазія, якая далучылася да паўстаньня, патрабавала для сябе афіцэрскіх чыноў і, каб задаволіць іх, увялі столькі камандных пасад, што на аднаго афіцэра прыпадала 2—3 салдаты! А пэнсія афіцэрам выдавалася вельмі вялікая.

Усё гэта вырашыла лёс паўстаньня: контррэволюцыя організавалася, узмацнілася, і ў ліпні 1811 г. атрымала рашучую перамогу над Ідальго. Самога Ідальго ўзялі ў палон і расстралялі. А цераз 3 гады расстралялі і другога выдатнага сялянскага правадыра Хозэ Морэлоса. Так няўдала закончылася першая мэксыканская аграрная рэволюцыя.

* * *

Незалежнасьць Мэксыкі абвяшчаецца ў 1823 годзе, і ўлада пераходзіць у рукі блёку з лібэралаў і консэрватараў. Прывілеі пануючых станаў захоўваюцца цалкам і поўнасьцю.

Але ў хуткім часе паміж лібэраламі і консэрватарамі выбухае барацьба: лібэралы патрабуюць скасаваньня прывілеяў панства і духавенства і фэдэральна-рэспубліканскага строю.

---

1) Lazaro gyttierez de Lara: „El pueblo Mexikano y sus Zuchas“, p. 30. Op. cit., p. 26.

Барацьба ідзе на працягу 50-ці год. Асноўнай слабасьцю лібэралаў была адсутнасьць у Мэксыцы нацыянальнай буржуазіі: раней яе зьяўленьню перашкаджала наяўнасьць гішпанскай гандлёвай монополіі, потым бясконцая грамадзянская вайна. Утварыліся спагадныя ўмовы для пранікаваньня замежнага капіталу ў Мэксыку, і апошні шырока скарыстаў гэтую магчымасьць, асабліва амэрыканскі пасьля перамогі Поўначы над Поўднем (1862—1865). Цікава, што ў першыя часы замежны капітал падтрымлівае лібэралаў, бо ён зацікаўлены, каб скасавалі фэўдальныя прывілеі зямляўласьнікаў: яму патрэбны вялікія зямельныя концэсіі для плянтацый, горных прадпрыемстваў, будаўніцтва чыгуначных шляхоў. Іхні лёзунг—дэзамортызацыя зямлі, пераход яе ў вольную куплю-продаж.

У 1857 годзе ўладу пры дапамозе замежных капіталістых захапілі лібэралы, і тады выдаюцца славутыя „Законы аб рэформе“, распрацаваныя вядомым індзейцам-юрыстым Беніто Хуарэцам.

На падставе гэтых законаў: а) конфіскаваліся і пераходзілі ў продаж усе землі і нярухомасьці, якія належалі да гэтага часу духавенству, б) забаранялася на далейшы час уладаньне капіталамі і нярухомай маемасьцю духоўным і грамадзянскім корпорацыям.

У гэтым-жа 1857 годзе прынялі і констытуцыю, галоўныя пункты якой абвяшчалі: а) роўнапраўнасьць усіх грамадзян перад законам, б) аддзяленьне царквы ад дзяржавы і свабода рэлігійных культаў, в) падзел улады адміністрацыйнай, законадаўчай і судовай, г) фэдэральна-рэспубліканскі дзяржаўны лад і д) усеагульнае выбарчае права.

Усё, здаецца, „честь-честью“, па ўсіх правілах лібэралізму. А цяпер зірнем на адваротны бок мэдалю. Рэформы зусім не палепшылі стану сялянства,—конфіскаваныя землі духавенства сялянам не дасталіся. Наадварот, закон аб дэзамортызацыі зямель толькі пагоршыў стан сялянства. Папершае, ані мэтра зямлі не дасталося сялянскім суполкам на падставе таго, што сялянская грамада разглядалася, як корпорацыя, а значыцца, ня мела права купляць зямлю. Падругое—адбіралі зямлю ў сялян-арандатараў царкоўнай зямлі, што ўжо было ў поўнай меры антысялянскім крокам, адбіралі таму, што па закону за гэтую зямлю трэба было заплаціць казьне ў трохмесячны тэрмін, што лёгка было зрабіць багатым арандатарам і ня мелі магчымасьці зрабіць беднякі-сяляне. У выніку царкоўныя землі дасталіся багатым спэкулянтам, а колькасьць сялян—ранчэрос (хутаран) значна паменшала:

У 1854 г. было 15.085 ранчо, у 1876 г.—толькі 13.800.

Пацярпелі, такім чынам, нават багацейшыя сяляне—ранчэросы: тым горш, значыцца, прышлося бедняком, у большасьці сваёй безьзямельным арандатарам царкоўнай зямлі.

Хто-ж скупляў зямлю, калі буйной буржуазіі ў Мэксыцы ня было? Галоўным чынам людзі, якія „нажыліся на рэволюцыі“: генэралы, адвокаты, розныя авантурыстыя, замежныя капіталістыя. Утварылася, такім

чынам, новая праслойка мэксыканскіх капіталістых-зямляўласьнікаў, да якіх перайшлі землі каталіцкага духавенства і гішпанцаў-фэодалаў.

Рэволюцыя 1857 г., лібэральная па форме, была, такім чынам, буржуазнай па свайму зьместу. Яна зьнішчыла ў Мэксыцы фэўдалізм, і, паколькі ўласнай буржуазіі Мэксыка ня мела, шырока адчыніла дзьверы краіны для замежных капіталістых. Стан сялянства, тады яшчэ адзінай працоўнай клясы ў краіне, бо рабочых там яшчэ ня было, рэволюцыя 1857 г. толькі пагоршыла.

III

Як мы ўжо гэта адзначылі вышэй, рэволюцыя 1857 г. ў Мэксыцы шырока адчыніла дзьверы краіны замежным капіталістым. Што патрэбна было апошнім у Мэксыцы? Зямельныя концэсіі для фруктовых, баваўняных і цукровых плянтацый, горныя концэсіі, чыгуначныя концэсіі для вывазу за межы багацьцяў краіны. А для ўсіх гэтых концэсій патрэбна было ўладаньне зямлёй.

Вось чаму першым імкненьнем замежных капіталістых было зрабіцца буйнымі панамі-зямляўласьнікамі. І ўжо другое іхняе імкненьне—экспропрыяцыя гарадзкой дробнай буржуазіі і вясковага сялянства, каб утварыць кадры патрэбнага для замежных капіталістых пролетарыяту. Інтарэсы замежнага капіталу супадалі цяпер з інтарэсамі мэксыканскіх паноў, аб пахаджэньні якіх мы гаварылі вышэй (паноў, якіх спарадзіла рэволюцыя з генэралаў, авантурыстых, буйных арандатараў царкоўнай зямлі—наогул, усіх тых, хто танна скупіў „дэзамортызаваныя" землі). Што-ж датычыць ураду лібэралаў, ён ужо сваю „гістарычную місію" выканаў, і блёку капіталістых—паноў Мэксыкі, як тубыльцаў, так і замежных, быў не патрэбен. Вось чаму новыя гаспадары Мэксыкі гэты ўрад скінулі рукамі генэрала Порфірыо Дыаца. Зьявілася ваенна-паліцэйская дыктатура прэзыдэнта Дыаца, якая трымалася ў Мэксыцы 33 гады і была „залатым векам" замежнага капіталу. Так, напрыклад, чыгуначныя концэсыянэры карысталіся пры Дыацу наступнымі прывілеямі: 1) зямля давалася ім дарма; 2) яны мелі права прымушаць сялянства працаваць на будаўніцтве за 50 сентавос (прыблізна, 1 кап.) у дзень; 3) яны атрымлівалі субсыдыю ад дзяржавы—ад 8 да 20 тысяч пэзо за кілёмэтр шляху; 4) яны атрымлівалі права на эксплёатацыю чыгункі на працягу 51 году.

І такой-жа спагаднай была політыка Дыаца і да ўсялякіх іншых концэсіянэраў. Характэрны факт—правая рука Дыаца і яго міністр фінансая Лімантур быў агентам магутнага чыгуначнага трэсту Спэер і К° (Нью-Йорк—Лёндон).

Экономічная політыка Дыаца дала наступныя вынікі:

1) Тубыльная мэксыканская буржуазія не нарадзілася і цяпер: наадварот, дробная буржуазія мэксыканскага пахаджэньня зруйнавалася

канчаткова; добра жылі і багацелі толькі мэксыканскія паны, замежныя капіталістыя ды чыноўнікі ўраду.

2) Раскладалася мэксыканская інтэлігенцыя: значная яе частка пайшла на службу да замежных капіталістых, і міністар Лімантур організававаў з гэтай часткі г. зв. „партыю вучоных“, задачай якой было „спрыяць праніканьню ў Мэксыку буйнога замежнага капіталу“. Паміж іншым, партыя вучоных была адзінай легальнай політычнай партыяй пры Дыацу.

Разьвівалася ў Мэксыцы пераважна здабываючая прамысловасьць, як гэта і павінна быць у колёніяльнай краіне. Гэта відаць з таго, што колькасьць рабочых у прамысловасьці і транспорце дасягнула 250 тысяч, з якіх у прамысловасьці апрацоўчай было толькі каля 50 тысяч чалавек. Эксплёатавалі гэтых рабочых надзвычайна: працавалі яны да 16 гадзін і атрымлівалі ў дзень 40—50 кап. Эксплёатацыя прымусіла рабочых у 1906 годзе на забастоўкі, якія прыдушаны былі самым лютым спосабам—забіта было пры ліквідаваньні іх узброенай сілай каля тысячы рабочых.

4) Найгоршым у Мэксыцы ў часе дыктатуры Дыаца аказалася становішча сялян.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, замежнаму капіталу патрэбны былі землі. Зямля належала тады паном, ранчэросам (хутаранам) і сялянскім грамадам. Зразумела, урад Дыаца, базай якога быў блёк замежных капіталістых і мэксыканскіх паноў, не закрануў інтарэсаў апошніх. Ён правёў сыстэматычную экспропрыяцыю грамадаўскай сялянскай зямлі, бо гэтай політыкай дасягаліся дзьве мэты: надзяленьне концэсіянэраў зямлёй і пролетарызацыя сялянства.

Формальнай падставай для экспропрыяцыі зямлі ў беднага сялянства былі прынятыя конгрэсам законы ад 3 мая 1878 г. і 15 сьнежня 1883 г. Гэтыя законы дазваляюць утвараньне камісій „з мэтай вымераць і разьмежаваць вольныя землі“. „Вольнымі“ аказаліся ўсе грамадаўскія землі, бо цёмныя індзейцы, якія ўладалі гэтымі землямі на працягу стагодзьдзяў, ніякіх дакумантаў на права ўладаньня зямлёй ня мелі, і камісіі адбіралі грамадаўскую зямлю і аддавалі яе концэсіянэрам.

Зразумела, ня ўсюды сяляне аддавалі добраахвотна свае землі, вось чаму ўрад Дыаца організаваў корпус вясковай паліцыі—rurales, якія бязьлітасна забівалі сялян. Lazaro guttierz de Lara ў сваёй кнізе „El pueblo Mexicono“ піша, што пахаваньне сялян, забітых гэтымі rurales, цягнулася па 3—4 дні,—столькі бывала гэтых ахвяр. У выніку гэтай політыкі „разьмежавана“ было з 1881 па 1899 г. *32.240.373 гэктары зямлі*, якія перайшлі ў рукі 29 кампаній!

„Разьмежаваньне“ аказалася карысным ня толькі для замежных капіталістых. Тое-сёе дасталося і мэксыканскім паном, аб чым сьведчыць той факт, што ў 1876 г. буйных маёнткаў было ў Мэксыцы 5.700, у 1893—8.872.

Цікава, што ў часе дыктатуры Дыаца наглядаецца адраджэньне фэўдальных парадкаў у Мэксыцы: прымусовая праца сялян на чыгуначных концэсіях, „права першай начы“ ў штаце Морэлос, звычай дарыць пану ў дзень яго імянін самую прыгожую дзяўчыну; у штаце Чыапас, у раёне Опосынго, паны раз у год зьбіралі хлапцоў ад 14 год і дзяўчат ад 12 і жанілі іх.

*(Працяг будзе)*

# ПРЫГОННАЯ ГАСПАДАРКА БЕЛАРУСІ ПАВОДЛЕ ДАНЫХ РАСІЙСКАЙ ГАСПАДАРЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ І ЖУРНАЛІСТЫКІ 30—40 ГАДОЎ

**Проф. Зьм. Жарынаў**

Прыгонная гаспадарка Беларусі застаецца да гэтага часу вельмі мала вывучанай. Напэўна ў бліжэйшы час разгорнецца надзвычайна цікавая праца па дасьледаваньню рознага архіўнага матэрыялу, асабліва матэрыялу паасобных маёнткаў, сабранага інвэнтарнымі камітэтамі. На грунце гэтых дасьледаваньняў мы атрымаем вельмі важную і ў пэўнай ступені дакумантальна абаснаваную характарыстыку цэлага шэрагу момантаў у беларускай прыгоннай гаспадарцы.

Але, як ні каштоўны гэты матэрыял інвэнтароў, які намі зьбіраецца, а часткай ужо сабраны, усё-ж наперад можна сказаць, што ён ня ўхіліць патрэбы ў карыстаньні і іншым, дапаможным матэрыялам, у прыватнасьці матэрыялам гаспадарчай літаратуры і журналістыкі прыгоннай эпохі. Справа ў тым, што матэрыял інвэнтарных сьпісаў бадай ці зможа быць сабраны цяпер у вычарпальна-поўнай колькасьці; калі, напр., меркаваць па сьпісах інвэнтароў абшарніцкіх маёнткаў Менскай губ., што знаходзяцца ў нашым дзяржаўным архіве, дык весткі аб сваіх маёнтках далі інвэнтарнаму камітэту далёка ня ўсе абшарнікі; падругое, тое, што нам удаецца атрымаць з паасобных маёнткаў, будзе ў пераважнай большасьці выпадкаў датыкацца буйных маёнткаў, толькі ўласна ў іх і вялася даволі ўпарадкаваная гаспадарчая рахунковасьць. Да сказанага, вядома, трэба дадаць і тое, што гаспадарчая літаратура і журналістыка, папаўняючы некаторымі весткамі магчымыя пропускі архіўнага матэрыялу, знаёміць нас у той-жа самы час з гаспадарчымі інтарэсамі эпохі, з тымі задачамі і імкненьнямі, якія зьяўляліся суб'ектыўным выяўленьнем тагачаснага гаспадарчага росту. Гэты артыкул і прадстаўляе сабой спробу падсумаваць у стасунку да беларускай гаспадаркі 30—40-х гадоў некаторую частку тых даных, якія зьмяшчаюцца ў расійскай гаспадарчай літаратуры і журналістыцы гэтай эпохі. Тут мы маем, з аднаго боку, некаторыя бязумоўна заслугоўваючыя веры фактычныя даныя, а, з другога боку, бясспрэчна не пазбаўлена гістарычнай цікавасьці і характарызаваная гаспадарчай літаратурай абшарніцкая ідэолёгія. Трэба адзначыць, што ў агульным беларуская гаспадарчая думка знайшла сабе даволі яскравае выяўленьне на старонках расійскай гаспадарчай літаратуры:

гэта тлумачыцца, мабыць, і параўнаўча высокім процантам мясцовага дваранства, і наяўнасьцю ў яго асяродзішчы буйных і даволі культурных абшарнікаў-магнатаў, і географічнымі адносінамі Беларусі да двух вялікіх рэчных шляхаў—дзьвінскага і дняпроўскага.

У аснову нашай працы мы пакладзём матэрыял, узяты, галоўным чынам, з „Земледельческой газеты“ 30—40 гадоў, а таксама за гэтыя-ж гады—з журнала Мін. Дзяржаўн. Маемасьці.

У апошнім заслугоўваюць увагі даныя агляду маёнткаў Магілеўскай, Віцебскай і Менскай губ., здабытыя вучнямі Горы-Горацкай Зямляробскай школы ў часе экскурсіі 1844 і 1845 гадох пад кіраўніцтвам проф. Цэльлінскага і ад‘юнкт-агронома Кнюпфэра.

На вялікі жаль, у нас не знайшлося пад рукамі кніжкі „Летописи Белорусского Общества сельского хозяйства“. Гэта „Общество“ было заснавана ў дваццатых гадох XIX в., але ўжо ў 1848 г. завецца „некалі існаваўшым“.

У 1843 г. яно, як відаць, яшчэ дажывала свой век, а ў 1841 г. вышла адзіная літаратурная праца таварыства, — памянёная „Летопись“, кніжка 1-ая, пад кіраўніцтвам члена таварыства, віцебскага абшарніка Гюбэнталя [1]).

## I

Распачынаючы выкладаньне, вылучым, перш за ўсё, тыя літаратурныя даныя па гісторыі прыгоннай гаспадаркі, дзе аўтары апісваюць мясцовыя географічныя ўмовы, а таксама даюць сваю ацэнку беларускім шляхам зносін.

Географічныя весткі чэрпаліся з прац тагачасных нашых географаў і статыстыкаў: Шторха, Андросава, Пальчынскага, Зяблоўскага, часткай-жа з непасрэдных асабовых назіраньняў і гаспадарчага дасьведчаньня.

Наогул, у гэтых географічных вестках па Магілеўскай губ. падкрэсьліваецца багацьце лесу, багацьце равоў і глыбокіх далін між узгоркамі, рознастайная глеба з перавагаю пяску і гліны. Зазначаецца, што „на такой почве хлеб иначе не родится, как надо положить навоз не далее на 5, много на 8 лет около 500 возов на десятину“. Добрыя лугі каля рэк, але большая частка іх заліта вадой і балоцістая. У Менскай губ. пры вялікай неўрадлівасьці глебы паўночнай, паўночна-заходняй і ўсходняй частак, вызначаецца асаблівай урадлівасьцю пяшчана-гліністая глеба на поўдзень ад Менску, у кірунку к Нясьвіжу і Слуцку. І ў Менскай губ. шмат лугоў, але мала ўжываецца працы і грошай на іх асушку. Што датычыцца да вадзяных шляхаў, дык для Магілеўскай губ. падкрэсьліваецца значэньне двух з іх—Дзьвіны і Дняпра: з Віцебску па Дзьвіне накіроўваецца

[1]) Мих. Жданов. Путевые записки по России, сабраныя ў 1843 г. ў дваццаці губ. М. 1844, ст. 178.

Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений Могилевской и Витебской губ. Ж. М. Гос. Им. 1848 г. XXVI, 22—23.

гужам збожжа для перавозкі на остзэйскія рынкі, з Смаленску Дняпром—гарэлка. Цэльлінскі падрабязна апісвае транспорт па Дзьвіне, вылічваючы, што штогодна адпраўляецца па ёй ад 50 да 200 барлін, якія зьмяшчаюць ад 700 да 1.200 беркаўцаў цяжару—лёну, ільнянага і канаплянага семя, хлеба, гарэлкі, лясных матэрыялаў. Кошт правозу па вялікай вадзе ў 1844 г. быў ад 71,5 да 86 к. сер. за беркавец, пры малой вадзе—удвая даражэй. Транспорт тавараў (звычайна селядцоў) робіцца і ўгору па Дзьвіне, прычым ад Рыгі да Віцебску 18 асначоў цягнуць 350—360 бочак селядцоў—ад $2^1/_2$ да 5 тыдняў [1]).

У асадках такіх географічных умоў разгортваецца беларуская абшарніцкая гаспадарка. Неўрадлівая глеба ставіць прогрэсыўныя пачынаньні беларускіх абшарнікаў у вельмі цяжкія ўмовы. „Я принял белорусское именье с. Церковищи,—піша Гібэр фон Грэйфэнфэльс,—в начале 1833 г. в самое неурожайное, самое голодное время... Крестьяне, так и хозяйственная часть имения, находились в самом жалком положении... Читатель может судить об удивлении и чувствах моих, когда узнает, что, родясь в самом благоустроенным крае Германии и прожив почти все время моей военной службы в изобильной Малороссии, никогда я не видал и не воображал той бедности, которую нашел в Белорусском крае“ [2]).

Трэ‘ было ўладаць значным капіталам, каб паставіць гаспадарку на належную вышыню. *Адна* пастаноўка справы была ў такога капіталістага, як граф Храбтовіч, *другая*—у звычайнага сярэдняга абшарніка.

Без грашовага капіталу сярэдні беларускі абшарнік часамі ледзь зводзіў канцы з канцамі, а часамі і проста спустошаў гаспадарку. Як відаць, у сувязі з гэтым у літаратуры адзначаецца як значная запазычанасьць беларускага зямляўладаньня, так і надзвычайна шпаркі тэмп мобілізацыі зямельнай уласнасьці. Паводле Гібэра фон Грэйфэнфэльса, беларускія губэрні з часу далучэньня іх да Расіі ў 1772 г. зьмянілі амаль усіх сваіх уласьнікаў-абшарнікаў. Праўда, мы тут павінны ўзяць пад увагу польскае паўстаньне 1831 г., але, бясспрэчна, рабілі свой уплыў і гаспадарчыя прычыны. Паводле слоў Цэльлінскага, маёнткі ў былым Бабінавецкім п. *вельмі танныя* і часамі прадаюцца і набываюцца амаль

---

[1]) Бенеке, Хозяйственные очерки Могилевской, Минской и Волынской губ. Ж. М. Гос. Им. 1845 г. XVII, 186-189.

Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений Могилевской и Витебской губ. Ж. М. Дзяр. М. 1848. XXVI, 30—31.

Здаецца, можна констатаваць некаторае зьніжэньне колькасьці суднаў, што праходзілі па Дзьвіне на працягу першай паловы XIX в. Прынамсі ў В. Андросава ў „Хозяйственной статистике России“ мы знаходзім для 1813, 1824 і 1825 г. г.—480, 361 і 332 судны. Вас. Андросов. Хозяйственная статистика России. М. 1827, 229.

[2]) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве и введении инвентаря. Земл. Газ. 1845 г. № 28, 220. Село Церковищи, Витебск. губ. Велижск. у.

за адну банкаўскую пазыку, дзеля чаго з некалькімі тысячамі руб. гатоўкі лёгка зрабіцца ўласьнікам некалькіх сот душ[1]).

Якія падаюцца даныя аб цане на зямлю?

Зямля на Беларусі, наогул, мела сярэднюю вартасьць. Незаселеная зямля, паводле даных, выкарыстаных Маславым, г. зн., паводле вестак аб прадажных цэнах на зямлю, выд. у 1859 г. Земскім аддзелам Мін. Унутр. Спраў, у Менскай губ. каштавала 11 р. 50 кап., Віцебскай — 11 р. 35 к., Магілеўскай—9 р. 55 к., прычым наяўнасьць заселенасьці павялічвала кошт зямлі ў Менскай губ. на 8 проц., у Віцебскай на 22 проц., у Магілеўскай на 13[2]). Частка зямлі ў Менскай і Магілеўскай губ. здаецца ў арэнду дробнай шляхце па 25 руб. сер. за поўвалокі (што, паводле вылічэньню аднаго аўтара, складае 10 дзес.[3]). Шмат карысьней, чым зямлю, здаваць у арэнду яўрэям шынкі і млыны, што і складае даволі звычайную крыніцу даходу ў буйных маёнтках[4]). Што датычыцца, уласна, даходу ад сельскай гаспадаркі, дык такі,—паводле слоў таго-ж самага назіральніка, які даў нам весткі і аб географічных умовах Беларусі,— у Магілеўскай і Менскай губ. атрымоўваецца, галоўным чынам, не ад зямлі, а ад рабочых рук.

## II

Адкуль бяруцца гэтыя рабочыя рукі?

Зразумела, гэта перш за ўсё прыгонныя, дваровыя, а затым і чыншовыя сяляне.

У беларускіх губэрнях мы ня бачым асабліва высокага проценту дваровых сялян перад рэформаю (у Віцебскай іх налічваецца 3,5 проц., у Менскай—2,6, у Магілеўскай—2,7). У гаспадарчай літаратуры не адзначаецца і фактаў, якія-б сьведчылі аб якой-небудзь яскрава выяўленай тэндэнцыі абезьзямельваньня беларускіх прыгонных сялян шляхам пераўвядзеньня іх у дваровыя. Калі ня лічыць грунтоўным запэўненьне Бібікава ў Камітэце Міністраў, што беларускія сяляне набіраюць сабе зямлі больш нават, чым могуць абрабіць, дык усё-ж застаецца ў моцы факт, што ў Мазырскім, Рэчыцкім, Пінскім і некаторых маёнтках Ігумен-

[1]) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 30 234. Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений Могилевской и Витебской губ. Ж. М. Гос. Им. 1848 г. XXVI. Пазьней паводле даных 1882 г. у Аршанскім п. (куды ўвайшоў былы Бабінавецкі) мы бачым даволі значную колькасьць уладаньняў ад 10 да 100 дзесяцін—да 50,4 проц., пры даволі вялікім процанце ўладаньняў вышэй за 1.000 дзес.—7,2 проц. „Статистич. поим. собств. и насел. мест Европ. России". Изд. Ц. Стат. Ком. Вып. V. Соб. 1882 г., ст. 150.

[2]) П. Маслов. Аграрный вопрос в России. Соб. 1905 г., 376, 431.

[3]) Бенеке. Хозяйственные очерки Могилевской, Минской и Волынской губ. Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 204.

[4]) В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства в Зап. губ. России. Ж. М. Гос. Им. 1846 XXI, 130.

скага пав. існавала лядавая сыстэма,—выцярэбліваньне лясных дзялянак і іх засеў [1]).

У абшарніка Цэккерта, Аршанск. пав., пры 420 душах было 70 чал. дваровых, але гэта, паводле ўвагі Цэльлінскага, тлумачыцца прыстасаваньнем іх да карысных і канечна патрэбных гаспадарчых заняткаў [2]).

Ня церпячы ад недахопу зямлі, беларускія душаўласьнікі пачатку 40-х гадоў ня скардзіліся і на недахоп рабочых рук. Такі недахоп часова выявіўся ў эпоху вайны 1812 г.—і адгалосьсі ліха, у выніку гэтай акалічнасьці, Бэнэке даволі нечакана падлічвае нават у 1845 г. [3])

Але наогул, побач з шырокім выкарыстоўваньнем мясцовага сялянства для паншчыны, як відаць, застаецца нейкі зьлішак рабочых рук, якія зьяўляюцца крыніцай для неаднакратнага выхваленьня чыншу і на Беларусі. Абаронцамі чыншовай сыстэмы выступаюць і Гібэр фон Грэйфэнфэльс і, мабыць, таксама віцебскі абшарнік Міхэльсон. Чынш, з пункту погляду першага, канечна патрэбная ўмова заможнасьці сялян, чаму і пажадана як мага шырокае яго пашырэньне. Іншыя ўласьнікі пераводзяць з чыншу на паншчыну для павялічэньня даходаў, „но сие редко удается, как видим из множества примеров: в подобных случаях владельцы наказываются убытками, а крестьяне упадают достатком и духом". Абшарнік Міхэльсон спасылаецца на кнігу Якобі *„О работе крепостного и свободного крестьянства"*, СПБ, 1815 г. і сьцьвярджае, што паншчына ёсьць „учреждение" вельмі некарыснае, якое перашкаджае разьвіцьцю сельскай гаспадаркі: „уничтожение его необходимо, несмотря ни на какие пожертвования, которые могут для сего потребоваться" [4]). Трэба заўважыць, аднак, што чыншовая сыстэма ў буйных беларускіх маёнтках зусім не азначае спыненьня абшарнікам уласнага ворыва, хоць мы і маем сьведчаньні аб адыходзе беларускіх чыншовых сялян на пабочную работу, усё-ж, у шмат якіх выпадках, чыншовыя адрабляюць свой чынш, ня выходзячы з маёнтку, наймаючыся на работу да свайго-ж пана.

---

[1]) И. Игнатович. Помещицкие крестьяне накануне освобождения. 1925, 217, 221. Статистические труды И. Ф. Штукенберга, т. II. Описание Могилевской губ. Соб. 1859, ст. 6. Бенеке. Хозяйственные очерки Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 214.

[2]) Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 87. Можна, здаецца, і наогул сказаць, што часамі рост дваровых там, дзе ён быў, тлумачыцца зусім не тэндэнцыяй да абезьзямельваньня, а ўласна патрэбай абшарніка, з разьвіцьцём грашовай гаспадаркі, вызваліць сябе ад узрастаючай і часамі ўсё-ж даволі цяжкай патрэбы выдаткаваць грошы на свой хатні зваротак якраз тады, калі яны так патрэбны для гаспадаркі.

[3]) Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 200, 214.

[4]) Гибер фон Грейфенфельс. Мысли на статью, помещенную в № 7 Землед. газеты за 1846 г.—Земл. Газ. 1846 г., ст. 244. С. В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства в Западн. губ. России. Ж. М Гос.. Им. 1846 г., XXI, 127. Паводле дасьледаваньня афіцэраў генэральнага штабу 50 гадоў і паказаньняў Губэрскіх Каміт., у Магілеўскай і Менскай губ. нанятых сялян 97 і 97,4 проц. И. Игнатович. Помещичьи крестьяне накануне освобождения. М. 1925 г., 217.

Такое, напр., палажэньне спраў у гр. Храбтовіча (Навагр. пав.), у Гібэра фон Грэйнфэнфэльса (Веліскі пав.), у Карчэўскага (Ашмянскі пав.); паводле Міхэльсона, абшарнік заўсёды можа адпусьціць сваіх дваровых сялян на чынш, бо ён лёгка знойдзе 25 сталых наймітаў і выстарчальную колькасьць падзённых ува ўласным маёнтку. Паводле думкі Міхэльсона, праца па найму з кожных 100 цяглаў патрабуе 970 руб., а чыншу на цягла можна накласьці 10 р; значыцца, у абшарніка пасьля адшкадаваньня ўсіх выдаткаў астаецца яшчэ 30 р. з 100 цяглаў. Апроч таго, ашчаджаецца і рабочы час сялян, які можа быць выкарыстаны на іншыя галіны гаспадаркі, напр., на рэмонт гаспадарчых будынкаў [1]).

У 30—40 гадох работ па найму ў прыгоннай гаспадарцы яшчэ мала. Але характэрна, што на работы па найму мы спатыкаем усё-ж пэўныя паказаньні і што ёсьць ужо досыць сталая сярэдняя плата за рабочы дзень для звычайных польных работ—ад 10 да 20 кап. сер. у дзень работніку і ад $7^1/_2$ да 15 кап. сер. работніцы [2]). На працу ў Віленскай губ. наймаюцца, між іншым, і прыгонныя сяляне суседніх маёнткаў. У Магілеўскай губ. працуюць па найму, галоўным чынам, сяляне Смаленскай губ. [3]). Патрэбу вольнага найму аўтары мотывуюць устанаўленьнем пладазьменнае сыстэмы і зьвязаным з ёй *„умножением произведений“*, ускладненьнем збору ўраджаю бульбы і кармовых траў.

У буйных маёнтках Беларусі 40-х гадоў выяўляецца тэндэнцыя—можа яшчэ ў большай ступені, чым у расійскіх губ.—прыстасаваць прынцыпы вольнага найму на працу прыгонных сялян. Гэта практыкавалася ў Віленскай губ. у Карчэўскага, а асабліва ў графа Храбтовіча ў яго маёнтку Шчорсах, Навагрудзкага пав., дзе сяляне, паводле ўмовы яшчэ з бацькам уласьніка, адбываючы паншчыну толькі ў час жніва і касавіцы, маглі ў астатні час наймацца да абшарніка, каб зарабіць грошы для выплаты чыншу за зямлю—у разьмеры ад 75 кап. да 1 р. 25 кап. сер. за морг ворнай зямлі, ад 30 к. да 1 р. сер. за морг лугу, ад 2 р. да 3 р. сер. за морг гароду. Заработная плата, якую Цэльлінскі прызнае ўмеркаванай, наступная:

| | |
|---|---|
| За ўзараньне 1 моргу коньмі . . . . | 30 кап. |
| За скошваньне, высушваньне і прыбіраньне сена з аднаго моргу . . . . . . | 80 „ |
| За адно скошваньне сена і збожжа . . . | 20 „ |
| За жніво збожжа і перавозку яго ў гумно . | 1 р. 50 „ |
| За вываз гною ў дзень . . . . . . | 15 „ |
| За раструску гною . . . . . . . | 5 „ |

[1]) В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства в Западн. губ. России. Ж. М. Гос. Им. 1846, XXI, 128—129.

[2]) Бенеке. Хозяйственные очерки Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 203.

[3]) И. Корчевский. Опытные подтверждения пользы от плодопеременного полеводства и разведения картофеля в поле. Земл. Газ. 1842, № 29, 226. Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 87—90.

| | | |
|---|---|---|
| За баранаваньне ў дзень | . . . . . | 15 кап. |
| За поліва | . . . . . . . | 5 „ |
| За саджэньне бульбы ў дзень | . . . . | 6 „ |
| За капаньне бульбы ў дзень | . . . . | 5 „ |
| За абмалот 60 снапоў | . . . . . | 15 „ [1]) |

Апроч найму падзённага, практыкавалася ў адносінах да ўласных сялян і найманьне на работы на цэлы год: такіх рабочых экскурсія Цэльлінскага знайшла ў гр. Храбтовіча да 20 чал. Мы ўжо казалі, што працу па вольным найме сваіх чыншовых сялян лічыць зусім выгоднай і Міхэльсон. 970 руб. заработнай платы на кожныя 100 цяглаў (лічачы ў цягле адну мужчынскую і адну жаночую душу і ва ўсім маёнтку 600 дз. пахаці, 100—лугу, 50—пашы і 50—сялібнай зямлі) разьмяркоўваюцца паводле яго разьліку наступным спосабам:

| | |
|---|---|
| 15 сталых рабочых . . . . . | 450 р. |
| 10 сталых работніц . . . . . | 250 „ |
| Платы падзёньнікам: | |
| За 25 конных і 450 пешых . . . | 75 „ |
| 6 коняй і 9 пар валоў каля . . . | 150 „ |
| Рэмонт рабочай скаціны і збруі . . . | 45 „ |
| Разам . . . | 970 р. |

Пры параўнаньні вытворчасьці вольнай і прымусовай працы прынята, паводле слоў Бэнэке, за норму, што першая продукцыйней за другую на 16—17 проц., а часамі нават на 33 і на 50 [2]).

## III

Зьвярнемся да пытаньня аб організацыі рабочых сіл.

У літаратуры аб гэтым пытаньні выказваюцца папрокі, што ёсьць і ў Беларусі абшарнікі, у якіх гаспадарка вядзецца нядбайна, паншчына адбываецца пад кіраўніцтвам старастаў і не паўзята ніякіх крокаў да яе ўрэгуляваньня. Але гэта, як сьведчыць нам літаратура, пераважна наглядаецца ў маёнтках, дзе самі ўласьнікі ня жывуць, або дзе няма на месцы ўласьніка добрага аканома. Між тым, побач з гэтым, ёсьць весткі, што абсэнтэізм абшарнікаў у беларускіх маёнтках заўважаецца хутчэй як выключнае, чым як агульна пашыранае зьявішча [3]).

---

[1]) Б. Целлинский. Обзор некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV.

[2]) С. В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства. Ж. М. Гос. Им. 1846. XXI, 128—129.

[3]) С. Шишко. Об уроках работ. Земл. Газ. 1846, № 32, 306. Паводле „Статистических таблиц Российск. империи, изд. 1863 г." на захадзе большасьць дваранства належыць да насельнасьці паветаў, на поўначы і паўночным усходзе яно выключна робіцца гарадзкім станам. „Статист. табл. Российск. имп.", выданае па загаду Мініст. Унутран. Спраў Цэнтр. Стат. Кам. Вып. II. СПБ, 1863, стар. 297. Гл. таксама даныя экскурсіі Кнюпфэра. Ж. М. Гос. Им. 1846, XX.

У літаратуры прызнаецца патрэба строгага ўрэгуляваньня часовай працы, ухіленьне ўсякіх лішніх павіннасьцяй, лішніх рабочых дзён і данін—перш за ўсё таму, што звычайна „нет меры подобным взысканиям по слабой нередко отчетности в конторах и нерадению управляющих[1]).

Апроч таго, напр., Гібэр фон Грэйфэнфэльс у 40-х гадох наогул ужо зьяўляецца прыхільнікам агульнай інвэнтарызацыі Беларусі. Канечнасьць інвэнтароў вынікае, на думку Гібэра фон Грэйфэнфэльса, ад тэй акалічнасьці, што між абшарнікамі і сялянамі Беларусі няма тых адвечных патрыархальных сувязяй, якія быццам-бы існавалі ў Расіі. Абшарнікі Беларусі ў большасьці новыя прышляцы, якія зьявіліся з боку Польшчы, чужыя сялянам па нацыянальнасьці, мове і веравызнаньню; вялікарускія сяляне, нават будучы больш абцяжараныя павіннасьцямі, чым беларусы, лепш, аднак, за апошніх адносяцца да сваіх абшарнікаў.

Там, дзе ў Вялікарусі ёсьць магчымасьць для абшарніка зрабіць уплыў на сялян сваім моральным аўторытэтам, там у Беларусі ўсё прыходзіцца будаваць на інтарэсе і эгоізьме. Лепш за ўсё, па думку Гібэра фон Грэйфэнфэльса, азначаць працу не паводле ўзросту і часу службы сялян, а паводле велічыні надзелу і іншых гаспадарчых і прамысловых інтарэсаў—так, каб не асобы, а зямля адказвала ўласьніку службай або працай[2]).

Гаспадарка беларускіх маёнткаў, у большасьці выпадкаў, будуецца на паншчыне. У апісаньнях маёнткаў ёсьць паказаньні на трохдзённую паншчыну і нават на такую, „когда крестьяне всю неделю с господского двора не сходят“[3]).

Але пад канец 40-х гадоў пераважае, як відаць, двухдзённая паншчына пры 6—12 днёх згонных. Калі ў абшарніка Цэккерта паншчына 3 дні, дык затое ён не патрабуе згонаў, і трэці дзень залічваецца ў адработ падушнай, якую плаціць за сялян сам. У абшарніка Мянжынскага сяляне вызвалены ад згонаў нават пры двух днёх, але затое з кожнай дзесяціны сваёй польнай зямлі плацяць скарбовых і грамадзкіх падаткаў па 50 кап. сер. з душы[4]).

Наогул ёсьць ужо нясумненная тэндэнцыя да правільнага разьмеркаваньня работ, увядзеньня сыстэмы заданьняў з падлікам таго, колькі каштуе абшарніку работа. Ідучы, відавочна, насустрач узрастаючаму

---

1) Гибер фон Грейфенфельс. Мысли на статью „О средствах к водворению грамотности между крестьянами“, Земл. Газ. 1846. ст. 245.

2) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусск. хозяйстве и введении инвентаря. Земл. Газ. 1845, № 30, ст. 39. Яго-ж. Мысли на статью: „О средствах к водворению грамотности“. Земл. Газ. 1846 г. № 30, 240.

3) Н. Арнольд. Пояснение о селитьбе деревень. Земл. Газ. 1840. № 32, 250.

4) С. В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства в Западн. губ. России. Ж. М. Гос. Им. 1846, XXI, 130. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 87.

інтарэсу да заданьнёвых палажэньняў, аўтары ўсюды, дзе толькі магчыма, падрабязна спыняюцца і на зьмесьце заданьняў, і на спосабах іх ажыцьцяўленьня, і на гаспадарчых выніках. Апроч таго, у сувязі з пытаньнем аб заданьнях, стаіць пытаньне і аб правільным каляндарным пляне работ, паказаньні на якія, у сваю чаргу, нярэдка трапляюцца ў літаратуры.

Аканом віцебскага абшарніка Гюбэнталя, дваранін Язэп Урублеўскі, дае наступнае заданьнёвае палажэньне, у якім прымаецца пад увагу даўжыня рабочага дню, якасьць зямлі, якасьць ворыва і баранаваньня і якасьць прылад. Пры ворыве параваловым плугам у першы раз, паблізу фальварку і на лёгкай глебе, узворваецца 1.400 кв. сажняў у дзень на тры вяршкі глыбынёю (рабочы дзень лічыцца з 15 красавіка і да 15 верасьня па 11 гадзін, ад 4-х гадзін раніцы да 7 вечара; адымаецца па адпачынак людзей і жывёлы 5 гадзін, уласна 7, 11-ая, 12-ая, першая і чацьвертая гадзіны дня; ад 15 верасьня да 15 красавіка лічыцца рабочы дзень у 8 гадзін). На адлегласьці аднэй вярсты ад фальварку арэцца тым-жа плугам 1.200 кв. сажняў, на адлегласьці 2 вёрст—1.000, 3-х вёрст—900 кв. саж.[1]).

Бэнэке лічыць агульнапашыранай нормай Магілеўскай, Менскай і Валынскай губ., пры працы сахой, на ворыва аднэй дзесяціны тры дні працы селяніна і тры сахі, запрэжаныя кожная адным канём або двума валамі. Плугам узорваюць у дзень адзін польскі морг (1.800 кв. саж.), але лічаць на яго 1½ дні паншчыны, а на дзесяціну—2¼ дні. Разам узорваюць штодня адзін морг; аднаконнаю бараною барануюць у дзень адну дзесяціну. Вазоў з гноем у 7—8 пудоў вывозіцца, гледзячы па адлегласьці поля, ад 6 да 7 вазоў у дзень; для перавозкі збожжа з поля і сена з лугу патрабуецца амаль столькі-ж вазоў [2]). Цэльлінскі паведамляе далей некаторыя даныя з заданьнёвага палажэньня Ланеўскага (як відаць, Віцебскай губ.), дзе ў агульным абшарнік орыентуецца на ліфляндзкае палажэньне. Тут дакладна рэглямантаваны работы па прыбіраньню з поля збожжа, сена, бульбы. Адну паказную дзесяціну звычайнай сенажаці скошваюць у дзень 3 рабочых, поплаву—4.

Для скосу дзесяціны травы і зграбаньня сена патрэбна 6 раб. Для жніва дзесяціны азіміны трэба 5—7 раб., ярыны—7—12 раб., лічачы, што з аднэй паказнай дзесяціны нажынаецца ад 7 да 20 коп., а капа ў 100 снапоў з вязьзю ў ¾ арш. На капаньне аднае паказнае дзесяціны бульбы вызначаецца 4 конных і 16 пешых работнікаў. Для гэтай мэты дзесяціну дзеляць на 16 чатырохкутнікаў, праводзячы сахою 4 баразны ўдоўж і папярок. На кожную палосу, якая складае чвэрць дзесяціны, вызначаецца па аднэй сасе, на кожны чатырохкутнік—па аднэй жанчыне. Звычайна, паводле ўвагі Цэльлінскага, на капаньне бульбы трэба шмат больш работнікаў—ад 45 да 75 і нават да 100. Але ў Ланеўскага бульба

[1]) Осип Врублевский. Уроки сельских работ. Земл. Газ. 1846, № 51, 415—418.

[2]) Бенеке. Хозяйственные очерки Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 200.

ідзе пераважна на ўгнаеньне, на яе зьвернута мала ўвагі, і пакольki яна дае невялікі ўраджай—на капаньне яе досыць 16 работнікаў. Далей ёсьць заданьні для выбіраньня, абрэзкі і вязаньня канапель, для мяліва і вытраскі пянькі, для грабарскіх работ, для ўскопваньня лядаў, раструскі гною, апрацоўкі лёну, прыбіраньня сена[1]).

Заданьнёвая сыстэма існавала і ў Грэйфэнфэльса, прычым заданьні даваліся з панскай канторы паводле табелю. Панскае поле было падзелена на дзялянкі па цяглах „для палягчэньня працы і нагляду“. Людзі на паншчыну зьяўляліся на досьвітках, і кожнаму абавязкова давалася якаянебудзь праца. Усё зробленае запісвалася ў асобную кнігу. Сяляне, як гэта часта рабілася і ў Вялікарускіх губэрнях, былі разьмяркованы на дзьве паловы, або два „заказы“, прычым першы „заказ“ працаваў у першыя тры дні тыдню, а другі—у другія.

„Карысьць ад заданьнёвых палажэньняў відавочная,—кажа Цэльлінскі;—работнік, ідучы на працу, асабіста зацікаўлены ў пасьпяховым яе выкананьні таму, што, скончыўшы пэўную меру працы раней вызначанага тэрміну, ён можа рэшту часу выкарыстаць для сябе. Але зразумела, *„необходимо, чтобы при выполнении крестьянами урока завистливый приказчик не посылал его на какую-нибудь новую работу, и затем—чтобы урок был умеренный“* [2]). Часамі-ж заданьні бываюць, паводле слоў Цэльлінскага, *„столь тяжки, что вместо нравственного побуждения к прилежанию и большей деятельности, могли вселять в трудящихся одно отчаяние“* [3]).

Наогул сельскія работы ў Магілеўскай і Менскай губ. займаюць у разгледжаны час 26–27 тыдняў,—ад паловы красавіка да паловы кастрычніка. Магілеўскі абшарнік Іван Сярдзюкоў дае гэткае іх калярдарнае разьмеркаваньне (Амсьціслаўскі пав.): „У канцы красавіка, а ў некаторых мясцовасьцях у пачатку яго, пачынаюць араць палі і гароды; першая палова мая—скародзяць, пераворваюць і сеюць гарох; у другую—траяць, возяць гной або пераворваюць гароды, сеюць ячмень і гародніну; першая палова чэрвеня—возяць гной пад каноплі і лён, сеюць іх і грэчку; другая палова—вазьба гною на папар і працяг сяўбы грэчкі, узорваньне папару, поліва ячменю, пшаніцы, лёну і гародаў; увесь ліпень—касавіца і баранаваньне папару; першая палова жніўня—мяшаць папар, малаціць, сеяць жыта; другая палова—жаць ярыну, звозіць збожжа з поля і працягваць сяўбу; першая палова верасьня—прыбіраньне збожжа, а ў некаторых заканчэньне касавіцы; другая палова—прыбіраньне гародніны,

---

[1]) Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1848 году, XXVI, 151–153.

[2]) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 30, 237.

[3]) Целлинский. Ж. М. Гос. Им. 1848 г. XXVI, 150—151. Гибер фон Грейфенфельс. Мысли на статью „О средствах к водворению грамотности между крестьянами“. Земл. Газ. 1846 № 30, 247.

бульбы і пянькі; першая палова кастрычніка—узорваньне і прыбіраньне гародаў, мачэньне пянькі; другая палова—малацьба, папраўка двароў, віцьцё вяровак; лістапад—загатоўка дроў, лучыны і інш.; сьнежань—вазьба дроў, трапаньне пянькі, лёну, бабы заняты прадзівам; студзень—у баб таксама прадзіва, мужчыны едуць у далёкае вазацтва; люты—таксама; сакавік—бабы ткуць палатно і сукно, мужчыны рыхтуюць на лета калёсы, збрую і бяруцца за гарадзьбу платоў. Само сабою зразумела,—дадае Сярдзюкоў,—што ў кожным месяцы мужык мае толькі палову, а другая належыць паншчыне“ [1]).

У імкненьні да ўрэгуляваньня сялянскай працы беларускі абшарнік зацікаўлен і ў падліку таго, колькі яму каштуе паншчына. Бэнэке падыходзіць да гэтага пытаньня трыма спосабамі: 1) бяручы даныя аплаты працы наймітаў; 2) карыстаючыся данымі арэнднай платы або чыншу, якую можна-б атрымаць пры здачы ў арэнду або на чынш сялянам зямлі; 3) на аснове даных аб даходнасьці сялянскай зямлі. Першы спосаб ня лічыцца Бэнэке за даволі продукцыйны дзеля таго, што вольных прац па найму яшчэ мала (такія-сякія даныя ён падае,—мы іх выкарысталі вышэй). У параўнаньні з арэнднай платай атрымоўваецца для мужчынскага прыгоннага дня $26^2/_3$ кап. асыгн., для жаночага—$13^1/_5$ кап. (на серабро—7,6 і 3,8 кап.), у параўнаньні са звычайнай нормай чыншу $38^3/_4$ і $25^5/_6$ к. асыгн., г. зн. ад 11,1 да 7,4 кап. сер. Калі меркаваць па даходу з сялянскай зямлі, дык тады, паводле Бэнэке, выходзіць вялікае ваганьне ў вартасьці прыгоннага дня—ад 10 к. да 1 р. асыг., або ад 2,9 да 29 к. сер. [2]).

## IV

Паколькі прыгонная праца для абшарнікаў выконваецца сялянскай жывёлай і інвэнтаром, пастолькі прыходзіцца звярачаць усё больш і больш сур'ёзную ўвагу на ўласную гаспадарку сялян, сачыць за яе спраўнасьцю. На глебе гэтай рупнасьці аб дабрабыце сялян узьнікае змаганьне з сялянскімі падзеямі, робяцца спробы організацыі штучных сялянскіх колектываў, нарэшце—пропагандуюцца спосабы падняцьця культурнага ўзроўню сялян, пашырэньня сярод іх пісьменнасьці.

„Капитал орудий или крестьянский быт,—кажа Гібэр фон Грэйфэнфэльс,—находится в настоящее время, в большей части белорусских имений, в положении не свойственном его цели, отчего самые имения приходят в постепенный упадок, получается вымирание крестьян, уменьшение числа ревизских душ“ [3]). Але ў шэрагу буйных маёнткаў, у тым ліку і ў самога Гібэра фон Грэйфэнфэльса, ужо ажыцьцяўляюцца пэўныя

---

[1]) Иван Сердюков. О белорусском хозяйстве.Земл. Газ. 1845, № 73, 578.

[2]) Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Гос. Им. 1845. XVII, 204.

[3]) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве и введении инвентаря. Земл. Газ. 1845, № 28, 219. Яго-ж. Совет о приращении народонаселения в помещичьих имениях. Земл. Газ. 1846, № 104, 850.

спосабы, якія накіраваны да падтрыманьня працаздольнасьці сялян. Гібэр фон Грэйфэнфэльс устанавіў асобную пасаду валаснога старшыні, або выбарнага, які штодзенна, разьяжджаючы па вёсках, павінен быў даваць пану весткі аб тым, як працуюць сяляне на вызначаных для іх карыстаньня дзялянках; апроч таго, два разы ў год сам абшарнік падрабязна рэвізаваў усе вясковыя гаспадаркі [1]).

Цэльлінскі, у агледжаных ім маёнтках, констатуе рупнасьць аб сялянах абшарнікаў Магілеўскай і Віцебскай губ.—Ігната Мянжынскага, Гюбэнталя, Цэкерта, Цэханавецкага і кн. Любамірскага. У Гюбэнталя вёска Каралёва ў Віцебскай губ. пабудавана паводле ўласнага пляну абшарніка, па пэрыфэрыі кругу, з плошчаю і калодзежам у асяродку. Сялянскія двары пабудаваны па лініях, якія, нібы праменьні, разыходзяцца ад асяродка; за кожным дваром знаходзіцца фруктовы сад; у гэтых садох была пасажана да 60 штук фруктовых дрэў [2]). Добрае ўражаньне на Цэльлінскага зрабілі таксама сялянскія хаты ў Цярэспалі, маёнтку палкоўніка Цэханавецкага; аўтар адзначае і прасторнасьць хат, і наяўнасьць пры іх даволі цёплых хлявоў і агароджаных гародаў, а ў дварох значны запас дроў [3]). Ігнат Мянжынскі ў Аршанскім маёнтку Леўках „паставіў сабе мэтаю прывучыць сялян да як мага большай самастойнасьці ў стасунку да іх уласных гаспадарак“. Кожны сялянскі двор спачатку быў забясьпечаны ўсім патрэбным—коньмі, быдлам, насеньнем і інш., а затым аддадзены на поўнае кіраўніцтва саміх сялян, прычым дапамога давалася з боку абшарніка толькі ў некаторых асабліва важных выпадках [4]).

Лес сялянам не адпускаўся; яны павінны былі яго купляць, але затое ў працілегласьць Гюбэнталю, Мянжынскі дазваляў ім будавацца, як і калі яны жадаюць, а гэтым, паводле слоў Цэльлінскага, сяляне былі асабліва здаволены [5]). У абшарніка Цэкерта практыкавалася выдаваньне розных пазычак сялянам—грашыма, на куплю коняй, збожжам, а таксама і іншымі гаспадарчымі продуктамі [6]). Асаблівую гуманнасьць і рупнасьць у адносінах да жанчын-сялянак выяўляла, паводле слоў Гібэра фон Грэйфэнфэльса, нейкая „пані Р—р“, у маёнтку якой у 1846 г. быў прырост насельніцтва з часу апошняе рэвізіі на 25 проц.: сялянкі, якія кармілі грудзьмі дзяцей, адбывалі ў яе паншчыну толькі ў часе жніва і касавіцы; пры тым, у часе адбываньня панскай работы сялянкам-маткам вызначалася для адпачынку і начлегу асобнае, цёплае, чыстае памяшканьне, забясьпечанае нават ложкамі і калыскамі, выдавалася выстар-

---

[1]) Нечто о белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № № 30. 237.

[2]) Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1848, XXVI, 40–41.

[3]) Ibid., ст. 38—40. Цярэспаль—мяркуючы па „Списку насел. мест Могилевск. губ.“—мабыць, Рагачоўск. пав.

[4]) Ibid. 124—126.

[5]) Ibid. 124—126.

[6]) Ж. М. Гос. им. 1847, XXV, 88.

чальная колькасьць круп, мукі, малака і інш. і давалася магчымасьць гатаваць гарачую страву [1]).

У гістарычнай літаратуры даўно ўжо адзначаны факт адмоўных адносін абшарнікаў да сямейных падзелаў. Звычайна, як і рост ліку дваровых сялян, гэта разглядаецца толькі ў сувязі з пытаньнем аб нежаданьні абшарнікаў выдзяляць новыя надзелы [2]). Але, зразумела, тут адначасна ставіцца пытаньне і аб убуйненьні сям'і ў якасьці рабочай адзінкі. Забаронаю занадта дробных сямейных падзелаў Цэльлінскі тлумачыць адносны дабрабыт сялян у Ігната Мянжынскага. У Гібэра фон Грэйфэнфэльса ня толькі былі забаронены падзелы, але і арганізаваны,—паводле прыкладу шмат якіх такіх-жа выпадкаў у расійскіх губ.,—асобныя штучныя сем'і, утвораныя аб'яднаньнем некалькіх нялюдных сем'яў па сваяцтву або па згодзе. Як і трэ' было чакаць, сяляне сустрэлі гэты спосаб рашучым супраціўленьнем, але ў выніку ўпартых намаганьняў абшарніка 132 слабыя сем'і былі аб'яднаны ў 70 гаспадарак, забясьпечаных усім патрэбным. Мала таго: для сялян, выявіўшых упартую няспраўнасьць, у Гібэра фон Грэйфэнфэльса быў заснаваны асобны лясны фальварак, нешта накшталт гаспадарчай карнай колёніі. Побач з няспраўнымі, сюды-ж накіроўваліся ўсе калекі, удовы, сіроты і дзеці ядбалых бацькоў; дзеці пад кіраўніцтвам „разумнага, стараннага старасты“ прывучаліся тут да гаспадаркі, а з дасягненьнем сталага ўзросту выпускаліся ў вёску з добрай узнагародаю. Аднак, згодна прызнаньня самога абшарніка, гэты лясны фальварак зрабіў добры ўплыў на маральнасьць сялян, галоўным чынам, як застрашальны сродак; фольварку, прзванага „Сібірам“, баяліся горш за ўсякую кару [3]).

Ня гледзячы на даволі значнае пашырэньне ў Беларусі падворнага зямлякарыстаньня (паводле даных 1882 г., у Магілеўскай губ. ўсяго 3,6 проц., але ў Менскай—96,4, у Віцебскай—53,5—гл. „Статистику поземельной собственности России“, вып. V, ст. XXXVI), уласьнікі, як відаць, зусім ня мелі нахілу да расьсяленьня сялян на хутары. Зручней за ўсё,—кажа абшарнік Н. Арнольд—сяліць сялян групамі па 10, 20, 50 хат; гэта быццам-бы зусім адпавядае і топографічным умовам Віцебскай губ., і набыўшай ужо характар звычаю таварыскасьці сялян, і асабліва інтарэсам абшарніка, вымушанага сачыць за гаспадаркай і настроем сялян, бо „здешний мужик, без помещичьего или управительского глаза, гибнет, как заблудшая в лесу овца“ [4]).

Ува ўсходніх паветах Віцебскай губ. пераважае супольнае зямляўладаньне. Гібэр фон Грэйфэнфэльс, грунтуючыся, відавочна, на даных

[1]) Гибер фон Грейфенфельс. Совет о приращении народонаселения в помещичьих имениях. Земл. Газ., 1846, № 104, 850.

[2]) Заблотский-Десятковский. Граф Киселев и его время, т. IV, ст. 306; И. Игнатович. Помещичьи крестьяне накануне освобождения. Л. 1925, 152.

[3]) „Земл. Газ.“. 1845, № 30, 238.

[4]) Н. Арнольд. Пояснение о селитьбе крестьян. Земл. Газ., 1840, № 32, 250.

свайго Вяліскага пав., лічыць агульна пашыраным звычаем Віцебскай г. штогадовы перадзел сялянскай зямлі, з кожным залічэньнем новага работніка ў цягло або выхадам каго-небудзь у пазацяглыя з прычыны сваёй старасьці. Перадзелы рабіліся паводле рабочых цяглаў і падушных падаткаў. Вясною, калі толькі абсохнуць палі і настане час араць іх, зьбіраецца ўся вёска з вяроўкамі і жэрдкамі і ўсю ворную зямлю дзеляць па ліку рабочых душ. Дзяльба цягнецца некалькі дзён са спрэчкамі і шумам.

Такім-жа чынам дзеліцца гародняя зямля, а з надыходам касавіцы— і сенажаці. З пункту погляду абшарніка, перадзелы, якія адбываюцца ў такіх умовах, зьяўляюцца прычынай заняпаду сялянскіх сем'яў, вялікай страты часу, вытаптваньня травы і нявытворчых перанясеньняў платоў. Дый няма сапраўднае справядлівасьці, „пустыри при деревнях служат доказательством неудобства такого дележа“ [1]).

На гароды ў сялян вызначаецца ад 1/2 да 1 дзесяціны. Рэдка каля якой-небудзь хаты маюцца пладовыя дрэвы [2]).

У змаганьні абшарнікаў за паляпшэньне сялянскай гаспадаркі і павышэньне продукцыйнасьці сялянскай працы цікава адзначыць спробы насадкі пісьменнасьці сярод сялян. У другім месцы мы ўжо мелі выпадак казаць аб школе Гібэра фон Грэйфэнфэльса. „Каждому помещику,—разважае Міхэльсон,—предоставляется дать своим крестьянам такое образование, какое он, по совести и по справедливости, признает за лучшее, при чем главным средством образования должно быть учреждение сельских школ“ [3]).

Цэльлінскі адзначыў школу ў Кісьцянёх, маёнтку Воўк-Ланеўскага. У школе вучылася каля 10 хлопчыкаў сьв. гісторыі, грамаце, арытмэтыцы і прыгожаму пісьму. Выкладаў мясцовы поп [4]).

## V

Ад організацыі рабочых сіл гаспадаркі пяройдзем да даных, што належаць да яе сыстэмы.

„Все хозяйства в здешних губерниях,—кажа Міхэльсон,—как у помещиков, так и крестьян почти исключительно ограничиваются земледелием“. Сяўба збожжавых расьлін зьяўляецца ў гаспадарцы галоўнай; кармовых траў сеецца мала і то пераважна для аўчарства. Бульба сеецца хоць і ў выстарчальнай колькасьці, але толькі для браварніцтва; сенажаці ў большасьці „задичали, заросли и закоснели“. І далей Міхэльсон

---

[1]) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 28, 221.

[2]) Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 214.

[3]) С. В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства в Западн. губ. России. Ж. М. Гос. Им. 1846. XXI, 128.

[4]) Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1848, XXIII, 149. Кісьцені, мабыць, Рагачоўскага пав.

робіць яшчэ некалькі пэсымістычных уваг адносна кепскага становішча і забалочанасьці пашы, недахопу сена, патрэбы замяняць яго пры кармленьні жывёлы саломай, якой, наадварот, атрымоўваецца з палёў аж занадта шмат[1]).

Але хоць і правільны факт гаспадарчага заняпаду ў значным ліку дробных і сярэдніх маёнткаў, тым з большай увагай падкрэсьліваюцца дасягненьні, якія сустракаюцца ў буйных маёнтках. У Віцебскай губ. наогул можна констатаваць паступовае пашырэньне ворнай зямлі за лік высечанага лесу або за лік асушаных балот. Як прыклад аднаго з асаблівa пасьпяховых дасягненьняў у галіне мэліорацый у Менскай губ., Кнюпфэр падае маёнтак Рудабелкі, Бабруйскага пав., абшарніка Лаппо, дзе мэліорацыйныя работы былі распачаты яшчэ пры бацьку ўласьніка, а пры апошнім атрымалі зусім удалае заканчэньне.

Самую важную пабудову пры гэтым складае канал даўжынёю 12 вёр., які выцякае з невялікай рэчкі, прытоку Птыча, праходзіць у простым кірунку і ў яе-ж упадае, рухаючы два млыны і адну пільню. Пабочныя канавы ўпадаюць у галоўны, а часткай проста ў Птыч. Такім чынам, з ранейшага балота атрымаліся значныя абшары палёў і лугоў[2]). Ёсьць паказаньні на травасеў, на сяўбу караньплодаў і тэхнічных расьлін; нарэшце, у некаторых маёнтках зварачаецца ўвага на пладовыя сады, напр., у Каменцы, Копыськага пав.

У абшарніка Унгэра або ў адзначаным намі ўжо маёнтку Гюбэнталя— па сялібах сялян. Забалацьце, былы маёнтак Мянжынскага, адзначана, як выдатнае сваім пладовым садам, і ў IX т. „России“ пад рэдакцыяй В. П. Сямёнава[3]).

Што датычыцца да відаў польных культур, дык тут пераважнымі ў Менскай і Магілеўскай губ. зьяўляюцца, паводле Бэнэке, азімае жыта, авёс і з некаторага часу бульба. Ярыцы, пшаніцы, ячменю, лёну і грэчкі сеецца менш, проса сеецца толькі ў некаторых мясцовасьцях. Сяўба гароху на полі таксама нязначная. Звычайная густата засеву на дзесяціну жыта, у сярэднім, 6 чацьвярцей, ячменю—ад 1/2 да 1 1/2 чэцьверці аўса ад 1 1/2 да 3 чацьвярцей, бульбы ад 1 1/2 да 5—6 чацьвярцей. Пры сяўбе грэчкі практыкуецца шкодны звычай выбіраць на засеў самае горшае насеньне, якога і высяваецца ў 2 разы больш, чымся ў Ліфляндыі—на скарбовую дзесяціну каля 7—8 чацьвярцей, тады як у Ліфляндыі ад 4 да 5 чацьвярцей[4]). У Гібэр фон Грэйфэнфэльса рабіліся досьледы рэдкага засеву—на дзесяціну жыта высявалася ад 4 да 6 чацьвярцей, а вазы і яшчэ меней, аўса ад 3 да 4 чацьвярцей.

---

[1]) В. Михельсон. Ж. М. Гос. Им. 1846 г., XXI, 113—114.

[2]) Целлинский. Обзор некоторых имений Могилевской и Витебской губ. Ж. М. Гос. Им. 1846, XX.

[3]) „Россия“ под ред. В. П. Семенова, IX. СПБ. 1905 г., ст. 253.

[4]) Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII. 194. 214. 1847, XXV, 96.

Але рэдкі засеў патрабуе шмат угнаеньня (паводле Гібэр фон Грэйфэнфэльса, ня менш як 150 вазоў на дзесяціну), а ў большасьці маёнткаў, як кажа Бэнэке, „всякие работы для улучшения полей считают лишними и стараются только как можно больше сеять“.

Звычайнага гною трэба 42 вазы на дзесяціну. Недахоп гною па буйных маёнтках ужо ў 40-х гадох пачаў замяняцца штучным угнаеньнем—маргелем або завальлю (у Леўках, у А. Мянжынскага), попелам і зялёнай грэчкаю (у Цэккерта), торфам, гіпсам, попелам, змочаным серкавай кісьлінёю (у Ігната Мянжынскага). Ігнат Мянжынскі зрабіў спробу ўпагноіць ячменнае поле пасьля засеву і атрымаў добры ўраджай. У стасунку да сялянскіх палёў прыходзілася змагацца са звычкай сялян вывозіць усе свае мізэрныя запасы гною на канапляністча. Фон Гюбэнталь у Віцебскай губ. лічыць мэтазгодным, з мэтай упагноеньня зямлі косьцямі, заснаваць сажалковую гаспадарку [1]).

Пераважае трохпалёвая сыстэма. Але, як ведама, у Беларусі практыкавалася яшчэ і лядавая сыстэма. Паводле Бэнэке, у Магілеўскай і Менскай губ. „встречаются часто отдельные полосы земли—это суть нередко нови и расчищенные лесные участки“. Іх заворваюць і засяваюць не ўпагнойваючы, упераменку жытам і аўсом, да тых часоў, покуль глеба ня спустошыцца дашчэнту. Пасьля гэтага яе пакідаюць на волю прыроды [2]).

Наогул Віцебская губ. асабліва часта цярпела ад неўраджаяў—і больш-менш спрыяючымі для ральніцтва былі інфляндзкія паветы—Дынабурскі, Рэжыцкі і Люцынскі [3]).

Калі ў некаторых маёнтках ураджай бывае вышэй за сярэдні, дык гэта звычайна атрымоўваецца за лік увядзеньня плодазьменнай сыстэмы. Нельга сказаць, каб яна была шырока распаўсюджана; былі і стараверы, накшталт кн. Любамірскага або Цэккерта, якія лічылі больш разумным усе магчымыя паляпшэньні рабіць толькі ў межах трохпалёўкі. Але і ў кн. Любамірскага быў ужо невялічкі засеў бульбы і канюшыны, у Цэккерта сеялася толькі канюшына [4]).

Слабая ўрадлівасьць зямлі, а разам з тым і недахоп пашы, звычайна прымушалі, урэшце, перайсьці да плодазьмену ўсіх больш-менш прогрэсыўных гаспадароў. Цэльлінскі ў часе сваёй экскурсіі пасьпеў запісаць цэлы шэраг севазваротаў, якія практыкаваліся ў буйных маёнтках Віцебскай і Магілеўскай губ., у Гэрнгросса (Вяліскі пав.), А. Мянжынскага (Аршанск. пав.) і графа Храбтовіча, у Бешанковічах, Лепельскага пав

[1]) Гибер фон Грейфенфельс. Опыты над редким посевом хлебов в Витебской губ. Земл. Газ. 1846, № 40, 327. Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Гос. Им., XVII, 198, 202 Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им., 1847, XXV, 85—86. 1848, XXVI, 135—137. Врангель фон-Гюбенталь. Прудовое хозяйство. Земл. Газ. 1842, № 3, 18,

[2]) Ж. М. Гос. Им. XVII, 194.

[3]) К. Арсеньев. Статистические очерки России. СПБ, 1848, 229—293.

[4]) Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 82—83 176—177.

Зразумела, што ўсе гэтыя севазвароты ўжываюцца ў стасунку да панскай зямлі. Аднак, часткова прогрэсыўныя думкі перадаваліся з абшарніцкіх і на сялянскія палеткі. Гэта мог са здавальненьнем констатаваць у стасунку да сваіх сялян абшарнік Ашмянскага пав. Віленскай губ. Язэп Карчэўскі. Паводле яго слоў, шмат якія сяляне бяз прымусу, па ўласнаму дасьведчаньню, пачалі сеяць кармавы гарошак, а „некоторые сметливые испытывают сеять даже клевер"; апроч таго, усе ўжо перайшлі да польнай культуры бульбы [1]). Сяўба бульбы наогул лічыцца ў літаратуры, як важнае гаспадарчае дасягненьне. Гэта мы знаходзім ня толькі ў беларускіх аўтараў, але і ў расійскага пісьменьніка-агронома Жданава ў яго падарожных запісках [2]) у маёнтку Вяліскага абшарніка Гэрнгросса бульба сеялася з 1817 г. Культура бульбы, паводле слоў Карчэўскага, дае значную карысьць,—з дзесяціны яна дае пэўнага даходу 61 руб. 20 кап. сер., апроч таго, бульба ператвораная ў патаку, дае хатні цукравы сыроп [3]). Цэльлінскі і Кнюпфэр у сваіх экскурсіях з Горы-Горацкімі вучнямі маглі заўважыць польнае засяваньне бульбы ў шмат якіх маёнтках, ня толькі буйных, але і сярэдніх. Шмат поля засявалася бульбай у А. Мянжынскага ў Леўках; штогодны засеў у 150 чацьвярцей бульбы практыкаваўся ў Цэхановецкага ў Цярэспалі (маёнтак у 500 душ.), Падбярэзьзі ў Лянкевіча (140 душ.), ад 10 да 15 наказных дзесяцін сеялася ў Цэккерта (420 душ), Бульба часткай ішла на спажыву людзям і жывёле, часткай ператваралася ў крухмал і патаку, а часткай ужывалася на броварніцтва: апошняе мы спатыкаем у Магілеўскай губ.

У Ал. Мянжынскага і ў Гуркі. Спосаб засеву бульбы ў Цэханавецкага нагадваў Цэльлінскаму бачаны ім ліфляндзкі спосаб і месьціўся ў наступным: на папар вывозіцца гной звычайным парадкам, абрабляецца зямля, як-бы пад засеў азіміны, але тыя месцы, якія вызначаны пад бульбу, застаюцца незасеянымі і вясною засяюцца бульбаю. Пасьля бульбы сеецца лён, які добра родзіць [4]).

Даволі цікавы бытавы малюнак дае Цэльлінскі аб спробе ген. Гэрнгросса пашырыць сяўбу бульбы сярод сваіх сялян. Ня гледзячы на шчодрыя пазычкі на сяўбу і ўсякія парады, ня гледзячы на тое, што сяўба адбывалася ў прысутнасьці самага абшарніка або аканома, цэлыя тры гады нічога ня выходзіла. „Не, паночку,—казалі сяляне,—ужо як сабе пан хочаш, а бульбе не радзіць на нашай зямлі". Неўгамаваны абшарнік пачаў распытваць аб прычынах гэтага зьявішча ў вакольных сялян і ўрэшце патрапіў на тлумачэньне ўсёй гісторыі. Выявілася, што сяляне,

[1]) Иосиф Корчевский. Подтверждение пользы от плодосменного полеводства и разведения картофеля в поле. Земл. Газ. 1842, № 29, 226—227.

[2]) Ibid., стар. 227.

[3]) Ibid., стар. 227.

[4]) Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Госим, 1847, XXV, 82—83, 184; 1848, XXVI, 28, 38—40, 131—132, 134. Падбярэзьзе, мабыць, Аршанск. пав.

пасадзіўшы бульбу, зараз-жа, пасьля ад‘езду абшарніка або аканома старанна пачыналі выбіраць яе з зямлі і прадаваць гэтыя „праклятыя яблыкі“, як яны іх звалі, у бліжэйшы шынок за некалькі кварт гарэлкі; на другую вясну абшарнік загадаў, каб унікнуць д‘ябальскага насланьня са зьнікненьнем „праклятых яблык“, перад сяўбою накрыж разразаць кожную бульбіну, так што яе нельга было ўжо несьці ў шынок. Бульба добра ўзышла, а потым і самі сяляне зусім ахвотна пачалі яе сеяць [1]).

У некаторых шматпалёвых севазваротах пасьля бульбы сеяўся лён. У Гібэра фон Грэйфэнфэльса рабіліся досьледы засеву куставога і кітайскага шоўкавістага лёну.

Цэльлінскі адзначыў, што ў Магілеўскай губ. наогул мала сеецца лёну, за выключэньнем Клімавіцкага пав.: замест лёну сеюцца ў большасьці каноплі; наадварот, у Віцебскай губ., пачынаючы з самых пагранічных месц сеецца шмат лёну, а каноплі сеюцца толькі ў колькасьці, патрэбнай для хатнага ўжытку. У Дынабурскім пав. Віцебскай губ. у абшарніка А. П. рабіліся спробы сяўбы мадыі, для чаго было выпісана з-за граніцы 10 фунт. насеньня [2]).

## VI

Якія падаюцца весткі пра земляробскія прылады?

Пераважнай земляробскай прыладай у Магілеўскай і Менскай губ. усімі аўтарамі лічыцца саха і барана. Сохі, у залежнасьці ад мясцовых умоў, робяцца рознага гатунку. Да сахі, якая ўжывалася ў Магілеўскай губ., прырабляюць у Менскай губ. да сашнікоў дзьве злучаныя з імі дошкі, або з правага боку дошку, а з левага—жалезную лапату; у так званую літоўскую саху (якая ўжывалася ў маёнтку Карэлічах кн. Вітгэнштэйна, Навагрудзкага пав.) запрагаецца ня конь, а пара валоў; з правага боку гэта саха мае невялічкі драўляны адвал, абодва сашнікі стаяць адзін вобак другога пад простым кутом; дзякуючы гэтаму пераварочваньне пластоў адбываецца без так званай паліцы. Але ў час ворыва араты павінен насіць гэтую прыладу ў руках і таму якасьць работы залежыць ад самога работніка: дзеля таго, што на прыгоньніцкую старанасьць разьлічваць абшарніку ня прыходзілася, дык у Язэпа Урублеўскага да сахі прыраблялі асобнае вязьмо, якое ўскладалася аратаму на плечы [3]).

Апроч сахі і бараны ўжываліся дзе-ні-дзе і больш удасканаленыя—ангельскія і брабанцкія плугі, экстырнатары, качолкі. Але Цэккерт знайшоў патрэбным у значнай ступені скараціць працу ангельскімі плугамі,

[1]) Б. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1848, XXVI, 26.

[2]) Земл. Газ. 1845, № 39, 305—307. Ж. М. Гос. Им. 1848, XXVI, 27, Земл. Газ. 1840, № 3, 21.

[3]) Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 195—196. Кнюпфер, Ж. М. Гос. Им. 1846, XX. И. Врублевский. Уроки сельских работ. Земл. Газ. 1846, № 51, 416.

дзеля таго што, будучы надзвычайна цяжкай, яна не павялічвае ўраджаю ў параўнаньні з беларускай сахою[1]).

Недалёка самага Луцку ўжываўся замест сахі украінскі плуг. Дзе грунт быў цьвёрды, там, перад сяўбою, пасьля плуга праходзілі двойчы ралам з бараною. У рала запрагалі пару коняй або валоў, у плуг—пару коняй і тры валы, або 5 коняй ці нават 6 валоў. У графа Агнароўскага ў Гаранках (мабыць, Чырыкаўскі пав.) ужываліся плугі яго ўласнай конструкцыі.

Збожжа жалі пераважна сярпамі; у літаратуры падаюцца весткі пра абшарніка С. С. Весялоўскага, уласьніка сяла Цэркаўкі, Рагачоўскага пав., Магілеўскай губ., які практыкаваў у сябе касьбу жыта, ставячы на гаспадарчую дзесяціну па тры касцы і па тры вязальнікі. Жніво дзесяціны займала тры дні часу. У Магілеўскай губ. і ва ўсёй паўночнай частцы Менскай усё збожжа, а таксама грэчку, лён, каноплі і гарох сушылі ў азяродах[2]).

Што датычыцца малатарняў і веялак, то Бэнэке для 1845 г. яшчэ констатуе іх недахват,—што, на яго думку, тлумачыцца вялікім зьлішкам рабочых рук,—ні ў Магілеўскай, ні ў Менскай губ. яшчэ ня ўмеюць знайсьці для гэтых рук больш продукцыйнага ўжываньня, чымся малацьба цапамі[3]). Але, як відаць, становішча з машынамі з набліжэньнем да сялянскае рэформы шпарка пачынае зьмяняцца.

Кнюпфэр адзначае машынную малатарню ў большасьці дасьледаваных ім маёнткаў—і ў Цэкерта, і ў Унгэра ў Каменцы (Копыськага пав.), і ў Любавічах, Навагрудзк. пав. Нарэшце, паводле слоў Кнюпфэра, малатарні маюцца, бадай, ва ўсіх абшарнікаў Магілеўскай і Віцебскай губ., а паколькі разьвіцьцё гандлю збожжам у зімовы час дае магчымасьць сялянам займацца вазацтвам, пастолькі зусім натуральным зьяўляецца прараканьне аднаго беларускага аўтара ад 1851 году, што „малатарні будуць у Расіі ў хуткім часе ўжывацца паўсюдна“[4]).

Апроч ужываньня рабочых рук на іншыя больш продукцыйныя работы, Цэльлінскі тлумачыць канечнасьць машыннай малацьбы малой велічынёю беларускіх цапоў, значна меншых за ліфляндзкія і альтэнбурскія. Малатарні ўжываюцца бутэнокаўскія, але апроч таго ўтворана некалькі тыпаў малатарняў ва ўласных майстэрнях беларускіх абшарнікаў. Вельмі цяжкую і нязручную машыну зрабіў абшарнік Унгэр—хадовае кола якое рухала ня толькі барабан малатарні, але і веялку, і млын на адну застаўку, і сячкарню. Для пусканьня мэханізму ў рух (бяз млына) трэ было ад 6 да 8 валоў. У Карэлічах, у графа Вітгэнштэйна, наадварот,

---

1) Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 92

2) Земл. Газ. 1842, № 1, 7—8. Ж. М. Гос. Им. 1845 г., XVII, 198.

3) Ж. М. Гос. Им. 1845 г., XVII, 199.

4) Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 88, 100. Иосиф Витвицкий. Об орудиях для молотьбы хлеба. Ж. М. Гос. Им. 1851, XI, 68.

была лёгкая двух або трох-конная малатарня, якая вымалочвала ў дзень ад 1.200 да 1.500 снапоў пры 12 рабочых. Такія машыны, паводле слоў Кнюпфэра, знаходзяцца амаль ва ўсіх маёнтках Менскай губ. Вялікай пашыранасьцю, паводле Цэльлінскага, карыстаюцца так званыя солтанскія малатарні (маёнткі ў Віцебскай і Магілеўскай губ.). Мэханізм гэтай малатарні прасьцей і таней за бутэнокаўскую, каштуе 300 руб. асыг., тады як бутэнокаўская каштуе столькі-ж серабром (г. зн. у 3—5 разоў даражэй). Апроч таго, Цэккерт і некаторыя іншыя абшарнікі пачалі ў апошнія часы самі рабіць малатарні, заказваючы жалезныя часткі машыны на Мальцаўскім заводзе ў Калускай губ., а драўляныя робячы дома. Такія машыны былі і танны і трывалы [1])

*(Канец будзе).*

---

[1]) Ж. М. Гос. Им. 1847, XXV, 100. Між іншым, калі мы возьмем даныя ў галіне вытворчасьці машын і прылад па 8 узорных фэрмах, якія былі на абшарах Расійскай імпэрыі 1854 г., то выявіцца, што ўсяго з часу ўтварэньня фэрм да 1854 г. было выраблена па 8 фэрмах 3.715 прылад і машын, і з іх 923 (24,8 проц.) пайшло на самыя фэрмы, 1.480 (39,8 проц.) раздадзена пры выпуску вучням і 1.152 (31 проц.) прададзена. Пры гэтым у Горы-Гарэцкай фэрме было выраблена 616 штук, з іх 7 (г. зн. 1,7 проц.) пашло на фэрму, 272 (44,2 проц.) раздадзена і 329 (54,6 проц.) прададзена.

„Обзор действий Департамента Сельского Хозяйства в течение 10 лет 1844—1854“. С. П. Б. 1855. Ст. 45--51.

# ЛЯ ВЫТОКАЎ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ ЯКУБА КОЛАСА

## А. Вазьнясенскі

Мастацкая проза Якуба Коласа ў агульным разьвіцьці апавядальнага жанру беларускай літаратуры займае выдатнае месца. Яно азначаецца, з аднаго боку, колькасьцю яго твораў у гэтым родзе, а з другога—і якасьцю іх. Само сабой зразумела, што пераважную вагу для азначэньня катэгорыі мастацкай вартасьці твораў мае якасны бок іх. У гэтым выпадку з упэўненасьцю можна адзначыць, што і ў сфэры сваіх першых літаратурных спроб пісьменьнік выяўляе такія мастацкія даныя, якія ў поўнай меры пацьвярджаюць правільнасьць вызначанага для яго стану ў беларускай літаратуры. Гэта акалічнасьць прымушае і дасьледцу спыніць сваю навуковую ўвагу, у першую чаргу, якраз на Якубе Коласе, як мастака апавядальнага жанру.

З боку колькаснага эпічная творчасьць пісьменьніка надта вялікая.

Яна можа быць прадметам вялікага спэцыяльнага дасьледваньня, для ўкладаньня якога ў яго поўным аб'ёме, аднак, час яшчэ не надышоў. Нашы мэты больш сьціслыя. Мы маем на ўвазе выўчэньне толькі пачатковых момантаў творчасьці Я. Коласа, тых якраз яго твораў, што для наступных зьяўляюцца свайго роду вытокамі, якія вызначаюць асноўныя шляхі яго мастацкага разьвіцьця. Прадметам нашага разгляду будуць два яго зборнікі: „Апавяданьні“ [1]) і „Родныя зьявы“ [2]). Сьпярша мы спынім сваю ўвагу на іманэнтным выўчэньні літаратурнага матэрыялу, што знаходзіцца ў гэтых выданьнях, а потым, у межах магчымасьці, вызначым для яго і гістарычныя сувязі ды адносіны з рознымі фактарамі акаляючай гісторыка-культурнай асярэдзіны.

---

[1]) Тарас Гушча. Апавяданьні. Вільня 1912 г. Сюды ўваходзяць расказы: „Васіль Чурыла“, „Чорт“, „Калодка пчол“, „Кантракт“, „Імяніны“, „Соцкі падвёў“, „У балоце“, „Калядны вечар“, „Зоркі-анёлы“, „Кірмаш“, „Жывая вада“, „Андрэй Выбаршчык“.

[2]) Тарас Гушча. Родныя зьявы. Вільня, 1914 г. Тут зьмешчаны расказы: „Думкі ў дарозе“, „Дудар“, „Зло—не заўсёды зло“, „Старасьць—ня радасьць“, „У старых дубох“, „Дзеравеншчына“, „Адгукнуўся“, „Бунт“, „Малады дубок“, „Трывога“, „На начлезе“, „Кажух старога Анісіма“, „Старыя падрызьнікі“, „Соцыяліст“, „Недаступны“, „Дзяліцьба“, „Знайшлі“. „Выстагнаўся“, „Злавіў“, „З днеўніка пана Жылака“, „Стараста“, „Так і трэба ашуканцу“, „Выбар старшыні“, „Злучыліся“, „Казкі жыцьця“.

Выўчэньне першага шэрагу перад усім мае на ўвазе ўсебаковы агляд мастацкага матэрыялу з боку тэматычнага і фармальнага; у прыватнасьці, задачай выўчэньня зьяўляецца агляд зьместу ды сюжэтнага афармленьня твораў, а таксама і іхнага стылю.

З боку *тэматычнага* творы Я. Коласа, разгляданыя намі, зьяўляюцца матэрыялам у значнай меры аднародным. Яны абымаюць сабою пэўную соцыяльную групу—беларускае сялянства. Галоўная ўвага пісьменьніка спыняецца на беларускім селяніне, а таксама і на тых асобах, што маюць з ім блізкае дачыненьне; да гэтай другой групы належыць сельская ўлада—старшыня і вураднік, пісар, стараста і г. д. Сюды-ж належаць і прадстаўнікі вясковай інтэлігенцыі, галоўным чынам, настаўнікі і ў рэдкіх выпадках духавенства. Нават самыя адважныя мары а будучыні, ідэальныя імкненьні ды жыцьцёвыя парываньні дзеючых асоб з сялянскае асярэдзіны ня выходзяць за межы гэтага соцыяльнага кола. Калі такі герой і думае а шчаснай будучыні ў сваім жыцьці, а ўдачах у ім, то далей кар'еры вясковага настаўніка ён ня ідзе; яна здаецца яму ідэалам самых высокіх дасягненьняў. Так, прынамсі, у апавяданьні „Злучыліся“ цётка, якая супакойвае свайго Юрку, кажа яму: „Вырасьцеш, бог дасьць, будзеш няіменна вучоным, самае меншае — настаўнікам будзеш“ (227).

Выхад за межы гэтага акрэсьленага зьместу надта рэдкі. Калі пісьменьнік і зьвяртаецца часамі да маляваньня прадстаўнікоў другіх соцыяльных груп, галоўным чынам, панскай шляхты, то робіць гэта дзеля пэўных мастацкіх мэтаў: самаважкага значэньня гэтыя зарысоўкі часта ня маюць і выконваюць толькі заданьні ўздапаможнага парадку, а менавіта—больш акрэсьлена выдзяляюць стан галоўнага героя яго твораў—беларускага селяніна.

У межах свае тэматыкі пісьменьнік дае рознабокае выяўленьне сялянскага жыцьця. У ім, найперш, вызначаюцца дзьве групы герояў: з аднаго боку—бацькі, людзі дарослыя, а з другога—дзеці. Але гэта групоўка не абазначае падзелу іх у залежнасьці ад розьніцы сьветапогляду тэй і другой групы ды антаганізму між імі, як гэта зазвычай трапляецца ў нашай літаратурнай крытыцы. Наадварот, між імі ёсьць цесная ідэёвая сувязь, бо дзеці—гэта тыя самыя бацькі, але толькі ў сваім раньнім дзіцячым веку. Тут, такім чынам, проста ляжаць прыметы ўзроснае якасьці, незалежна ад другіх якасьцяй гэтых герояў. Тая і другая група зьяўляецца прадметам шэрагу самастойных мастацкіх твораў пісьменьніка. Прычым „бацькоў“ вызначана значна большая колькасьць апавяданьняў, як „дзяцей“.

Вызначаючы далейшую клясыфікацыю тэматычнага матэрыялу і перш за ўсё клясыфікацыю асярэдзіны герояў, канечна трэба ўзяць пад увагу тую агульную ўласьцівасьць мастацтва Я. Коласа, якая так выразна ў ім выяўляецца,—гэта яго гумар. Сярод апавяданьняў яго галоўнае месца

па колькасьці займаюць тыя, што маюць гумарыстычную форму. Апавяданьні гэтай групы надзвычай добра малююць featnastaйныя дробныя выпадкі з быту беларускай вёскі, даючы, аднак, у агульнай скупнасьці, досыць шырокі малюнак мастацка-бытавога характару. Найчасьцей прадметам яго літаратурных выяўленьняў зьяўляюцца адмоўныя рысы бытавых умоў вясковага жыцьця. У гэтым выпадку перад пісьменьнікам стаяла наступная творчая дылема: або даць глыбокі мастацкі аналіз хібаў вёскі, выкрыць іх крыніцы ды прычыны, паказаць іх ва ўсёй шырыні і featnastaйнасьці, проціпаставіць ім другія сьветлыя бакі жыцьця як для наданьня большай яркасьці яго ценям, так і для мэт дыдактычных: другімі словамі—быць пісьменьнікам-маралістым; ці-ж наадварот: выкпіць іх і тым паказаць іх нестаноўкасьць, іначай кажучы,—у самім гумары тонка і памастацку схаваць мэты навучальнага характару. Я. Колас пайшоў па другім шляху, па [шляху пісьменьніка-гумарыстага, даўшы цэлы шэраг апавяданьняў гумарыстычнага характару.

У апавяданьнях разгляданай групы пісьменьнік спыняецца на абрысоўцы родных комічных колізій з рэволюцыйных дзён 1905 г.; сюды належаць апавяданьні: „Соцкі падвёў“, „Андрэй Выбаршчык“, „Соцыяліст“. Часамі-ж тэмы гэтага шэрагу зусім пазбаўлены жаднага комізму і адбіваюць сур'ёзныя моманты рэволюцыйнай барацьбы таго-ж самога часу; гэта апавяданьні: „Калядны вечар“ і „Бунт“. Рэшта апавяданьняў гэтага самага шэрагу ў гумарыстычных фарбах малююць розныя штодзенныя зьявы з вясковага, а часам і гарадзкога жыцьця; у большасьці выпадкаў яны паказваюць ценевыя бакі гэтага жыцьця, featnaга, аднак, характару; у іх перад чытачом праходзяць шэрагі малюнкаў са зьместам то гумарыстычна лёгкім, а часамі нават жартаўлівым, то са значнай доляй сьмеху сур'ёзнага, таго, што называецца сьмехам скрозь нябачныя сьвету сьлёзы.

Другое ў колькасным стасунку месца займаюць апавяданьні сур'ёзныя, якія расказваюць бяз жаднага гумару, у тонах эпічных ці лірычных, аб тых самых зьявах быту беларускай вёскі ці-ж аб асабістых аўтарскіх думках і поглядах. У такім-жа самым родзе вытрыманы і ўсе амаль апавяданьні, прысьвечаныя мастацкаму выяўленьню дзіцячай душы таго самага беларускага селяніна-падлетка.

Гэтыя дзьве групы апавяданьняў—гумарыстычных і сур'ёзных—складаюць дзьве розныя стыхіі ў творчасьці Я. Коласа, з якіх кожная ў межах сваёй групы мае пэўныя ўласьцівасьці і адрозьненьні як у галіне тэматыкі, так і ў галіне стылю; у композыцыйнай-жа пабудове гэта наяўнасьць двух імкненьняў адчуваецца ў значна меншай ступені.

Адпавяданьні першай групы ў сваім мастацкім зьмесьце на першае месца ставяць свайго героя—дзеючую асобу. Фон, абставіны, сярод якіх ён дзейнічае, адсоўваецца далёка на задні плян, выступаючы часта ў

апавяданьнях аўтара, як выпадковы і пабежны аксэсуар. Першарадны стан, якраз, героя апавяданьня часта падкрэсьліваецца і асаблівым прыёмам—апавяданьне пачынаецца ex abrupto, што ўводзіць чытача непасрэдна ў абставіны дзеі, у якой, якраз, герой зьяўляецца галоўным яе выразьнікам і штурхачом. Такі стан яго ў апавяданьнях Я. Коласа прымушае дасьледцу перш за ўсё якраз на героі спыніць сваю ўвагу.

Амаль усе дзеючыя асобы бяруцца ім для мастацкага выяўленьня ў пэўны, строга фіксаваны пэрыод, ці, дакладней, момант іхнага жыцьця. Яны выступаюць у апавяданьнях аўтара ў дакладна вызначаным відзе, выступаюць, як фотографіі. У гэтым сэнсе ўсе дзеючыя асобы яго твораў глыбока статычныя. Таго, што называецца гісторыяй героя, яго эволюцыяй, у іх амаль зусім няма. Няма часта і таго, што называецца папярэдняй гісторыяй героя (Vorgeschichte). Ён малюецца толькі ў той момант, які аўтар узяў у якасьці об'екту для яго мастацкага выяўленьня. Калі часамі пісьменьнік і ўжывае тое, што можна назваць Vorgeschichte, то яно мае звычайна кароткі характар і ўводзіцца ў твор, як элемэнт выпадковы і пабежны. Часьцей за ўсё ў такіх аўтарскіх „гістарычных апавяданьнях" маецца апісаньне знадворнага ці ўнутранага портрэту дзеючай асобы, якая ўжо ўведзена ў апавяданьне і з якой чытач пасьпеў спаткацца.

Але калі героі ў апавяданьнях Я. Коласа вызначаюцца часовай статычнасьцю ў тым сэнсе, што яны выступаюць у гэтых апавяданьнях усяго ў адзін пэўны момант часу, дык у межах гэтага памастацку выяўленага тэрміну часу яны паказваюць значную рухавасьць, паказваюць тое, што называецца дынамічнасьцю дзеяньня. Яны заўсёды знаходзяцца ў руху, і гэта дае магчымасьць ім самім паказаць свой унутраны, а часамі і знадворны выгляд. Героі самі характарызуюць сябе сваімі ўчынкамі. Сам аўтар у надта рэдкіх выпадках ужывае апісаньні пэрсонажаў. Калі-ж гэта ён часамі і робіць, дык звычайна з боку і коратка.

У стасунку да свайго псыхолёгічнага зьместу дзеючыя асобы не даюць таго, што называецца характарам, г. зн. пэўным сынтэзам ці комплексам паасобных адчуваньняў і перажываньняў. Гэта акалічнасьць зразумелая і нават, канечна, патрэбная, паколькі творы нашага пісьменьніка адбіваюць усяго адзін досыць вузкі паводле сваіх разьмераў кавалак жыцьця. Для мастацкага выяўленьня характараў, асабліва суцэльных і шырокіх, канечна патрэбны больш вялікія ў сэнсе часу пэрспэктывы, больш працяглы пэрыод жыцьця героя. Апрача таго, самы жанр, якім карыстаецца Я. Колас у сваіх творах,—апавяданьне, новэля,—паводле сваіх поэтыцкіх форм, не дапасаваны да выяўленьня шырокіх у сэнсе часу малюнкаў. Гэтым мэтам служыць другі від мастацкай творчасьці—роман ці аповесьць. Апавяданьне-ж і новэля, паводле сваёй тэматычнай ёмістасьці, якраз прызначаны толькі для выяўленьня невялічкіх малюначкаў абмежаванага тэрміну часу. У залежнасьці ад гэтых акалічнасьцяй зна-

ходзіцца і зьмест псыхолёгіі дзеючых асоб Я. Коласа. У ёй няма характараў, але ёсьць асобныя align розностайныя эмоцыі, якія выяўляюцца адпаведным чынам вонку—у дзеяньнях і прамовах герояў. У межах апісаньня кожнага паасобнага адчуваньня мастак дае ўсебаковае і шматвобразнае яго выяўленьне.

Увасобнікі гэтых эмоцый—героі у стасунку колькасным, раскладаюцца на дзьве групы: герой колектыўны—сялянская маса, ды індывідуальны—паасобныя прадстаўнікі гэтай масы. Звычайна першы з іх выступае ў пачатку апавяданьня (там, дзе ён ёсьць) і зьяўляецца толькі фонам, з глыбіні якога потым выходзяць паасобныя постаці дзеючых асоб. Ужо адзначалася, што абставіны дзеяньня адсоўваюцца на задняе месца і прыцягваюць значна менш увагі з боку мастака. Так, колектыў, які выступае ў апавяданьнях усяго толькі як задняя сцэна дзеі, займае ў іх такое самае месца. Адпаведна з гэтым, мастацкае выяўленьне яго не вызначаецца такімі драбніцамі, якія маюцца пры абмалёўцы герояў індывідуальных. Звычайна аўтар коратка ад сябе малюе чалавечую масу, завіхаючыся больш ад усяго і перш за ўсё да паасобных постацяй сваіх апавяданьняў.

Але між героем індывідуальным і колектыўным ёсьць вялікае органічнае сваяцтва. Перш за ўсё герой ці выходзіць, выдзяляецца з натаўпу, ці далучаецца да яго. Потым, паводле сваіх адчуваньняў, гэта суб'екты аднаго і таго-ж парадку; розьніца толькі ў характары апісаньня іх, які азначаецца вымаганьнямі самой поэтыкі таго мастацкага віду творчасьці, якім карыстаецца ў даным выпадку Я. Колас.

Спыняючы сваю ўвагу на абмаляваньні паасобных разматых эмоцый больш дакладна—на абрысоўцы іх фізыолёгічных выяўленьняў, аўтар у некаторых выпадках дае і портрэтныя малюнкі сваіх герояў—іх знадворны выгляд, але робіць гэта заўсёды коратка, пабежна і звычайна ў гумарыстычных тонах, каб узмоцніць і згусьціць гумарыстычную струну апавяданьня.

Гумар Я. Коласа, як спосаб мастацкага выяўленьня, у апавяданьнях адзначанай групы шырака ўжываецца і вызначаецца вялікай рознастайнасьцю; яна выражаецца ў розных мастацкіх зьявах яго творчасьці—у тэматыцы, стылі ды композыцыі—і ў агульным падрахунку засьціць сабою, як пэўнае мастацкае аматарства, чыста псыхолёгічны бок твораў, адсоўваючы яго на задні плян.

Між іншым, гумар знаходзіць сваё выяўленьне і ў самых абмалёўках аўтарам сваіх герояў. У гэтай галіне гумарыстычная стыхія пісьменьніка, паводле свайго зьместу і формы, вызначаецца вялікай рознастайнасьцю. У галіне тэматыкі гумар аказваецца шматбаковым у залежнасьці ад характару і прыроды самога зьместу твораў. У стасунку формальным ён таксама мае ў сабе цэлы шэраг адмен.

Зьвернемся цяпер да конкрэтнага разгляду дзеючых асоб у апавяданьнях Я. Коласа. На першым пляне выступаюць зарысоўкі агульнапалітычных настрояў беларускай вёскі, датычных, галоўным чынам, 1905 г.; яны маюць гумарыстычны характар. У аддаленай пэрспэктыве выступае герой колектыўнага характару; гэта—сяляне, якія вядуць размовы пра соцыялістых, наконт зямлі ды інш.

Праўда, з іх выдзяляюцца асобныя постаці, якія называюцца па імёнах, як гэта мы маем у апавяданьні „Соцкі падвёў“, дзе выступаюць „лёгкі на язык“ Андрэй Падгорны, „Стары Базыль“, Янка Дудар ды інш., але гэта не індывідуальныя героі, выразна акрэсьленыя, але проста тыя з натоўпу мужыкоў, што сабраліся і вядуць сваю вясёлую гутарку; іх абазначэньні ўласнымі імёнамі выклікаюцца чыста стылістычнымі меркаваньнямі, бо яно замяняе сабой простае адцягненае пералічэньне. Некаторыя з іх, аднак, ня маюць і такіх імён; адзін з тых, што гаворыць у гэтым-жа апавяданьні, абазначаецца славамі: „худы, высокі, як цапіліна, галадранскі мужык“ (30). Іх адносіны да пытаньняў соцыяльнага і палітычнага характару зусім ня сталыя, усё ставіцца да жартаў і каламбуру. Сяляне апанавалі ўсяго толькі лексыкай тадышняга палітычнага часу (соцыяліст, дэмократ, забастоўшчык, чарнасоценец ды інш.) і опэруюць ёю, абы змарнаваць час. Існасьць пытаньня застаецца зусім недаступнай; з прычыны гэтага і соцыяльная эмоцыя народнай масы атрымала ўсяго толькі няглыбокае, чыста знадворнае і аднабакова-гумарыстычнае выяўленьне. Гэта пацьвярджаецца і другім апавяданьнем пад назвай „Соцыяліст“. Тут таксама выступаюць сяляне, якія прыслухоўваюцца да тых гутарак аб зямлі, што пачаліся ў гэты час. Тыя „нейкія доўгенькія паперкі друкаваныя—„проклямацыі“, што зьявіліся ў іх, выклікаюць значную зацікаўленасьць. Асабліва „падабаліся“ яны аднаму селяніну, якога аўтар проста называе ў першай асобе; ён едзе ў горад і, ходзячы па рынку, пытаецца:

— Ці ня ведаеце, браткі, дзе проклямацыі прадаюцца?

— А спытай,—кажа адзін ашуканец,—вунь, у стражніка (123).

Ён пытае, і ў выніку—турма.

Гумар у такіх абмалёўках і заключаецца ў утрыраванай аднабаковасьці, у згушчэньні аднолькавых, у даным выпадку, лёгкадумных рысаў, што надаюцца героям гэтых апавяданьняў; у выніку атрымліваецца пэўная бязглузьдзіца, алёгізм у абмалёўцы дзеючых асоб, які выклікае ўсьмешку ў чытача.

Часамі, аднак, сяляне выяўляюць пэўную сьвядомасьць у галіне палітычнага жыцьця. Так пры выбарах у Дзяржаўную Думу („Андрэй Выбаршчык“) яны даюць наказ свайму ўпоўнаважнаму ня гнацца „за панскаю гарбатаю“, але падаваць голас за тых, хто змагаецца за мужыцкую справу. Але з гэтага нічога ня выходзіць. Абіраюць другіх асоб, а Андрэй Выбаршчык трапляе ў комічнае становішча. Ён прыходзіць разам

з другімі ў горадзе да старшыні саюзу рускага народу і пачынае лаяць „гэты саюз з астатніх слоў“. Ім пагражаюць гарадавымі, і яны ўцякаюць, прычым „Грыгор з N павету, бягучы з другога пянтра, зачапіўся ботам, пасьлізнуўся і пералічыў задам усе ўсходы“ (62).

Паданыя малюнкі мастацкіх выяўленьняў сьведчаць, што комізм аўтара будуецца тут па зарысоўцы паасобных момантаў жыцьця народнай масы— іменна, тых, што адбіваюць яе соцыяльныя адчуваньні. Прыгэтым толькі ў першым творы „Соцкі падвёў“ гэты гумар аўтара мае поўную мотывоўку і то толькі з таго моманту, як зьяўляецца п'яны Янка Дудар; якраз яго нецьвярозы стан выпраўдвае тыя нясталыя адносіны да пытаньняў палітычнага і соцыяльнага характару, што выяўляюць сяляне. У другіх выпадках гэты комізм застаецца не мотываваным. Чытач мае рацыю запытаць, чаму герой апавяданьня „Соцыяліст“ хоча купіць проклямацыю ў стражніка, чаму абіральнік Андрэй апынуўся ў старшыні саюзу рускага народу. Адказу на гэтыя пытаньні ў апавяданьнях пісьменьніка няма. З прычыны гэтага ўвесь гумар аўтара мае чыста знадворны характар і грунтуецца на алёгічным параўнаньні глыбока контрастных зьяў (купляньне проклямацый, лаянка саюзу рускага народу ў вочы яго старшыні). Зусім ясна, што ў такіх выпадках для аўтара гэты гумар мае значэньне ўсяго толькі, як гумар: ён у сабе самым мае сваю мэту; ён— толькі спосаб выяўленьня, які ня мае за сабой глыбокага ўнутранага зьместу.

Але комізм гэтых апавяданьняў, асабліва першага з іх—„Соцкі падвёў“, ёсьць, галоўным чынам, у выяўленьні паасобных індывідуальных прадстаўнікоў вясковай улады—вураднікa, соцкага, стражніка і другіх. Найбольш колёрытная ў гумарыстычным сэнсе постаць вураднікa. Яна займае тут адно з галоўных месц; таму аўтар асабліва падрабязна спыняецца на ёй, даючы яе портрэтны і псыхолёгічны малюнак. Як заўсёды, знадворны накід гэтага героя надта кароткі:

„Важна ходзіць па мястэчку вураднік, пакручваючы рыжыя вусы. Пры боку ў яго цялёпаецца трапло—шабля, чырванеюць шнуры і наплечнікі і блішчаць на сонцы паваксаваныя боты“ (29).

Больш шырокія яго жаданьні і мары, якімі і выпраўдваюцца наступныя дзеі яго. Ён марыць аб тым, каб зьвесьці як са сьвету крамолу, бо-ж яму толькі вось даказалі, што ў мястэчку ўжо зьявіўся „падазроны“ чалавек. У сувязі з гэтым у яго зьяўляецца адно пачуцьцё, пачуцьцё імпэтнага павышэньня па сходках адміністрацыйнай лесьвіцы, эмоцыя жыцьцёвага дабрабыту; яна робіць відавочным і натуральным тое комічнае становішча, у якім герой апынуўся.

„Яму здаецца, што ён раскрыў“ праступнае саобчаства“, захапіў бомбы, пісьмы і рэвольвэры, і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэньне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным, а там пайшоў наш вураднік угору, як цыган на драбінах на неба“ (29).

Гэтыя думкі не пакідаюць яго і тады, калі ён заарыштаваў так званага „соцыяліста“. Але падставы для гэтых перажываньняў яго ўжо іншыя; ён думае аб турботах і паважнасьці сваёй пасады:

„Усе сьпяць, а ты валачыся цэлую ноч, бойся кожны момант за сваё жыцьцё. Ласьне тут ёсьць што-небудзь труднае—дастаць сабе ў лоб кулю. А якая падзяка, каб хто спытаў. Ну, прыстаў можа падаць руку і заклікаць на шклянку гарбаты“.

А ў глыбіні душы яму ўсё яшчэ марыцца „цэшка і прыстаўскія наплечнікі“ (35). Дасягнуўшыя такой напружнасьці эмоцыянальныя перажываньні ураднніка раптам падаюць з вышыні значнай тэмпэратуры да нуля. Заарыштаваны „соцыяліст“ аказаўся членам саюзу рускага народу, і за свае ўчынкі ураднік павінен быў вытрымаць грозны погляд прыстава.

Той самы колектыўны герой выступае і ў тых апавяданьнях, што даюць шэраг рознастайных малюнкаў, якія рысуюць прыхільнасьць сялян да п'янства; на гэтым грунце ўзьнікае шэраг удзячных для гумарыстычнае абмалёўкі прыгод, якія і зьяўляюцца конкрэтным выяўленьнем псыхолёгіі п'янага чалавека. Гэта, якраз, псыхолёгія ва ўсіх тых, што апісвае мастак, выпадках і мотывуе вялікую рознастайнасьць тых комічных прыгод, у якія трапляюць героі. Дзякуючы такой унутранай выпраўдальнасьці тых дзеяньняў, што малююцца, мастацкія зарысоўкі іх набываюць глыбока натуральны і рэальны характар.

Кожнае хаця крыху выдатнае здарэньне ў жыцьці дае повад сялянам справаджаць яго выпіўкай. У апавяданьні „Выбар старшыні“ коратка, але выразна зазначана, што „многа выпілі гарэлкі, а яшчэ больш піва“; абралі таго, хто ставіў гарэлку: таму і протэст, які быў супраць гэтага абраньня, праўда, з боку таксама падвыпіўшага Філіпа, ня меў ніякага значэньня:

„Земскаму і старшыні хоць вазьмі засадзі туды вочы, дзе яны ніколі не сядзелі, а каб і сядзелі, то сьвету-б ня бачылі. А сход пазірае, як баран...“ (202, 203).

П'юць весела і пры выбарах у Дзяржаўную Думу („Андрэй Выбаршчык“). Чакаючы свайго ўпоўнаважанага, сяляне сабраліся каля манапалькі.

„А як рабіць тут ня было чаго, то сягды-тагды можна было чуць, як стукала саракоўка аб тоўстую мазолістую руку і як галгатала гарэлка, пераліваючыся проста з бутэлькі ў мужыцкае горла. Тут былі і такія, каторыя ўжо ўсьпелі налізацца і сьпявалі песьні. А Антось Байбак нават пайшоў у скокі і баранаваў пясок на вуліцы старымі ботамі, на каторых не хватала аднаго абцаса“ (60).

Як ужо адзначалася, выбары ня спраўдзілі жаданьняў падгуляўшых абіральнікаў.

Звычайным месцам, якое дае асабліва шырокую прастору для выяўленьня гэтай хэнці да выпіўкі, зьяўляецца кірмаш і базар. У гэтым стасунку характарныя апавяданьні „Кірмаш“ і „Знайшлі“.

У першым з іх зноў выступае гуляшчы народ, які, аднак, як і ў папярэдніх выпадках, зьяўляецца толькі агульным фонам, з глыбіні якога выступаюць паасобныя больш выразна акрэсьленыя асобы. На кірмашы самы вялікі натоўп стаяў.

„Каля дому з вывескаю: Казённая вінная лаўка № 67. Тут былі бабы і мужчыны. Хто выпіваў з кварты, з поўкварты, а хто, адвярнуўшыся ад людзей, каб не саромiць іх, з маленькага кручка. З дваццаць мужыцкіх галоў было задрана ўгару так, што нос прыходзіўся якраз проці самай сярэдзіны неба. Хто піў з вялікай бутэлькі, той трымаўся сьмела: станавіўся на самае віднае месца, падпіраў аднэй рукою бок і важна цягнуў гарэлку. А калі хто ішоў з „буслам“, прад тым мужыкі расступаліся і давалі дарогу, як якому спраўніку“ (50—51).

З гэтага гуляшчага колектыву вылучаюцца і асобныя постаці, якія, аднак, цесна зьвязаны з ім і нават ня маюць сваіх уласных іменьняў. Усе яны даюць адзін і той-жа малюнак псыхолёгіі п'янага чалавека і ў гэтым нецьвярозым стане хаваюцца ўсе ніткі мастака. Вось на першым пляне „дзьве бабы“.

„Адна апёрлася на воз з аднаго боку, другая—з другога. Абедзьве выпіўшы, адна гаворыць груба, другая—тонка. Мова першай бабы падобна да кароткіх слоў—ды-ды-ды! Другая сыпала танчэй і яшчэ скарэй: дэ-дэ-дэ!“ (51).

Ці—крыху далей на возе сядзяць тры мужыкі...

„Два з іх абнімаюцца і цалуюцца.—Братка ты мой,—гаворыць адзін:—твой Алесь—золата, а не чалавек.—Галубок ты мой,—кажа другі,—дальбог я цябе люблю. Каб я жонкі ня ўбачыў, калі ня люблю. Дай сюды сваю морду... Во так! Пойдзем яшчэ вып'ем поўкварты...“ (51).

У паданых ілюстрацыях усьмешку ў чытача выклікаюць самыя паводзіны п'янага героя, яго сытуацыя ў дзеяньні. Але, апрача гэтага, комізм аўтара хаваецца яшчэ і ў спосабе выяўленьня яго. У ім выразна выдзяляюцца два моманты. Першы—гэта сур'ёзнасьць аўтара, з якой ён падыходзіць да абмалёўкі такой дробнай, нікчэмнай зьявы жыцьця, як выпіваньне гарэлкі. Гэта рыса ярка выяўляецца ў абодвух малюнках, што рысуюць п'янства каля манаполек; у першым аўтар са спакоем сталага апавядальніка заўважае: „А як рабіць тут ня было чаго, то сягдытагды можна было чуць, як стукала...“ і г. д.; у другім—тым самым тонам ён кажа: „Яшчэ большая грамада народу стаяла каля дому з вывескай: „Казённая“... ды інш. Гумар у даным выпадку і ёсьць у процістаўленьні сур'ёзнасьці мастака і нікчэмнасьці таго об'екту, якога малююць. Другі момант таго самага спосабу выяўляецца ў тым, што гэта аўтарская паважнасьць мае пэўную патэтычнасьць у яе інтонацыі; апі-

саньне аўтара мае пэўны ўрачысты адбітак; асабліва ён рэзка вызначаецца ў другім малюнку, дзе аўтар кажа: „З дваццаць мужыцкіх галоў было задрана *ўгору* так, што нос прыходзіўся проці самай сярэдзіны *неба*“ ды інш. Гэта патэтычнасьць інтонацыі, якая зусім не адпавядае зьместу малюнку, сваім контрастам з ім таксама служыць мэтам гумарыстычнага выяўленьня.

З тых самых адзначаных прыкладаў зусім ясна відаць, што спосаб апісаньня колектыўнага героя ставіцца ў большасьці выпадкаў да простай аўтарскай характарыстыкі яго, маючай паважны эпічна-апавядальны характар. Гэты спосаб зараз-жа мяняецца, як толькі з людзей вылучаецца асобная постаць. Зараз-жа эпіка пераходзіць, хаця і не заўсёды цалкам, у дыолёгічную ці монолёгічную форму выяўленьня; інакш кажучы, апісаньне героя даецца пры дапамозе так званай пабочнай характарыстыкі—шляхам вываду яе з адпаведных яго ўчынкаў ды прамоў. Гэты спосаб застаецца нязьменным на працягу ўсіх тых апавяданьняў, што мы дасьледуем. Ён ужываецца пісьменьнікам з пэўнымі мэтамі і мае свае апраўданьні. Псыхолёгія масы для свайго выяўленьня ў руху вымагае большае прасторы і часу. Для такіх-жа мастацкіх мэтаў апавяданьне ці новэля зусім не дапасаваны; таму, з прычыны вымаганьняў самой тэорыі жанру, пісьменьнік прымушаны, якраз, а герої-колектыве апавядаць коратка і проста. А гэта кароткасьць і пабежнасьць выяўленьня, у сваю чаргу, абяртае ўвесь малюнак толькі ў нарыс, у асобныя контурныя рысы, якія абазначаюць толькі агульныя абрысы фону дзеяньня і тых падзей, што разьвінаюцца. Што-ж да героя індывідуальнага, то, ня гледзячы на вузкасьць таго, што апісваецца, кавалку з яго жыцьця, аўтар мае магчымасьці да больш шырокіх і больш конкрэтных выяўленьняў яго, г. зн. да абрысоўкі шляхам яго дзеяньняў і гутарак.

У апавяданьні „Кірмаш“ больш выразна на фоне агульна-чалавечае вясёласьці выступае герой яго Пятрусь. Ён чалавек нясталы, што зноўткі знаходзіць сваё тлумачэньне ў псыхолёгіі п'янага чалавека. Кожны раз, як Пятрусь вяртаецца з базару ці кірмаша, ён прыяжджае дадому п'яны, выклікаючы гэтым вялікае нездаволеньне з боку сваёй жонкі. Праўда, „ён ужо разоў дваццаць дакляраваў жонцы ня піць гарэлкі і заўсёды прыяжджаў дадому п'яны“. Апрача таго, спатыкаючыся з жонкай, ён прыкідаўся цьвярозым.

„Для гэтага ён стараўся хадзіць роўна. Часам яму і ўдаецца зрабіць колькі роўных крокаў, а потым, пазіраеш, гарэлка павядзе ў бок. Тады ён кідаўся на другую хітрасьць.—Ое-ёй!—стагнаў тагды Пятрусь.—Отжа кальнула! Бадай ты згарэла!“ (49). Гэта апісаньне героя прадстаўляе сабой толькі тэорыю аўтара аб ім; далей яна ілюструецца конкрэтным прыкладам.

Гэты спосаб Я. Коласа сустракаецца асабліва часта пры абмалёўваньні якраз індывідуальнага героя і сустракаецца амаль ва ўсіх яго

гумарыстычных апавяданьнях. Яна ставіцца да таго, што сьпярша аўтар дае свайму пэрсонажу пэўнае тэарытычнае азначэньне, а потым яго конкрэтызуе адным ці некалькімі выпадкамі з жыцьця гэтага героя. Звычайна тады суадносіны між гэтымі двума момантамі грунтуюцца на прынцыпе контраставаньня іх. Практыка жыцьця, якую малюе мастак, зьяўляецца адмаўленьнем таго, што гаварылася ў тэорыі. На гэтым контрасьце двух становішчаў грунтуецца і аўтарскі гумар; ён павялічваецца пры гэтым ад таго, што часьцей за ўсё герой паўтарае і настойна падтрымлівае тое ці іншае становішча (Пятрусь дакляруе і жонцы і сабе не напівацца п'яным), якое потым ня мае рэальнага выpraўданьня. Праўда, да другога становішча, што контрактуе з першым, герой прыходзіць не адразу, але паволі і з хістаньнямі, якія даюць упэўненасьць яму ў тым, што ён устоіць на позыцыях сваёй тэорыі. Гэта—спосаб маляваньня, які ў поўнай меры адпавядае псыхолёгіі п'янага і, да таго, бязвольнага чалавека; у мастацкім стасунку ён дапамагае памацненьню яркасьці гумарыстычных фарбаў мастака.

У разгляданым апавяданьні герой Пятрусь зноў выпраўляецца на кірмаш, разважаючы па дарозе аб сваіх паводзінах, паўтараючы сам сабе: „Не, трэба такі кінуць піць“ (50).

Аднак, спаткаўшыся на кірмашы са сваімі сябрамі, ён ня ўстоіў супроць спакусы пайсьці у „Порт-Артур“ і выпіць там адну, дзьве чаркі,

Праўда, „Пятрусь трохі ўпіраўся, але такі пайшоў“. „Чарку, дзьве. ня болей“, думаў ідучы Пятрусь. Але з „Порт-Артура“ ён ішоў надта вясёлы і сьпяваў:

Напляваць мне на падатак.
Што мне пісар, старшыня?
Лейба, торбу на ў задатак,
Дай-жа крэпкага віна (52).

Далейшыя прыгоды героя знаходзяцца ў поўнай органічнай сувязі з яго станам і ў ім знаходзяць сваё тлумачэньне. З кірмаша Пятрусь вяртаецца дадому; ён узабраўся на воз і лёг, прывязаўшы лейцы да каламажкі.

„Увесь сьвет, здавалася яму, скакаў лявоніху. Калі-ні-калі Пятрусь падымаў галаву, крычаў: „но, Малы“, цмокаў губамі і сьвістаў. „Добра мера, хоць бяз грошай, абы празьнічак харошай“... цягнуў часамі Пятрусь песьню, лежачы на возе, вугнівым хрыпатым голасам“ (52).

Тымчасам конь яго скінуў з перадкоў панарад і пашоў далей; панарад застаўся з Пятрусём сярод лесу. Тым-жа часам ён паранейшаму паднімаў галаву цмокаў і крычаў: „Но-о-о, Малы, варушыся...“ Потым, калі ён ачухаўся і знайшоў свайго каня за вярсту ад возу, дык пацалаваў яго „ў самую мызу“; „а потым пацалаваў Пятрусь зямлю і пакляўся перад небам, што ніколі ня будзе піць гарэлкі“ (54); герой зноў вяртаецца да таго самага, з чаго пачаў, да паўтарэньня сваёй тэорыі, якая ня зьвязваецца з практыкай яго жыцьця.

Вяртаньне з гораду п'яных сяброў мастак апісвае і ў другім апавяданьні „Знайшлі“, ужываючы ў ім тыя самыя спосабы маляваньня, што і ў папярэднім выпадку. Адзін з іх—Мікалай. Ён страціў яснасьць свайго розуму і выяўляе характарную для п'янага чалавека роўнадушнасьць да ўсяго наўкола—тую роўнадушнасьць, што выражаецца ў вядомай прыказцы: „п'янаму і мора па калені“. Ён „не памятае, як ён запрог каня, як сеў на воз і выехаў з Менску. Суседзі назаўтра казалі, што Мікола сеў упоперак воза, так, што адна нага яго была ў драбінах, а другая была выстаўлена на фасон пісталета...“ „Мікалай, як праз сон, памятае дарогу, тыя крамкі на краю гораду, тыя карчомкі з вывескамі „Піва“, дзе затрымоўваліся сялянскія хурманкі, каб купіць якую-небудзь дробную рэч і ў апошні раз папрашчацца з горадам, хлабыснуўшы на дарогу шклянку піва. Мікалаю нічога гэтага ня трэба было, і каб яго хто запытаў тады, што ў яго на карку—капуста, гарбуз ці галава, то ён зразу напэўна не адказаў-бы па тэй прычыне, што ён ня чуў галавы. Скарэй усяго яму здавалася, што на плечах у яго быў кацёл“ (144—145).

Другі герой апавяданьня, ехаўшы ўжо з гораду крыху ззаду,—Нічыпар Касмы. Ён у такім самым стане, але выяўляе другія эмоцыі п'янага стану: нахіл да сяброўскіх гутарак, а потым і да рэзка процілежнага настрою—варожасьць да таго самага об'екту.

„Ляжаў ён галавой к конскаму заду, абняўшы мяшок атрубоў, і гаварыў з ім, як з пярвейшым другам на сьвеце, бо думаў, што гэта быў не мяшок з атрубамі, а яго добры знаёмы, каторага ён узяўся падвязьці.

— Ты кажаш, брат, што гарох у цане? На ўсё цяпер расьце цана... На лета засею ўсё поле гарохам... Но-о!—гукнуў Нічыпар і хвасануў пугаю па воздусі ў той бок драбіны, дзе з роду не запрагаўся конь.

— Лявон,—гаварыў далей Нічыпар да мяшка:—давай займёмся гарохам, га? Што, брат Лявон, ці не казлы ты ўжо дзярэш? Эх, ты, слабейка: выпіў, як куранё, а зьвіўся, як вуж, глынуўшы жабу. Гной ты, а не чалавек.

Тут Нічыпару ўсьпомнілася песьня пра Лявона, і ён зацягнуў:

Ды Лявон мой,
Ды павёз гной,
Ды ляцела варона,
Ды схапіла Лявона (147).

Гутарка яго цягнулася і далей: скончылася яна тым, што ён пачаў цалаваць мяшок. Але тут акалічнасьці зьмяніліся. Абнімаючы і цалуючы „Лявона“, Нічыпар прыгаварваў:

— І сыты-ж ты, ліха твайму ліху, проста, як мянёк! Дзе ты нагуляў гэтулькі сала? Ось як вазьму я цябе, як скіну, як шпурну, то ты ў мяне апынішся... у Сёмкавым Гарадку! Што, можа скажаш ня шпурну? Ня шпурну? Я цябе ня шпурну? Дальбог, шпурну, так шпурну, што

косьці забражджаць! Хто ты мне?—бацька або дзядзька? Дзяцей я з табою хрысьціў? Вон з майго воза.

Нічыпар абхапіў мяшок, лёг з ім урад, узьняў, таўхануў каленам і кінуў на дарогу.

— Разьлёгся-бо, як пан які,—пачаў Нічыпар, каб апраўдацца перад сабою:—я чалавек такі: ні з кім ня судзіўся, бо судзіцца ня люблю, раз, раз—і гатова" (148—149).

Так ехалі нашы героі і дарогай згубілі свае шапкі. Заўважыўшы згубу, яны абодва пачалі шукаць іх. Яны ўбачылі ляжаўшы на дарозе стары падраны капялюш, які быў вывезены са сьмецьцём у поле і прынесены ветрам на дарогу. Кожны з іх палічыў яго за сваю згубленую шапку. Яны абодва памкнуліся да яго і абодва за яго схапіліся. Пачалася сварка, якая хутка перайшла ў бойку між імі. Калі абодва змучаныя яны ўжо кінулі тузацца „і толькі цяжка саплі, як кавалёвыя мяхі", Нічыпар на пытаньне свайго супрацiўніка, што-ж будзе далей, адказаў: „Нічога ня будзе; адпачынем ды ізноў будзем баранавацъ... Я чалавек такі: біцца не хачу, судзіцца ня люблю і я, апроч таго, чалавек бывалы: быў у кузьні і ў млыне. І тут—гу-гу!—і там—гу-гу! нічога разабраць не магу..." (153). Хутка, аднак, яны ўбачылі сваю памылку: абодва-ж бо шукалі шапку, а не капялюш. Плюнуўшы са злосьці, яны пастанавілі ехаць разам і па дарозе выпіць: „ня выпіўшы не патрапіш".

Як відаць з паданых апісаньняў, комізм іх ёсьць, перш за ўсё, у маляваньні, якраз, п'янага стану герояў з выцякаючымі з яго вынікамі, а потым і ў скарыстаньні аўтарам звычайнага для яго спосабу контраставаньня між тэорыяй і нязбытнай практыкай. Вобразы такіх самых гуляшчых сяброў маюць працяг і ў апавяданьні „Чорт" з іншымі толькі знадворнымі выяўленьнямі ды дзеямі, але-ж з тымі самымі мастацкімі спосабамі маляваньня іх. Перад намі лясьнік Міхась ды Іван; яны, „што называецца трынкнулі" ў „цёткі Хрумы" і вяртаюцца цяпер дадому. Як належыць п'яным героям, яны цалуюцца адзін з адным, клянуцца гневам Пяруна ў любасьці адзін да аднаго і г. д. Міхась, як заўважае аўтар, быў чалавек „вясёлы", асабліва, калі вып'е: „тады ён штукар на ўсе рукі". Гэта тэорытычная характарыстыка тут-жа і пацьвярджаецца конкрэтным здарэньнем, героем якога і аказваецца Міхась. Вывернуўшы на сабе кажух уверх воўнай і ўваткнуўшы ў шапку дзьве палачкі замест рожак, ён надумаўся прадставіць чорта і напалохаць праяжджаўшага Пятруся Гвазьдзя; і месца якраз было страшное—„Кірылава магіла". Гэта той якраз Пятрусь, што, як зазначае аўтар, „летась украў у Міхася з лесу тры вязы" (12). „Назаўтра Пятрусь Гвозьдзь усім як у звон званіў, што бачыў чорта каля „Кірылавай магілы" (13).

Цікавым момантам, каштоўным для выясьненьня поэтыкі пісьменьніка ў гэтым апавяданьні „Чорт" ёсьць спосаб пабежнага апісаньня Пятруся Гвазьдзя („Той самы Пятрусь, што летась украў у Міхася"... ды інш.).

Гэта—спосаб так званай таварыскай характарыстыкі, якой аўтар карыстаецца не аднойчы. Яго героі гэтай групы так сьцісла між сабою зьвязаны, так добра ведаюць адзін аднаго, што такое панібрацкае азначэньне аднаго з іх аказваецца ў поўнай меры натуральным і зразумелым. Для чытача-ж гэты спосаб зьяўляецца крыніцай для ўсьмешкі ці сьмеху, г. зн. зьяўляецца асобным спосабам гумарыстычнага выяўленьня.

Такі-ж самы нахіл да п'янай гулянкі маецца ў герояў і другіх соцыяльных слаёў вёскі, якія займаюць звычайна адміністрацыйныя пасады. Яны п'янствуюць заўсёды ў які-небудзь урачысты дзень. У апавяданьні „Імяніны" аўтар разгартае малюнак п'янай гулянкі з выпадку імянін валаснога пісара. Да яго прыходзяць прадстаўнікі сельскай мясцовай інтэлігенцыі: сядзелец манапольнай крамы, ураднік, дзячок, дзякан з фэльчарам і г. д.

Аўтар пакідае большасьць гэтых герояў без абрысоўкі іх. Толькі пра некаторых з іх ён кідае пабежна некалькіх гумарыстычных заўваг, найчасьцей конкрэтных, характарызуючых ці іх выгляд, ці-ж некаторыя ўнутраныя якасьці. Так, „сядзелец Амельлян Шурпаты" характарызуецца, як вялікі, але дурны гаварун. „Усю дарогу ён гаварыў сьмешныя рэчы, яго расказы вядомы былі тым, што ў іх было ў сто разоў больш гразі, як сьмеху і розуму". Ці таксама выразна апісваецца і памоцнік пісара. Аўтар сьпярша конкрэтна пералічае яго вартасьці, а потым робіць і заключную заўвагу, дзе тэорытычна абагульняе свае рэальныя нагляданьні над уласьцівасьцямі героя. „Нос яго быў заўсягды чырвоны, як бурак, і выдаваў яго шчырую дружбу з манапалькаю". Апрача таго ён быў поэтам: свае вершы, прысьвечаныя імяніньніку, ён чытае за сталом. Нарэшце, ён „меў значок саюзу рускага народу пасылаў свае творы ў газэту „Русское Знамя" і лічыўся ў мястэчку чалавекам мысьлі, пяра і бутэлькі" (24). Вывад аўтара, як відаць па даных радкох, унутрана контрастуецца з тым ральным палажэньнем, у якім знаходзіцца герой; ён называецца чалавекам „мысьлі і пяра", тымчасам як гэтыя яго высокія ўласьцівасьці выяўляюцца ў складаньні дрэнных вершаў і пісаньні допісаў для газэты „Русское Знамя", маючай пэўную рэпутацыю. У гэтым контрасьце аўтар хавае комічны бок сваёй характарыстыкі героя.

Усе паданыя асобныя вобразы гуляшчых п'яных герояў прадстаўляюць сабой постаці даволі прымітыўныя, аднабокія, вузкія. Апрача нахілу да п'янства з усімі выплываючымі адсюль вынікамі, вельмі ордынарнымі і натуральнымі, гэтыя героі ў выяўленьні аўтара а ні чым сябе не паказваюць. Яны паказаны толькі, як „п'яныя" вобразы; другія ўласьцівасьці іх унутранага аблічча засталіся нераскрытымі мо' нават і таму, што яны занадта ордынарныя і простыя. Толькі вясёласьць іх натуры зьяўляецца такой уласьцівасьцю, якая ўзьвялічвае іх над роўнем абыдзеннай асярэдзіны і робіць „героямі" мастацкіх апавяданьняў. Праўда, гэта

вясёласьць, як відаць з папярэдніх апісаньняў, мае рознастайныя выяўленьні і справаджаецца рознымі вынікамі. Аднак, уся іх актыўнасьць мае сваё выпраўданьне і тлумачэньне толькі ў псыхолёгіі чалавека, маючага нахіл да гарэлкі. Але разам з тым гэта рознахарактарнасьць выяўленьня нецьвярозасьці сьведчыць аб умельству аўтара абмалёўваць п'яную эмоцыю наогул з усіх бакоў.

Але сярод гэтай доўгай чаргі такіх герояў ёсьць і вобраз больш складаны, больш шырокі ў выяўленьні вясёласьці сваёй натуры. Належыць ён ужо да другой грамадзкай клясы. Гэта наш „Жылка"—шляхціч. Сваю натуру ён адбіў у сваім днеўніку („З днеўніка пана Жылака"), да якога сам аўтар дае невялічкую тэорытычную прадмову. У запісах гэтага пана постаць яго ўстае ва ўвесь рост; штодзеннае п'янства, гульня ў карты, махлярства ў часе яе, падтасоўкі, заляцаньне да кабет ды інш,—вось чым запаўняецца жыцьцё героя, якое знайшло сваё мастацка-практычнае адабражэньне ў яго днеўніку. З асаблівым запалам пан Жылка гуляў у карты. Яго энтузыязм у гэтай галіне асабліва маляўніча і абагульняльна малюецца яго партнэрам Антосем Гладышом у яго прамове, што сказаў ён таксама ў часе гульні ў карты пасьля сьмерці пана. „Панове,—сказаў ён,—ці трэба казаць вам, якога сябра згубілі мы, якую страту панесла наша кампанія? Гэта быў няўтомны баец „за зялёным сталом". Ён аддаваўся картам усёй душой. Не задумваючыся прайгрываў ён грошы і ўсю пэнсію за цэлыя месяцы ўперад. Ён гатоў быў прайграць усё, пачынаючы сурдутам і канчаючы порткамі. Гэта была натура, каторая ня любіла спыняцца на палавіне дарогі" (173—174).

Часта аўтар зьвяртаецца да маляваньня і другіх ценевых бакоў жыцьця беларускага селяніна, галоўным чынам, такіх, што даюць яму матэрыял для комічных малюнкаў. Ён спыняецца на яго някультурнасьці, няпісьменнасьці і на тых выніках, што бываюць з гэтага і што маюць часта гумарыстычны характар. У шырокім абагульненым відзе гэта тэма малюецца ў апавяданьні „Кантракт" (з жыцьця пінчукоў). Зноў, як і ў папярэдніх выпадках, на першым пляне выступае народ—„паляшукі", як колектыўнае цэлае. Гэтым разам аўтар адзначае яго знадворную галечу, якая мо' зьяўляецца знадворным выяўленьнем яго ўнутранай адсталасьці. „Паляшукі гулі, як рой пчол. Адзеты яны былі—хто ў доўгія халаты з поламі, хто ў кажухі з шырокімі, як заслонка, каўнярамі, усе яны былі ў лапцях, з голымі грудзьмі, хоць на дварэ крэпіла зіма (18).

З гэтай сялянскай масы выступаюць, як асобная актыўная постаць, прадстаўнік сельскай улады—стараста і вясковы грамацей—Міхалка Варэйка. Абодва яны, аднак, грамацеі дрэнныя. Стараста зусім ня ўмее пісаць, але стараецца паказаць з сябе разумную галаву, а Міхалка ледзь умее расьпісвацца. Сышоўшыся, сяляне здаюць у арэнду „раку і тоні". Здалі. Патрэбен контракт, але няма паперы, атраманту ды іншых прылад

да пісаньня. Нарэшце, „прашла добрая гадзіна часу“, і ўсё здабыта: памяты аркуш паперы ў Бэрты, а атрамант і асадка—за дзьве вярсты ў старога Гіршы.

Але няма каму пісаць контракту, прымусілі Міхалку. Стараста, зрабіўшы „мудрую міну“, дыктуе: „Пішы! Мы, ніжэй падпісаўшыеся мужыкі з вёскі Ямішч, скліканыя нашым старастам“... Міхалка напісаў: „Мы... мы... мы.. ліжэ... іжэ... падказаўшыся“... Далей справа не пашла, бо стараста ня ведаў, што пісаць, аж холадна зрабілася яму: пачаць то пачаў, але чым скончыць, а Міхалка „ўпёрся носам у контракт“! Пастаноўлена: „Прыедзе пісар, дык і напіша“... (21—22). Зноў, як і раней, комізм выяўленьня абапіраецца на контрасьце між тэорыяй і практыкай; у тэорыі „сур'ёзна“ сьцьвярджаецца канечнасьць укладаньня контракту, а ў жыцьці гэта не ўдаецца з прычыны някультурнасьці народу і даводзіць да сьмешных вынікаў. Як у расказе папярэдняй групы п'яная псыхолёгія зьяўлялася выпраўданьнем рознахарактарных дзеяньняў герояў і мотывоўкай для іх, так і тут тую-ж самую ролю выконвае ўжо другая зьява, а менавіта—няпісьменнасьць і няразьвітасьць народу.

Як вынік гэтых зьяў, у жыцьці беларускага сялянства зьяўляецца цэлы шэраг становішчаў, у якіх ён ня ўмее разабрацца, ня ўмее належным чынам падыйсьці да іх ды як сьлед узяцца за справу. На падставе гэтага ўзьнікае цэлы шэраг комічных колізій, якія аўтар і бярэ ў якасьці сваіх мастацкіх выяўленьняў.

У большасьці выпадкаў псыхолёгічнай асновай у такіх абмалёўках зьяўляюцца забабоны, вера ў розныя прыметы, прадраканьні і г. д.

Вось перад намі расказ „Старыя падрызьнікі“, дзе гэта няўмельства ўзяць справу ў рукі і выканаць яе як сьлед, выяўляецца асабліва выразнай. Гэта якасьць героя, узятая сама па сабе, як уласьцівасьць адмоўная, ужо мае ў сабе даныя для гумарыстычных адносін да яго чытача. Але тут яна, апрача таго, параўноўваецца, каб больш было гумару, з тым, што можна назваць паўнатой жыцьця. У апавяданьні контрастуюцца, з аднаго боку, неабдуманасьць, нерахубнасьць і нават нейкая сантымантальнасьць героя расказу — Сьцяпана, а з другога — дасьціпная рахубнасьць і ўмельства орыентавацца ў конкрэтнай сытуацыі жыцьця другога пэрсонажу — Шлёмы. Праўда, адчуваньні першай асобы аўтар імкнецца ўгрунтаваць пэўнымі моральнымі меркаваньнямі, аднак яны не даюць яму перавагі над другім героем. Перамагае практыка жыцьця. Сьцяпан купіў два падрызьнікі пасьля нябожчыка сьвяшчэньніка, у якога ён служыў за парабка. Сьцяпан так прызвычаіўся да рэчаў, жывучы ў чужых людзей, што яму цяжка пакінуць іх. „Кожны вугал двара, кожная жэрдзіна ў плоце былі яму так блізкі і так знаёмы, як-бы гэта былі яго дзеці. А гэтыя тоўстыя вязы, каторыя чародамі стаялі вакруг пасады, каторыя ні кропелькі не адмяніліся з тых часоў, як іх запамятае Сьцяпан, і пад каторымі не адзін раз даваў ён храпунца

ў гарачыя летнія дні, здавалася, казалі яму: „Эх, Сьцяпан! Цяпера-то разлучымся мы!“ (111). Гэтая рыса консэрватызму і каханага прырастаньня да вакольных рэчаў абстаноўкі характарна для людзей, што жывуць ва ўмовах вясковага побыту; яна знойдзе сабе месца і ў другіх апавяданьнях аўтара. Купляючы падрызьнікі, Сьцяпан хацеў захаваць на доўгую памяць сваю адданасьць рэчам, з якімі яму трэ‘ было разьвітацца; да таго-ж, ён вельмі дружыў са сваім нябожчыкам-гаспадаром.

Другая прычына, якая прымусіла зрабіць зусім непатрэбную пакупку, была ў тым, каб перабіць пакупку ў надакучнага гандляра Шлёмы Цырліка.

Постаць гэтага героя вельмі цікавая. Ён вызначаецца надмернай рухавасьцю, якая выяўляецца ў яго складаных і комбінаваных знадворных рухах: „як пачне енчыць, біць у грудзі, разводзіць рукамі, ківаць галавой і крычаць такім прарэзьлівым голасам, як-бы з яго з жывога зьдзіралі скуру, то ня толькі такі чалавек, як Сьцяпан, але і кожны ня вытрывае тут“ (111). Разам з гэтым ён надзіва спрытны і прадпрыемны ў сваёй справе—у гандлі. Гэта ўласьцівасьць героя ў апавяданьні знаходзіць і конкрэтнае выpraўданьне. Сьцяпан купіў падрызьнікі за восемь рублёў, але павінен быў, як рэч непатрэбную, прадаць таму самаму Шлёме, але ўжо толькі за тры рублі. Ен быў асаромлены і „нічым ня можна было горш раззлаваць Сьцяпана, як спытаць яго: „Ці многа зарабіў, Сьцяпан, на падрызьніках?“ (122).

Тое-ж няўмельства ўзяцца за справу ўдумліва і з сэнсам, якое зьяўляецца крыніцай для гумару, малюецца і ў апавяданьні „Калодкі пчол“; толькі бліжэйшая мотывоўка гэтае зьявы зьвязваецца з верою ў прыметы і з імкненьнем тлумачыць імі факты жыцьця, асабліва розныя няўдачы.

Перад намі колектыў з трох мужыкоў: Сёмка Доўба, Гілёрка Кажан і Марцін Тапчан. Пісьменьнік не дае іх апісаньня (карыстаючыся спосабам фамільярнай характарыстыкі), што раз яны названы па імёнах і па бацьку, значыць яны ўжо знаёмы і вядомы чытачу. Гэтыя героі надумаліся ў суполку завесьці пчолы, купіўшы адну калоду ў Язэпа Гавакі. Праўда, Гілёрка Кажан папераджае сваіх сяброў, што ў гэтага сябра рука цяжкая, але яны паказалі сябе з гэтага боку больш прогрэсыўнымі: яны назвалі Гілёрку бабай, якая дае веры „дурным бабскім забабонам“. Яны купілі калоду пчол і вельмі, вельмі асьцярожна вязуць яе дахаты. Тут здарылася з імі няшчасьце. Яно, праўда, кончылася добра. Але здарылася яно ад іх няўмельства і бязглузьдзіцы. Аўтар падае маленькую гумарэску, якая малюе гэтыя ўласьцівасьці героя. „Трэба было зьехаць з гары Гара высокая і прыткая. Сёмка з Марцінам пабраліся за аглоблі, а Гілёрыка пасадзілі на вулей. Гілёрак упёрся нагамі ў крайнія лёсткі, а рукамі ўчарэпіўся за вулей, каб ня зьехаў. Калёсы наперад ішлі ціха, а потым давай каціцца барджэй. Марцін ня спрытна ступіў і паднёс сваю

нагу пад конскі капыт. Марцін зашыпеў, як вужака, і выпусьціў аглоблі, а сам, кульгаючы і скачучы на аднэй назе, учапіўся за драбіны.—Дзяржы! Гілёрык бачыць, што ад яго залежыць доля вульля, і ён штосілы налёг нагамі на лёсткі. Лёсткі зламаліся, і Гылёрык грукнуўся патыліцай аб вулей, аж ногі задраліся ўгару, а потым па вульлі зьехаў на сьпіне і стукнуўся галавою аб конскі зад. На іх шчасьце, воз ужо зьехаў з гары, і яны адрабіліся адным толькі страхам, калі ня лічыць гуза на Галёрыкавай патыліцы і садранай скуркі на назе Марціна“ (16). Але ўсе клопаты герояў былі дарэмныя; Язэп Гавака іх ашукаў: вулей быў бяз пчол—пусты. Збылася перасьцярога Гілёрыка: „Я такі і казаў вам, што ў Язэпа цяжкая рука“ (17).

У аднолькавай меры гэтае няўмельства, нядбальства і адсутнасьць здаровага жыцьцёвага клёку ўласьціва і асобам больш высокіх соцыяльных колаў—шляхце, і зьяўляецца тут крыніцай для сьмеху чытача. Апавяданьне „У балоце“ дае конкрэтны прыклад мастацкага абмаляваньня такога іменна стану. Загрузнуўшую панскую брычку ніяк ня могуць выцягнуць сяляне, якія прышлі памагчы пану, бо і самі яны цягнуць хто куды, як вядома ў байцы пра шчупака, рака і лебедзя, дый пан сваім бязглузьдзем яшчэ больш псуе справу, самую звычайную, нікчэмную. У выніку „брычка і коні ўсё глыбей і глыбей у гразь лезьлі“ (41).

Вера ў розныя забабоны, пагалоскі і комічныя становішчы, што выцякаюць з яе, асабліва шырокае выяўленьне знайшлі ў апавяданьні „Трывога“ і „На начлезе“. Асаблівага комізму яно дасягае ў першым апавяданьні, бо тут гэтая вера ў забабоны зьяўляецца крыніцай надмернага страху галоўнага героя апавяданьня. Як і раней, аўтар спачатку выводзіць на сцэну колектыў у выглядзе сялян, якія таксама перажываюць трывогу і страх з прычыны сухменю; іх усіх ахапіла чаканьне чагосьці страшнога і няўхільнага. На гэтым грунце зьяўляецца цэлы шэраг самых немагчымых гутарак, якія яшчэ больш згушчалі і павялічвалі трывожны настрой; такая ўжо псыхолёгія масы. „То тут, то там на вуліцы зьбіраліся мужчыны і жанкі і разьбіралі прычыны, чаму няма дажджу, тут-жа расказвалі розныя страшныя здарэньні апошніх дзён. А нядаўна пастушкі бачылі такое дзіва, што і ў лысых падымаліся дыбам валасы: на полі совалася ваўчыца, у каторай была чалавечча галава! Апрача гэтага, у лесе, як казалі, туляліся катаржнікі, уцёкшыя з астрогу“ (90—91).

На фоне гэтага масавага страху выступае далей постаць Міколы з яго палахлівасьцю, на грунце якой ствараецца шэраг сьмешных сытуацый. Аўтар з самага пачатку тэорытычна характарызуе палахлівасьць героя, адзначаючы яе нязвычайна шырокія памеры: „На ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахлівага і баязьлівага чалавека, як ён, трудна знайсьці. Баіцца ён воўка, баіцца могілак, разбойніка, чорта. Хоць вы азалацеце яго, ніколі ня пойдзе ён адзін уночы праз лес. А калі, бывала, захопіць яго ў дарозе шэрая гадзіна, то

каню—бяда! І ўжо яго конік сам ведае: чуць толькі пачне зьмяркацца, ён не чакае, пакуль Мікола будзе тузаць яго лейцамі і паддаваць ахвоты пугай, а сам, пырхнуўшы для сьмеласьці, выгінаў сваю худую шыю з куртатаю грывай і бордза драбязіў таўставатымі ножкамі. А калі Мікалаю даводзілася ў такі час ісьці пяхотам, то ён так шпарка ішоў, што прыходзіў дадому ўвесь мокры“ (91).

Гэта аўтарскае азначэньне героя далей ілюструецца адным комічным выпадкам, які здарыўся „ў гэту ноч“ з Мікалаем. Увесь гумар мастака накіраваны на тыя думкі, якія займаюць галаву героя, на размовы яго са сваім шасьцігадовым сынам Міхаськам, урэшце, на тыя ўчынкі, што зьяўляюцца вынікам яго ўнутраных настрояў. Комізм аўтарскага выяўленьня ідзе тут роўналежна з трывогай героя, з яго палахлівасьцю, якая, па меры разьвіцьця апавяданьня, усё больш ды больш павялічваецца, пакуль не пераходзіць у адпаведнае дзеяньне. Мікола ў хаце толькі з сынам, жонка пашла да хворай сястры. „Пакуль сяло гаманіла, Мікола сяк-так трымаўся і барукаўся са страхам, не даваў яму надта вялікай аблады над сабою“. Але сон, як на злосьць, ня прыходзіў да яго: „Праўда, удзень Мікола даў храпака і выспаўся“. „Трэба кінуць гэты паганы звычай спаць удзень“,—думаў ён і хаваў галаву пад коўдру, плюшчыў вочы, прабаваў нават храпці. „Але, храпануўшы раз, ён спалохаўся свайго храпу і зараз-жа перастаў“. Па меры таго, як заціхала вёска і „ноч усё цяжэй і глыбей насядала на зямлю“, страх Міколы павялічаўся ўсё больш і больш. Псыхолёгічны стан героя расьце ў парадку эмоцыянальнай градацыі. Спачатку ён просіць маленькага Міхаську пайсьці па маці; той адказвае яму: „А як спаткаю ваўчыцу з чалавечай галавой?“ „Дзе? Што?—спытаў бацька апаўшым голасам, а сам пачуў, як уся скура як-бы стала сьцягацца, каб вылужыць яго цела“. Потым сын сваім страхам яшчэ больш павялічвае трывогу бацькі. Міхаську здалося, што „нешта шалпатала ў качэргах!“ Ад гэтай весткі бацька „калаціўся, як асінавы ліст, і мусіў трымаць шчэмленай губу, каб ня ляскалі зубы. Але быў такі момант, што сіла шчамленьня перарвалася, і зубы так застукалі, усё роўна, як Марцін Паліваны прабаваў на вялікдзень моц яйца, зьбіраючыся гуляць у біткі“ (92—94). Страх дасягае найвышэйшае сілы, калі сыну здалося, што „нехта трасе ваконьніцу!“ „Ай! В-в-в-у!—нема загукаў на ўсю хату Мікалай, ды так страшна і дзіка што сыну здалося, што ўжо бацьку душаць, і ён з свайго кутка як залякоча! А бацьку чорт ведае што здалося.—Ай, тата! Г-г-г-у! І такі справілі кірмаш, што хата траслася. Мікола ўсхапіўся з пасьцелі, як няпрытомны. Ён нічога ня помніў, звалок з шастка жончыну спадніцу і накінуў яе на плечы. Бягучы да дзьвярэй, вырваў з коміна затка і выскачыў на двор. Каля яго, уляпіўшыся за зрэбныя порткі, стаяў Міхаська“ (94—95). На гэтым знадворнае выяўленьне эмоцыі страху ў бацькі і сына канчаецца. Далей ідзе малазьвязаны з папярэднім канец

апавяданьня. Міколу ў вывернутым кажуху прымаюць за чорта, і ўсе людзі, што сабраліся па трывозе на пажар да суседняе з Мікалаем хаты, уцякаюць хто куды.

У паданым апавяданьні мы маем параўнаваньне тэорытычнага палажэньня з рэальнай зьявай жыцьця; але гэтае параўнаваньне будуецца не на аснове контрасту, як гэта было ў папярэдніх выпадках, але пры дапамозе роўналежнасьці паміж тэорытычным сьцьвярджэньнем аўтара а характары героя і адным практычным выпадкам з яго жыцьця. Прычым другая конкрэтная частка яго, як ужо зазначалася, разьвінаецца на аснове псыхолёгічнай градацыі, нарастаньні якой адпаведным чынам павялічвае і гумарыстычнае ўражаньне ад данага малюнку.

Крыху іншы характар забабоннасьць набывае ў апавяданьні „На начлезе“. З Тамаша Чучкі жэўжыкі падлеткі, якія прыехалі разам з ім на начлег, усяк зьдзекуюцца; яны пераносяць яго соннага з аднаго месца на другое; прачнуўся Тамаш—не пазнае вакольных абставін і прыпісвае гэта „чортавай сіле“. Гэтым тлумачэньнем звычайнага жарту вясковых хлапцоў пры дапамозе надпачуцьцёвай сілы герой стварае для сябе сытуацыю, якая выклікае сьмех у чытача.

На грунце тэй самай някультурнасьці вёскі і нязрушнасьці бытавых умоў яе вырастае, як ужо адзначалася, крайні консэрватызм яе жыхароў. Ён выражаецца, між іншым, у сьляпой староннасьці да рэчаў і прадметаў вакольных абставін, нежаданьні з імі расстацца і замяніць іх больш лепшымі і, мо‘, больш дасканалымі. Дзякуючы якраз гэтым рысам, вёска аказваецца мала даступнай паступовым рухам жыцьця. Але гэты консэрватызм, дасягнуўшы вышэйшага развою, як і кожная наогул крайнасьць, набывае ўжо гумарыстычны характар; ён ужо карціць, і гэта ня ведае ніякіх межаў. У такім іменна крайнім сваім выражэньні гэты настрой малюецца ў апавяданьні „Кажух старога Анісіма“. Стары так прыжыўся да свайго кажуха, што не пакідае яго ні летам, ні ўзімку. Ён зрабіўся неад‘емнай прыналежнасьцю яго істоты і нават засьціў сабой жывы чалавечы пачатак, таму „хто толькі знаў старога Анісіма, той знаў яго стары кажух“ (106). З гэтае прычыны і аўтар, замест таго, каб характарызаваць самога героя, апісвае яго кажух, і гэтае апісаньне лепш за ўсё азначае абрыс тае асобы, да якой так прыстала гэтая адзежына. „Ад доўгіх часоў свайго жыцьця кажух, зусім сашмуліўся, выліняў, і сам чорт не сказаў-бы, ці гэты кажух быў белы, ці чырвоны. Ды і самы гэты кажух стаў не падобен да кажуха, а калі яго і называлі кажухом, то называлі ўжо ў сілу звычаю“ (106). Гэты кажух быў прадметам заўсёдных клопатаў дзеда Анісіма, якія складалі зьмест яго жыцьця: „Ён больш нічога і не рабіў, як толькі клаў латкі. Латка чаплялася за латку то як кастры аладак, то як кучкі медзякоў. І ня было на кажусе ні аднаго жывога месца: так застракацілі яго белыя і чорныя ніткі і так патыкала яго голка“ (107). Ніякія спробы спрытных дзяцей зьняць

з дзеда, як ён сьпіць, яго кажух і зьнішчыць ня мелі посьпеху. Таму грамада і пастанаўляе: „памрэ ён, і кажух пахаваем з ім: разам жылі, няхай разам і спачываюць“ (109).

Яшчэ адна зьява вясковага быту ў абмаляваньнях Якуба Коласа зьвязваецца з тэй самай рысаю яго — з някультурнасьцю народу. Гэта імкненьне да дзяльбы паміж асобнымі членамі сям'і ды ахвота пажыць самастойным асабістым жыцьцём. Але гэтая рыса, уласьцівая ўсяму сялянству, аднак, малюецца аўтарам з боку яе адмоўнасьцяй, тых, якраз, што маюць у сабе матэрыял для гумарыстычнага іх абмаляваньня. Яго цікавіць гэта зьява не ў яе бытавой сутнасьці, але толькі з боку тых акалічнасьцяй, што абумоўліваюць і справаджаюць яе, што складаюць у ёй выпадковы давесак, што зьяўляецца вынікам малой культурнасьці народнай масы. Раз крыніца, з якой паходзіць гэтая зьява, адмоўнае якасьці, то, само сабою зразумела, такім самым будзе і той вынік, што выцякае з яго. Апавяданьне пад назвай „Дзяліцьба“ і дае такі іменна малюнак, поўны гумару. Тут, у гэтым апавяданьні, як і ў папярэднім аўтар спачатку накідае тэорыю свае тэмы; ён дае абагульняльнае апісаньне гэтае зьявы, характарнае для народу, як героя колектыўнага. Як і ў папярэдніх выпадках, яно пабудована на аснове тэматычнай градацыі; выкладаньне ідзе ад пачатковага моманту — ад зараджэньня самой ідэі і даходзіць да канчатковага яе ажыцьцяўленьня. „Ну, што ты з гэтымі бабамі зробіш? Калі ў хаце жывуць дзьве бабы, то ўжо спакою няма. Гыр-гыр-гыр! гыр-гыр-гыр! гыркаюцца яны ад самага раньня. Адна — капач, тая — мешалка. Тая — гультай, другая — няўмека. Так і кідаюць адна аднэй на вочы. А як лягуць спаць, то кожная ўсю ноч шэпча на вуха свайму мужыку, — нагаварывае на другую. Мужыкі толькі скрыва паглядаюць адзін на аднаго, але пакуль што маўчаць. Да дзяліцьбы яшчэ далёка. Дзяліцьба ідзе вось у якім парадку: перш-на-перш на пляц выступаюць бабы. Бабы сварацца год, год з палавінаю, а то і цэлых тры. (Мой нябожчык дзед казаў, што яго нябожчыца жонка сварылася з яго набожчыцай братавай цэлых дванаццаць гадоў!). Наўперад бабы сварацца патроху, — так, гадзіну, дзьве ў дзень. Потым сварцы адводзіцца больш часу — гадзін пяць-шэсьць. Да гэтага часу мужчыны яшчэ маўчаць, набіраюцца толькі злосьці. Мужчыны сварацца часьцей увечар ці ў сьвяты дзень, бо ў будні няма часу. А бабы тымчасам пачынаюць прабаваць моц сваіх чубоў. Вараць яны ў аднэй печы, але ў асобных гаршчкох. Дастаецца тут і бедным гаршчком! А ўжо посьле жанок б'юцца мужчыны. Каб падзяліцца, яшчэ мала пабіцца адзін раз: трэба найменш разоў восем, каб разоў тры засыхала скурка на носе, разоў шэсьць абадраць твар, ды ліхтар паставіць каля вока, а лоб убраць гузам або і двума. Тады толькі можна лічыць, што права дзяліцьбы здабыта“ (137—138).

Гэтая „тэорыя“ ў далейшым выкладаньні апавяданьня ілюструецца конкрэтным выпадкам з жыцьця двух братоў, Сымона і Міколы. Яны ў

жыцьці рэальна выконваюць тую праграму, якую накідаў тэарытычна пісьменьнік. Гэта аўтар сьцьвярджае і ў тэксьце свайго апавяданьня, калі, пасьля апісаньня шэрагу сутычак паміж братамі, ён зноў устаўляе тэарытычную заўвагу пра тое, што „гэта азначала, што скора будзе дзяліцьба“ (140).

У мэтах узьмоцненьня эмоцыянальнай выразнасьці малюнкаў сваркі і боек паміж героямі, якія апісваюцца, пісьменьнік дае ім і адпаведныя характарыстыкі; ён апісвае „тэарытычна“ тыя, якраз, эмоцыі іх, што маюць бліжэйшыя непасрэдныя адносіны да далейшых дзеяньняў герояў,— гэта пачуцьцё злосьці.

Аўтар з гэтай мэтаю ўводзіць нават невялікую частку з Vorgeschiche герояў, апавядаючы а выяўленьні гэтай самай эмоцыі. У выніку ў пісьменьніка атрымліваецца кароткая, але маляўнічая гісторыя гэтага адчуваньня ў герояў. Такая манера апісаньня ўжываецца параўнальна рэдка і ўводзіцца аўтарам у мэтах мастацкіх—для згушчэньня гумарыстычнага ўражаньня.

А першым герої, Сымоне, аўтар кажа, што ён „яшчэ змалку паказаў сваю злосьць. Раз ён завёўся нешта з сваёй сястрой Марцэляй. Мой Сымон так узлаваўся, што ўкусіў сястру за жывот. А то—ужо быў ён дзяцюком — Сымон любіў часамі зухнуць. Загнаўшы да Коўна плыт, ён купіў сабе стары афіцэрскі сурдут. Бацька дома і давай прабіраць за гэта Сымона. Сымон кінуў аб зямлю сурдут, пачаў таптаць яго нагамі, потым парваў на сабе кашулю, зьняў порткі і залез голы на жорны і сказаў: „Так пан Езус пакутаваў“ (139).

Другі брат, Мікола, ня ўступаў у сваёй злосьці Сымону (139—140). Словам, абагульняе аўтар пералічэньні паасобных момантаў з іх жыцьця: „Сымон і Мікола ў нашым сяле былі тым, што ў горадзе тэатр, толькі што білетаў ня трэба браць; прыхадзі сабе, слухай, пазірай, весялі сваю душу“ (140).

Разгледжаныя да гэтых часоў апавяданьні даюць мастацка гумарыстычнае абмаляваньне рознастайных адмоўных бакоў у жыцьці беларускай вёскі. Але гэтае абмаляваньне не праходзіць для чытача дарма. Ён азначана адчувае наяўнасьць у іх і тых думак, што паказваюць, як трэба яму аднесьціся да гэтых малюнкаў. Інакш кажучы, ён ловіць прысутнасьць навучальных і дыдактычных настрояў. Праўда, яны тонка і пamastацкаму замаскаваны, і сам аўтар нідзе ня выказваецца проста — у духу таго або іншага навучаньня. Ён скрозь і ўсімі магчымымі сродкамі падтрымлівае толькі гумарыстычную стыхію свае творчасьці; ён сьмяецца з таго, што малюе, прымушае тое самае рабіць і самых герояў. Часта, малюючы якую комічную сцэну, аўтар адначасна настойна падкрэсьлівае, што яна выклікае сьмех і ў дзеючых асоб гэтай сцэны. Прыкладаў гэтаму вельмі многа. Так, у апавяданьні „Старыя падрызьнікі“ Сьцяпан, які купіў непатрэбныя яму старыя падрызьнікі, прыпамінае, як з яго

набытку сьмяяліся акаляючыя яго асобы і нават жывёлы: „Сьцяпану ўспомніліся словы Зосі, Цырлік, Мікалай, як скакаў ён лявоніху, рыжая і падласая карова і бык. Ну, усе-ж з яго сьмяяліся“ (119). Або ў апавяданьні „Недаступны“. Натоўп каля студні, куды схаваўся Арцём, кпіў з яго: „там і сям наўперад цішэй, а потым сьмялей разносіліся вясёлыя раскаты сьмеху“ (130).

Аднак, гэты сьмех наводзіць чытача на сур'ёзныя разважаньні. Аўтар, даючы шэраг комічных малюнкаў і адзначаючы ў той самы час крыніцы іх (някультурнасьць), азначана паказвае, што гэта цёмны, адваротны бок жыцьця, што ёсьць жыцьцё другое, сьветлае. Гэта думка нябачна ёсьць ва ўсіх апавяданьнях, надаючы і самому сьмеху сур'ёзнае значэньне.

Але ёсьць нявялікая група апавяданьняў крыху іншага характару. У іх гумар някрыўдны, лёгкі, забаўны; ад яго не цякуць сьлёзы і не зьяўляюцца горкія ды цяжкія разважаньні. Гэтыя апавяданьні—проста гумарэскі, якія лёгка і вольна плывуць у сьвядомасьці чытача, пакідаючы толькі эстэтычна-гумарыстычнае ўражаньне без дамешкі якіхнебудзь іншых псыхолёгічных настрояў.

Вось перад намі Лукаш з апавяданьня „Адгукнуўся“. Ён пашоў на вялікдзень у царкву, але яго асільвае сон. Пакуль крэсны ход хадзіў вакол царквы, Лукашу пасьпеў прысьніцца цэлы сон. „Прысьніўся яму пракляты плыт. Вот, здаецца, Лукаш стаіць з прысам на галаве плыта, а Піліп—заднік, яго памочнік, завіхаецца назадзе. Вада чуць-чуць тоўпіцца ў берагох, і плыт плыве па ёй лёгка, як трэска, толькі ў нартох зьвіваецца ён, як вужака, скрыпяць лаўкі, і плыт борзда-борзда бяжыць за вадою“ (44). Працэсія ўжо вярнулася, і яго сусед, Янка Бязногі, ужо цалуецца з ім, але Лукаш, „ня прышоўшы ў памяць, лыпнуў вачыма і, думаючы, што ён яшчэ на плыце, загаманіў на ўсю царкву:—Піліп! Кідай шырыгу!..“ (45).

Або вось, Арцём (апавяданьне „Недаступны“), ратуючыся ад свае жонкі, залазіць у студню і ня хоча адтуль вылазіць, ня гледзячы на патрабаваньне яго жонкі, сына, суседзяў і нават прадстаўніка ўлады—сельскага старасты. Толькі пасьля прад'яўленьня і згоды на ультыматум у тым, каб Грыпіна яго больш ня лаялася, каб усе, што сышліся, разышліся, ён згаджаецца выйсьці з свайго недаступнага прытулку.

Або далей, беднаму Івану (апавяданьне „Выстагнаўся“) жыцьцё не дае як сьлед „выплакацца, выгаравацца, выскардзіцца і гэтым самым выліць з душы ўсю гаркату, усю боль пахілага жыцьця“ (155); яму часамі няма часу для гэтага; розныя жыцьцёвыя дробязі перашкаджаюць яму ў гэтым.

Або, урэшце, сельскі стараста (расказ „Стараста“)—вялікі аматар чынаўшанаваньня, надзімаецца, як індык, імкнучыся паказаць высату і сілу свае ўлады, якая дана яму законам.

Большай вострасьці і жартаўлівасьці гумар пісьменьніка ў галіне тэматычнай дасягае, калі ён зварачаецца, хоць гэта ён робіць вельмі рэдка, да абмалявапьня прадстаўнікоў ужо другіх грамадзкіх груп насельнасьці Беларусі. Тут, напрыклад, перад чытачом праходзіць валасны пісар („Злавіў“), які ўначы ловіць блох і клапоў. Ён вялікі служака. Нават у гэтым занятку ён выяўляе свой профэсыянальны почут і свае службовыя прыёмы. Калі ён убачыў клапа, які спакойна поўз, дык яму здалося, што „ён сабраўся ў вялікую дарогу, толькі што ня было ў яго палкі і клунка.—А, гад! а пашпарт у цябе ёсьць?—спытаўся пісар і падшкварыў яго сьвечкаю“ (168). У гэтай кароткай сцэне аўтар пераносіць службовыя прыёмы ўлады ў такую галіну, дзе яны зусім ня ўжываюцца; адгэтуль і ствараецца гумарыстычнае ўражаньне. Але, апрача таго, у тым-жа пытаньні пісара да клапа ёсьць значны ўнутраны зьмест, які характарызуе героя, як чалавека вузкага, недалёкага. Так аўтар умее ў кароткіх, але зьмястоўных выразах адразу-ж накідаць абрыс героя і вызначыць для чытача пэўныя ды ясныя вынікі з іх.

У выключных выпадах пісьменьнік зварачае свой погляд і на горад, але малюе ў іх такіх самых вясковых Антосяў ды Янкаў, з якіх ён так кпіў, калі яны былі на вёсцы. Не пакідае пісьменьнік іх і тады, калі яны перайшлі ў горад на службу за пісароў і апранулі на сваю кашулю нязграбна пашыты пінжак. Унутраная іх фізыономія засталася тая самая. Ён выпіваў на вёсцы; не пакінуў ён гэтай прывычкі і ў горадзе. Цягаўся ён там за вясковымі дзяўчынамі; тое самае робіць і ў горадзе, але ў гэтай галіне ён імкнецца трымацца ня так „груба“, як раней, а на гарадзкі манер. Ён ідзе на спацыр сапраўдным франтам; на шыі яго манішка і гальштук, а ў руках франтоўскі кіёчак. У такой якраз соцыялёгічнай мэтаморфозе выступае перад намі герой расказу „Так і трэба ашуканцу“—канцылярскі пісар Сьпірыдон Заручны. У гэтым апавяданьні аўтара цікавіць не грамадзкая вартасьць героя. Ён, як і раней, больш заняты чыста гумарыстычным бокам; у гэтым апавяданьні ён любуецца тым, як маляваны ім портрэт Сьпірыдона выклікае ў чытача шчыры сьмех.

Як і раней, гумар аўтара заключаецца ўжо ў самой прыродзе тых адмоўных бакоў жыцьця, што малюе ён у даным выпадку—у характары тэй цеганіны і марнатраўства ў павятовым горадзе, якімі займаецца герой. Але, апрача таго, аўтар узмацняе комізм маляваньня тым, што карыстаецца звычайным і часта сустраканым у яго спосабу контрасту паміж двума рознымі становішчамі—тым, што здаецца герою, і другім, якое ёсьць сапраўды. Сьпірыдон Заручны пераконаны ў павабнасьці свае пэрсоны. „Сьпірыдон пазіраў у люстэрку доўга, покі не праканаўся, што ён—маладзец малайцом. А то можа не? Чаго-ж на яго зазіраюцца „барышні“? О, ён толькі ня хоча гаварыць, як ім цікавяцца, бо ён перш-на-перш чалавек сукромны, а другое—ведае сабе цану“ (188). Але гэта

так здаецца самому герою. У вачох аўтара і чытача ён мае зусім другі выгляд. З люстэрка, у якое пазірае Сьпірыдон перад пісьменьнікам паўстае постаць, якая пакручвае „пяць сьветлых, пад колер сьмятаны, валаскоў пад носам, каторыя азначалі сабою Сьпірыдонавы вусы“... „З люстэрка пазіралі такія-ж сьветлыя, як і вусы, вочы, сьветлыя бровы, каторыя з першага погляду трудна было разгледзець. Адзін толькі нос—чаравік—кідаўся кожнаму ў вочы сваім доўгім, задраным угару канцом, афарбаваным пад бурачны квас. І дурню было ясна, што гаспадар гэтага носа дужа змагаўся з п'янствам, і змагаўся проста, адкрыта чэсна, бяз усякіх там хітрыкаў: галялюшчыў—і толькі“ (188). Наогул нос у Сьпірыдона адыгрывае вялікую, але ракавую для яго ролю. Ён зьяўляецца, разам з другімі няспрыяльнымі для яго акалічнасьцямі, прычынай яго няўдач у заляцаньні да гарадзкіх паненак. Сьпірыдон карае яго за гэта пстрычкамі: „Прыгнуў Сьпірыдон сярэдні палец правай рукі да вялікага пальца. Троп!-троп!-троп!—панеслася па пустой кватэры. Так табе і трэба, ашуканцу!—прыгаварваў Сьпірыдон, даючы ў нос пстрычкі“ (199).

Разгледжанымі творамі вычэрпваецца першая група апавяданьняў гумарыстычных. Як можна бачыць з папярэдняга, Якуб Колас, малюючы цёмныя, адмоўныя бакі беларускага сялянства, закрануў самыя рознастайныя бакі іх, зазначыўшы разам з тым галоўную прычыну гэтых зьяў—адсталасьць і някультурнасьць беларускай вёскі. Гэтым зазначэньнем ён надае свайму сьмеху сур'ёзны характар. Разам з тым, ён даў шэраг замалёвак і больш лёгкіх—якія зьяўляюцца ўжо аддаленым вынікам умоў акружаючай асярэдзіны. Малюючы гэтыя рознастайныя сцэны, аўтар спыніў сваю ўвагу як на герої колектыўным—народнай масе, так і на асобным індывідууме. Урэшце, мы можам сказаць, што разгледжаныя апавяданьні наогул даюць шырокі малюнак бытавых умоў беларускага сялянства, узятых ім з аднаго толькі боку.

*(Працяг будзе).*

# ЛАТВІЙСКІ ПЯСЬНЯР ЗМАГАНЬНЯ, СОНЦА І КАХАНЬНЯ

**К. Езавітаў**

Мала хто з беларускага грамадзтва ведае, што той Ян Райніс, найвыдатнейшы латыскі поэта, якога так гасьцінна і шчыра віталі беларусы ў Менску на Акадэмічнай Конфэрэнцыі і ў Віцебску на адкрыцьці II Беларускага дзяржаўнага тэатру, зьяўляецца ня толькі шчырым нашым прыхільнікам, шмат зрабіўшым для абароны праў беларускае меншасьці ў Латвіі, але і дужа *блізкім* нам чалавекам, нават *родным*, калі не па крыві, дык па духу і тэрыторыі.

Ян Райніс—гэта псэўдонім, а сапраўднае прозьвішча яго Плекшан,—нарадзіўся ў паўднёва-ўсходнім кутку Ілукштаншчыны, у мясцовасьці, дзе латышы ня маюць большасьці, а затое ў значнай лічбе жывуць беларусы і ёсьць трохі літвіноў. У гэтым дужа цікавым куце стыкаюцца культурна-псыхолёгічныя ўплывы шасьці народаў: беларусаў, латышоў, ліцьвіноў, расійцаў-старавераў, палякаў-абшарнікаў і шматлікіх тутака яўрэяў, якіх у адным Дзьвінску было да вайны каля 45.000 чалавек. І вось Ян Райніс у сваёй аўтобіографіі зазначае, што яго поэтычна-чулая душа яшчэ ў маленстве адчувала моцныя ўплывы беларускага духу, і з гэтых уплываў, поруч з уплывамі латыскага духу, ён чэрпаў потым поэтычнае натхненьне ў сваёй творчасьці.

Сам ён аб гэтым піша так:

„Свае першыя літаратурныя ўражаньні я атрымаў ад нашых народных сьпеваў, якія мая маці дужа часта і ахвотна сьпявала; гімназістам я запісаў некалькі соцен гэткіх сьпеваў пад яе дыктоўку. Таксама і літоўскія народныя сьпевы *і сумна-мэлянхолічныя мэлёдыі беларусаў, да якіх я прыслухоўваўся з пятага году жыцьця аж да пятнаццатага.* Ліцьвін, стары Марцуліс,—для мяне адзін з наймацнейшых успамінаў маленства. Памятаю, як ён цэлы дзень, круцячы жорны, сьпяваў адну і тую-ж цягучую песьню млынара, падобную да шуму жорнаў. Уначы-ж я пільна прыслухоўваўся да беларускіх песьняў старога вартаўніка Недзеўскага, нагадваючых сьпевы васеньняга ветру... Магу таксама яшчэ сёньня прасьпяваць песьню маладога рэкрута, яўрэя, якую ён сьпяваў на жаргоне...“

З кнігай Я. Райніс пазнаёміўся позна: яго аддалі вучыцца да пастара калі яму было ўжо 8 год, але затое, ужо 12-гадовым хлапцом ён напісаў першую сваю поэму „Каралеўна“. Аднак, пры бясспрэчным і выдатным поэтычным таленту, нейкая надзвычайная сарамлівасьць была прычынай

таго, што *Я. Райніс у працягу дваццаці год нікому не казаў аб сваіх літаратурных працах.*

Нарадзіўся Я. Райніс 30 жніўня 1865 году[1]), у 1877 ён ужо *тварыў* сур'ёзныя рэчы, у 1878—79 пераклаў, напрыкл., „Барыса Гадунова“ Пушкіна,—але *толькі* ў 1896 годзе, пад тavailable уплывам і ледзь ня прымусам, адважваецца Я. Райніс, і то пад *псэўдонімам*, рашуча стаць на грунт поэтычнае працы і ўзяцца за друкаваньне сваіх твораў. Райнісу ў той момант *ужо споўнілася трыццаць год*, і калі-б не рашучыя рады вядомай латыскай поэтэсы Аспазіі, якая праз пэўны час зрабілася жонкай Райніса, дык магчыма, што сьвет зусім-бы ня ўбачыў яго твораў.

У часе сваёй падрыхтоўкі да выхаду на літаратурную арэну, Я. Райніс прайшоў грунтоўную школу грамадзкае працы.—Ён, П. Стучка і Бэргман зьяўляюцца галоўнымі кіраўнікамі марксыцкае латыскае газэты „Дієнас Лапа“ („Штодзенны Лісток“) у Рызе і з 90-х гадоў накіроўваюць грамадзкую думку латышоў на барацьбу з царызмам.

Вышэйшая асьвета, юрыдычны факультэт, марксыцкі сьветагляд, актыўная грамадзкая праца—зусім ясна павінны былі адбіцца ў творчасьці Райніса, і адбіліся ў ёй шэрагам поэтычных твораў, у якіх на першым месцы стаіць *грамадзкае змаганьне*. У гэтых творах, пераважна вершах, адбіта змаганьне латыскага народу за сваё нацыянальна-соцыяльнае вызваленьне, а таксама і ўдзел самога Райніса ў гэтым змаганьні—турма, ссылка, эміграцыя. Вершы бадзёрыя, захоплена заклікаючыя да змаганьня, з верай у поўную перамогу.

Абвяшчэньне незалежнае Латвійскае рэспублікі надзвычайна ўсьцешыла Райніса. У эміграцыі ён ня зусім орыентаваўся ў тым, *хто* кіруе незалежнай Латвіяй, ён не заўважыў таго факту, што, за час яго пабыту ў эміграцыі, у Латвіі вырасла моцная буржуазія, да якой перайшло і шмат былых марксыстых, былых асабістых таварышоў Райніса, былых змагароў з царскай уладай. Ня бачачы, што ўладу ў Латвіі захапіла буржуазія, недаацэньваючы політычна-клясавае сытуацыі, Райніс безагаворна ўсхваляе маладую латвійскую дзяржаўнасьць з сваёй эміграцкай далечы. Пролетарыят Латвіі ўспрыняў гэта як зраду, а буржуазія з захапленьнем крычала а пераходзе Райніса на яе бок.

Так цягнулася некалькі год як у эміграцыі, з якой Райніс вярнуўся ў Латвію ў 1920 годзе, так і пэўны час пасьля прыезду Райніса на бацькаўшчыну, дзе ён павольна аглядаўся і павінен быў заўважаць свае памылкі. Такім чынам, Райніс-змагальнік *зарана* зьмяніў песьні змаганьня на песьні *канчатковае перамогі*. Перамогі яшчэ няма. Пролетарыят Латвіі яшчэ павінен упарта змагацца за свае правы, здабытыя

[1]) Падрабязныя біографічныя даныя аб Я. Райнісу можна знайсьці на расійскай мове ў П. Даўге—„И. Райнис“. Москва. 1920. Госиздат.

рэволюцыяй, але захопленыя буржуазіяй. У гэтым *драма* Райніса. Гэта прычына першага разыходжаньня яго з пролетарыятам Латвіі і з маладымі латвійскімі пролетарскімі пісьменьнікамі, якія на тым-жа Райнісе ў свой час узгадаваліся.

Ці вернецца Райніс у шэрагі пролетарскіх пісьменьнікаў Латвіі? Ці зробіцца ён зноў песьняром змаганьня?—Адказаць на гэта даволі цяжка. Аднак, бяручы пад увагу дзе-якія новыя абставіны,—старасьць Райніса, шуканьне спакою, нахіл да гістарычных досьледаў і гістарычна-сымболічных твораў,—трэба думаць, што ня вернецца, а калі і вернецца, дык ужо ня зможа быць *правадыром змаганьня*, якім ён быў да Кастрычнікавай рэволюцыі.

Другое, што было і ёсьць дужа характэрным для Райніса, гэта *сонечнасьць* яго твораў, веданьне натуры і захапленьне ёю, глыбокі оптымізм, чыстая шчырасьць, простасьць ды натуральнасьць у адчуваньнях і вобразах. І пры ўсім гэтым нейкая дзявочая сарамлівасьць. Шмат вершаў проста прысьвечана сонцу, пераважна сонцу веснавому, сонечным косам, цяплыні ды радасьці.

Каханьне ў Райніса надзвычайна пяшчотнае, захапляючае сваёй прыгожасьцю. Ён кахае ня толькі жанчыну, ён кахае прыроду, чалавецтва, ідэю, самаахвярнасьць і перамогу.

Была-б толькі напалову ахарактарызавана роля Райніса ў гісторыі латыскага адраджэньня ды культуры, калі-б мы абмежаваліся толькі адзначэньнем вагі яго, як поэты і грамадзкага дзеяча. Роля Райніса далёка выходзіць за гэтыя межы. Райніс надзвычайна многа ўлажыў у латыскую культуру яшчэ як крытак, драматург, перакладчык ды *рэформатар латыскае мовы і стылю.*

Лічба і гатунак яго перакладаў зьяўляюцца ў латыскай літаратуры рэкорднымі. Ніхто не зрабіў такіх прыгожых перакладаў на латыскую мову, як Райніс. Таксама рэкорднай зьяўляецца лічба слоўных новатвораў, якія даў латыскай мове Райніс, якія назаўсёды ўвайшлі ў літаратуру і ў народную мову.

Самы стыль мовы, кароткія, поўнагалосныя словы, якія так прыгожа ды лёгка сьпяваюцца, прыдумваў Райніс, скарачаючы даўжэразныя канчаткі, якія ўвайшлі ў латыскую мову праз уплывы немцаў.

Драмы Райніса заслужылі ня толькі агульна-латыскую, але і эўропэйскую вядомасьць, яны перакладаюцца і перакладзены на некалькі моў, ставяцца ня толькі на латыскіх, але і на чужаземных сцэнах.

Уплывы Райніса на латыскую літаратуру і грамадзтва, асабліва на маладое пакаленьне, не абмяжоўваюцца сучасным момантам, яны будуць адчувацца яшчэ доўга і пасьля яго сьмерці.

У апошнія гады ён робіць спробы рашуча адмежавацца ад няпрошанага пабратымства з латыскай буржуазіяй, і яна, так „расчараваная“ яго позыцыяй, ня можа даравадь сабе і яму тых надзей на „далучэньне“

да яе Райніса, што былі ўспыхнулі ў латвійскай буржуазіі ў першыя гады латвійскае дзяржаўнасьці, калі Райніс пісаў свае захапляючыя вершы ў эміграцыі, пад небам Швайцарыі. За гэтыя свае страчаныя надзеі буржуазія, насіўшая першыя два гады Райніса на руках, ахрысьціўшая яго імем вуліцы ў Рызе ды іншых гарадох, падараваўшая яму нават баронскі замак (Райніс яго перадарыў латыскаму настаўніцкаму саюзу),— цяпер на ўвесь сьвет лае гэтага найвыдатнейшага пісьменьніка за яго клясавую позыцыю, „нявартую гэткага вялікага чалавека“.

# НОВАЯ НЯМЕЦКАЯ ПРОЗА

## Гэргарт Поль

Нямеччына стала рэспублікай, канчаткова і беспаваротна. Усім тым, што хістаюцца ў краіне і на сьвеце, трэба лічыцца з гэтым фактам.

Лічыцца з гэтым павінна і поэтыка. З гісторыі француская літаратуры ведаем мы, што панучая форма поэзіі (формальна) вольнага народу, найадпавядальнейшая форма вуснай творчасьці, ёсьць уласна проза. Драма, найвышэйшы пункт і сутнасьць нямецкай поэзіі, а з ёй і нямецкі тэатр, на працягу больш сталецьця, страціла свой блеск. Рабочыя не спрачаюцца больш а „прэм'ерах": у іх другія клопаты, іншыя задачы.

Чалавеку працы ды яго грамадзкасьці служыць проза. Політыка ў першы раз далёка ўварвалася ў нямецкую поэзію і падужана мастацтвам.

Але годна ўвагі тое, што слынныя апавядальнікі даваеннага часу, Томас Манн, Якуб Вассэрман, Стэфан Цвэйг, штодзенна патроху страцілі сваё дзейнае значэньне, хаця іх творы выходзяць яшчэ вялікімі выданьнямі. Чытачы іх—старыя рэшткі ад імпэрыі, якія больш-менш самохаць стараюцца прыладзіцца да няўхільнага гістарычнага разьвіцьця Нямеччыны ды Эўропы.

А моладзі, для якой гэтае разьвіцьцё пэўнае і само сабой зразумелае, больш не да гэтых пісьменьнікаў. За тое яна паднімае на шчыт паважанага ўплыву новага пісьменьніка, які перад вайной ня бываў са сваімі кнігамі ў выдаўцоў і меў вартасьць толькі як брат „Вялікага"; гэта

## Гэнрых Манн

Ня дзіва, што ў часе соцыяльнага расслаеньня гэта адзіны вялікі грамадзка-крытычны эпік Нямеччыны, гэты Гэнрых Манн штодня набывае значэньне. Гэты пісьменьнік прыўласьціў сабе традыцыі Эміля Золя, прыстасаваў іх да нямецкіх умоў і тым зрабіўся нейкім поэтычным сымболем моладзі, якая рашуча гатова да няўмольнай абароны свабоды.

З пакаленьня, якое, змагаючыся, перацярпела сусьветную вайну, засталося зусім мала тых, чые мастацкія вопадзі маюць пэўны ўплыў на маладую Нямеччыну. Гэта няшчаснае пакаленьне, якое распыліла свае найлепшыя сілы пры Танэнбэрзе і пад Вэрдэнам, у Фляндрыі ды на Ізонезо за прыгарэўшую яечню прагавітых імпэрыялістых, здолее пакінуць нямнога сьлядоў у нямецкай поэзіі. Застаюцца два пісьменьнікі-прозаікі, якія пераажылі сусьветную вайну ў далёкай Швайцарыі: Леонард Франк і Гэрман Кэссэр.

**Леонард Франк,**

які з магутным соцыяльным палам малюе баечны краявраз нямецкай сучаснасьці, піша самай кваціста, маляўнічай, высокай, якую толькі ведалі за апошнія 50 год, нямецкай прозай. Яго „Банда разбойнікаў" паказвае навальнічна-душную жудасьць вычарпанай, зморанай імпэрыі, яго на ўвесь сьвет слынны зборнік апавяданьняў „Чалавек ёсьць добры" выяўляе таксама канчаткова, як і „Le feu" („Агонь") Анры Барбюса, магутную тугу на забойства гнаных стварэньняў. Яго найноўшы роман „Оксенфурцкі мужчынскі квартэт", шэдэўр вялікага памеру, рысуе нам жыцьцё малых людзей, якія стаяць пад націскам пасьляваенных гадоў, і малюе непарушныя сымболі чалавечага, каханьне і сьмерць, у рамках гэтай нямецкай сучаснасьці.

**Гэрман Кэсэр**

не такі вялікаважны ды ўсеабсяжны, як Гэнрых Манн, менш кваціст і высокамоўны за Леонарда Франка, ёсьць найдакладнейшы і найясьнейшы будаўнік з матэрыялаў сучаснай нямецкай мовы. У яго мы маем (апрача выдатных нарысаў, аднаго роману і пары сцэнічных твораў) пяць апавяданьняў, якія прэтэндуюць на дзейнасьць. Яму нямецкая літаратура абавязана дасюль адзіным сапраўдным выяўленьнем часу нямецкай інфляцыі ў „Вулічны мужчына". Тут Кэсэр зьяўляецца фанатычным фармоўнікам (мастаком формы)—насьледнікам вялікага Гэнрыха фон-Клейста. Паасобныя яго апавяданьні, як, напрыклад, „Бізун", так магутна скуты, што ў іх на першы плян высунуты толькі вялікія формы мовы, а ня сутнасьць апавяданьня. Значнасьць формы, аднак, ёсьць і слабы бок яго апавядальнага мастацтва. І Кэсэр мае дамаганьне на дзейнасьць, бо яго творы адзначаны вялікай сьвядомасьцю адказнасьці.

Пакаленьне, якое ўзялося за пяро пасьля вайны, піша сёньня, галоўным чынам, прозаю. Некалькі імён хутка сталі на пярэдні плян, шанаваліся, як прототыпы „маладога пакаленьня" і ўсё-ж ткі былі толькі мізэрнымі эпігонамі. В. Е. Зюскінд, Гэрбэрт Шлютэр і, перш за ўсё, гарэзьлівы Кляус, сын Томаса Манна. Гэтыя маладыя „геніі для каляднага стала" ня здолелі выкупіць свае авансам атрыманыя ляўры. Ня было ў іх належнага настрою. Затое выбіліся другія таленты, якія не паказвалі грамадзкасьці хітрых акробатычных штук на турніку сваіх талентыкаў, а заняліся процэсам сусьветнага расслаеньня.

**Курт Клебэр**

напісаў невялічкую дзейсную кніжку нарысаў „Барыкады на Руры" і даў тым найглыбейшыя вобразы сутнасьці рурскага ўціску. Кніжка была забаронена рэакцыйнай юстыцыяй. Яго першы роман „Пасажыры трэцяе клясы" рысуе, у новай форме, напамінаючай крыху Андрэ Жыда, чалавечы лёс міжпалубных падарожнікаў.

Надзвычайны талент выяўляе дваццацішасьцілетні

**Гэрбэрт Бэкэр**

Яго апавяданьні „Розум“ орыгінальна атакуюць рэакцыйныя элемэнты за іх невуцтва і зьяўляюцца нібы ясным маніфэстам настрою ў поэзіі.

**Вэрнэр Т'юрк,**

якому таксама ідзе трэці дзесятак гадоў, прадстаўнік натуралістычнай школы. Належачы, відавочна, да школы Эміля Золя, ён будуе з дакладным умельствам і вялікай сілай слова апавяданьні з жыцьця пролетарыяту. Яго выклікаўшая шмат гутарак кніга „Леў працы“, яго выдатнае апавяданьне „Ночы ў склепе“ выяўляюць бяздоньне руйнавальнага ўбоства, у якім жыве пролетарыят. У Т'юрку жыве нейкая сіла і ўпартасьць, якія могуць зрабіць яго вялікім соцыял-крытычным эпікам.

У апошнія гады меў надзвычайны посьпех першы роман немаладога (ужо за трыццаць год) пісьменьніка

**Георга фон дэр Ірынга**

Гэты спозьнены вайсковы роман „Салдат Сурэн“ рысуе з паразьліва простымі мастацкімі сродкамі абыдзенную пакуту аднэй роты. Трэба чакаць, што Ірынг пасьля гэтага напіша яшчэ і далейшыя творы гэткай-жа пераканальнасьці.

Паасобныя апавяданьні, якія варожы да „мастацтва дзеля мастацтва“ і глыбока прасякнуты прызнаньнем гэтай сусьветна-гістарычнай гадзіны, належаць да пяра Антона Бэцнэра, Марыі-Люізы Флэйсэр, Кляуса Гэрмана, Ганса Лорбэра, Ф. Ц. Вэйскопфа.

---

Лэссінгу, вялікаму „praeceptor litterarum“ (настаўніка літаратуры), належыць фраза: „мастацтва ў найноўшы час заняло непараўнальна далейшыя граніцы“. Гэтае палажэньне падыходзіць да ўсёй літаратуры сёнешняга сьвету, але асабліва да літаратуры новай Нямеччыны. Бо на месца „фарсунскай“ здольнасьці „сноба“ выступае рэальная праўда, а месца моднага густу заняў ясны настрой.

Але, праўда, і настроі могуць быць дзейснымі толькі пры дапамозе найвялікшага змаганьня. А змаганьне дапушчае працу. Трэба пажадаць, каб над пісьмовымі сталамі маладых пісьменьнікаў Нямеччыны стаяла фраза маладога Эміля Золя: „Я невук ва ўсім, я думаю доўга яшчэ нічога не выдаваць, але добра вучыцца!“

# ПА ЗАГОНАХ НОВАЕ УКРАІНЫ

*Уражаньні з падарожы па Украіне*

**С. Баркоўскі**

Экскурсійная падарожа на Украіну беларускіх маладнякоўцаў з мэтай азнаямленьня з яе сёнешнім жыцьцём ды украінскімі таварышамі—думка, якая ўжо даўно не давала шмат каму спакою.

Жаданы дзень ад'езду надышоў, таварышы „пагрузіліся" ў вагон і пакінулі сваю Беларусь на які дзесятак дзён, каб пабачыць Украіну.

## У Кіеве

За Гомелем канчаецца Беларусь. Мы пераступаем мяжу і едзем на тэрыторыю братняй нам Украінскай рэспублікі. Мы ўвесь час дарогі імкнуліся як найхутчэй быць у гэтым горадзе, пра які так многа чулі. Мне давялося быць у ім другі раз. Першы раз я прабыў накалькі дзён у Кіеве ўвосень мінулага году. Да Кіева можна парознаму адносіцца, але ў адным толькі ня можа быць двух поглядаў: Кіеў, як горад, надзвычайна прыгожы, з якога-б вы боку ні пад'ехалі—па чыгунцы ці вадою. Асабліва ён прыгожы, калі вы пад'яжджаеце да яго з боку Дняпра: перад вашымі вачыма адно з найпрыгажэйшых злучэньняў ракі з цудоўнымі берагамі, будынкамі гораду не паказваюцца з зелені. На гарах раскінулася Кіева-Пячорская Ляўра за сваімі бліскучымі купаламі, і далей, нібы ў дыме (за Падолам), сам горад.

У чым сакрэт хараства Кіеву? На нашу думку, у тым, што горад месьціцца ва ўзгоркаватай мясцовасьці правага нагорнага берагу Дняпра. І, падругое — у ім надзвычайна многа паркаў, садоў і наогул зяляніны.

Надакучылі нам курныя вуліцы і шырокія гарачыя асфальтавыя тротуары гораду, мы пайшлі ў адзін з яго садоў, дзе, не расстаючыся з горадам, поглядам можам перанесьціся на палі, сенажаці, на далі, якія сінеюць лесам: усё гэта расьсьцілалася перад нашымі вачыма ў выглядзе клясычнае мастацкае панорамы.

Некалькі лічбаў аб Кіеве. Паводле перапісу 1923 г., у ім налічалася 400 тыс. жыхароў. Зараз мы маем каля 900 тыс. (з гарадзкою мяжой). Тое, што перажыў Кіеў у гады грамадзянскае вайны ды рэволюцыі, значна зьмяніла яго твар у сэнсе соцыяльнага складу насельніцтва. Павялічыўся процант рабочых. Адзін час ён адыгрываў ролю адміністрацыйнага цэн-

тру Украіны, але потым аддаў гэта месца Харкаву—сучаснай сталіцы УССР. Тым ня меней, Кіеў увесь час застаецца навуковым цэнтрам і цэнтрам, які прыцягвае да сябе украінскую культуру. У 1918 г. ў ім была заснавана Ўсеукраінская Акадэмія Навук. Апрача таго, у Кіеве маецца шмат вышэйшых навучальных устаноў, дасьледчых інстытутаў, сельска-гаспадарчых станцый, некалькі цікавых музэяў. У яго вышэйшых навучальных установах налічваецца 30 тыс. студэнтаў. Сярод іх існуе беларускае зямляцтва, якое яднае 150 студэнтаў-беларусаў. Не гаворачы аб старых навуковых працаўнікох, якіх у Кіеве налічаюцца сотні, на сёнешні дзень працуюць у розных дасьледчых інстытутах *350 асьпірантаў*. І ў гандлёвым, і ў прамысловым стасунку ён таксама займае выдатнае месца. Прынамсі, да вайны яго гандаль станавіў адну трэцюю частку ўсяго гандлю Правабярэжнае Украіны, а яго заводы выраблялі шостую частку ўсяе заводзкае продукцыі таго-ж Правабярэжжа. Кіеў быў і застаўся цэнтрам украінскае цукравое прамысловасьці. У ім шмат заводаў па вырабу розных сельска-гаспадарчых ды інш. машын, некалькі млыноў, тытунёвыя фабрыкі (на аднэй з іх нам давялося быць) і г. д. На Дняпры маецца прыстань для стаянкі параходаў. Зараз Дняпро думае адхіліцца ад свайго рэчышча ды і пайсьці па старому, што зьяўляецца вялікаю небясьпекаю для гораду.

Трэба памятаць, што Кіеў адзін сярод самых старых нашых гарадоў: „Маці гарадоў рускіх“. Адсюль само сабою зразумела, што ён багаты на гістарычныя помнікі. Так, напр., Пячорская Ляўра, Залатыя вароты, Спас на Бярэсьці, помнік Багдану Хмяльніцкаму і г. д.

За чатыры дні нашага быцьця ў Кіеве мы з дапамогаю таварышоў С. Б. Зындзера і М. З. Грыцая азнаёміліся з гістарычным музэем ім. Т. Г. Шэўчэнкі, з карцiннаю галярэяю (б. Цярэшчанкі), з музэем сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, з Ляўраю. Былі ў Міжгор'і (аб ім асобна). Прысутнічалі на вечары украінскае культуры з прычыны трохгодзьдзя украінізацыі газэты „Пролетарскай Праўды“. Былі два разы прыняты ўладаю. Былі ў рэдакцыі газэты і часопісу „Молодий Більшовик“. Асабліва для нас была карысна і цікава гутарка з Бойчэнко (Шурка)—сакратаром Акругкому комсамолу, які апавядаў нам аб жыцьці украінскага комсамолу і аб тэй вялізнай працы яго па правядзеньні украінізацыі і барацьбе з рознымі варожымі плынямі.

У Кіеве мы сустракаемся з харкаўскімі маладнякоўцамі. Наша стрэча адбылася на вакзале. Знаёмімся:

— Тэрэнь Масэнка.

— Аляксей Кудзіш.

— Уладзімер Кузьміч.

— Іван Момот.

— Юрый Саўчэнка (сябра „Плугу“).

Едзем у горад і выпрацоўваем далейшы маршрут нашае падарожы. Заўтра-ж выяжджаем на параходзе ў Каніў на магілу песьняра Украіны— Т. Г. Шэўчэнкі.

Да нас далучаюцца два кіеўскіх маладнякоўцы—Б. Коваленко і Анд. Клочча.

Спынімся крыху на нашай паездцы ў Міжгор'е, дзе знаходзіцца Керамічны тэхнікум.

### Міжгор'е

Гэта мясцовасьць, што знаходзіцца ў 25 км. уверх па Дняпру ад Кіеву. Пад'яжджаючы да яго з боку Дняпра, відаць высокія горы ў 20 мэтр., калі ня болей, вышынёю; яны павернуты да ракі, іх крутыя абрывы пакрыты ліставым лесам. У катліне між гэтых гор (адсюль і назва) знаходзіцца б. жаночы кляштар, зараз Керамічны тэхнікум. Сьцены абрываў цікавы з геолёгічнага боку. Тут можна знайсьці гліну розных гатункаў—сінюю, зялёна-шэрую, чорнаю і г. д. Для практычных мэт яна мае шырокае ўжываньне. Асабліва вядома была па сваёй якасьці выробленая тут цэгла пад назвай „міжгорская". Шмат гліны ды пяску дало магчымасьць яшчэ ў сямідзесятых гадох XVIII ст. закласьці тут фаянсавую фабрыку, якая праіснавала да канца XIX ст.

На III Усеукраінскім Зьезьдзе Саветаў было ўхвалена адчыніць у Міжгор'і Керамічную майстэрню-школу. А ў 1923 г. украінскім Нарасьветы школа была рэорганізавана ў Тэхнікум. У далейшым маюць намер заснаваць там Керамічны інстытут. Зараз у ім налічваецца каля 60 чалавек.

Наш прыезд быў для ўсіх нечаканым. Дырэктара тэхнікуму т. Седлера мы знайшлі, калі ён гуляў са сваімі студэнтамі ў кеглі. Сказалі яму аб мэце нашага прыезду і хто мы такія. Тав. Седлер пакінуў сваю „працу" і павёў нас аглядаць майстэрні ды лябораторыі, як яны вырабляюць самыя розныя патрэбныя хатныя рэчы,—талеркі, іcподкі, чашкі. Усе рэчы маюць надзвычайна высокую мастацкую апрацоўку.

Пазнаёміўшы нас з самым процэсам апрацоўкі сыравіны, г. зн. гліны, т. Седлер знаёміць нас з фаянсавай вытворчасьцю, яе тэхнікаю. Тут ужываюцца розныя віды апрацоўкі гліны. Паасобныя мастацкія ўзоры, што кладуцца на талеркі, сподачкі, маюць надзвычайна цікавыя злучэньні фарб. Праводзіцца гэта поруч з ручным спосабам яшчэ і арэографам.

Нарэшце мы заходзім аглядзець керамічны музэй узорных (дыплёмных) работ студэнтаў тэхнікуму, бачым цікавыя новыя орнамэнты ды композыцыю. Увесь росьпіс на іх зроблены па раней прыгатаваных малюнках.

Мы дзякуем дырэктара тэхнікуму, абяцаем яму зацікавіць належныя мастацкія беларускія організацыі, а магчыма і з'агітаваць каго, каб прыехаў хто-небудзь павучыцца. Тав. Я. Мазуркевіч бярэ програму тэхні-

куму для Віцебскага мастацкага тэхнікуму, у якім ёсьць керамічнае аддзяленьне.

Надзвычайна добрае надвор‘е. Мы выпраўляем нашу моторку на некалькі кілёмэтраў уперад, а самі ідзем аглядаць гэтае цікавае гістарычнае месца, сьведку розных гістарычных падзей, як наход татар, запрыгоньваньне сялян, полёнізацыя і латынізацыя. Міжгор‘е некалькі разоў гарэла.

Мы спускаемся з кручы, праяжджаем яшчэ раз на моторцы каля яго, аглядаем берагі здалёк, высаджваем на прыстані праводжваўшых нас таварышоў і накіроўваемся назад у Кіеў. Гадзіна язды—і мы ў Кіеве. Агні яго здалёк зьліваюцца ў адзін і толькі пад‘ехаўшы бліжэй можна разабраць у цемнаце сылуэты Парастроя, Аляксандраўскага і Міхайлаўскага кляштараў. Прыгожасьць Кіева ўначы з боку Дняпра надзвычайная.

Едзем на трамваі адпачываць у свой готэль „Марсэль“, каб заўтра быць гатовымі на сьвежую галаву ўспрыймаць новае; паглядзець у Кіеве ёсьць што.

### Па Дняпры ў Каніў

Пасьля нашай стрэчы з харкаўскімі „молодняківцамі“ намі быў выпрацаваны сумесны маршрут далейшай падарожы. Ён быў у тым, што па Дняпру мы едзем у Днепрапятроўск (б. Кацярынаслаў), азнаёмімся з буйнаю мэталюргічнаю прамысловасьцю, сустрэнемся з тав. Паўло Усэнко, а там праз парогі—на Днепрабуд.

Параход ад Кіева адыходзіў а 6 гадзіне. Нашы „няні“ С. Б. Зіндзер і М. З. Грыцай былі з намі.

Званок. Гудок. Унізе забарабаніла машына. Запрацавалі ў вадзе колы. Наш „Чубарь“ паволі адплыў ад прыстані і ўзяў курс на сярэдзіну Дняпра. Паплыло кудысь у бок—Падол, Андрэеўскі сабор, Уладзімерская горка, сады... Мы толькі прымасьціліся на палубе палюбавацца наогул кіеўскім краявідам і як раптам голас матроса:

— Сыходзьце ўсе на ніз!

Трэба праехаць ланцуговы мост. Сыходзім у памяшканьне трэцяе клясы. Пасажыраў надзвычайна многа. Паміж пасажыраў бочкі з селядцамі, кошыкі з суніцамі, мяхі мукі ды інш. Зазіраем у вакно, як хутка праедзем мост. А калі „Чубарь“ прайшоў мост—мы зноў на палубу. Асталёўваемся на носе параходу; калі пахаладнела, перайшлі да труб. Юр. Саўчэнко дастаў блёк-нот і з сур‘ёзным выглядам мастака накідвае контуры кіеўскіх краявідаў ды берагу Дняпра. А. Салагуб сабраў групу людзей і з імі вядзе гутарку аб сучаснай Польшчы. Нашы украінскія таварышы заводзяць песьню. Пачынае цямнець, а разам з тым робіцца і холадна, мы спусьціліся ўніз. Бачым сталоўку. Заходзім. Заказваем сабе вячэру. Чакаем, а тымчасам праз вакно дзівімся на Дняпро. Заходзіць контроль:

— Грамадзяне, вашы „квиткі“!

Паказваем...

Контролёр зьдзіўлены, як гэта мы, пасажыры трэцяе клясы, пайшлі вячэраць у сталоўку першае клясы. Скандал „міжнароднага характару". Настрой у таварышоў мяняецца. Вячэра раскідаецца. Пасьля гадзіннае перамовы нашы „шэфы" Б. Коваленко і В. Кузьміч атрымалі „перамогу" з ультыматыўнаю прапановаю: на параходзе аб здарэньні не павінны ведаць. Маўчым, а да сталоўкі і блізка не падыходзім.

Рэшту часу праводзім у гутарках як паміж сабой, так і з пасажырамі. Пазіраем на гадзіньнік, ці хутка будзе тры з „гакам", калі мы будзем вылазіць у Каніве. Нарэшце, дачакаліся.

Зьбіраем свае рэчы і рушым да выхаду. Раімся, як далей. Знаходзім якогась дзядзьку, які бярэцца давезьці нас 17 чалавек на лодцы па Дняпры на магілу. Знаходзім, што так прыгажэй і едзем. Сонца толькі пачало ўзыходзіць з ніжэйшага боку Дняпра. Малюнак нязвычайнае прыгожасьці, ніякімі словамі яго перадаць нельга. Прыходзім да падгор'я Чарнечае гары. Дзядзька з намі, вядзе ў хату адну, другую; нарэшце мы знаходзім вольную. Спыняемся. Яшчэ досыць рана, толькі 5 гадзін. Думаем адпачыць і паспаць. Хаця некаторыя таварышы адразу накіроўваюцца на магілу.

**Магіла Т. Г. Шэўчэнкі**

Адпачыўшы, мы п'ем гарбату ў гаспадара хаты. І нарэшце ідзем на магілу. Быў вельмі ясны сонечны дзень. На магіле надзвычайна прыгожа. Навакол цьвітуць дрэвы і кветкі. Унізе цёмна-блакітнаю істужкаю сьцелецца Дняпро. Сядаем на агароджу і каменныя сходкі, што ідуць да помніка, Юр. Саўчэнко малюе. Некаторыя з таварышоў пішуць вершы. Прыходзіць група вучняў-экскурсантаў. Кіраўнік апавядае пра гісторыю пахаваньня Т. Г. Шэўчэнкі. Поэта быў пахаваны спачатку ў Пецярбурзе (Ленінград) на Смаленскіх могілках. Гэта адбылося ў канцы лютага месяца 1861 г. На яго сьмерць адгукнулася ня толькі родная краіна, Масква і далёкі Сібір, але нават і далёкі Лёндон. У герцанаўскім „Колоколе" зьявіўся першы артыкул, у якім вольнае слова, ня зьвязанае цэнзураю, выказала свой жаль аб страце вялікага барацьбіта за волю і праўду.

— Памёр вялікі поэта. Закацілася сонца Украіны.

Такі быў агульны прыгавор... Апрача, зразумела, тых, для каго сьмерць Шэўчэнкі была як выбыцьцё з шэрагаў небясьпечнага вольнадумца.

Яго сьмерць выклікала цэлы шэраг пытаньняў, разьвязаньне якіх мела вялізнае значэньне як для поэты, так і для ўсяе Украіны. Першым з іх было пытаньне аб месцы пахаваньня. Сябры яго мелі пэўны наказ поэты быць пахаваным на Украіне.

Як умру, то поховайте
Мене на могилі,
Серед степу широкого
На Вкраїні милій...

Гэта ім падсказвалася і поглядамі чыста політычнага ды нацыянальнага характару. Але пытаньня гэтага нельга было разьвязаць хутка. Вось чаму яго прышлося пахаваць у Пецярбурзе, а потым пачаць хадайнічаць аб дазволе перавезьці цела поэты на Украіну. Каля двух месяцаў сатрапы царскае ўлады вырашалі пытаньні аб тым: даць гэты дазвол ці не. Яны добра разумелі, што гэта абазначае кінуць запалку ў парахавую бочку. Усё-ткі настойныя клапоты сяброў поэты скончыліся з посьпехам. Дазвол быў атрыманы. Уся Украіна была ахоплена жаданьнем убачыць хутчэй у сябе таго, аб кім складаліся і пеліся баляды. Зварот поэты на сваю Украіну павінен быў мець характар вялікае нацыянальнае ўрачыстасьці. Вось чаму адразу паўстала пытаньне аб пахаваньні яго ў Кіеве, у самым сэрцы Украіны.

Вызначалася некалькі месц. На гары Кісялёўцы, каля Флораўскага манастыра, адкуль відаць „і Дніпро, і кручі" і шырокія далі. Другія гаварылі аб Выдубецкім манастыры, зьвязаным з політычнай гісторыяй Украіны. Іншыя прапанавалі верхнюю тэрасу Уладзімерскае горкі і на Алегавым узгорку, на Шчэкавіце.

На ўсе гэтыя прапановы прышлося забыцца, бо ў чыноўнікаў улады „на этот счет имеются особые указания".

З тупіка, у які былі загнаны сябры поэты, вывеў іх брат нябожчыка поэты, Варфаламей, які паказаў якраз на тое месца пад Канівым, дзе зараз і знаходзіцца Шаўчэнкава магіла.

Брат апавядаў аб апошнім наведваньні поэтаю Каніўшчыны, аб тым, як часта сядзеў на стромкіх берагох дняпроўскіх у 1859 г. „состоящий по высочайшему повелению под строжайшим надзором полиции, академик Т. Г. Шевченко в разрешенном ему пятимесячном отпуску для поправления здоровья и рисования этюдов".

Той-жа брат яго аргумантаваў яшчэ і тым, што „Чарнеча гара" якраз досыць падыходзіць для таго, каб на ёй быў пахаваны поэта. Тым болей, што і сам ён, седзячы неяк на кургане, сказаў:

— О це тут могила Підкови, тут поховайте і мене.

На гэтым месцы і спынілі свой выбар сябры ды прыхільнікі поэты.

Везьлі цела поэты з Пецярбургу да Масквы па чыгунцы (тады толькі яна адна і была ў Расіі), з Масквы да Кіева на так званых „паштовых". Ад Кіева да Канева—на спэцыяльным параходзе. Увесь час шляху цела Т. Г. Шаўчэнкі справаджалі яго блізкія сябры, асабліва шмат клопатаў і працы меў мастак Г. Н. Чэнстахоўскі. Сустракаць свайго песьняра ў Каніве сабралася шмат народу. Цэхавыя організацыі вышлі організавана нават са сваімі старымі сьцягамі і цэхавымі скрынямі. Ніводнага пана і падпанка тут ня было. Яны баяліся Шаўчэнкі жывога, і ня менш перапалохаліся, калі даведаліся, што той самы, на каго яны нядаўна даносілі, як на бунтаўшчыка, вярнуўся, хоць і няжывы, але акружаны славаю і вялікасьцю.

На „Чарнечу гару“ везьлі ад Каніва валамі, але дзяўчаты выпраглі валоў з „мажы“ [1]) і самі завезьлі гроб на гару.

Перад пахаваньнем выступіў малады гісторык, вядомы ў нас на Беларусі сваімі працамі, В. Б. Антановіч, які апавядаў, хто такі быў Шэўчэнка, кім ён быў для украінскага народу, і чаму так ушаноўвае Украіна „крестьянского вдовьево сына“. Пахаваньне, якое пачалося ўдзень, зацягнулася да позьняга вечару. Хацелі ня толькі пахаваць, але і насыпаць, „високу могилу“, падобную да тых, што моўчкі стаяць на украінскіх стэпах ды палёх.

Пачалася ноч, а магіла яшчэ ня была скончана. Людзі разьмесьціліся адпачыць. Гарэлі агні. У чыгунках варылася чумацкая каша. Унізе ледзь чутно несьліся дняпроўскія воды да далёкага мора.

Усё было так, як сказана ў „Запавіте“:

Щоб лани широкополі,
І Дніпро, і кручи
Було видно, було чути,
Як реве ревучий...

Але ў „Запавіте“ запаведана было яшчэ і другое: „поховайте, та вставайте, кайдани порвіте, і вражою злою кров'ю волю окропіте“.

Трэба было пражыць цэлага поўвека, каб выканаць і гэтую частку політычнага наказу поэты барацьбіта, поэты рэволюцыянэра... І тады толькі надышла чарга і для выкананьня трэцяе часткі наказу і апошняй:

І мене в сем'і великій,
В сем'і вільни, новій
Не забудьте пом'янути
Не злым, тихим словом.

Гэта задача выконваецца намі пасьля Кастрычнікавае перамогі.

І зараз, усе гэтыя гады, тысячы людзей старых і маладых, рабочых і сялян, чырвонаармейцаў ды вучняў з-за межаў і ўсіх канцоў Савецкага Саюзу, розных профэсій, розных нацыянальнасьцяй, паднімаюцца на крутую гару і з непераданым хваляваньнем здымаюць шапкі перад Тарасавай магілай. За 1927 г. наведала магілу 14500 чалавек, а ў 1928 г. (па ліпень месяц) 16 тыс. чалавек.

Для выказаньня сваіх пачуцьцяў наша маладнякоўская група не магла найсьці лепшых слоў, як словы нашага народнага поэты Янкі Купалы:

Будзь і ты нам бацькам,
Украінча слаўны.

Зараз існуе Шэўчэнкаўскі камітэт, які вядзе ўсю працу па догляду над магілай. Месца, дзе знаходзіцца магіла, абвешчана дзяржаўным заказьнікам. Займае ён, нешта, каля 16 км. Савецкая ўлада вось ужо колькі год, як абвясьціла конкурс на найпрыгажэйшы помнік Шэўчэнку. Але

[1]) Чумацкі воз, у якім вазілі рыбу, соль і г. д.

ніводзін з прадстаўленых проектаў не адпавядаў ідэі творчасьці Шэўчэнкі, не адбіваў у поўнай меры ролю яго ў жыцьці Украіны.

Каб прыцягнуць да пабудовы помніка больш шырокія колы мастакоў, савецкая ўлада зараз абвесьціла міжнародны конкурс на проект помніка Шэўчэнку.

Зараз на магіле будуецца гасьцініца для 150 экскурсантаў.

Будучы на магіле, мы папрасілі кабзара сьпець нам ды пайграць на кобзе свае песьні-легенды. У іх мы адчулі як гісторыю Украіны, яе былы лёс, барацьбу і сучасны стан, жыцьцё і творчасьць Шэўчэнкі ў народных творах, так і некаторыя з твораў вялікага поэты. З пачутых намі назаву „Пахаваньне Тараса“, „Ой, як селі хлопцы на коні, волю дабываці“, „Пра Палтаўскага соцкага“; з сучасных—„Пра газэту“, „Пра засядаталя“ і „Пра коопэрацыю“; шмат з гэтых песьняў былі композыцыйна аформлены самым кабзаром.

Пад вечар мы накіраваліся па Дняпры на прыстань Каніў, дзе думалі адпачнуць, падсілкавацца, каб быць гатовымі ехаць далей.

## У Днепрапятроўску...

Мы прыехалі ў Днепрапятроўск раніцою.

Проспэкт Кароля Маркса (б. Кацярынінскі) з канца ў канец перараэае горад. Ен шырокі, як добрых 5 менскіх вуліц, увесь абсаджаны дрэвамі. Трамвай ходзіць па бульвары. На проспэкце—усе ўстановы, магазыны, рэдакцыі газэт, тэатры. Горад нам невядомы; едзем у Акрвыканком—рана; накіроўваемся ў горад шукаць, дзе-б спыніцца. Пайшлі шукаць гасьцініцу. Знайшлі, самая лепшая гасьцініца гораду носіць імя паўстаўшага нявольніка—Спартака.

Адпачыўшы крыху і пасьнедаўшы, таварышы паразыходзіліся хто куды. Мы-ж групаю ў 5 чалавек узялі машыну і паехалі ў Дняпро купацца. З абодвых бакоў проспэкту кідаўся ў вочы цэлы шэраг шыльдаў: Церобкоопы, Червони Виробнікі, краўцы, шаўцы, гандляры гастрономіяй, прысмакамі і фруктамі, кнігарні украінскага выдавецтва і ГІЗ'а РСФСР, коопэратыўныя організацыі ды іншыя. Паміж гэтых шыльдаў нас зьдзіўлялі вітрыны цырулень. „Голярня“, „Голярня“, „Голярня“ альбо „Перукар“—няслося міма нас на чырвона-кубавым фоне. Нам здавалася, што ўвесь горад толькі і займаецца тым, што зраньня і да ночы стрыжэцца, голіцца, завіваецца ды інш.

Нарэшце, проспэкт кончыўся. Машына зьвярнула з вялікага пустога пляцу. Мы едзем каля так званага Пацёмкінскага парку, на месцы якога зараз дзяўчына палівала якіясь кусьцікі і маленькія дрэўцы. Унізе, паміж сьценамі дамоў, зірнуў на нас Дняпро. Мы пад'яжджаем да самае вады...

Горад робіць уражаньне багатага гораду. Задуманы фэўдальным фанабэрствам „екатерининских орлов“, ён у канцы XIX ст. зрабіўся

сталіцаю данецкага і крывароскага вугальнага і жалезаруднага капіталу. Уначы з нагорнага боку можна бачыць, як рассыпаліся агні—гэта заводы і чыгуначныя шляхі.

У часе грамадзянскае вайны Днепрапятроўск разоў 20 пераходзіў з рук у рукі, што адбілася на яго жыцьці, на будаўніцтве. Вось праз увесь Дняпро тырчаць здаравенныя быкі не перакрытага фэрмамі мосту Мерэфа Хэрсонскае чыгункі, а далей, над Мандрыкоўкай, па ўзгорках цэлая сетка пабудоў—наспаў, труб,—тае-ж чыгункі.

Уражаньне, якое робіць Днепрапятроўск увечары—тыповы абывательскі горад. Зараз у ім з рабочымі акрайнамі налічаецца каля ста трыццаці пяці тысяч жыхароў. Рабочыя акрайны: Мандрыкоўка, Чэчэлёўка, Кайдакі жывуць зусім асобным жыцьцём у параўнаньні з іншымі часткамі гораду. Цяжка ўбачыць рабочага на проспэкце або ў цэнтральным тэатры. Іх пасёлкі знаходзяцца ля Дняпра, там, дзе калісь наступаў на горад Махно, і за вакзалам, адкуль можна вечарам бачыць, як палыхае, ахопліваючы поўнеба, вялічэзнае зарыва Пятроўскага (б. Бранскага) заводу.

### Мэталюргічны завод ім. Пятроўскага

Мне ўжо давялося бачыць па ліку трэці мэталюргічны завод. Першым я бачыў завод „Серп и Молот“ (Масква), другім—„Красный Путиловец“ (Ленинград). Завод ім. Пятроўскага (Днепрапятроўск) значна меншы ў параўнаньні з Пуцілаўскім. Хаця процэс працы ў гэтых заводах праходзіць аднолькавыя стадыі, але першы мае большае экономічнае значэньне, дзякуючы таму, што блізка ёсьць патрэбная для такога заводу сыравіна, як каменны вугаль (Данецкі басэйн) і жалезная руда (Крывы Рог).

Калі мы прыехалі на завод, нам прышлося пачакаць, пакуль нам далі кіраўніка. Дазволілі агледзець і цэхі, дзе вырабляюць з руды мэталь—чыгун, сталь—і пракатны цэх. Разьлічана было на тры гадзіны.

Прайшоўшы двор, мы спыніліся каля высокага чыгуначнага наспу. Наверсе стаяла некалькі дзесяткаў вагонаў. Пад схілам горы руды.

— „О це вам криворізка руда“,—зазначае кіраўнік,—сюды яе прывозяць цэлымі цягнікамі. Завод мае свае паравозы і свае вагоны.

— Пад схілам,—кажа далей кіраўнік,—у тунэлю ходзяць ваганэткі. Калі руда сыплецца ўніз, яна якраз трапляе ў іх...

— А куды ідуць ваганэткі?—ставім мы пытаньне.

Ідзем далей. З левага боку стаяць у рад газавыя печы. Паміж імі гмах-печы. Вышыня 20—25 мэтраў. Справа зьбітая з дошчак будыніна. Ад яе да верху працягнута сетка і бар‘ер.

— Цяпер мы лезем на верх гмах-печы...

На таўшчэразным круку вісіць жалезны бак. Гэты бак спушчаецца ўніз (тунэль) і там у яго ваганэтка мэханічна высыпае руду ды зноў хаваецца пад зямлю. Нешта грукнула, заскрыгатала, заварочалася—і бак з рудою жалезным канатам пацягнула на верх гмах-печы. Там адчыні-

лася дно баку, а таксама і верх гмах-печы—руда ўсыпалася ў яе. Бак назад сунецца ўніз за новай порцыяй. Кіраўнік зазначае:

— Бярэ бак 8 тон руды, коксу 3 тоны.

Калі з гмах-печы вырываецца газ, яго палівацюць вадою. Вады ўжывае завод на дзень столькі, колькі ўвесь горад. Усё робіцца аўтоматычна.

Спусьціліся ўніз з гмах-печы, агледзелі, як ваганэтка насыпае ў бак руду. Зайшлі на процілежны бок гмах-печы. Там пад вялізарным дахам рабочыя малатамі разьбівалі на градах выпушчаны чыгун. Ён запоўніў усе раўчакі, зробленыя з пяску. У баку з гмах-печы выпушчаецца „жужла“ ў басэйн з вадою, адкуль яго бярэ машына без дапамогі чалавека і насыпае ў стоячыя тут-жа вагоны-катлы. Каб выпусьціць чыгун з гмах-печы патрэбна наперад прабіць дзірку, што робіцца з дапамогаю трубы і балёну з тленам. Адзеты ў рабочых рукі ды ногі ў простае палатно. Скура пры такой гарачыні ня вытрымае і аднаго дня.

Там мы бачылі гмах-печ. Кіраўнік растлумачвае, што для яе няма ні ночы, ні адпачынку... Зараз мы ідзем да мартэнаўкі, дзе закідаюць ня руду, а кавалкі чыгуну і з яго робяць сталь.

Каля яе тая-ж самая гарачыня. У печ трапляюць розныя газы і паветра, там яны распаляюцца і даюць высокую тэмпэратуру, ад якое мэталь іператапляецца.

Сталь выпушчаюць не ў пясок, як чыгун, але ў мэталёвыя формы, якія носяць назву „балванак“. Мы пытаем, якое іх прызначэньне і тымчасам пераходзім да пракатнага цэху.

Ён тут-жа пад адным дахам. Машыны, машыны... бясконца. Грукат, у якім ня чутно голасу чалавека. Рабочыя доўгімі абцугамі падаюць „у зубы“ машын чырвоныя кавалкі мэталю. Кожны кавалак качаюць у вальцах да таго часу, пакуль яму не нададуць патрэбную форму.

Крыху прайшоўшы па цэху, мы бачым, як лезе з вальцаў чырвоная рэйка, чырвоныя пруты разагрэтага жалеза выкручваюцца гадзюкамі, пакуль іх пусьцяць з аднае машыны ў другую. Там, крыху далей, робяць дрот, яшчэ далей—аркушовае жалеза.

Усё трасецца, гудзе, шуміць. Выходзім на двор, нашы твары і вопратка робяць такое ўражаньне, нібы мы тут чысьцілі коміны.

На дварэ кіраўнік праводзіць нас да брамы. Пад заводам 170 дзес. зямлі. Працуе на ім 18 тыс. чалавек. Нам давялося аглядзець толькі тры цэхі, а ўсяго іх на заводзе больш за дзесятак. Насустрач нам ідзе другая зьмена рабочых.

Едзем—частка ў гасьцініцу мыцца, а некаторыя—у Дняпро.

Сьпяшаемся хутчэй, бо ў 4 гадзіны нас чакаюць у краёвым музэі. Полудзень адкладаем на пасьля.

### Краёвы музэй

Сьпяшаемся да музэю. Нас ужо там чакалі. Адразу пайшлі аглядаць яго. Праглядаем экспонаты каменнага веку. Пахаваньне вандроўніка. Далей рэчы запарoскае сечы: зброя, сьцягі, малюнкі (асабліва цікавы „Запарожац у баю“), вопратка—„шаравары, як Чорнае мора“, адзнакі паасобных куранёў сечы, сярод іх „Менскага куране“, відаць, што ня дужа добра жылося нашым сялянам пад польскімі панамі, калі яны ўцякалі ў сеч і там складалі свой курэнь.

Адносна гэтага экспонату Паўла Ўсэнко жартуе:

— Цягні, хлопцы, яго дахаты...

Далей пакой запоўнены экспонатамі царкоўнага абіходу: тут і запароскае эвангельле, і рэчы, падараваныя Кацярынаю царквом, і розныя іншыя рэчы на дрэвэ ды косьці, мозаіка і старыя абразы.

Сярод экспонатаў краёвага музэю ёсьць прадметы, што былі ў карыстаньні Шэўчэнкі, Гоголя ды іншых. Асаблівую ўвагу прыцягвае „Дзеньнік“ Шэўчэнкі, які быў знойдзены загадчыкам музэю проф. Д. І. Яварніцкім на „таўкучцы“, перапіска дэпартамэнту паліцыі аб Шэўчэнку, некалькі яго портрэтаў і г. д.

Нарэшце, мы яшчэ хутка праходзім па пакоях, у якіх разьмешчаны этнографічныя рэчы—вышываньні, абрусы, рэчы хатняга ўжытку, пасудак, скрыні, чумацкія вазы, у якіх вазілі соль ды рыбу, і шмат іншага.

Накіроўваемся да выхаду. Нас просяць расьпісацца. Даюць аркуш паперы. За час існаваньня музэю яго наведалі цар Мікола—апошні, генэрал Дэнікін, бацька Махно, апошні нават даў ахоўную грамату, каб не чапалі музэю, Луначарскі ды іншыя.

Расьпісаліся і мы.

У цэлым музэй робіць добрае ўражаньне; адсутнасьць пакояў не дае магчымасьці працаўнікам музэю сыстэматызаваць усе рэчы, вось чаму яны складзены так, што ў адным і тым-жа пакоі можна бачыць малюнкі, скульптуру ўсіх Раманавых, драўляныя рэчы вядомых майстроў, эполеты аўстрыяцкага афіцэра, нямецкія каскі, генэральскія шынэлі, крэслы часоў Кацярыны і сярод іх мастацкія рэчы нашых дзён.

Пры ўваходзе ў музэй у гародчыку стаіць цэлы „гарэм“ каменных баб. Тут-жа знайшла сабе прытулак і Кацярына (бронзавы помнік), якая была скінута гневам народным у часы рэволюцыі.

Хутчэй, хутчэй. Есьці хочацца—аж жываты падвяло. А заўтра ледзь золак праз парогі, славутыя Дняпроўскія парогі, на Днепрабуд.

### Парогі

Мы выехалі з Днепрапятроўску на дубе, які вёў лоцман Андрэй Білоконь. Было надзвычайна прыгожае раньне. Ад таго месца, скуль мы выехалі дубам, на адлегласьці 81 км. пачынаюцца парогі, якія стрымліваюць амаль што ўсякі рух па гэтай часьці Дняпра. Пэйзаж ракі ў гэ-

тых мясцох надзвычайна прыгожы. Скалістыя берагі, і на іх узвышаюцца прыбярэжныя скалы, відаць нават над вадою асаблівае вялізнае каменьне, якое ў шмат якіх мясцох парабіла цэлыя грады ці, так званыя, „заборы". Рух вады тут значна павялічваецца, вада нясецца хутка, шуміць і пеніцца, рассыпаецца паміж скал. Рэў і шум у такіх мясцох чуваць далёка.

Праз некалькі хвілін наш дуб праяжджае каля „Маскоўскага" каменя (вадамер) і прыстае да Лоцманскае каморы, дзе мы грузімся,—паездка наша працягнецца паўтары суткі.

Адсюль чуваць шум першага Стара-Кодацкага парогу. Хлопцы слухаюць і, каб усё было ў парадку, абіраюць „начальства"—кашавога, пісара і судзьдзю.

Парог. Хвалі шумуюць і здаецца здалёк, што бягуць з гары белыя авечкі. У часы казацтва, пад'яжджаючы да гэтага парогу, казакі гаварылі. „Хлопцы! скідай шапкі, маліся богу", і людзі рыхтаваліся да сьмерці. Наш лоцман паднімаецца, „каманда" бярэцца за вёслы, хвіліна, і мы праскакваем праз парог, хаця і з „ахвярамі": два хлопцы аказаліся макрусенькімі. Едзем далей, направа—гара, на ёй помнік старасьветчыны: крэпасьць, пабудованая палякамі ў XVI ст. Гэтую крэпасьць Польшча пабудавала, каб стрымліваць „галоту", якая бегла ад беларускіх і іншых паноў да вольных запаросцаў. Багдан Хмяльніцкі ўзяў яе прыступам і разбурыў, засталіся яшчэ толькі сьцены.

Далей мы праяжджаем сярод парогаў Сурскі, Лоханскі, Звонэцкі. Пад'яжджаем да самага цікавейшага парога—Ненасыцецкага, ці Дзеда.

Праз усю шырыню Дняпра разьлёгся ён. Дуб прыстае да каналу, частка з нас выходзіць палюбавацца, а рэшта нясецца па каналу з хуткасьцю вярсты ў дзьве хвіліны. Лоцман паказвае нам „манастырскі" камень, пад якім самае страшнае месца—„пекла". Там,—апавядае наш лоцман,—ёсьць дошка на скале, на якой напісана, што „В 972 г. в неравном бою с печенегами погиб русский витязь князь Святослав Игоревич".

Мы ўжо праехалі 40—45 кл. Згаджаемся яшчэ праехаць Воўніцкі парог, там у рыбакоў заказаць юшку з рыбы, папалуднаваць, спыніцца дзе-небудзь на начоўку.

Мы спыняемся ў сяле Волнігі. Рыхтуем полудзень.

За сялом Волнігі, праз 2—3 кілёмэтры,—Будзілаўскі парог. На левым баку сяло Федарыўка (Языкава); тут мы ў школе заначавалі. Назаўтра едзем далей, каб хутчэй быць на Днепрабудзе...

Зьлева—востраў.

— Ось гэта,—кажа лоцман,—Пярунаў востраў... Пад ім пячора. Кажуць, што Пярун ад Кіева аж сюды даплыў. А тут разьбіўся.

Далей другі востраў „Арліны". Лоцман зноў апавядае нам:

— Тут яшчэ да вайны здарылася бяда. Чалавек 90 палтаўцаў ехалі на заработкі. Вёў дуба чалавек, які ня ведаў ходу. Ну і наскочылі на

камень, чалавек каля 45 ўтапілася. Большасьць з іх на гэтым востраве і пахавалі.

Мы надумаліся пад‘ехаць да гэтага востраву, каб на ім пасьнедаць і пакупацца. Месца было цікавае. Дняпро ў гэтым месцы надзвычайна шырокі. Едучы тут на дубе адчуваеш, што аддаеш сябе на волю стыхіі. Гледзячы на Дняпро, я адчуваў хваляваньне накшталт таго, калі ў тэатры чакаеш выхаду вядомага артыстага.

Да Кічкасу застаецца 12—15 кілёмэтраў.

## На Днепрабудзе

На месца мы прыехалі ў нядзелю, калі нельга было бачыць размаху работы. Нам давялося толькі агледзець зробленае і ўявіць сабе малюнак, што будзе на гэтым месцы па скончэньні ўсяе працы.

Думка аб тым, каб скарыстаць парожыстую частку Дняпра для суднаходзтва, захапляла шмат каго яшчэ пачынаючы з часоў Пятра І, але ўсе проекты рэальных вынікаў ня мелі.

Зьдзяйсьненьне гэтага пляну прыпала на долю нашага пакаленьня. Той плян, які зараз ажыцьцяўляецца, носіць назву проекту інжынэра І. Г. Аляксандрава і быў укладзены некалькімі інжынэрнымі організацыямі на працягу апошніх двох дзесяткаў год. Яго галоўная задача—скарыстаць з дапамогаю шлюзаваньня парогі Дняпра для суднаходзтва, а падаючую ваду—для атрыманьня таннае электрычнае энэргіі.

Мы былі на Днепрабудзе ў часы, калі там будаваўся стаў ніжэй Кічкаскага мосту і ставілася гідро-электрычная станцыя ў першую чаргу магутнасьцю ў 350 тыс. конскіх сіл з аддачаю 1200 млн. кілёўат-гадзін (так званы проект „Малога Днепрабуду“). Усяго-ж маецца на мэце паставіць 13 грандыёзных турбін магутнасьцю на 50 тыс. конскіх сіл кожная. Генэратары будуць даваць ток у 35.000 кілёўат; знаходзіцца яны будуць на ставе. Далей ток будзе праходзіць праз трансформатары, якія павысяць яго напружаньне да 120.000 вольт.

Стаў з шлюзавымі каналамі дасьць магчымасьць прапушчаць у год 200 млн. пудоў рознага цяжару. Будзе праведзена дапаможная чыгуначная ветка даўжынёю 172 км. Падняўшаяся вада затопіць 16.000 дзесяцін прылягаючае мясцовасьці. Некалькі дзесяткаў вёсак будзе перасялена. На 5 год адзначаных работ паводле каштарысу прадугледжана паўтараста мільёнаў рублёў.

Гэтая ўстаноўка зьявіцца самай вялікай на земной кулі: нават у Амэрыцы няма нічога падобнага да гэтага...

Агульны выгляд мясцовасьці ў цэлым зусім набудзе другі выгляд. Трыццаціпяцімэтравы (стаў будзе трыццаць сем мэтраў вышынёю) напор вады заменіць работу працоўнай арміі ў тры мільёны чалавек.

Шлюзаваньне ніжняга Дняпра з дапамогаю ставаў дасьць магчымасьць морскім суднам даходзіць да Запарожжа, дзе будзе пабудаваны

морскі порт, які па свайму экономічнаму значэньню ня ўступіць Нью-Ёрскаму. Танная электрычная энэргія і наладжанае суднаходзтва з Чорнага ў Бальтыцкае мора, як вынік пабудовы Днепрабуду, зробіць вялізны ўплыў на гаспадарку і вытворчасьць паўднёва-заходняй часткі нашага Саюзу. Багацтвы Данецкага каменна-вугольнага басэйну, жалезныя месцазнаходжаньні Крывога Рогу ды Керчы, а таксама манганавыя паклады ля Нікопалю з новымі відамі электро-хэмічнай прамысловасьці, усё гэта будзе мець поўную магчымасьць разьвівацца на энэргіі, якая будзе давацца Днепрабудам.

З разьвіцьцём гаспадаркі маецца на мэце шлюзаваньне і сярэдняга Дняпра і паляпшэньне суднаходзтва па каналах. З Чорнага мора просты водны шлях пойдзе ў Маскву праз Болтву, Жыздру, Аку і Маскву-раку, у Ленінград—праз Заходнюю Дзьвіну, р. Ловаць, у Рыгу—праз Заходнюю Дзьвіву, у Коўна—праз Нёман і ў Варшаву, Кёнігсбэрг і Данцыг—праз Віслу. Хаця гэтыя пляны не намечаны для выкананьня ў бліжэйшыя гады, але яны не зьяўляюцца утопіяй.

Вялікае гістарычнае значэньне адыграў Дняпро ў часы сівое мінуўшчыны. Ён быў галоўным шляхам расьсяленьня славянскіх пляменьняў па расійскай роўнядзі. Ён быў ня раз палітычнаю мяжою Літоўска-Беларускае дзяржавы, з аднаго боку, і Польшчы ды Украіны—з другога. Яму, гэтаму „бацьку-Дняпро“, як аб ім пяецца ў украінскіх народных песьнях, давядзецца і ў нашы часы адыграць ролю, аб якой няскора забудуць.

Вось тое, што нам давялося даведацца, пабыўшы на Днепрабудзе.

Наша знаёмства з Днепрабудам было абмежавана некалькімі гадзінамі. Зайшлі ў школу, месца нашага прытулку, забраць рэчы і накіраваліся да аўтобусу, каб ехаць у Запарожжа. Пыл і сонца. Аўтобус пайшоў. Мы кідаем апошні погляд з Кічкаскага мосту. Выносімся ў поле, паабапал дарогі мільгаюць беленькія хаткі. Раней тут жылі людзі любіўшыя волю. Сюды зьбягаліся ўсе, што былі нездаволены парадкамі „во святой Руси“, прыгонным уціскам і дэспотычнаю ўладаю рабаўласьнікаў Жыла тут вольніца казацкая.

Гадзіна язды—і мы ў Запарожжы. Азнаёміцца з ім няма калі. Адпачнуць, а ўночы ў Хархаў.

## Сярод харкаўскіх таварышоў

У Харкаў мы прыехалі раніцою. Што кідаецца ўвочы ў ім, гэта тэмп будаўніцтва, волат „Дом Прамысловасьці“, а ў вогуле горад робіць меншае ўражаньне чым Кіеў. Няма культурных помнікаў, як у Кіеве, значна меней вышэйшых навучальных устаноў. Пераважаюць фабрычныя коміны.

За кароткі пэрыод (2 дні), якія мы былі ў Харкаве, мы наведаліся пераважна ў рэдакцыі харкаўскіх газэт ды часопісаў „Комсомолец Украіны“, „Молодняк“, „Плужанін“, „Чырвоны Шлях“, дзяржаўнае выда-

вецтва. Наведаліся да сакратара ЦК ЛКСМ Украіны т. Голуба, былі на электро-мэханічным заводзе, дзе рабочых зьбілі з панталыку нашы капялюшы і нас палічылі за беларусоў з-за кардону. І адзін стары рабочы ў нас нават запытаў.

— Ці моцна вы,—кажа ён,—там трымаецеся?

Найбольш цікава была сустрэча ў літаратурным будынку імя В. Блакітнага з харкаўскімі таварышамі па працы, якія наладзілі нам таварыскае спатканьне. Тут мы пазнаёміліся з працаю будынку і яго абслугоўваньнем пісьменьніцкіх організацый. З жыцьцём і бытам організацыі і асобных таварышоў мы азнаёміліся ў прыватных гутарках. Украінскія пісьменьнікі маюць па профсаюзнай лініі свой мясцком. Зараз будуюць памяшканьне ў 50 кватэр самі пісьменьнікі, організованыя ў жыльлёвы коопэратыў „Слово“.

Будынак літаратуры па ініцыятыве т. С. Піліпенкі падараваў нашаму „Маладняку“ бюст В. Блакітнага, што трэба разглядаць, як шчыльную сувязь паміж дзьвюма братнімі літаратурамі.

Мы сьвядома не краналіся разьвіцьця і росту сучаснага украінскага культурнага жыцьця, лічачы, што гэта больш-менш вядома нашай грамадзкасьці з розных інформацый, што даваліся ў нашых часопісах, а таксама і з тых уражаньняў, што былі зьмешчаны ў газэтах нашымі старымі пісьменьнікамі.

## КНІГАПІС

**Я. Маўр. „Сын вады“.** *Аповесьць. Выд. БДВ, Менск, 1928 г. Стар. 106. Цана 80 кап.*

Беларуская літаратура для дзяцей школьнага ўзросту ўзбагацілася яшчэ аднэю кніжкаю — аповесьцю Янкі Маўра з жыцця на Вогненай Зямлі пад назваю „Сын вады“.

Галоўнаю дадатнасьцю кніжкі зьяўляецца перш за ўсё яе краязнаўчы характар. Перад тым, як пісаць яе, аўтар, відаць, доўга старанна выўчаў належныя матэрыялы і здолеў зрабіць свой твор вельмі каштоўным дапаможнікам для школьніка, які жадае папоўніць свае веды геаграфіі пазаэўропэйскіх краін.

Аўтар даў надзвычайна прыгожыя малюнкі дзікае, але велічнае ў сваёй суровасьці, прыроды Вогненае Зямлі, а самае галоўнае—досыць поўна паказаў нялюдзкае, цяжкае жыцьцё тубыльцаў, іх звычаі, побыт, гаспадарку, працу і г. д. Усё гэта Маўр здолеў зрабіць бяз жадных ухілаў у бок тандэтнае экзотыкі, якая звычайна пануе ў гэтым літаратурным жанры.

У сваёй кніжцы аўтар закранае цэлы шэраг надзвычайна цікавых для моладзі пытаньняў. Дзякуючы гэтаму, аповесьць, бязумоўна, будзе карысна і ў тым сэнсе, што яна дапаможа чытачу ўявіць сабе ступень залежнасьці агульна - культурнага ўзроўню грамадзтва ад характару процэсаў вытворчасьці, зразумець, адкуль і як нараджаліся ў людзей рэлігійныя культы і г. д.

У аповесьці краязнаўчыя і грамадазнаўчыя фактары сьцісла зьвязаны з жывою і цікаваю фабулаю, дзякуючы чаму кніжка Маўра чытаецца надзвычайна лёгка. Незразумелай зьяўляецца мэтазгоднасьць таго, што аўтар прыплёў багатую панeнку ангельку, выкінутую ў часе караблякрушэньня на бераг да дзікуноў. Увядзеньне ў аповесьць, здавалася-б, зусім непатрэбнае асобы, праўда, надае дзеі пэўнае напружаньне, але ў той-жа час усё-ж ткі аддае тым тандэтным прыгодніцтвам, ад якога аўтар сам, відаць, зусім правільна, стараўся ўхіліцца. Калі аўтар такім спосабам хацеў давесьці гуманнасьць дзікуноў—дарма: гэтае мэты ён мог-бы дасягнуць і больш простымі спосабамі.

Неяк зусім штучна прышыты да аповесьці апошні разьдзел „Праз чатыры гады“. Зусім не паказана, як дзікун Манг зрабіўся лёкаем у Лёндонскім рэсторане. Тымчасам ясна, што перажываньні зусім першабытнага дзікуна, які раптам трапіў у адзін з большых сусьветных індустрыяльных цэнтраў, становяць самі па сабе тэму для вялікае аповесьці. Аўтар зрабіў-бы лепш, калі-б, замест таго, каб так павярхоўна закрануць гэтую тэму, выкарыстаў яе больш рацыянальна, падрабязна распрацаваўшы яе.

У цэлым—кніжка Маўра зьяўляецца ўсё-ж такі вельмі каштоўным укладам у нашу дзіцячую літаратуру. Крыху дарагаватая цана цалкам кампэнсуецца высокай якасьцю выданьня.

„Сын вады“—бязумоўна зьявіцца надзвычайна прыемным падарункам бацькоў дзіцяці-школьніку.

**Ян. Дораг.**

**Белоруссия**. Составили К. А. Бялецкий, С. С. Кривцов, Э. Г. Кульман, М. П. Потемкин, И. Н. Хибарин, А. А. Яковлев. Изд. „Московский Рабочий". М.—Л. 1928 г. Стар. 188. Цана 60 кап.

**СССР по районам.** Западный район (Белорусская ССР и Западная область РСФСР). Составил проф. М. В. Довнар-Запольский (экономическая география СССР под ред. М. Б. Вольфа и Г. А. Мебуса). *Гиз. М. 1928 г. Стар. 107. Цана 1 р. 10 к.*

Перад намі ляжаць дзьве новыя кніжкі а Беларусі. Кнігі выданы не ў Беларусі. Факт гэты, сам па сабе, прыемны, але бяда ў тым, што часта, на вялікі жаль, людзі, якія бяруцца пісаць а Беларусі, не працуючы непасрэдна ў ёй, дапушчаюць у сваіх працах такія памылкі, якіх няколі-б не зрабіў чалавек, які жыве і працуе ў Беларусі. Варта толькі з большага прачытаць кніжку „Белоруссия", укладзеную К. А. Бялецкім, С. С. Краўцовым, Э. Г. Кульманам, М. П. Пацёмкіным, І. Н. Хібарыным і А. А. Якаўлевым, каб пераканацца ў сапраўднасьці вышэйсказанага намі. У названай кніжцы шматлікія складальнікі дадумаліся на 188 старонках невялічкага фармату разгледзець усе бакі гісторыі, экономікі і культуры Беларусі. У выніку конспэктыўнасьць і грубыя памылкі. Так, на думку складальнікаў, выходзіць, што 1. Унія беларусаў і Літвы з Польшчаю адбылася ў 1568 годзе, а ня ў 1569. 2. На кожныя 1.000 кв. км. тэрыторыі прыпадае 18 клм. чыгуначнага шляху, а ня 20. 3. Процант памяншэньня перавозкі па чыгунцы ў параўнаньні з даваенным часам паказаны—25, а ня 30—45; 4. Рост насельніцтва ў Віцебску і Менску за апошнія сорак год у параўнаньні з 60-мі гадамі, на думку аўтараў, павялічыўся ў чатыры разы, а ня ў тры. 5. Лічбы перасяленцаў у 1923 г. з Беларусі паказаны ў 60 проц усіх перасяленцаў у Сібір, а сапраўды будзе—55 проц.

Дапусьціўшы цэлы шэраг няправільнасьцяй у галіне лічбаў, аўтары па некаторых галінах народнае гаспадаркі наогул не даюць канечна патрэбных статыстычных даных. Так, напрыклад, чытач гэтае кніжкі ня ведае плошчы засеву лёну на Беларусі. Статыстычныя даныя аб жывёлагадоўлі ды ўраджайнасьці ўсіх культур не даюць прадстаўленьня аб дынаміцы сельскае гаспадаркі Беларусі. Няма гэтае дынамікі, за рэдкім выключэньнем, і ў абрысоўцы прамысловасьці. Хіба гэта павялічваецца яшчэ і тым, што некаторыя лічбы большасьцю датычаць не апошніх год, а больш раньніх. У разьдзеле карысных выкапняў няма ніякіх даных аб апошніх вынаходках археолёгічнае камісіі Інбелкульту. У разьдзеле аб культуры Беларусі дапушчана шмат памылак.

Нарэшце, каб не стамляць чытача, адзначым толькі, што, на думку аўтараў, БССР пасьля пашырэньня падзяляецца толькі на 5 наступных акруг: Менскую, Віцебскую, Магілеўскую, Бабруйскую і Гомельскую. Ёсьць у кніжцы і ілюстрацыі; з малюнкамі справа таксама стаіць ня лепей. Жадаючы даць тып беларускае вясковае хаты, аўтары падалі хату з чатырохскатнаю страхою, тымчасам як у Беларусі сустракаецца двухскатная страха.

Напісана кніга лёгкаю моваю. Выдадзена добра. Але гэта ня выпраўдвае яе зьяўленьня ў сьвет ды яшчэ з сямітысячным тыражом.

Пры разглядзе кніжкі „СССР па раёнах. Заходні раён. (Беларуская ССР і Заходняя вобласьць РСФСР)", укладзенай проф. М. В. Доўнар-Запольскім, адразу кідаецца ў вочы вартасьць апошняй у параўнаньні з першаю. Гэта, апрача другіх прычын, тлумачыцца тым, што М. В. Доўнар-Запольскі добра ведае мінулае Беларусі і нейкі час працаваў у Дзяржпляне БССР. Кніга яго вышла ў сэрыі кніг па экономічнай географіі СССР. Гэта папярэдзіла і характар

яё пабудовы. Кніга разьбіта на дзьве часткі. У першай гаворыцца а Беларускай ССР. У другой—аб Заходняй вобласьці РСФСР; г. зн. аб Смаленскай і пашыранай Бранскай губэрнях.

У першай частцы (1—94 стар.), апрача ўступу, дзе разглядаюцца гістарычныя перадумовы і агульная структура народнае гаспадаркі Беларусі, маюцца наступныя разьдзелы: 1. Фызыка-географічны нарыс і шляхі зносін. 2. Тэрыторыя, насельніцтва. 3. Зямельны фонд і землякарыстаньне. 4. Лясная гаспадарка і рыбацтва. 5. Сельская гаспадарка. 6. Прамысловасьць. 7. Базарныя (рынічныя) сувязі. Другая частка. (94—105) складаецца з наступных разьдзелаў: 1. Тэрыторыя і насельніцтва. 2. Фізыка-географічны нарыс. 3. Угодзьдзі. 4. Сельская гаспадарка. 5. Прамысловасьць дробная. 6. Прамысловасьць цэнзавая і нарэшце—7. Заключэньне.

Патрэбу разьбіць кніжку на дзьве часткі Доўнар-Запольскі матывуе тым, што хаця БССР і Заходняя вобласьць РСФСР маюць шмат супольнага ў прыродным стасунку, усё-ж Заходняя вобласьць РСФСР мае свае асаблівасьці як у прыродзе, так і ў экономіцы. Ад такое пабудовы кніга нічога ня траціць, наадварот, чытач атрымлівае, яснае ўяўленьне як аб народнай гаспадарцы БССР, так і аб экономіцы Заходняй вобласьці РСФСР і, разам з тым, атрымліваецца суцэльны малюнак усяго Заходняга раёну СССР.

Насычанасьць кнігі статыстычнымі данымі, давадзенымі да апошніх год, умелае параўнаньне стану асобных галін народнае гаспадаркі Беларусі да рэволюцыі і цяпер, а таксама параўнаньне мясцамі частак экономікі Беларусі з падобнымі часткамі экономікі старой Заходняй Эўропы, робяць кніжку Доўнар-Запольскага цікаваю і каштоўнаю крыніцаю знаёмства з народнаю гаспадаркаю Беларусі. Прыкладзеная ў канцы кнігі карта Заходняга раёну зроблена добра.

Кніжка Доўнар-Запольскага карысна ня толькі для жыхароў другіх рэспублік СССР, жадаючых лепей азнаёміцца з Беларусьсю, але і для школ Беларусі пры вывучэньні экономічнае географіі Беларусі.

**Фінкельштэйн і Баркоўскі.**

**Т. Кляшторны. Сьветацені.** *Выд. БДВ. Менск. 1928 г. Ст. 42. Ц. 45 к.*

Кляшторны—адзін з маладых, але, бязумоўна, здольных нашых поэтаў. Што ў сэнсе настрояў у творчасьці Кляшторнага далёка ня ўсё абстаіць так, як трэба,—гэта знаюць у нас, бадай, усе, і знаюць, трэба сказаць, ужо даволі даўно. У працяг апошняга году шмат хто гаварыў нават, што Кляшторны перажывае крызіс, што талент яго выходзіць на нішто, што ў сваёй творчасьці Кляшторны застыў, збанкрутаваўся і што далейшы поступ яго нават у галіне формальнай нібыта немагчымы.

Пасьля гэтых гутарак неяк з асаблівою цікавасьцю бярэш у рукі кожны новы яго твор. І што-ж? Наўпярэчкі ўсім гэтым „хаўтурным“ гутаркам трэба прызнаць, што ніякага асаблівага крызісу ў творчасьці Кляшторнага не наглядаецца, што разам з большасьцю нашае пісьменьніцкае моладзі, Кляшторны расьце, талент яго разьвіваецца, форма ўдасканальваецца.

Яскравым довадам гэтага зьяўляецца яго новая кніжка „Сьветацені“, што ня дужа даўно вышла з друку. Тут мы можам убачыць, бязумоўна, значны поступ Кляшторнага ў галіне формальна-мастацкай. Аб гэтым сьведчыць вельмі старанная, часам надзвычайна выразная чаканка вершаў, тэхнічна добрая, гучная і, часам, сьвежая рыфма. Толькі вось наконт вобразнасьці ня ўсё добра. Вобразы часам страватыя,—часам нематаімкнёныя, рэжуць сьвядомасьць чытача нейкім дысонансам з агульным зьместам твору. Некаторыя во-

бразы рэжуць вуха сваёю назойлівасьцю, бо ўжываюцца Кляшторным занадта часта. Да гэтае катэгорыі вобразаў трэба далучыць усе гэтыя „туманы“, „марозы“, „сьцюжы“, „веі“ „агаркі“, „дагараньні“ і шэраг іншых.

Тое-ж можна сказаць і пра некаторыя ўлюблёныя Кляшторным эпітэты. Але ў гэтай галіне справа абстаіць яшчэ горш. Тут мы маем цэлы шэраг такіх „навінак“, якія ўжо даўно абрыдлі, бо (ў працягу стагодзьдзяў ня выходзілі з ужытку літаратурных анучнікаў усяго сьвету. Да гэтай катэгорыі належаць: „бярозавыя просіні“, „сіняватыя плёсы“, „ружовыя вянкі“, „залатыя сьцежкі“, „сады верасьнёвыя“ (у іншых—„ліпнёвыя“, „жніўнявыя“ і г. д.), „сінь верасьнёвая“, „затоны крыштальныя“ „абмежкі лілёвыя“, „восень крыштальная“, „сінія пералівы“, „сонечныя струны“, „розныя туманы“, „бярозавыя далі“, „соннае лісьце“, „звонкія далі“, „залацістае лісьце“, „расквечаная вясна“ і г. д.

Спадчынай богэмшчыны (здаецца, ужо зжытай Кляшторным) гучаць усе гэтыя „ружовыя шклянкі“, „наліўкі ледзяныя“, „п‘янае юнацкае віно“, „першы хмель разбураных надзей“. Хаця ўсяго гэтага адмоўнага ў „Светаценях“ куды менш, як у ранейшай творчасьці Кляшторнага, аднак і тут для няпрызвычаенага вуха гэтае трухі аж занадта.

„Эстэтнічаньне“, як і раней, складае вельмі характэрную для ўсяе творчасьці Кляшторнага рыску. У гэтым Кляшторны ў значнай ступені набліжаецца да Жылкі, з той толькі розьніцай, што трэба прызнаць наяўнасьць у Кляшторнага куды большага густу, і таму ў яго эстэтнічаньне ня носіць такога занадта глуха-местачковага характару, як эстэтнічаньне Жылкі.

Пераходзячы да заўваг пра зьмест зборніку Кляшторнага, перш за ўсё зазначым, што, як і ранейшая яго творчасьць, „Сьветацені“ прасякнуты сумнымі, мэлянхолічнымі настроямі, што вельмі добра стасуецца з яго „марознай“, „ледзяной“, „п‘янай“ і іншай „гітарнай“ вобразнасьцю.

Цікавы падыход Кляшторнага да грамадзкага жыцьця свае краіны, які выступае асабліва яскрава ў вершах: „У вёсцы“ (ст. 3), „У дарозе“, ст. 7, і „Сьцюжа тут, сьцюжа пануе...“ (ст. 14), Кляшторны зусім не становіцца варожа да сучаснага. Наадварот—ён адносіцца да сучаснага з вялікай спагадаю. Але, пазбаўлены клясавага пачуцьця, Кляшторны ня можа об‘ектыўна і зусім спакойна падыйсьці да яго, бачыць яго так, як яно ёсьць і з таго, што ён бачыць, зрабіць правільныя вынікі. Вось таму і атрымліваецца так, што, ня гледзячы на паасобныя нібыта бадзёрыя сказы (чыста лёзунгавага характару), і гэтыя вершы прасякнуты тэю-ж мэлянхоліяй, тым-жа сумам, які зьяўляецца такім характэрным наогул для ўсяе творчасьці Кляшторнага і які, бязумоўна, стварае ў чытача пэсымістычны настрой.

У вершы „У вёсцы“ мы маем сапраўды дужа сумны малюнак. Справа адбываецца ясна на фоне „марознае зары“ і „вясёлае завеі“, што зьвініць над стрэхамі „на тысячу гітар“... Сялянская хата „Слодач успамінаў“. Зара дагарае „пунсоваю дрожжу“. Аўтар (ці асоба ад імя якой аўтар гаворыць, сядзіць і чытае газэту. А сусед, пазяхаючы скрозь сон і дрымоту, заводзіць гутарку на тэму „о пользе распития“ самагону і марыць аб тым, каб улада дазволіла „свабодна ціснуць з брагі самагон“, без яго „і сьвята. бач, ня ў сьвята“, а з ім „сьвятлей на сьвеце жыць“... потым сусед пачынае гаварыць, што—

„твая, Максім,
бач, хата пастарэла,
даўно пара другую будаваць“.

а гаспадар адказвае, што яго, нібыта, „зямля адалела“,—зямлі „многа“ каля яе занадта многа працы, хату будаваць немагчыма. Вось там—

недалёка,—хутар „Застава“ і ў ім „нейкая арцель“,—на „нейкіх паях“—

„вось, там, дружок,
зусім другая справа“,

адным словам,—арцель можа будавацца, а індывідуальная гаспадарка—узьняцца ніяк ня можа:

„А наша справа, братка,—
швах...“
. . . . . . . . .
ня вылезьці з лапцей,
ня вылезьці з саломы...“

Ці праўда гэта? Няўжо Кляшторны ня бачыць, з якой надзвычайнай шпаркасьцю будуецца наша вёска? Здаецца, даволі толькі праехаць па Савецкім Саюзе, каб убачыць гэта! Але ўсё гэта праходзіць міма Кляшторнага...

Вось гэтая сьлепата яго і перашкаджае як сьлед, правільна падыйсьці да сучаснага. Мабыць, Кляшторны і сам адчувае гэта. Так, напрыклад, у вершы „У дарозе“—ён як-бы агітуе за сучаснае, заходзячыся апраўдаць гэтае сучаснае мінулым. Ён дае вельмі ўдалы малюнак—*Старога*, і гэты малюнак эмоцыянальна заражае чытача на карысьць сучаснага. А пра сучаснае Кляшторны гаворыць вельмі мала. Зацьверджаньне яго, што на месцы таго маёнтку, пра агіднае мінулае якога ён апавядае—„цяпер *багацейшы* саўхоз“—гучыць неяк занадта дэклярацыйна. і зусім не пераконвае. Усё, што Кляшторны знаходзіць магчымым сказаць, каб апраўдаць сучаснае, гэта тое што:—

„... над нізкай сялянскай страхою
палынеюць зарніцы надзей“.

З першага погляду—гэта вельмі рэволюцыйна. Але, калі ўдумацца ў гэтыя радкі, мімаволі прыдзецца прысьці да думкі, што „надзеі“ могуць быць і ў чалавека, які знаходзіцца ў самых дрэнных жыцьцёвых умовах. Такім чынам, апраўдаць сучаснасьць адным толькі фактам наяўнасьці надзей—справа вельмі безнадзейная.

У вершы „Сьцюжа тут, сьцюжа пануе...“ Кляшторны дае абразок жыцьця ў гарадзкім шматкватэрным доме. Ён дае гісторыю дому ў яго мінулым і сучасным. Што-ж ён дае? У мінулым—п'яныя афіцэры. У сучасным—нейкі падпанак з сям'ёю, які „носіць дваранскія транты“. Калісьці—злыя сабакі, што „ноччу грызьлі ланцугі“. Цяпер—„жучкава будка“, якая вартуе „дальнюю зорную сінь“, трухлявыя сьцены:

„дзе пержытага цені
точаць іржавы штылет“...

Нарэшце—„нехта“, які „ад партыйнае сьцежкі... вяслуе чаўны“. Сумны малюнак у мінулым, сумны і ў сучасным.

Праўда, Кляшторны гаворыць, што:

„...над пахілай кватэрай
сьвецяць адменныя дні...
наша вялікая эра
паліць жывыя агні.
Нават у сьнежную дую,
нават у сьнежную муць
новыя сьцены будуюць,
новыя песьні пяюць...“

Але зараз-жа зьнішчае ўвесь сэнс гэтае агаворкі, дадаючы:

„чорт яго ведае, дружа.
дзе у жыцьці берагі...
Гойсае золкая сьцюжа,—
ў далі сьнягі,
і снягі...“

Такім чынам, побач з бязумоўным поступам у галіне тэхнічнай шліхоўкі вершу, мы маем у „Сьветаценях“ Кляшторнага тыя-ж старыя мотывы, той-жа пэсымізм, той-жа беспадстаўны сум, які наглядаўся намі з самага пачатку ва ўсёй яго творчасьці. Кляшторны жыве, Кляшторны працуе над сабой. Але, на вялікі жаль, калі ня лічыць некаторага памяншэньня ўплываў богэмшчыны, што раней моцна адчувалася ў яго творчасьці, у галіне ідэолёгічнай у „Сьветаценях“ не наглядаецца жадных зрухаў, жаданага да нас набліжэньня. У клясавым змаганьні Кляшторны яшчэ дагэтуль ня вызначыў сабе шляхі.

**Алесь Гародня.**

**„Аршанскі Маладняк“ № 7.** *Горкі. 1928 г.—красавік. Ст. 111. Цана 50 кап.*

З надворнага выгляду альманах выдадзены добра і пакідае надзвычайна прыемнае ўражаньне. Зьмест цікавы і рознастайны. У выданьні прынялі ўдзел звыш 20 аўтараў, у тым ліку цэлы шэраг новых літаратурных вылучэнцаў, творчасьць якіх, між іншым, у сэнсе свае добраякаснасьці стаіць ня ніжэй ад творчасьці значнае часткі старых сяброў філіі. Гэта сьведчыць, што ў справе выхаваньня маладых літаратурных сіл аршанскай філіяй праароблена вялікая праца.

З вершаў—у першую чаргу трэба адзначыць урыўкі з кнігі „Мінулае“ А. Вечара, які ў сэнсе формы дасягнуў значных посьпехаў. На жаль, гэты твор псуе некаторая цягучасьць рытму і адсутнасьць якой-кольвек пэўнае думкі. Нечым накшталт рэзюмэ выглядаюць апошнія радкі:

„Імчацца дні на звонкіх капытах...
Я не магу адным і тым застацца.
Краса! Даруй... я зьменны як... мастацтва!“

Вітаць гэткія „вынікі творчасьці“ цяжкавата... Занадта нагадваюць яны Жылкіна, што стала ў нас ужо клясычным „збавеньне ў пекнаце“.

Юрка Гаўрук даў таксама верш, зьмест якога для нас ня зусім ясны. Кожная строфа гэтага вершу, заканчваецца словам „мастацтва“. Прачытаўшы гэты верш, прыходзіш да пераканаьня, што нейкія „злачынцы“ ўвесь час абражаюць гэтае няшчаснае „мастацтва“, а Юрка Гаўрук, нібы-та прысягае абараняць яго. Ад каго? Ня ведаем... Што гэта! Ці не таксама Жылкаўскія ўплывы?

З буйных вершаваных твораў трэба адзначыць поэму А. Аляксеева „Хатнярка Лёнка“, што вызначаецца сваёю музычнасьцю. Рытмы ў поэме цікавыя, рыфмоўка—сьвежая, ёсьць добрыя алітэрацыі і моцныя вобразы. На жаль, сюжэт распрацаваны слаба.

Вельмі няўдалы пераклад „Лёрэляй“ Генрыха Гейнэ, зроблены Мардвілкам. Надзвычайна няўдалы з боку зьместу выбар вершаў Шэкспіра, зроблены Гаўруком. Вершы Прыбыткоўскага, хаця і „лефаўскія“, маюць, бязумоўна, свае хібы. Але аб хібах гаварыць ня будзем,—бо ў іх ёсьць адна дадатнасьць. Прыбыткоўскі ня б'е больш сьвет па мордзе, і, з поваду таго, што „росквіт вытворчы дае нам падмогу пролетарскую армію множыць“, ён ня вырошчвае больш „песень пра акт запладненьня“. Для Прыбытоўскага—і гэта вялікі поступ.

У апавяданьні Гаўрука „У маткі за пазухай“ быт местачковых мяшчан і люмпэнаў паказаны так, што ён не выклікае жаднае агіды, а толькі вясёлы сьмех. Вялізная колькасьць памяншальных слоўцаў накшталт „хацінка“, „коцік“, „рабенькі“, „ямка“, „жывёлінка“, „носік“, „лёганка“, „спаднічка“, „паперачка“, „лыжачка“, „шуфлядка“, „пушачка“, „капліччка“, „гладышачка“—надае апавяданьню нейкі няпрыемна-сьлінявы характар.

Шчырасьцю і рэалізмам вызначаецца апавяданьне Васілія Каваля „У супрадках“. Стыль добры, вытрыманы. Што датыча п'есы Яз. Віра „Панскае права“, дык яе прыходзіцца прызнаць слабаватай. Постаці князя і рэволюцыянэра Яся паказаны неяк схэматычна і ненатуральна.

У публіцыстычным аддзеле вельмі цікавы артыкул В. Бухаркіна „Лірычны фэномэн“ у якім аўтар робіць аналіз процэсу лірычнае творчасьці, і спрабуе ўскрыць тыповую схэму яе. Артыкул М. Гарэцкага „Бядуля пасьля Кастрычніка“ напісаны вельмі об'ектыўна і зьяўляецца каштоўным укладам у нашу, наогул бедную крытычную літаратуру.

Артыкул Ул. Прыбыткоўскага „Індывідуальнасьць і сучасная літаратура“ (надрукаваны ў дыскусійным парадку) пабудаваны на цэлым шэрагу прынцыповага характару памылак і проста такі недарэчнасьцяй.

Прыбыткоўскаму абрыдла, што нейкія там крытыкі шукаюць пролетарскіх мотываў у творчасьці Ц. Гартнага, Александровіча, Чарота і г. д., і таму яму лепш падабаецца даводзіць пролетарскасьць твораў Я. Коласа. У выніку Прыбытоўскі аўторытэтна заяўляе, „пролетарская літаратура ў нас ёсьць“, і тут-жа ж дадае: „У нас няма комуністычнае літаратуры“.

„Добрае“ проціпастаўленьне! Перад тым, як брацца пісаць артыкулы на такія сур'ёзныя тэмы, раім Прыбыткоўскаму сьпярша крыху падкавацца.

Увядзеньне ў альманах аддзелу „Народная творчасьць і мова“ трэба, бязумоўна, вітаць, бо сьвежых фольклёрных матэрыялаў у нас няма.

Аддзел бібліографіі даволі багаты і пастаўлены добра, хаця ёсьць і недахопы; некаторыя рэцэнзіі вельмі павярхоўныя. Характэрна, што А. Лясны, які даў рэцэнзію на № 3 „Узвышша“ за 1927 год, не знайшоў нават патрэбным хоць як-кольвек рэагаваць на зьмешчаны ў гэтым нумары „Узвышша“ ганебны артыкул К. Кундзіша „Sine ira et studio“, абмежаваўшыся толькі дабрадушным жартам на тэму аб яго лацінскай назьве...

Наогул № 7 „Аршанскага Маладняка“ сьведчыць аб значным узросьце нашых аршанскіх таварышоў, а гэтак сама і аб тым, што аршанская моладзь у некаторай сваёй частцы пачынае выпярэджваць старэйшых „вэтэранаў“ філіі, асабліва ў сэнсе зьместу і кірунку свае творчасьці.

**В. Падбярэскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў**

* *Якуб Колас* здаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву да друку другі том збору сваіх твораў.

* Аб'яднаньне „Полымя" паведаміла саюзныя і замежныя пролетарскія пісьменьніцкія аб'яднаньні і грамадзкія організацыі аб маючым адбыцца ў сьнежні месяцы дваццацігадовым юбілеі Цішкі Гартнага.

* *Міхась Чарот* піша цэлы шэраг невялічкіх апавяданьняў, якія будуць друкавацца ў „Полымі" і ў „Літаратурным дадатку" пры газэце „Савецкая Беларусь".

* *Алесь Дудар* здае да друку Беларускаму Дзярж. Выдавецтву новы зборнік вершаў „Чырвоная Сталіца".

* *Алесь Гурло* здаў да друку ў Белдзяржвыдавецтва зборнік вершаў „Межы".

* Літаратурнае аб'яднаньне „Полымя" мяркуе выдаць да юбілею Цішкі Гартнага прысьвечаны юбіляру зборнік, у якім будуць зьмешчаны характэрныя яго творы, а таксама крытычныя нарысы ды ўспаміны.

* У Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў (БелАПП) вядзецца падрыхтоўчая работа па скліканьні Усебеларускай конфэрэнцыі пролетарскіх пісьменьнікаў. Конфэрэнцыя мае адбыцца ў канцы лістапада. У гэтым-жа месяцы будзе сьвяткавацца пяцігодзьдзе існаваньня літаратурнага аб'яднаньня „Маладняка".

* На сходзе „Полымя" 21 кастрычніка г. г. была заслухана інформацыя Цішкі Гартнага пра бягучае літаратурна-культурнае жыцьцё ў Харкаве і Кіеве.

* Бюро Менскай філіі „Маладняка" падвяло вынікі аб складзе сяброў Менскай філіі „Маладняка" ў лічбах. Усяго ў Менскай філіі лічыцца 38 сяброў.

Па соцыяльнаму складу з рабочых—4, сялян—28, служачых—3, іншых—3.

Па нацыянальнасьці: беларусаў—36, яўрэяў—2.

Па партыйнай прыналежнасьці: сяброў і кандыдатаў КП(б)Б—6, комсамольцаў—13, беспартыйных—19.

Па адукацыі: з вышэйшай—3, студэнтаў—28, з сярэдняй—7.

Па творчасьці: поэтаў—21, празаікаў—12, крытыкаў—4, перакладчыкаў з чужаземных моў—1. З іх маюць зборнікі—19, з прынятымі ў БДВ зборнікамі да друку—3, ня маюць зборнікаў—16.

Па маладнякоўскаму стажу: з 1925 г.—12, з 1926 г.—16, з 1928 г.—10.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Да адзначэньня 20-гадовага юбілею літаратурнай чыннасьці беларускага пролетарскага пісьменьніка Цішкі Гартнага (З. Жылуновіча) тэатральны колектыў „Наш Тэатр" рыхтуе да пастаноўкі п'есу Цішкі Гартнага „На стыку".

* Наркамасьветы БССР атрымаў запрашэньне ад Беларускага Дому Асьветы ў Ленінградзе з просьбай аб накіраваньні Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага Тэатру пад кіраўніцтвам Ул. Галубка ў Ленінград для пастановак у Бел. Доме Асьветы,

а таксама на Абухаўскім ды Пуцілаўскім заводах.

* Галоўмастацтва БССР пасылае ў Маскоўскі кіно-тэхнікум для падрыхтоўкі на рэжысэраў артыстых БДТ-І Ільлінскага і Дольскага.

* Новым дырэктарам Беларускага Дзярж. Музычнага Тэхнікуму прызначан т. Казакоў.

* У Галоўмастацтва паступіла запрашэньне прыслаць вандроўны тэатр Галубка ў Гомельшчыну, Мазыршчыну ды Аршаншчыну.

* Самавука, вясковы хлапец Бялькевіч з вёскі Квасынічы, былое Слуцкае акругі, выканаў мастацкі мозаічны портрэт т. Сталіна з зерняў пшаніцы, ячменю, жыта і вікі.

* У сучасны момант Галоўмастацтвам НКА БССР распрацоўваюцца програма і палажэньне аб організацыі пры Белмузтэхнікуме сталай клясы народных інструмантаў.

Да гэтага часу пры Белдзяржмузтэхнікуме існаваў оркестр пад кіраўніцтвам і па прыватнай ініцыятыве т. Захара. На днях пытаньне аб організацыі гэтай клясы будзе канчаткова вырашана.

* Замест былога кіраўніка опэрнай клясы Музтэхнікуму пр. Цьвяткова ёю будзе кіраваць запрошаны вядомы маскоўскі профэсар Спэранскі—былы артысты Вялікага Тэатру.

* Управа Галоўмастацтва і Літаратуры запрасіла на студзень месяц на два концэрты прэм'ераў Харкаўскае украінскае опэры — М. Сокіл, І. Паторжына ды інш. Концэрты будуць складацца з украінскіх песень і арый опэр, якія ідуць у харкаўскім опэрным тэатры.

* Галоўмастацтва БССР распачало перамаўленьні з Галоўмастацтвам УССР аб абмене летам наступнага году гастролямі дзяржаўных драматычных тэатраў. У Менск запрашаецца тэатр „Берэзіль“ пад кіраўніцтвам Л. Курбаса, а ў Харкаў ды Кіеў павінен будзе паехаць другі беларускі дзяржаўны тэатр.

* У Менск прыехаў новы дырыжэр БДТ-І т. Міхайлаў. Тав. Міхайлаў вядомы ў СССР дырыжэр. Ён скончыў ленінградзкую консэрваторыю па клясе Эмілія Купэра і доўгі час працаваў як кіраўнік опэрнай студыі ленінградзкай консэрваторыі, украінскай опэры і г. д.

Тав. Міхайлаў зараз прыступіў да распрацоўкі музыкі да п'есы „Мешчанін у шляхецтве“ і балету „Вальпургіева ноч“ з „Фауста“ і „Палавецкага стану“ з опэры „Князь Ігар“. Оркестр тэатру разам з музычным тэхнікумам складае 20 асоб. Концэртмайстрам і намесьнікам дырыжэра запрошаны т. Бясьсьмертны, які будзе ўвязваць сваю работу з музычным тэхнікумам.

* Гэтымі днямі прыехала з Ленінграду салістка-сьпявачка Васільчанка, якая некалькі год таму назад скончыла ленінградзкую консэрваторыю.

* 1928 г. будзе запісаны ў гісторыю тэатру на Беларусі, як год значнага палепшаньня тэатральных будынкаў.

Памяшканьне БДТ-І у Менску было сёлета грунтоўна адрамантавана знадворку: папраўлен дах, зроблены нанова проціпажарныя балькони, пастаўлены новыя вадасьцёкі, і ўвесь будынак добра пафарбованы. Навіною зьяўляецца яшчэ тое, што па пярэдняму фасаду ў нішах пастаўлены бюсты нашых абодвух народных поэтаў — Якуба Коласа і Янкі Купалы. Зроблены грунтоўны рамонт у сярэдзіне: заля ўся нанова і ў строгім стылі пафарбована; скасаваны лёжы пасярэдзіне, што разам з пераробкаю сыстэмы крэслаў „на доле“ (у партэры) дало тэатру 70 лішніх месц; на сцэне зроблен сталы рухавы круг, што дае магчымасьць хутка мяняць абразы дзеі; набыты два новыя замежныя прожэктары і чатыры лінзавыя лямпы; навешана новая заслона, якая разьбягаецца ў бакі.

* Малады рэжысэр-опэратар Машковіч канчае здымаць культур-фільму „Калгас“ (колектыўная гаспадарка).

* Менскі акругком ЛКСМБ зацьвердзіў проект організацыі ў Менску тэатральнай майстэрні рабочай моладзі. У майстэрні будуць існаваць пастановачнае, балетнае і харавое аддзяленьні, музычны ансамбль і аддзяленьне дэкаратараў. Майстэрні будуць працаваць у клюбе „КІМ“. У майстэрні будзе прымацца рабочая моладзь ад станка. Першая пастаноўка адбудзецца праз 3—4 месяцы. Дырэктарам майстэрань зацьверджаны артысты БДТ-І т. Дольскі.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам Галубка зараз рыхтуе да пастаноўкі драму ў 5-ці дзеях „Провокатары“ А. Станкевіча.

Драма малюе жыцьцё заходніх беларусаў у панскай Польшчы.

* Нар. Кам. Асьветы БССР пастанавіў організаваць сёлета пры Белдзяржмузтэхнікуме дадатковую клясу па програме сьпеўнага факультэту Вышэйшай Музычнай Навучальнай Установы.

У гэту клясу будуць прымацца найбольш здольныя асобы, якія скончылі музычны тэхнікум па клясе сьпеваў.

Організацыя гэтай клясы ёсьць першы крок да організацыі ў БССР Вышэйшай Музычнай Навучальнай Установы — Консэрваторыі.

* Балетмайстар т. Сямёнаў скончыў апрацоўку новай інтэрмэдыі да п‘есы Мольера „Мешчанін дваранінам“. Зараз т. Сямёнаў рыхтуе працу для новага балетнага вечару, які будзе наладжаны ў пачатку лістапада.

* Дырыжэр студыі Станіслаўскага т. Брауэр прыслаў сваю згоду працаваць настаўнікам опэрнай і оркестровай клясаў Белмузтэхнікуму.

Таксама вядуцца перамаўленьні з вядомым композытарам Панчэнка (Ленінград) аб запрашэньні яго выкладчыкам у клясу композыцыі.

* Галоўмастацтвам зроблены захады да прыцягненьня вядомых музычных працаўнікоў для выкладаньня ў музтэхнікуме. Запрошан для выкладаньня гармоніі ды тэорыі вядомы композытар — Анцоў, які зараз працуе ў Віцебску. А таксама запрашаецца вядомы гармонізатар народных песень А. Турынкоў.

Апрача таго, вядуцца перамаўленьні з іншымі музыкамі аб пераводзе іх у Менскі музтэхнікум.

* Пасьля некаторых перашкод Беларускі Другі Дзяржаўны Тэатр асталяваўся ў Гомлі, дзе ён і прабудзе да 1-га сакавіка 1929 г.

У рэпэртуар БДТ-ІІ уключаны: „Разлом“—Лаўрэнева, „Цар Максімільян“, „Калі сьпяваюць пеўні“ — Юр‘іна, „Каля тэрасы“—М. Грамыкі, „Сон у летнюю ноч“ —Шэксьпіра, „Астап“—А. Глобы (пераапрацаваны), „Бакханкі“ — Эўрыпіда, „У мінулы час“—Бэна, „Вечар беларускае комэдыі“ і вечар мініятуры. Цяпер ідзе праца над п‘есай М. Ільлінскага „На прадвесьні“, якую мяркуецца скончыць да кастрычнікавай гадавіны, пасьля чаго пачнецца праца над вядомай п‘есай Кішона „Рэйкі гудуць“. Мяркуецца ў гэтым годзе скончыць таксама „Гайявату“ Агнёва. Апрача гэтага, заказаны п‘есы Анатолю Вольнаму (комэдыя), Міхайлу Грамыку, Заяіцкаму (комэдыя). Вядуцца перамаўленьні з іншымі пісьменьнікамі. Некаторыя з заказаных п‘ес будуць пастаўлены яшчэ на працягу сэзону 1928—29 году.

Ужо цяпер пачынаецца шырокая праца па популярызацыі тэатру сярод працоўных мас Гомельшчыны. Тэатр бярэ і надалей рашучы курс на абслугоўваньне організаванага гледача.

Пасьля 1 сакавіка тэатр на 2 месяцы (сакавік і май) пераяжджае ў Магілеў. Тэатр атрымаў запрашэньне прыехаць у Калінінск.

* За апошні час музэй рэволюцыі БССР папоўніўся новымі карцінамі.

Так, нядаўна атрыманы ў аддзел гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі карціны маладога мастака С. М. Кантара.

Тэма аднэй карціны „Свабодная Беларусь“. Тэма другой карціны— адзінства рабочых і сялян.

* Новы дырыжэр БДТ-І М. Міхайлаў, для павялічэньня сіл оркестра, запрасіў лепшых музыкаў г. Менску.

У сувязі з сьвяткаваньнем юбілею Чайкоўскага, т. Міхайлаў мае арганізаваць спэцыяльны концэрт, прысьвечаны творчасьці Чайкоўскага. Апроч гэтага, у працягу сэзону мяркуецца наладзіць цэлы шэраг сымфонічных концэртаў.

* Першы Белдзяржтэатр пачаў рыхтавацца да 11-ай гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі.

7-га лістапада, у першы дзень сьвята, будзе пастаўлена вядомая п'еса Ўсевалада Іванова „Бронецягнік“ ў пастаноўцы рэжысэра тэатру МГСПС Вінэра. П'еса ўжо падрыхтавана.

8-га лістапада (2-гі дзень сьвята) мае быць пастаўлена п'еса „Мяцеж“, якая ў мінулым годзе ставілася ў Віцебску ў часе сьвяткаваньня 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі і зьяўляецца для Менску новай пастаноўкай.

* Галоўмастацтва вядзе перамаўленьні з Галоўнавукаю аб передачы пад загад Галоўмастацтва карцінных аддзелаў беларускіх музэяў.

* У нядзелю, 21 кастрычніка, на чарговым сходзе аб'яднаньня пісьменьнікаў „Полымя“ пастаноўлена запрасіць у Менск на канец сьнежня грузінскіх і армянскіх пісьменьнікаў, якія будуць к гэтаму часу ў Харкаве.

* Галоўмастацтва запрапанавала Белдзяржкіно ў ліку культурфільмаў зьняць карціну пад назвай „Жыцьцё і творчасьць пісьменьнікаў“.

* Управа Галоўмастацтва і Літаратуры мяркуе ўрачыста адчыніць дом пісьменьнікаў у сьвята дзесяцігодзьдзя БССР. Для прыёму будынку вылучана камісія на чале з тав. В. Сташэўскім.

* Усебеларускае аб'яднаньне мастакоў узгодніла пытаньне з Галоўмастацтвам пры Нар. Кам. Асьветы БССР аб організацыі 3-яй Усебеларускай мастацкай выстаўкі. Адчыненьне выстаўкі прыстасоўваецца да сьвяткаваньня 10-годзьдзя БССР— 31 сьнежня. На выстаўцы будуць прадстаўлены шэраг карцін, скульптур, якія будуць маляваць гістарычныя моманты: „Падпісаньне маніфэсту аб агалашэньні БССР“, „Чытаньне маніфэсту“, „Акупацыя БССР“, „Партызаншчына“ ды інш. За лепшыя мастацкія карціны і скульптуры будуць выдадзены прэміі. Выстаўка будзе адчынена на працягу ўсяго студзеня м-ца. У часе выстаўкі будзе праведзена першая ўсебеларуская конфэрэнцыя мастакоў.

* Першым Бел. Дзярж. Тэатрам рыхтуецца да пастаноўкі п'еса М. Грамыкі „Віно бушуе“ з жыцьця сучаснага беларускага студэнцтва.

### Хроніка друку

* Наркамасьветы зацьвердзіў плян выданьня кнігі „Юбілей Цішкі Гартнага ў школе і ў клюбе“. Кніга складзена настаўнікамі Жгуном, Маеўскім і Рамаоўскім. Белдзяржвыдавецтва выдае гэтую кнігу да дню юбілея Цішкі Гартнага.

* Цэнтравыдавецтва пры ЦВК СССР распрацавала плян выданьняў на 1928—29 г. У плян уваходзіць выданьне падручнікаў на беларускай мове для беларускіх школ 1 і 2 ступені ў 70 друкаваных аркушаў; маецца на мэце таксама выдаць беларускія кнігі па дашкольным выхаваньні, самаадукацыі ды інш.

* Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам друкуецца новы зборнік апавяданьняў М. Зарэцкага пад назвай „На чыгунцы“.

* Дзяржаўнае Выдавецтва БССР мае выдаць на беларускай мове „Кабзар“ Т. Шэўчэнкі.

* З чужаземнай мастацкай літаратуры БДВ у наступным годзе выдае цэлы шэраг твораў замежных пісьменьнікаў сэрэяй: „Зарубежныя пролетарскія пісьменьнікі“. Сюды ўвойдуць: чэскія пісьменьнікі В. Ванчура („Полі ворныя і ваёўныя“), Копта („Галена і Марыля“), Я. Гора, Бенешова („Удар“); нямецкія—І. Бэхэр („Адзіная справядлівая вайна“), Ф. Вайскопф („Збор апавяданьняў“), Г. Поль („Збор апавяданьняў“) ды інш.

* *Дзесяты нумар часопісі „Полымя“ за сьнежань бягучага году будзе прысьвечаны юбілею дзесяцігодзьдзя БССР і дваццацігадоваму юбілею літаратурнай чыннасьці* Цішкі Гартнага.

* Беларускае Выдавецкае Т-ва ў Вільні прыступіла да выданьня кніжкі-календара на 1929 год. Яна мае наступныя разьдзелы: літаратурны, гістарычны, культурна-грамадзкі, эканомічны, гаспадарчы, школьны, разьдзел па-за школьнай асьветы, мэдычны, мастацкі, статыстычны, коопэрацыйны, тэхнічна-будаўнічы, інформацыйны ды інш. У календары-кніжцы будуць зьмешчаны шэраг фотографій.

* ІБК прыступіў да выданьня твораў Алеся Гаруна. Сабраны ўжо адпаведны матэрыял, які ў недалёкім часе здаецца ў друк.

* Управа Дзяржгандлю БССР прыступае да экспорту замежы беларускіх, яўрэйскіх і іншых кніг выданьня Белдзяржвыдавецтва. Ужо вядуцца перагаворы з Чэхаславацкімі кніжнымі фірмамі аб экспорце беларускіх кніг, на якія маецца вялікі попыт.

* У Вільні ў хуткім часе канчаюцца друкам беларускія кнігі: Гнатышак—З мастацкае прозы сучаснае Нямеччыны; Адрыўны каляндар на 1929 г.; „Рунь Веснаходу“—зборнік прозы і вершаў А. Бартуля, Н. Арсеньевай, Х. Ільяшэвіча, М. Васілька, Ляо-Вэ, Зьвястуна, Мамары, Шкодзіча, Камара, Сяргіевіча, Вялецкага, Алесі Ц.; „Судны дзень“—Караленкі ў перакладзе В. Трыцянкі; „Казкі“—дзіцячы зборнік; „Тарас Бульба“—Гогаля ў перакладзе М. Касьцевіча; „Найміты ў сярэдніх вяках“—К. Каўцкага; „Тутэйшыя“—Я. Купалы; арытмэтычны задачнік—Р. Астроўскага.

### Хроніка нашай навукі

* Пастановай ЦВК і Савету Народных Камісараў БССР Інстытут Беларускай Культуры рэорганізаваны ў Беларускую Акадэмію навук.

* Гэтымі днямі акадэмічная рада Інбелкульту заслухала даклад-спраздачу старшыні правапіснай камісіі таа. С. Некрашэвіча аб працы па правядзеньні рэформы беларускага правапісу. Да гэтага часу апрацованы правапіс галосных, правапіс зычных. Зараз правапісная камісія распрацоўвае правапіс чужаземных слоў ды ўласных іменьняў. Акадэмічная рада вызначыла тэрмін прадстаўленьня проекту новага правапісу 1 студзеня 1929 году. Побач з пытаньнем правапісу камісія падрыхтоўвае матэрыял для ортографічнага беларускага слоўніка. У аснову проекту беларускага правапісу будзе паложаны правапіс, якім зараз карыстаецца газэта „Савецкая Беларусь“.

* З новага акадэмічнага году прызначана адкрыць шэраг новых катэдр пры ІБК—БАН. Пры гуманітарным аддзеле ўтвараецца катэдра для вывучэньня беларускага права, пры адзеле прыроды і гаспадаркі—аддзел практычнай геолёгіі. Па клясе гаспадаркі організуецца катэдра хэмічнай тэхнолёгіі і камісія энэргэтыкі. Новая катэдра ўтвараецца таксама і пры польскім сэктары. Ліквідуецца інстытут па вывучэньні

мастацтва. Камісіі інстытуту разьмеркаваны па катэдрах этнографіі ды гісторыі.

* За лета зоолёгічным музэем Інбелкульту быў організаваны шэраг экспэдыцый па вывучэньню фаўны Беларусі, а таксама па зьбіраньні адпаведных матэрыялаў для папаўненьня музэю. Экспыдыцыі былі наладжаны ў Гомельшчыну, Мазыршчыну ды Меншчыну.

* Экспэдыцыя Інбелкульту ў складзе т. т. Ляўданскага і Дубінскага нядаўна правяла вывучэньне некаторых археолёгічных помнікаў старасьветчыны Полаччыны і Віцебшчыны. Гэтыя досьледы маюць для навукі надта вялікае значэньне. Яны вызначаюць новыя пуціны ў гісторыі Беларусі, высьвятляюць новыя факты аб часе прыходу ў Полацак Крывічоў (славян), аб тарговых зносінах Полацку ў дагістарычныя і ў бліжэйшыя гістарычныя часы ды шмат чаго інш.

У Полацку экспэдыцыя вывучала: старажытнае гарадзішча, якое знаходзіцца на высьпе ў старым горадзе (Запалоцьце), „Вышні замак“, дзе стаіць „Сафія,“ месца „Спас“ і Бельчыцы.

Раскопкі паказалі, што гарадзішча зьяўляецца самым старым месцам у горадзе, што да заснаваньня славянамі Полацку і да прыходу іх гэта гарадзішча ўжо было пабудавана (раней 8-га сталецьця). Гарадзішча, аднак, мела жыцьцё нядоўгае да прыходу славян. Адзнакаю яго зьяўляецца беднасьць культуры. Тут знойдзена лепная пасуда і некаторыя кавалкі бронзы і жалезных рэчаў.

На жаль, гэта гарадзішча папсавана могілкамі 18-га сталецьця, а раней яно было папсавана рознымі ўмацаваньнямі 16—17 сталецьцяў. Славянскі пласт тут вельмі грубы (звыш 2-х мэтраў), што сьведчыць аб тым, што славяне жылі тут некалькі сот год. У гэтым пласьце выяўлена культура 10, 11 і 12 сталецьцяў. Галоўным чынам тут знойдзены кавалкі рознай бітай пасуды тых часоў, некаторыя жалезныя рэчы: цуглі 11—12 ст., нажы, шылы, прасьніцы шыфэрныя (апошнія сьведчаць аб зносінах з Валыньню), шкляныя бранзалеты, галоўным чынам, 12 ст. і кавалкі „плімф“—цэглы 12 ст. Гэтыя пліткі свьведчаць аб тым, што на гарадзішчы як быццам маглі быць мураваныя будынкі ў 12 сталецьці.

Гэта гарадзішча зьяўлялася свайго роду першапачатковым крамлём Полацку. У пазьнейшыя часы горад пачаў пашырацца ў бок Дзьвіны, калі ўжо ўмацавалася Полацкае княства.

Экспэдыцыя абсьледвала замак, які знаходзіцца супроць старога гораду на Дзьвіне—супроць Запалоцьця, на якім была пабудавана ў канцы 11-га сталецьця царква, так званая „Сафія“. Культура раней гэтае царквы тут ня знойдзена. На Сафіі знойдзена пасуда таго часу, шкляныя бранзалеты ды інш. Бранзалеты сьведчаць аб зносінах з пабярэжжам Чорнага мора. Апроч гэтага, у руінах старога храму знойдзены фрэскі. На жаль, гэтыя фрэскі, якія маюць вялікую навуковую вартасьць, раскрыты: ніхто не ахоўвае іх, іх разьбіваюць каменьнямі, і яны наогул псуюцца.

Праведзены досьледы з археолёгічнага боку мясцовасьці „Спас“. Там гарадзішча ня было. На гэтым месцы пачалі жыць не раней пабудовы царквы. У руінах пабудовы знаходзіцца зараз склеп, у якім добра захавалася частка сьцяны з плімфаў.

Адгэтуль экспэдыцыя накіравалася для вывучэньня археолёгіі месца Бельчыцы, дзе знаходзяцца руіны старой царквы 12-га сталецьця. Тут-жа былі вывучаны курганы, якія да гэтага часу ня высьветлены ў навуцы. Курганы тут трох тыпаў. Першы тып—курганы з трупаспаленьнем—10-га ст. У іх знойдзены бранзалеты і гліняныя вурны. Бранзалеты прыбальтыцкага пахаджэньня (люцынскага тыпу). Другі тып — звычайнае

пахаваньне 11-га ст. Трэці тып—звычайнае пахаваньне ў яме, на якой насыпан яшчэ курган—канца 11 і 12 ст. Пад уплывам хрысьціянства паганскі звычай трупаспаленьня канчаецца. Спачатку хаваюць на грунце, а потым пачынаюць хаваць у яме. Пад уплывам хрысьціянства ўсё менш і менш кладуць нябожчыку розныя рэчы і аздобы, але ўсё-ж ткі на верх насыпаюць курган.

Чацьверты тып пахаваньня, які павінен быць у Полаччыне, — гэта пахаваньне ў ямах без кургаиоў, на якіх ставіліся грубыя крыжы (так званыя „жальнічныя крыжы"), якія і ў сучасны момант спатыкаюцца на некаторых могілках Полаччыны. Адзін з такіх каменных крыжоў з надпісам „Станько" знаходзіцца ў вёсцы Ксты (назва „Ксты" мае пахаджэньад слова „Красты"). Такія крыжы можна знайсьці і каля вёскі Крыжы, Віцебскай акругі.

Таксама былі зроблены раскопкі 14 курганаў каля вёскі Рудня, на рацэ Ушачы. Тут заўважаны два тыпы пахаваньня. У курганох з трупаспаленьнем знойдзены грубыя лепныя гліняныя вурны, бронзавыя аздобы люцынскага тыпу ранейшага пахаджэньня, нажы, наканцоўнікі, стрэлы жалезныя, бронзавыя спронжкі, шкляныя пацеркі ды інш. Другі тып пахаваньня—рэдкае зьявішча—звычайнае пахаваньне на вогнішчы на грунце.

У гэтых курганох былі знойдзены: бронзавы абруч-грыўна, які адзяваўся на шыю, люцынскага тыпу, бронзавыя кольцы, якія адзяваліся на галаву, і некалькі дзясяткаў шкляных дробных пацерак на шыю ды інш.

Каля вёскі Гаравая на так званым „Чортавым балоце", на высьпе пад назвай „Таўкач" было абсьледвана невялікае гарадзішча да-славянскага пахаджэньня (раней 8-га ст.); тут быў знойдзены лепны пасудак вогнішча і звычайныя косьці жывёлы. Недалёка ад гэтага гарадзішча былі вывучаны 8 з 36 курганоў тыпу трупаспаленьня. У гэтых курганох знойдзены ў гліняных вурнах косьці. Гэтыя вурны па сваёй рабоце, па свайму вырабу і форме аднолькавы з пасудкам, знойдзеным у гарадзішчы „Таўкач". Гэта сьведчыць аб тым, што насельнікі гарадзішча „Таўкач" хавалі ў гэтых курганох сваіх нябожчыкаў.

Экспэдыцыя вызначыла, што курганы з гарадзішча каля в. Гаравая, курганы з в. „Рудня" і Полацкае гарадзішча належаць да аднаго часу—да славянскае культуры.

У Віцебску было абсьледвана некалькі археолёгічных помнікаў.

* Галоўнавука ўключыла ў плян сваёй работы на 1928—29 год організацыю ў Менску першага на Беларусі Інстытуту па вывучэньні прамысловасьці. Інстытут будзе праводзіць навуковую работу па вывучэньні розных галін беларускай прамысловасьці — тэкстыльнай, лесаторфахэмічнай, скураной і г. д. Для гэтай мэты прызначана адкрыць шэраг аддзелаў і ляботарый. Інстытут будзе організаваны паводле тыпу беларускага навукова-дасьледчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна. Да работы ў Інстытуце будуць прыцягнуты выдатныя навуковыя сілы.

* Нядаўна скончыла сваю працу экспэдыцыя ЦБ Краязнаўства ў Дубровенскім раёне. Экспэдыцыя сабрала шмат матэрыялаў па вывучэньню геолёгіі, батанікі, этнографіі, гісторыі, прамысловасьці.

**Рознае**

* Беларускі Дзяржаўны Музэй пераслаў на захаваньне Цэнтральнаму Архіўнаму Кіраўніцтву дакуманты з архіву Друцкага-Любецкага. Такіх дакумантаў, якія маюць гістарычнае значэньне, знойдзена кал 14.

* Прэзыдыум ЦСПСБ вылучыў камісію на вывучэньні гісторыі рабочага і профэсыянальнага руху на Беларусі.

* Яшчэ да перайменаваньня ІБК у Беларускую Акадэмію Навук праектавалася пабудова спэцыяльнага будынку для ІБК з 3-х корпусаў з агульным пляцам у 24.791 кв. мэтр. Паводле проекту, мяркуецца пабудаваць галоўны корпус для зьмяшчэньня кіраўніцтва Акадэміі Навук, тых навукова-дасьледчых устаноў, праца ў якіх мае габінэтны характар, нацыянальных сэктараў, бібліотэкі, друкарні ды іншых пры кіраўніцтве Акадэміі Навук устаноў. Другі корпус лябораторнага тыпу прызначаецца для ўстаноў, якія ў сваёй навукова-дасьледчай працы зьвязаны з працаю ў лябораторыях. Трэці музэйны корпус—для тых навуковых устаноў, праца якіх будуецца на здабытых матэрыялах.

Агульны кошт пабудовы гэтых 3-х корпусаў з належным абсталяваньнем, паводле каштарысу, вызначаны ў разьмеры 2.508.000 руб.

* Недалёка ад в. Прылукі, Самахвалаўскага раёну, сяляне Аляксейчык і Крэсік, у часе капаньня магілы, знайшлі скарб 14-га сталецьця. Скарб складаецца з 320 срэбных манэт, праскіх грошаў, аднаго срэбнага пярсьцёнка, дзьвёх пазалочаных завушніц і двух лобных кольцаў.

Мяркуючы па монэтах, гэты скарб быў закапаны не пазьней 1360—70 г.г. Знаходка мае вялікую гістарычную цікавасьць, бо знойдзеныя праскія грошы зьяўляюцца гістарычнай рэдкасьцю. Знойдзеныя ўпрыгожаньні даюць магчымасьць меркаваць аб убраньні таго часу.

* Музэй Рэволюцыі БССР пачаў рыхтавацца да 11-й гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі. У музэі маецца некалькі пакояў, прысьвечаных гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі ў Маскве, Ленінградзе і БССР.

Да 11-й гадавіны гэтыя пакоі будуць папоўнены новымі экспонатамі. Гістпарт і Музэй Рэволюцыі прыстасоўваюць да 11-й гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі выпуск 1-га нумару пэрыодычнай часопісі „Пролетарская рэволюцыя на Беларусі“. Часопісь будзе выходзіць 1 раз у тры месяцы.

* БДМ набыў вельмі рэдкія старажытныя монэты: адна з часоў сырыйскага цара Антыёха IV Эпіфана, які вёў барацьбу з Юдэяй, другая монэта была выпушчана рымскім імпэратарам Вэспэсыянам з прычыны заваяваньня Юдэі. Апошняя монэта мае з аднаго боку вобраз Вэспэсыяна, на другім баку монэты выбіта пальма, рымскі рыцар і жанчына, якая прадстаўляе заваяваную Юдэю. Тут-жа палатыні надпіс „Judaea Capta“ (канец Юдэі).

* Цэнтральнае Архіўнае Кіраўніцтва БССР узьняло хадайніцтва аб дакладным разьмежаваньні розных архіўных матэрыялаў паміж Цэнтральным Архіўным Кіраўніцтвам, Беларускім Дзяржаўным Музэем і Дзяржаўнай Бібліотэкай.

Канчаткова гэтае пытаньне будзе вырашана Цэнтральным Архівам разам з Галоўнавукай БССР.

* У Маскве пражывае звыш 13 тысяч беларусаў. У вялізнай большасьці яны належаць да складу кваліфікаваных рабочых і працоўнай інтэлігенцыі.

Побач з агульна-культурнымі ўстановамі, у Маскве функцыянуе шэраг нацыянальных клюбаў, з якіх на адным з першых месц стаіць цэнтральны беларускі клюб.

Ён аб'яднае каля 600 чалавек, а, лічачы іх членаў сям'і, абслугоўвае звыш тысячы чалавек. Такім чынам, значная частка беларускага насельніцтва Масквы ахопліваецца працай клюбу. Трэба, акрамя гэтага, адзначыць, што вечары і концэрты, якія наладжвае клюб, прыцягваюць шмат людзей, якія ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца таксама беларусамі, але яны не зарэгістраваны ў клюбе.

З сярэдзіны верасьня пачалася зімовая праца клюбу. Аднаўляецца чыннасьць шэрагу гурткоў, організа-

ваных пры клюбе. Функцыянуюць гурткі—харавы, музычны, драматычны. Яны ставяць беларускія п'есы і г.д.

Паасобныя гурткі вывучаюць беларускую літаратуру, гісторыю ды экономіку Беларусі. У гэтым годзе падрыхтоўваецца організацыя новага гуртка па вывучэньні імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны на Беларусі. Програма працы гурткоў і ўсяго клюбу ўцалку на зімовы пэрыод зараз удакладняецца. Клюб непарыўна зьвязаны з культурай і бытам Беларусі, таму асноўнымі тэмамі прапрацоўкі ў гуртках зьяўляецца беларуская народная творчасьць.

Клюб мае някепскую бібліотэку. Яна папаўняецца новай літаратурай з БССР; выпісваюцца амаль усе важныя пэрыодычныя беларускія выданьні—як газэты, так і часопісі.

**Замежныя краіны аб Беларусі**

* У № 36 за бягучы год чэскае ілюстраванае часопісі „Damov a Svet" надрукавана апавяданьне Якуба Коласа „Стараста".

* Л. Окіншэвіч піша артыкул для украінскіх часопісаў, прысьвечаны дваццацігадовай літаратурнай творчасьці Цішкі Гартнага.

* У выдавецтве пісьменьнікаў у Маскве вышла кніжка паднazваю „Поэзия народов СССР". У кніжцы маецца аддзел „Белоруссия", у якім зьмешчаны вершы М. Чарота, Янкі Купалы, Цішкі Гартнага ды А. Александровіча.

* У Чэхаславацкай (Прага) часопісі „Nové Rusko" („Новая Расія") № 8 за 1928 год надрукаваны вялікі артыкул В. Шваба—„Беларусы ў Польшчы".

* У хуткім часе выйдзе з друку на украінскай мове зборнік беларускае літаратуры. Зборнік будзе зьмяшчаць у сабе творы каля дваццаці беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Аддзел мастацтва Нар. Кам. Асьветы УССР распачаў падрыхтоўчую працу па організацыі вялікай Усеукраінскай тэатральнай выстаўкі Гэты-ж аддзел організуе спэцыяльную выстаўку—Образотворче мистецтво в „побуті“.

* У бягучым годзе атрымалі камандыроўку за рубеж каля дзесяці украінскіх пісьменьнікаў. Гэтак—В. Полішчук паехаў у Швэдзію ды Норвэгію, В. Корак, Падмагільны, Сасюра, Мікітэнка, П. Панч, Любчэнка, Капыленка і Тэрэшчэнка—у Нямеччыну і Чэха-Славаччыну, П. Тычына—у Турэччыну ды інш.

* З наступнага году ў Харкаве пачне выдавацца роман-газэта. Аб'яднаньне „Полымя“ атрымала запросіны падрыхтаваць некалькі твораў, памерам да 8 аркушаў, для якіх рэдакцыя роман-газэты адводзіць некалькі сваіх нумароў.

* Сябры былога аб'яднаньня „Ваплітэ“ ў бліжэйшым часе маюць выдаваць новую часопісь. Пакуль назва часопісі невядома.

* Саюзны Саўнарком асыгнаваў 150.000 руб. дапамогі на дастройку дому украінскіх пісьменьнікаў.

* Вышаў з друку першы нумар часопісі украінскіх конструкцыйных дынамістых(сьпіралістых)„Авангард“. Часопісь унесла вялікае ўзрушэньне сярод аб'яднаньняў украінскіх пісьменьнікаў. Рэдактар часопісі—В. Полішчук грозна і рашуча нападае на ўсе кірункі ў украінскай літаратуры, называючы іх ці аджыўшымі, ці дробна-буржуазнымі.

* У сьнежні месяцы маюць наведаць Харкаў грузінскія і армянскія пісьменьнікі. З свайго боку, украінскія пісьменьнікі аддадуць візыту ў Баку і ў Тыфліс.

* У бягучым годзе заснавана чацьвертая украінская опэра, якая мае даваць спэктаклі ў тых гарадох, дзе няма сталага опэрнага тэатру. Сэзон гэта опэра распачала ў Палтаве.

* Украінскім бюджэтам прадугледжана ў наступным годзе асыгнаваньне на дзяржаўныя тэатры ў суме адзін мільён шэсьцьсот тысяч рублёў.

* У Кіеве ўжо скончылі будаваць большую частку карпусоў вялізнае кінэматографічнае фабрыкі. Хутка ў ёй пачнуцца здымкі.

* У бягучым годзе адбудзецца 10-годзьдзе існаваньня Украінскай Акадэміі Навук. За гэтыя дзесяць год акадэмія прарабіла вялізарную працу па зьбіраньні ды вывучэньні навуковых і культурных каштоўнасьцяй і зрабілася навуковым ды культурным цэнтрам рэспублікі.

Будучы нэпасрэднай пераемніцай Украінскага Навуковага Таварыства, Украінская Акадэмія Навук адразу-ж аб'яднала на навуковай пляцформе ўсе украінскія навуковыя сілы, каб замацаваць і разьвіваць дасягненьні, здабытыя ў агні вялікай рэволюцыі.

Толькі-ж тады, калі канчаткова замацавалася савецкая ўлада, у 1921 г., Акадэмія Навук атрымала новы статут, і зьявілася магчымасьць разгарнуць нормальную акадэмічную працу. Прайшло некалькі год, і ця-

пер Акадэмія Навук становіць сабой вялізарны складаны організм, на чале якога стаіць агульны сход акадэмікаў і прэзыдыум яго, на чале з такімі эўропэйскі-вядомымі вучонымі, як прэзыдэнт акадэміі бактэрыолёг профэсар К. Д. Забалотны і віцэ-прэзыдэнт экономісты К. Г. Воблы. 29 акадэмікаў, якія зьяўляюцца вучонымі спэцыялістымі ва ўсіх галінах ведаў, вядуць вялікую навучальную і навукова-дасьледчую працу. Гэта праца працякае ў 78 акадэмічных установах, інстытутах, лябораторыях, навукова-дасьледчых катэдрах, габінэтах, камісіях і г. д., раскіданых па ўсёй рэспубліцы. Вакол гэтай працы аб'ядналася 240 выдатных навуковых працаўнікоў Украіны.

Пытаньні антраполёгіі ды этнографіі атрымліваюць сваё вырашэньне ў музэі імя Ф. Воўка. Гэты музэй мае адзіную па сваім навуковым значэньні колекцыю помнікаў мізэнскай культуры. У ім штодня можна сустрэць вялікую колькасьць экскурсій рабочых і сялян, якія знаёмяцца са сваім мінулым.

Музэй Мастацтваў пры ВУАН, які створаны з былой колекцыі Ханенка, налічвае адзіную на Украіне колекцыю карцін голяндзкіх, францускіх, гішпанскіх ды італьлянскіх майстраў сярэднявякоўя. Тут маюцца надзвычайна каштоўныя орыгіналы карцін і скульптуры. Тут-жа знаходзіцца і каштоўная застольная ахвярная чаша Сасанідаў (Пэрсія VI веку). Гэты музэй, які называюць кіеўскім эрмітажам, да рэволюцыі быў зачынены для шырокіх мас працоўных і служыў прадметам індывідуальнага эстэцтва буржуазіі. Цяпер ён служыць узьняцьцю культурнага ўзроўню працоўных, знаёмячы іх з тэй эволюцыяй, якую перажыло мастацтва ў мінулым. І тут мы часта можам бачыць групы працоўных, якія пераходзяць ад карціны да карціны, ад вітрыны да вітрыны, уважліва слухаючы лектара.

Шматлікая колькасьць навуковых камісій, лябораторый, навукова-дасьледчых катэдраў ды музэяў ставіць сабе мэтай вывучэньне прыродных багацьцяў Украіны. Спэцыяльна ўтвораная сталая камісія па вывучэньні вытворчых сіл вядзе вялізарную работу па выяўленьні покладаў мінэральнае і немінэральнае сыравіны, захаванай у нетрах нашай рэспублікі. У гэтых адносінах многа ўжо зроблена пры дапамозе акадэміі: утвараецца трэст няруднае сыравіны. які займецца вывучэньнем ня тольькі перапрацоўкі яе, але і экспорту за межы, каб павялічыць валютныя запасы і пазбавіць нас ад залежнасьці заходня-эўропэйскіх фабрык ды заводаў. Каалінавая і сылікатная прамысловасьць Украіны таксама сваім разьвіцьцём шмат чым абавязана акадэміі.

Тыя навуковыя каштоўнасьці, якія ствараюцца акадэміяй, зьяўляюцца прадметам абгаварэньня на зьездах і ў спэцыяльных часопісях замежных вучоных. У мінулым годзе Болёнскі, Падуанскі ды Рымскі унівэрсытэты запрасілі для чытаньня лекцый па матэматыцы правадзейнага члена Украінскай Акадэміі Навук проф. Крылова.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны мае намер выдаць у 1928—29 годзе збор твораў наступных аўтараў: Н. Левіцкага, П. Мірнага, Кветкі-Аўсяненка, Крапіўніцкага, Табілевіча, Старэцкага. Таксама гэтым-жа выдавецтвам будзе выдана каля 40 тамоў сучасных пролетарскіх пісьменьнікаў поэтаў.

* Праўленьне ВУФКУ выдае ў гэтым годзе вялікі альбом украінскай кінэматографіі. У альбоме будуць зьмешчаны найлепшыя кадры украінскіх фільм, а таксама потрэты выдатных украінскіх кіно-рэжысэраў і артыстых. Альбом выдаецца на украінскай, расійскай, францускай і нямецкай мовах.

# ХРОНІКА ЗАМЕЖНЫХ КРАІН

* У Нямеччыне надоечы адбыліся закладзіны саюзу пролетарскіх пісьменьнікаў. Закладчыкамі яго зьяўляюцца супрацоўнікі „Полымя“ Іоган Бэхэр, Берта Ляск, Курт Клебэр ды інш.

* У рэпэртуар баданскага (Нямеччына) опэрнага тэатру ўведзены тры новыя опэры: „Дыктатар“, „Патаемнае каралеўства“ і „Гонар нацыі“ здольнага маладога композытора Кшэнэра, опэра якога, пад назваю „Джоні грае“, абышла ўсе эўропэйскія тэатры, зрабіла вялікае ўражаньне на музычныя колы і карыстаецца надзвычайным посьпехам.

**З жыцьця чэскае модэрнае літаратуры.**

* Хутка выйдуць дзьве новыя кнігі найвыдатнейшага чэскага модэрнага прозаіка В. Ванчуры. У выдавецтве „Odeon“—роман „Астатні суд“, а ў выдавецтве „Aochtinu“—роман „Коні і воз“ і драма „Хворая дзяўчына“.

* Язэп Гора друкуе ў выдавецтве Баравога сваю поэму „Дзесяць гадоў“.

* Ст. К. Нэйман скончыў вялікую популярную гісторыю француускае рэволюцыі, якая будзе друкавацца ў выдавецтве Баравога ў Празе. Першы сшытак з прадмовай аўтара, у якой ён высьвятляе мэту сваёй працы і востра крытыкуе дацяперашнія гістарычныя тлумачэньні гэтага пэрыоду ў мяшчанскай навуцы, ужо вышаў.

* Новы роман Карла Конрада „Dinah“ выйдзе ў гэтым месяцы ў выдавецтве „V. Vetra“. Вокладку маляваў К. Тайгэ.

* Ярослаў Сэйфэрт выдае „Паштовы голуб“ (вершы), „Плеяду“ і „Вус сьвятога старосты“ (фэльетоны).

* Віцэзслаў Нэзвал выдае: роман—„Хроніка з канца тысячагодзьдзя“ поэмы—„Яўрэйскія магілкі“ і „Requiem“, новы зборнік вершаў, дагэтуль не названы, і драму—„Сіні ялень“.



*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ


| | Стар. |
|---|---|
| **Я. Ліманоўскі**. Над абрывам—*аповесьць* (працяг) | 3 |
| **Ф. Вайскопф**. „Не за белых лебедзяў“?—*апавяданьне* | 28 |
| **Л. Радзевіч**. Нямая барацьба—*апавяданьне* | 40 |
| **А. Дудар**. Люблю цябе, мая плянэта—*верш* | 46 |
| **В. Маракоў**. За чужое шчасьце і любоў...—*верш*. | 47 |
| **Ул. Хадыка**. Апошнюю песьню пяю...—*верш* | 48 |
| **В. Палішчук**. Адыгейскі пясьняр—*поэма* (пер. з украінскае мовы **Андрэй Александровіч**) | 49 |
| **Ал. Салагуб**. Як пашчы каменнай цясьніна...—*верш* | 61 |
| **Проф. С. Вольфсон**. Сям'я і шлюб пры капіталізьме | 62 |
| **Л. Каган**. Рэволюцыйная барацьба ў Мэксыцы | 89 |
| **Проф. Зьм. Жарынаў**. Прыгонная гаспадарка Беларусі паводле даных расійска-гаспадарчай літаратуры і журналістыкі 30—40 гадоў | 98 |
| **А. Вазьнясенскі**. Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа | 118 |
| **К. Езавітаў**. Латвійскі пясьняр сонца і каханьня | 143 |
| **Гэргарт Поль**. Новая нямецкая проза | 147 |
| **С. Баркоўскі**. На загонах новае Украіны | 150 |
| **Кнігапіс** | 165 |
| **Хроніка беларускай культуры** | 172 |
| **Хроніка украінскага культурнага жыцьця** | 183 |
| **Хроніка замежных краін** | 183 |